# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(694) ВЕРАСЕНЬ, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**9**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 13 244 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 9470 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 16 694 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6710 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.09.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,94. Тыраж 2436 экз. Заказ 2425. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь; грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»; рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# *Госць часопіса «Маладосць» — першы сакратар Цэнтральнага камітэта ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» Ігар Іванавіч БУЗОЎСКІ*



***— Ігар Іванавіч, што Вы сёння згадваеце пра сваё піянерска-камсамольскае юнацтва?***

— Па-першае, гэта быў цікавы час! Тады піянерская і камсамольская арганізацыі ладзілі шмат мерапрыемстваў, дзякуючы якім можна было праявіць як свае грамадскія, так і творчыя якасці. Вось, да прыкладу, я, калі вучыўся ў 28-й Мінскай школе, кіраваў выданнем насценгазеты. Я меў гэта за гонар, бо мог расказваць вучням і настаўнікам пра школьныя падзеі, адстойваць інтарэсы школьнікаў перад выкладчыкамі і нават бацькамі. Так што гэта быў, з аднаго боку, творчы занятак, а з другога — практыка арганізатарскай работы, бо трэба было знайсці тых, хто збярэ інфармацыю, намалюе, напіша. Акрамя таго, мы ладзілі і агульнашкольныя мерапрыемствы. А з часам, пасля паступлення ў Ваеннае вучылішча, пачалася сістэматызуючая і каардынуючая дзейнасць. Мы скіроўвалі маладых людзей да разумення таварыства, здаровага ладу жыцця, бо, як мне падаецца, гэта і ёсць адна з асноўных задач падобнай грамадскай арганізацыі. Можа быць, такія формы работы, як «сход», «форум», пададуцца некаму састарэлымі, але яны і сёння дапамагаюць наладжваць сістэму адносін у калектыве, планаваць работу. Зрэшты, падобныя метады эфектыўна выкарыстоўваюцца і ў бізнесе. А тыя ж камсамольскія сходы дазвалялі ў вайсковай частцы, дзе я служыў, даваць ацэнку дзейнасці пэўнага курсанта — з самых розных бакоў. Як сведчаць псіхолагі, часцяком менавіта нематэрыяльнае стымуляванне становіцца асноўным аргументам для прыняцця рашэння. Таму прызнанне ў калектыве — не менш важны аргумент, які ў далейшым фарміруе асобу, чалавека. Гэта я адчуў на сабе, калі вучыўся спачатку ў Новасібірску, пасля — у Мінскім ваенным вучылішчы — і камсамольская арганізацыя дапамагала мне развівацца менавіта праз грамадскую дзейнасць.

***— Раней у піянеры, у камсамол прымалі практычна ўсіх, і, калі маладому чалавеку адмаўлялі ў гэтым праве, ён пачуваўся адасобленым ад калектыву, на яго глядзелі так, нібыта ён «не заслужыў» гэтага. Сённяшняя моладзь не спяшаецца стаць часткай нейкай арганізацыі. Як зрабіць ідэю ўступлення ў саюз папулярнай у сучасным грамадстве?***

— Ва Уставе БРСМ прапісана, што дзейнасць арганізацыі аб'ядноўвае як саюзную, так і не саюзную моладзь. І вось літаральна паўгода таму мы прааналізавалі дзейнасць нашага саюза з пункта гледжання мерапрыемстваў, якія праводзяцца намі штогод, і ўпэўніліся, што нашыя праекты арыентаваны на ўсю беларускую моладзь — як на тых, хто ўваходзіць у саюз, так і на тых, хто пакуль не ўступіў у нашы шэрагі. З аднаго боку, гэта добра, бо ахопліваецца шмат людзей, але адначасова было вызначана і тое, што не стае духу карпаратыўных праектаў, матывацыі на актыўны ўдзел у дзейнасці аб'яднання, таму сёння адным з асноўных нашых прыярытэтаў з'яўляецца правядзенне самых яркіх, самых цікавых мерапрыемстваў менавіта для сяброў БРСМ. Ёсць жа Саюз пісьменнікаў, Саюз мастакоў, іншыя арганізацыі, якія арыентаваны на інтарэсы пэўных груп насельніцтва. Канечне, мы імкнёмся працаваць з усёй моладдзю краіны, але ў той самы час працуем і над праектамі, якія б заахвочвалі маладых людзей да ўступлення ў нашу арганізацыю, і тым самым дазвалялі б адчуць сябе паўнавартаснымі членамі каманды аднадумцаў, аб'яднаных, у тым ліку, і агульнай грамадзянскай пазіцыяй.

***— Ці ёсць падабенства паміж тагачаснымі камсамольска-піянерскімі праектамі і тымі, што сёння арганізуе БРСМ?***

— Мы ў сваёй дзейнасці імкнёмся захаваць традыцыі папярэднікаў, але з адпаведнымі сучаснымі мадыфікацыямі. Напрыклад, тыя ж студэнцкія атрады і сёння выклікаюць вялікую цікаўнасць сярод моладзі. Канечне, у наш час мы не можам дазволіць сабе масавыя выезды за мяжу, бо змяніліся прынцыпы работы, у тым ліку і на міждзяржаўным узроўні. Даводзіцца працаваць у новых эканамічных умовах,

але мы гэта робім. Нават нягледзячы на пэўныя матэрыяльныя выдаткі, узнавілі традыцыю студатрадаўскіх куртак.

Спецыфіка часу мяняе пэўныя «антуражныя» рэчы, але сутнасць не мяняецца! Калі раней існаваў «Цімураўскі рух» — дзеці дапамагалі старым, ветэранам, — то ў нас зараз развіваецца рух «Добрае сэрца», які значна пашырыў свае межы: нашы валанцёры клапоцяцца пра хворых дзяцей, якія знаходзяцца, прыкладам, у анкацэнтрах, пра адзінокіх і састарэлых; мы прыходзім да людзей, якім патрэбна дапамога, а часам дастаткова проста пагаварыць... Нашы добраахвотныя памочнікі прымаюць удзел ва ўзнаўленні храмаў, будаўніцтве манастыроў, ачышчэнні крыніц — накірункаў дзейнасці стала значна больш, чым раней.

Яшчэ адзін прыклад — раней былі «дружыннікі», а сёння ствараюцца Атрады аховы парадку — гэта маладыя людзі, якія патрулююць горад, раён, а пасля ад Міністэрства ўнутранных спраў, Міністэрства абароны атрымліваюць накіраванне на службу ў элітных падраздзяленнях беларускага войска. Акрамя таго, гэта дазваляе ахвотным займацца ў адпаведных секцыях.

Такім чынам, мы маем старую форму, якая, адпаведна сённяшнім умовам, набывае новыя рысы і падтрымку сярод моладзі. Пры гэтым, мы знаходзім і прынцыпова іншыя падыходы да арганізацыі новых праектаў, у тым ліку і патрыятычных. Напрыклад, «Найноўшая гісторыя Рэспублікі Беларусь — у пазлах». Мы праводзім чэмпіянаты, дзе спаборнічаюць каманды з розных ВНУ. Мы нават выходзім зараз на Міністэрства адукацыі, з прапановай, каб вывучэнне карты нашай краіны малодшымі школьнікамі адбывалася менавіта ў форме такой гульні. Мы яе распрацавалі, зрабілі электронны варыянт, ладзім спаборніцтвы, якія прыцягваюць вельмі вялікую аўдыторыю, і мы ўпэўнены, што гэты праект будзе развівацца і надалей, бо гэта, перадусім, наша гісторыя, папулярызацыя нашай краіны.

Мы падтрымліваем і маладзёжныя субкультуры, хаця «за камсамольскім часам» падрыхтоўка падобных мерапрыемстваў магла пазбавіць пасады (смяецца). Раней тым самым «стылягам» абстрыгалі валасы, падразалі штаны, а сёння мы імкнёмся сабраць усіх «нефармалаў» каля сябе, бо, калі гэтыя групы будуць развівацца самастойна, яны хутчэй за ўсё сыдуць у дэструктыўную сферу. А зірнуць на нашых брэйкдансістаў, графітыстаў, велатрыялістаў, якіх мы прыцягваем у нашу арганізацыю, — гэта, дарэчы, еўрапейская практыка — тым жа графітыстам гарадскія ўлады замаўляюць роспіс будоўляў, прадаюць месцы для малявання...

***— Але выхоўваць можна не толькі праз пэўныя дзеянні. Як, на Вашу думку, літаратура здольна выхоўваць асобу маладога чалавека?***

— Па-першае, вялікую ролю адыгрывае інтэрнэт. На жаль, гэта адна з прычын таго, што моладзь сёння, мякка кажучы, чытае значна менш. На гэта нельга заплюшчваць вочы — варта шукаць іншыя падыходы, якія выклікалі б цікавасць маладых людзей да чытання, каб хаця б пэўную частку іх прыцягнуць да заняткаў творчасцю, у тым ліку літаратурнай. У нас ёсць Клуб маладых журналістаў, які дзейнічае па ўсёй краіне. Маладыя людзі пішуць не толькі артыкулы, але і вершы, прозу, вучацца літаратурнай дзейнасці, развіваюць свой талент. Схема гэтая таксама выпрацавана ў савецкі час, яна эфектыўна і сёння, калі праз свае раённыя камітэты БРСМ падтрымлівае маладыя таленты, прадастаўляючы ім магчымасці для публікацыі твораў у мясцовым друку. Я асабіста лічу, што неабходна ўкладаць сродкі ў айчынныя выданні — іх у нас не так шмат. Глянцавыя часопісы нясуць заходнюю культуру, арыентуюць на спажывецкае стаўленне да жыцця, яны не накіраваны на развіццё духоўнага свету маладога чалавека, грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. А пачынаецца ўсё з расповеду пра той куток, дзе чалавек нарадзіўся. Але пісаць трэба цікава, сакавіта. Я мяркую, гэта мусіць быць крок насустрач як з боку рэдакцый, выдавецтваў, так і з боку Міністэрства інфармацыі і дзяржавы. Падтрымліваць трэба, пачынаючы з фінансавання цікавых праектаў і заканчваючы датацыямі для выданняў. Гэта, дарэчы, сусветная практыка, бо без матэрыяльнага не можа развівацца і духоўная сфера, і адпаведна — наадварот.

***— Як вы ставіцеся да кніг, створаных савецкімі пісьменнікамі для дзяцей і моладзі? Ці актуальны сёння праблемы, якія яны ўзнімалі? І на якіх кнігах выхоўваліся Вы самі?***

— Я быў не самым вялікім аматарам чытання ў юнацтве, шчыра кажучы. Але некаторыя кніжкі сапраўды паўплывалі на фарміраванне маіх жыццёвых установак. «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага, «Овад» Э. Войніч, «Чалавек у пошуках сэнсу» В. Франкл — гэтыя і

падобныя кнігі дапамагалі мне знайсці жыццёвы сэнс. Больш за тое, я ўпэўнены, што і ў сённяшняй моладзі — тыя ж самыя каштоўнасці, проста фарміруюцца яны пад уплывам іншых кніг, часопісаў. Нават нейкі комікс можа паўплываць на маладога чалавека і яго ідэалы. Я ўдзячны лёсу, які даў мне магчымасць чытаць менавіта гэтыя кнігі. Яны і па сёння ўплываюць на маё светабачанне. Больш за тое, у межах праектаў па падтрымцы таленавітай моладзі мы разам з творчымі маладымі людзьмі працуем над пастаноўкай спектакля па п'есе Наталлі Голубевай «На скрыжаванні дзвюх дарог» — гэта твор сучасны, маладзёжны і разам з тым светапоглядны. І калі першы крок у гэтым накірунку будзе ўдалым, то ў далейшым мы плануем паставіць «Як гартавалася сталь». Упэўнены, што і сёння гэты твор не згубіў сваёй актуальнасці, хаця для сучаснай моладзі ён загучыць, напэўна, зусім у іншым ключы. Але галоўнае тут — характар, сіла волі, патрыятызм — тое, што фарміравала каштоўнасці нашых бацькоў, а значыць, абумовіла развіццё ўсёй нашай краіны. І ўплыў гэтага твора не параўнаць з уплывам на свядомасць, які аказваюць сучасныя героі баевікоў.

***— Ці трэба сёння штучна ствараць герояў, якія б спалучалі каштоўнасці мінулага з патрабаваннямі сучаснасці?***

— Такія героі ёсць. Яны сярод нас, і мы павінны ганарыцца імі. У нас нават была серыя плакатаў «Героі-сучаснікі», і мы плануем прадаўжаць працу ў гэтым накірунку. Хто на іх? Тыя маладыя людзі, што сёння служаць у МЧС, у міліцыі, у войску, тыя, якія кідаюцца ў палонку, каб выратаваць дзіця… Іх вельмі шмат, пра іх проста трэба расказваць! У нас, на жаль, пачынаюць узвышацца толькі людзі, якія зарабілі вялікія грошы. Але яны зрабілі гэта для сябе, задаволілі свае ўласныя амбіцыі! Ёсць, канечне, людзі бізнесу, вартыя захаплення і павагі, але мы не павінны забывацца пра тых, хто штодня працуе, каб у нас быў хлеб, малако, пра тых, хто нас вучыць і лечыць, гэтыя людзі — скарб і гонар нашай нацыі. І мы павінны ганарыцца імі не толькі ў калектыве, але і на ўзроўні дзяржавы.

***— Можа быць, гэта верне моладзь з таго «казачнага іншасвету», ідэальнай рэальнасці, якой зараз так захапляюцца, бо што гэта, як не імкненне збегчы ад праблем сучаснасці? Ці патрэбна такая літаратура, як Вам здаецца?***

— Яна патрэбна, я лічу, але ў новым фармаце. Сышоў час, калі нешта можна было навязаць. Сёння любая літаратура павінна быць, перш за ўсё, цікавай і таленавітай. Мы адкрыты — не толькі для добрага, але і для бруду, які ліецца адусюль: з тэлеэкрана і з інтэрнэта. На жаль, многія творцы вырашаюць, што іх прадукт будзе найлепш «прадавацца» за мяжой. Не сакрэт, што многія таленавітыя аўтары сёння працуюць у Расіі. Таму падтрымка таленавітай моладзі — адзін з прыярытэтаў нашай дзяржавы. Хаця шмат залежыць і ад саміх маладых людзей, ад іх самасвядомасці і патрыятызму.

***— Ці гатовы Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі падтрымліваць акцыі часопіса «Маладосць» па прапагандзе беларускай літаратуры і павышэнню ролі пісьменніцкага слова ў грамадстве?***

— І я, і кожны, хто працуе ў нашай арганізацыі, вам скажа, што гэта — агульная справа. Трэба толькі знайсці формы, якія былі б узаемакарыснымі, трэба адшукаць парытэт паміж неабходнай і цікавай інфармацыяй. Каб мы не толькі расказвалі пра нешта, не толькі забаўлялі, але і выхоўвалі тыя самыя чалавечыя каштоўнасці. А з таленавітымі асобамі варта працаваць! Гэта якраз тыя людзі, якія гараць, у іх ёсць ідэалы і мэты ў жыцці. Творчасць патрэбна паўсюль — яна не можа праяўляцца ў нейкай адной галіне. Акрамя таго, трэба захоўваць беларускую мову і культуру, працаваць з глыбінкай — там вельмі шмат творчай моладзі! Чаму б не аб'явіць конкурс на комікс па нашай гісторыі ці на стварэнне слогана пэўнай арганізацыі?! Хай будзе і сур'ёзная творчасць, і гульня, і нашы традыцыі, і мастацтва — усё тое, што прыцягне моладзь да часопіса. Тым больш, што такіх выданняў, як «Маладосць», у нас больш няма. І я ўпэўнены, што пры ініцыятыве з вашага боку і з боку творчай моладзі нашай краіны — усё атрымаецца!

*Гутарыла Таццяна СІВЕЦ*

*Таццяна КІЯВІЦКАЯ*

# КНІГА ПРА МІЛЬЁНЫ ЖЫЦЦЯЎ

*Таццяна Кіявіцкая нарадзілася ў Мінску. Скончыла філфак БДУ (2004), аспірантуру пры Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі (2009).*



**У начной цішы на беразе лясной рачулкі асцярожна патрэсквае маладое вогнішча. Яно шчодра дорыць гэтаму недасканаламу свету яркія танюткія іскрынкі, якія нараджаюцца ў палымяным сэрцы і просяцца на свабоду. Кожная з іх непаўторная сваёй энергетыкай і адметная сваім наканаваннем. Некаторыя ўздымаюцца нізка і гаснуць, не адчуўшы спаўна радасць жыцця. Многія ўзлятаюць вышэй за сонныя меднаствольныя сосны, і там іх падхоплівае вецер, каб пахваліцца сваім спрытам і смеласцю. І толькі адзінкі трапляюць высока ў неба, каб зліцца з дрыготкімі зорамі і назіраць за людскімі лёсамі. І ўжо не зразумееш: дзе — іскры, а дзе — зоры. Зоры — гэта душы. А кожная душа калісьці мела сваё зямное жыццё... І ўсё неба раскрываецца, нібы велізарная кніга. Кніга пра мільёны жыццяў. А вогнішча працягвае гарэць...**

*Рагнед МАЛАХОЎСКІ*

* * *

На стале — кніга
Пра тысячы летаў,
Мільёны жыццяў
І адзіную праўду —
Тваю.

У галаве — думкі
Пра тысячы летаў,
Мільёны жыццяў
І адзінае шчасце —
Тваё.

За акном — людзі,
Як тысячы светаў...

На стале — келіх
З віном чырвоным,
Халодным смуткам...
І я няспешна
Раблю глыток.

У грудзях — сэрца
З віном чырвоным,
Халодным смуткам...
І я няспешна
Слухаю рытм.

За акном людзі...

* * *

Раблю выцінанкі.
І клею на вокны.
Мае вокны падобны
На дзіўныя казкі.

Праходзіць два тыдні —
І зноў мае вокны —
Пустыя квадраты.

* * *

На стале — кубак
З гарачай кавай
І водарам спецый.
Люблю.

За акном — дарога.
Праз снег і вецер
Ісці на прыпынак.
Іду.

* * *

У галаве — думкі
Пра гарачую каву
З водарам спецый.
На працы.

За акном — людзі
Праз снег і вецер
Ідуць на прыпынак.

Праходзіць дзень —
І ў маіх вокнах
Зноў святло,

А на стале — кніга
Пра тысячы летаў,
Мільёны жыццяў
І адзіную праўду —
Тваю.

## ТРЫПЦІХ

Вернемся з анёльскімі крыламі.
Станемся аблокамі і ветрам.
Паляцім... І ажывуць над намі
Тысячы радкоў класічным метрам.
Музыкаю вернемся забытай.
Водарам палёвых красак-кветак.
Вернемся... І я малю за гэта.

* * *

Колькі слоў і колькі казак доўгіх
Без патрэбы кінуты ў мінулым.
І бягуць у небасхіл дарогі.
...Вечар стомлены, няветлівы, пануры.
Плямы свечак не растопяць смутак,
Разальецца ў паветры ціха.
Нам так цесна ў гэтым коле сутак...

* * *

Ложак не засцелены. Халодны.
Ноч заснула без мяне. Салодка.
Ходзіць па кутах мой сум свабодна,
Дакранаецца да сэрца гэтак лёгка.
І анёльскіх крылаў не займелі,
І паэзія расцягнецца на словы.
Мы з табой не гэтага хацелі.

## ЦЯЖКАЯ ВІНА

Паслухайце! Я адшукаў віну
На самым донцы у сябе самога
І страшна мне, бо не яе адну,
А многа.

Грахоўны вечар, цяжкі, як валун,
Як страшны кат — не пакідае выйсця
У павуцінні-лабірынце дум
Маліся.

Прашу разбіць аб сонца і зямлю
Халодны сум, грахоўнасць адзіноты.
І цішыню-віну я разалью
Па нотах.

* * *

Пад самую раніцу
Кінула ноч дыяменты.
І я выйшла рана.
І бачыла цуд:
Ціха-ціха
Падалі-падалі
Дыяменты на зямлю.
І ўся мая дарога
Была казачнай.
Месяцовае святло
І сціплыя ліхтары
Здзіўлена глядзелі
На цуд.
Іх святло
Адбівалася шматкроць
Рознымі фарбамі…
Выпаў снег.

*Сяргей КАЛЕНДА*

# ГЕНЕРАЦЫЯ ФАНЦІКАЎ І ФІШАК

***Апавяданне***



*Сяргей Календа нарадзіўся ў 1985 годзе ў горадзе Капылі Мінскай вобласці, амаль з нараджэння жыве ў Мінску. Скончыў БДУ (факультэт міжнародных зносін, аддзяленне культуралогіі). Аўтар кніг «Помнік атручаным людзям», «Казкі: гісторыі (не) пра нас». У «Маладосці» — упершыню.*

**З дзяцінства некаму запомніўся першы ровар, зробленая сваімі рукамі рагатка, няўмела-слінявы пацалунак ці крадком ад бацькоў выкураная цыгарэтка... Ці мала чаго яшчэ? А вось герой апавядання Сяргея Календы «Генерацыя фанцікаў і фішак» гадаваўся яшчэ ў «асяродку» жуек «Turbo», печыва «Wagon Wills», першых прыставак «Sega Mega Bit-2» ды зорных войнаў.**

**Як гаворыцца, кожны час і перыяд мае сваіх герояў — такая простая дыялектыка жыцця... Кожны з нас сталее і пазнае сусвет у бурлівым катле асяродка, які рэдка калі выбіраеш — ён нам даецца, не пытаючы нашай згоды. Хаджэнне героя С. Календы па закутках навакольнай рэчаіснасці, пошукі свайго «Я» ўдала перадаюць яшчэ такое нядаўняе наша жыццё, а можа, ужо даўно прамінулае? Каб жа ведаць...**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

## 1

Жуйкі з фанцікамі «Turbo», «Tipi-tip», «Love is...», печыва «Wagon Wills», цыгарэты «НВ», таннае віно «Крыжачок», гульні ў фішкі і бутэлечку, наклейкі з «Чарапашкамі Ніндзя», круглыя кардонкі з голымі цёткамі, якія трэба было мачыць у вадзе (мы іх слінілі языком), тады станік на іх распушчаўся, і ты меў некалькі секунд, каб пабачыць сіліконавыя грудзі. Першыя прыстаўкі «Sega Mega Bit-2», першыя гульні на іх, якія доўжыліся па некалькі сутак, «Super Mario», «Jurassic Park 1, 2, 3», «Mortal Kombat», «Golden Axe», «Sonic», і, канечне, рознага кшталту стратэгіі, як «Doom», ці, напрыклад, «Зоркавыя войны». Якасць была вельмі нізкая, нават сучасны калькулятар мае больш функцый і выглядае больш прывабна, але ў тыя часы гэта нікога не турбавала, нават той факт, што тэлевізар «Віцязь» быў здольны паказваць прыстаўкавыя гульні толькі чорна-белымі, таксама не меў значэння. Пасля быў «Тэтрыс» — наступнае захапленне, якое час ад часу перапынялася, бо я меў ахвоту ўвечары пагуляць у баскетбол з сябрамі, дзе пасля некалькіх таймаў абавязкова з'яўляліся дзяўчаты, і баскетбол спакваля пераходзіў у іншыя гульні.

І так, можа быць, ніколі б не скончылася маё бестурботнае жыццё, калі б не падлеткавы ўзрост і не пошукі новага. Гэтыя пошукі, папраўдзе, не канчаюцца і па сёння. Але тое жыццё, якое падавалася тады досыць бестурботным, цяпер бачыцца зусім іншым. Я памятаю, як бацькам было цяжка з грашыма, калі перабудова скончылася, калі тата вымушаны быў працаваць па некалькі змен запар на аўтаза-

водзе, ён пачаў піць і ў свае дваццаць восем стаў майстрам гэтае справы. Я ў сям'і быў раннім дзіцём, мне споўнілася тады ўжо восем, і я трохі разумеў становішча бацькоў. Матуля таксама працавала днямі. І мяне дагэтуль здзіўляе, якім чынам яны знаходзілі вольны час і грошы, каб адвесці мяне ў чарговы «кружок» альбо ў творчую школу. Мае бацькі, якія рана пачалі сваё сямейнае жыццё і не паспелі атрымаць пэўнай адукацыі, з усіх сіл імкнуліся даць мне ўсе магчымасці для самарэалізацыі. Таму, пачынаючы з чатырох гадоў і да дзевятнаццаці, я паспрабаваў у жыцці амаль усё, пакуль не знайшоў сябе канчаткова.

Краіна атрымала незалежнасць і падымалася з каленяў, але цуд дзяцінства крыецца ў тым, што яно не прыкмячае такіх дробязей, як перабудова, галоснасць альбо дэмакратыя...

Дзяцінства выдатна памятае першы замежны ровар «горнік», першую рагатку, першы слінявы пацалунак дзяўчынкі, першую цыгарэту, першае віно, першае каханне, першае хобі, першыя фанцікі і жуйкі. Тое, што краіна магла разваліцца, а культура знікнуць, было неістотна. Нашае пакаленне толькі пачынала жыць, і хацелася ўсяго таго, што мы бачылі ў новых каляровых тэлевізарах, усяго, што прапагандавала рэклама і прадавалі шапікі, ад модных цыгарэт да «снікерсаў». Хацелася жыць, як тыя Мішкі Гамі альбо Дональд Дак — у цудоўным свеце «Уолта Дзіснэя», які ствараў новую прастору, робячы нас чарговым няўдалым пакаленнем з незразумелымі і разбітымі марамі, з надзеямі і п'янымі жаданнямі ўсяго яскравага і замежнага, усяго, чаго бракавала ў шэрыя перабудовачныя часы. Мы імкнуліся кімсьці быць, мы імкнуліся да ведаў, якія ў будучыні разаб'юцца аб сцены непаразумення і непатрэбнасці. Хоць зараз выходзь на вуліцу з апытаннем, і кожны з нашага пакалення будзе чарговым няўдалым эканамістам, бухгалтарам, юрыстам, тым самым адукаваным вар'ятам, які ахвяраваў свае школьныя і ўніверсітэцкія гады на нікчэмную адукацыю, каб потым не мець магчымасці кудысьці ўладкавацца на працу, бо патрэбны альбо досвед працы, альбо, прабач, калі ласка, ты проста той самы чарговы чалавек з пакалення «бэбі буму», з пакалення перабудовы, з пакалення ружовых мар, з пакалення першых каштоўных фанцікаў з-пад жуек і першых гульнёвых прыставак у часіны, калі краіна канала, як той сабака...

**2**

Калі я патрапіў у спартыўную залу па барацьбе дзю-до, мне адразу гэтае месца не спадабалася, бо ад матаў, якія змякчалі падзенні барцоў, моцна і канцэнтравана пахла потнымі нагамі, і не проста потнымі нагамі, але мужчынскімі потнымі нагамі, бо, як я адразу пабачыў, дзяўчат там не было, акрамя адной прыблуднай, якая цалкам выдавала на задзірыстага хлапчука.

Дык вось, маё знаёмства са спортам пачалося менавіта з гэтых матаў, якія мыла анучай прыбіральшчыца. Мыла яна маты і прыгаворвала: «Вось паскуды, пяску нанеслі! Дзе яны тут пясок знайшлі?!» Паўз яе велізарнае цела паціху пачалі працісквацца дзюдаісты, кіруючыся ў раздзявальню.

Да мяне падышоў настаўнік, і мама, узяўшы мяне за руку, прамовіла:

— Добры дзень, Ігар Юльянавіч, я вам тэлефанавала наконт сына, ці ёсць у вас магчымасць і вольнае месца для яго? — і мама павярнула галаву ў мой бок, прашаптала: — Павітайся з настаўнікам!

— Добры дзень, Ігар Ю-ю-ю-вю-ве-ва-валяр... — крыху збянтэжыўся я, — мяне клічуць Гераня.

— Добры-добры, але, прабачце, я яго не вазьму, колькі ж яму гадоў? — адвёў ад мяне вочы настаўнік.

— Цяпер чатыры, але неўзабаве будзе з паловай.

— Я ж вам яшчэ па тэлефоне сказаў, што ён замалы, я бяру дзяцей з шасці-васьмі год.

— Але, шаноўны майстар-настаўнік, у вас тут усходнія адзінаборствы, а вы мне кажаце пра ўзрост? Хіба філасофія барацьбы не сведчыць пра тое, што дзю-до мусяць займацца з нараджэння?

З мамай цяжка было спрачацца, асабліва калі яе зацікаўленасць у чымсьці была занадта высокай. У выніку мяне запісалі на трэніроўкі, а праз некалькі тыдняў бацькі недзе дасталі для мяне сапраўднае кімано з выяваю на спіне Бруса Лі, які нагою б'е ў падбароддзе жудаснага тыгра. Я быў у захапленні і нават не пытаўся, адкуль кімано, адкуль гэтая раскоша, калі ў нас часам не было нават гарбаты, і тата раніцаю вымушаны быў піць разбаўленае кіпнем варэнне, а на працу браць кавалак хлеба, сала і цыбулю. Адкуль кімано? Адтуль, адкуль усё астатняе, што ў мяне выпадкова з'яўлялася... А мама і тата працягвалі піць кіпень з варэннем і насіць даўно вынашаныя паліто ды касцюмы. Мама адну сваю спадніцу насіла амаль пятнаццаць гадоў, але я ніколі не чуў ад яе папрокаў, яна заўсёды пасміхалася з гэтага, затое ў мяне было ўсё, у тым ліку і кімано!

Першыя заняткі былі пакутлівымі, бо, акрамя таго, што мы доўга-доўга сядзелі на каленях, больш нічога не адбывалася. Настаўнік хадзіў вакол нас альбо сядзеў, як і мы, з заплюшчанымі вачыма, і распавядаў пра тое, як варта паводле філасофіі барацьбы трымаць у сваім целе моц і энергію за кошт медытацыі і маўчання, за кошт умення канцэнтраваць і назапашваць энергію сусвету ў добрых мэтах праз веру ў сябе, а не праз фізічную моц, і, нават калі мы ўступаем у бойку, галоўнае, што не мы б'ёмся, а спрабуем энергію і злосць суперніка скіраваць супраць яго самога. У такія гадзіны, слухаючы манатонны голас, я засынаў, куляўся на маты і спаў. Настаўнік мяне не чапаў, а ціхенька накрываў яшчэ адным кімано, каб я не прастудзіўся і не захварэў.

Настаўнік быў маленькі і хударлявы чалавек, без валосся на галаве, без броваў і вейкаў, ён відавочна не галіўся, бо не было чаго галіць. Таксама я заўважыў, калі мы ўсёй групай траплялі ў душавую, што на ягоным целе таксама нідзе не было расліннасці. Але настаўнік, Ігар Валяр'янавіч (дарэчы, яго нават дарослыя спартсмены толькі так і называлі, бо хуткім прамаўленнем літары «юлі» змяняліся на «вал») наш трэнер меў апошні дан па дзю-до, і гэта здавалася неверагодным.

Аднойчы мы слухалі легенду пра тое, як надышла зіма, і ўвесь лес накрыўся густым пластом снегу. Хвоя з елкаю спрабавалі вызваліцца з-пад цяжару. Елка казала, што яна спакайнютка вытрымае гэты снег і дачакаецца, калі ён сам зваліцца, а хвоя нахілялася з шапкаю снегу долу, нахілялася ўсё ніжэй і ніжэй, пакуль не скінула снег і не вярнулася ў свой прывабны ды звыклы стан, а елка, так і не датрываўшы, зламалася амаль ля каранёў і высахла. Дык вось, у дзю-до вы мусіце быць падобнымі да хвоі, якая, замест трывання, разважала шырэй і шукала больш зручнага выйсця з сітуацыі. Я не дачакаўся, калі трэнер скончыць, і ціхенька пачаў пасапваць.

І тут упершыню мяне ніхто не прыкрыў зверху кімано. Я прабудзіўся ад таго, што Ігар Валяр'янавіч прымусіў усіх устаць з каленяў і пачаць актыўныя трэніроўкі: шматмесячная падрыхтоўка была скончана, мы мусілі пачынаць станавіцца сапраўднымі дзюдаістамі.

Трэніроўкі былі вар'яцкія. Мы клаліся на спіны, і трэнер бегаў па нашых жыватах, і праз колькі дзён я адчуў, як маё невялікае дзіцячае пузіка налілося свінцом. На шпагат мы таксама станавіліся дзіўна: настаўнік падкрадваўся да цябе са спіны ў час тваіх намаганняў сесці на шпагат, браў цябе за плечы і з усёй моцы ціснуў уніз, пакуль ты цалкам не сядзеш долу, што было страшэнна балюча. Але самым пакутлівым здаваўся футбол на каленях, калі мы, патрэніраваўшыся, мелі колькі вольнага часу. Футбол на каленях часта да крыві здзіраў скуру аб маты, але ніхто не скардзіўся, бо футбол — гэта было весела, і я заўсёды з захапленнем бег да варот, калі атрымліваў мяч, але забіваў чамусьці заўсёды ў свае вароты, і мяне за гэта часта білі, а настаўнік матляў галавою і сыходзіў. Ну адкуль я мог ведаць, дзе чыя брама, і таму футбольны час бавіў часцей каля акна альбо ў раздзявальні, збіраючыся дахаты. У мяне яўна нічога не атрымлівалася з барацьбою.

Аднойчы, праз некалькі гадоў маўклівых і сумных змаганняў з дзю-до, я стаяў у пары са старэйшым за мяне хлопцам, мы вывучалі ўнутраную падсечку, і замест таго, каб падсекчы ягоную нагу, я акурат пяткаю патрапіў яму ў прамежжа. Божачкі, як ён крычаў, бо падсечку я рабіў з вялікім стараннем і сілаю, я ўжо быў дзюдаістам са стажам. Хлопца забрала «хуткая». Мама потым увесь вечар маўчала. Калі б я гэтага хлопца дзе-небудзь зноў пабачыў, дык абавязкова прабачыўся б, спадзяюся, што ён жывы-здаровы і ў яго шмат прыгожых дзетак.

Пакрысе я пачаў адчуваць увесь сэнс гэтай барацьбы, пачаў улоўліваць філасофію дзю-до, нават перамог у некалькіх чэмпіянатах і атрымаў жоўты пояс. Калі надышоў час змагання за аранжавы, а там, калі атрымаецца, за зялёны, мяне проста не выклікалі на татамі, бо ў той час мне споўнілася ўжо дзесяць гадоў і я нечакана пачаў таўсцець. Для таго, каб прымаць удзел у чэмпіянаце, спачатку трэба ў адных майтках узважыцца. Дык як я мог, амаль голы і такі тоўсты, пайсці на вагі? Такім чынам, я прапусціў свой зорны час.

Амаль праз год у мяне была другая спроба атрымаць зялёны пояс. І вось першы паядынак. Я стаю на татамі і чакаю, калі выйдзе супернік, а яго няма, і я аўтаматычна перамагаю ў першым раўндзе. І тут даведваюся, што мой супернік, калі размінаўся перад чэмпіянатам, зламаў пазногаць. Я ўзгадваю, што на размінку абраў сабе ў партнёры выпадковага хлопца, які, калі спрабаваў адпрацаваць на мне кідок праз бядро, зламаў аб маё кімано пазногаць. Вось дык пашчасціла мне...

Другі паядынак я выйграў, зрабіўшы складаны прыём — «млын». Я атрымаў зялёны пояс, і там, на даляглядзе, мне свяцілі сіні, карычневы, чорны. І хто яго ведае, мо там, за чорным поясам, мяне ўжо чакалі даны? Але праз некалькі тыдняў я з ускладненнем на галаву пасля грыпу патрапіў у дзіцячую лякарню для псіхічнахворых...

### 3

Я, мой брат, мама і тата, карацей — уся наша сям'я, шмат гадоў, амаль да майго дваццацітрохгоддзя, пражылі ў дзевяціметровым пакоі. Кватэра была трохпакаёвай, але жыло там людзей, нібы цыганоў у табары. Бабуля часта ўсчыняла сваркі, цётка шмат працавала, яшчэ нехта прыходзіў і сыходзіў... Мы спрабавалі жыць...

Гэта былі часы, калі ўсё, што адбывалася ў сям'і, апыналася навідавоку не толькі для сямейнікаў, але і для староннiх, суседзяў, мінакоў. Мы жылі адчайна-жахліва, але я ў школе казаў, што жыву недалёка, у трохпакаёўцы, нас там толькі чацвёра. Мне верылі. Я шмат чаго выдумляў, бо хацеў жыць інакш: каб наша сям'я мела сваю

кватэру і мы былі з грашыма. З часам кватэрнае пытанне вырашылася, але гэтаму мала хто ўзрадаваўся, бо мама цяжка захварэла. Мы з братам выраслі, і тата страціў надзею дачакацца. І вось яна, новая кватэра, трымайце, нарэшце...

Дык вось, нашы трыванні на дзевяці метрах спрыялі майму з братам імкненню кімсьці стаць, каб выкараскацца з галечы. Каб, напрыклад, мама магла мець сваю кватэру і грошы на падарожжы. Таму я ніколі не супраціўляўся новым прапановам у адукацыі, у наведванні гурткоў. Такім чынам, акрамя клятваў у любові, я мусіў дзеля мамы яшчэ і дзейнічаць: вучыцца, развівацца (мой брат, дарэчы, таксама праходзіў праз полымя ды ваду — скрыпка, акардэон, нядзельная школа).

І вось чарговы «кружок». Я стаю ў вялікай зале, якая нашпігавана люстэркамі і страйнюткімі дзяўчынкамі ды хлапчукамі. Мне небагата гадоў, а я мушу пачынаць вучыцца танцам, але не абы-якім танцам — бальным!

Полька, мазурка і ча-ча-ча яшчэ, дзякуй Богу, прайшлі някепска, але замінкі пачаліся, калі я закахаўся ў дзяўчынку і ўвесь час сачыў за ёю, а яна штораз, каб танчыць у пары, абірала аднаго і таго ж хлопца. Але кропкаю ў маім вывучэнні бальных танцаў сталася не каханне, а вальс.

Божухна, як я роў, як скуголіў і клікаў маму! Мяне прымусілі абдымаць за талію дзяўчынку, так бы мовіць, мацаць дзявочае цела. Я, канечне, быў яшчэ маленькі, каб нешта там цяміць пра секс і адносіны, але я інтуітыўна адчуваў, што проста так мацаць дзяўчынку — кепска. Мне было надта сорамна абдымацца з ёю...

Мяне забралі з танцаў.

Упершыню я абняў дзяўчынку праз год. У трэцім класе я кахаў яе, але яна была надта прыгожай, таму саромеўся да яе набліжацца, а на занятках фізічнай культуры неяк пабег за мячом і «выпадкова» сутыкнуўся з ёю, абняў. Сэрца скокнула з грудзей.

І, шчыра кажучы, дадзены «прыём» выкарыстоўваю час ад часу нават дарослым. Але мне цяпер не трэба бегчы за мячом, каб абняць дзяўчыну. Усё стала складаней: спачатку будуецца план дзеянняў. Паспрабуйце ўспомніць свае «выпадковыя» абдымкі, сутыкненні, спатканні, пацалункі... Проста так нічога не адбываецца, і нават, шчыра кажучы, мая жонка В. аказалася са мною не дзякуючы лёсу, а толькі таму, што я моцна яе кахаў і хацеў, каб яна была побач усё жыццё. Я дзейнічаў, браў ініцыятыву на сябе і, быццам выпадкова, сутыкаўся з ёю, быццам выпадкова знаходзіў для нас агульныя справы... Пакуль мы не з’ехалі на вандроўку ў Нясвіж...

Дарэчы, бальнымі танцамі я больш ніколі не займаўся.

## 4

«Не ведаю, адкуль столькі імпэту і моцы ў маіх бацькоў, але што я тут раблю — незразумела», — такія думкі кожны раз завітвалі да мяне, калі апынаўся ў мастацкім гуртку. Зразумела, што я, як і ўсе дзеці, любіў маляванкі ды іншыя падобныя забавы, але ніколі не думаў, каб да гэтых маляванак ставіцца больш сур’ёзна. Толькі ж лягчэй пайсці ў гурток, чым пераканаць бацькоў.

У мяне ніколі не атрымлівалася нешта ляпіць з гліны альбо цеста з соллю. Мае фігуры атрымліваліся незразумелымі, у печы набывалі плоскі выгляд, быццам не скульптуры гэта, а магніты на лядоўню.

З колерам таксама было складана. Я кепска адрозніваў птушак, напрыклад, сароку ад грача, дрэнна працаваў з колерамі. У выніку не толькі істоты, падобныя да птушак, але і кветкі пакутвалі ў маіх малюнках.

Пластылін мне таксама здраджваў, але ён хаця б лёгка прыліпаў да сцен і валасоў, быў універсальным у сэнсе розных дурнотаў...

На адным з заняткаў, які прысвячаўся вывучэнню паняцця графікі і тушы, я стаўся зоркай! Настаўніца не магла нацешыцца, як файна я малюю. Прычым, гэта не залежала ад таго, чым карыстаўся — алоўкам ці пяром...

Я выпадкова знайшоў сябе, і настаўніца пачала весці прыватныя размовы з мамаю, якая па мяне прыходзіла.

Такім чынам, я раней за алфавіт вывучыў паняцці пабудовы карціны, перспектывы, гарызонту, спалучэння колераў і, канечне, усе віды пёраў.

Сталася так, што мяне не ўзялі ў шэсць гадоў у школу. Мяне прывялі на, так бы мовіць, «прагляд», каб я паказаўся і па загадзе палічыў да пэўнай лічбы ды агучыў палову алфавіта... А паўстаў я перад дырэктарам школы, падобны на закатаванага дзіцяці: валасы з плешшу, у розныя бакі тырчаць доўгія пасмы... У той дзень пацягнула мяне да пластыліну. Наляпіў я яго, не шкадуючы, на галаву, быццам хацеў гуляць у іншапланецяніна, а адляпіць ад валасоў не здолеў. Заставалася толькі адно выйсце... Я знайшоў нажніцы і пакрамсаў сваю прычоску. Дык мяне і прасіць не сталі нешта там палічыць альбо адгадаць загадку. І дырэктар параіў чакаць наступнай восень і маіх сямі гадоў.

З гэтым не змірыліся бацькі, бо я ж такі разумнічак, самы лепшы ў свеце, і мяне аддалі ў мастацкую школу. Там, як сказала маці, мяне ўсе зразумеюць.

І сапраўды, ніхто не звяртаў на мяне ўвагу, я са сваімі валасамі быў проста ніхто, бо дзеці былі тут не толькі са сваімі самастойнымі фрызурамі, але і адзенне мелі нейкае мастацкае.

У той час наша сям’я сябравала з сям’ёй мастакоў. З іх сынам я хадзіў у мастацкі гурток, мы былі аднаго ўзросту.

Надышоў час, нам раздалі паперу і папрасілі ўсіх намаляваць што-небудзь з казкі пра «Курачку Рабу».

Я сядзеў разам з Валодзем, так звалі таго хлопца, я паглядзеў на яго, а ён хуценька ўжо нешта там вымалёўваў. У мяне былі толькі аловак і акварэль, і я памятаў, што настаўніца раіла спачатку намаляваць усё алоўкам, бо гэта я здолею, а потым, як маляванку, расфарбаваць.

Дзед, баба, курачка, хатка, яйка на падлозе пабітае — сюжэт быў нескладаны, я вытрымаў усе правілы пабудовы фігур з перспектывай і рознымі планамі. Я быў задаволены, і яшчэ больш я ўзрадаваўся, калі пабачыў, што мой супернік, Валодзька, сынок мастакоў, такую халеру намаляваў, што нават з павелічальным шклом не разгледзіш, хто і што там у велічэзным будынку, што толькі нагадваў хатку, а яйка дык наогул было завялікім.

На наступны дзень нам патэлефанавалі і паведамілі, што сын, гэта значыцца я, не прыняты.

А той Валодзька паспяхова прайшоў іспыт, і мама мне аднойчы сказала, што тая сям’я сябруе з дырэктарам мастацкай школы, а ў мяне сапраўды быў самы лепшы малюнак.

Мастацкі гурток я больш не наведваў, але праз пяць гадоў выпадкова аказаўся ў сценах таго будынка, дзе ён знаходзіўся. І як толькі апынуўся ў знаёмым калідоры, заўважыў на сценах тры мае графічныя малюнкі, пад шклом.

## 5

Кларнет — гэта катастрофа, штодзённае забойства часу. Гэтая эбанітавая трубка зусім непрыгожая і непрыкметная, выклікае тужлівы настрой, як толькі яе ўбачыш! І яшчэ, выгляд майго кларнета сапсаваны шасцю вялікімі лічбамі на баку, намаляванымі фарбай для падлогі. Такімі лічбамі пазначаюць школьную ўласнасць, гэта значыць, што кларнет належыць не мне.

Праз два тыдні — вакацыі ў абедзвюх школах: у музычнай і агульнаадукацыйнай. Трэба здаць іспыты па сальфеджыа і па кларнеце — і я вольны. А да верасня цэлыя тры месяцы! Гэта так доўга, так добра!

У верасні — чацвёрты клас у школе і другі ў «музыкалцы». Не люблю я настаўніка па музыцы. У яго вялізная ніжняя губа брыдкага ружовага колеру: гэта ад таго, што ён штодзень трымае ў роце мундштук кларнета. І гэтая губа такая непрывабная, што я нават сню яе ў начных жахах. Настаўнік па кларнеце зусім малады і пануры.

Мне завуч сказала, што ў верасні будзе новы настаўнік. А мне усё роўна. Новы, стары — аднолькава не хочацца вучыцца граць на кларнеце.

Але не паспеў нацешыцца адпачынкам улетку, як прыйшоў верасень, і я зноў стаяў з кларнетам у руках і знаёміўся з новым настаўнікам — Акапджанянам Лявонам Рубэнавічам. Ён з першых хвілін моцна ўразіў мяне: вялікі, сівы, пузаты, з чорнымі вачыма, ягоная ніжняя губа была сіняга колеру, а верхнія разцы зубоў зусім сцёрліся мундштуком. Ён быў вельмі імпульсіўным мужчынам з бліскучай плешынай і нястрыжанымі на скронях і патыліцы валасамі. Я амаль адразу адчуў ягоны прафесіяналізм, моц і энергію.

Калі мінуў толькі першы месяц вучобы, я значна прасунуўся ў музычнай тэхніцы. Быў вельмі шчаслівы з гэтае нагоды. Я зразумеў кларнет, музыку, пачаў гэта любіць! Нягледзячы на тое, што музычная школа ўсё адно палохала старымі і шэрымі класамі, дзе па ўсіх кутках чуліся дзіўныя шоргаты, ад якіх бегалі мурашы па спіне. Час ад часу я там нават бачыў пацукоў ды мышэй.

Цэлы год вучобы праляцеў непрыкметна. Пажылы армянін абудзіў у мяне жаданне пісаць музыку. Я ствараў маленькія п’ескі і потым запісваў на касету.

Аднойчы ўвесну, калі ўжо трэці год займаўся музыкай, здарылася адна падзея...

У вокны класа ярка свяціла сонца, ад ягонага цяпла я зусім разамлеў і не хацеў займацца, а Лявон Рубэнавіч, пасмоктваючы валідол, задрамаў. Я думаў, што мне далей рабіць: чакаць, калі ён прачнецца, ці сыходзіць дадому. І раптам Акапджанян расплюшчыў вочы і сказаў:

— Хлопчык мой, Гераньчык, я цябе на каленях прашу, не горбся і не раздзімай шчокі, не запінайся, грай, добра грай! — голас гучаў спакойна. — Ідзі, калі ласка, да шафы, стань да яе спінай, роўна-роўна, і грай! — голас трохі раздражняўся, яго відавочна «дастала», што я не мог сабрацца і добра адыграць п’есу Шумана «Мроі».

І я пачаў граць усё, што ведаў, спіна была ідэальная, шчокі не раздзімаліся, але здрадліва пачалі падступаць слёзы. І мне зрабілася так крыўдна! Невыносна крыўдна! І слёзы пацяклі самі па сабе, яны струменіліся па шчоках і капалі на вопратку, а я ўсё граў і граў, з неверагоднай злосцю і віртуознасцю.

— О-о-о! Так! Гэта зусім іншая справа, гэта вельмі добра, хлопчык мой, гэта шык, клас! Паміж небам і зямлёю! — настаўнік ад задавальнення мружыў вочы і падскокваў у такт на крэсле ад захаплення.

І тут пачуўся стук у дзверы. Настаўнік запрасіў заходзіць. На парозе апынулася сціплая жанчына з дзіцем. Яна прыйшла пабыць на ўроку і паказаць сыну кларнет, каб зацікавіць яго музыкай.

— Мадам, паглядзіце на гэтага вучня, — звярнуўся да яе Лявон Рубэнавіч і паказаў пальцам у мой бок, — дыямент! Плача, але грае! Найвялікшая мужнасць! Талент!

У хлопчыка і ў яго маці вочы зрабіліся квадратныя ад аднаго майго выгляду. Яны паспяшаліся сысці.

Пазней, у наступным навучальным годзе, гэтага хлопчыка я бачыў каля кабінета цымбал. Мяне рассмяшыла, што ён абраў цымбалы. І я падумаў, які ж ён дурны — губляе настаўніка, які сябраваў з Шастаковічам і Хачатуранам.

— Мне Шастаковіч прысвяціў музычнае сачыненне з партыяй кларнета, я першы гэта сыграў! Там так і напісана! «Таму, хто першы сыграў!» У мяне гэты рукапіс дома ляжыць! — і вочы яго вільгатнелі. — А цяпер, цяпер я ў задрыпанай музычнай школе нумар 1897665789, і гэта справядліва?! — «задрыпаны» было ягонае ўлюбёнае слова.

— Не, несправядліва, — адказваў я.

— Але галоўнае, што ёсць ты, будучы вялікі музыка! Ты будзеш вучыцца ў кансерваторыі!

І ён пачынаў распавядаць, як абедаў з Хачатуранам, і, гледзячы яму ў вочы, я бачыў яго маладым, гарачым душою чалавекам, які быў улюбёны ў музыку.

Я адвучыўся пяць гадоў на кларнеце і мусіў чакаць два гады да кансерваторыі. Лявон Рубэнавіч дамовіўся, каб мая вучоба доўжылася сем год замест пяці, бо хацеў падрыхтаваць мяне да паступлення. Але я, адвучыўшыся шосты год, прыйшоў да яго ў верасні, калі быў ужо ў дзявятым класе агульнаадукацыйнай школы, і заявіў, што не хачу далей вучыцца, сыходжу.

Трэба сказаць, што я тады ўжо цікавіўся медыцынай. Маё рашэнне было не ад расчаравання ў музыцы, я проста не хацеў быць бедным музыкам, пры тым, што вельмі паважаў настаўніка.

Лявон Рубэнавіч на маіх вачах зменшыўся ў памерах і стаў невыносна жаласным. Толькі праз год я зразумеў, што быў яго адзінай надзеяй у жыцці. Бо ягоныя ўнук і сын жылі ў Іспаніі, пакінуўшы старога тут. Яму было восемдзясят, дзевяноста, сто год — не ведаю.

— Я для цябе, хлопчык мой, месца ў кансерваторыі знайшоў, без іспытаў бяруць, бо ты мой юны талент... — не скончыўшы фразу, настаўнік павярнуўся да акна, усім выглядам даўшы зразумець, што ён не жадае далей размаўляць.

Так я і сышоў ад яго, не пачуўшы канца фразы, не распавёўшы яму да канца пра свае мэты і не прабачыўшыся.

Калі мне споўнілася дзевятнаццаць і я вучыўся ва ўніверсітэце, я сустрэўся з настаўнікам на вуліцы. Я быў здзіўлены, як хутка, усяго за тры гады, ён пастарэў: і следу не засталося ад ранейшага імпульсіўнага армяніна. Я паабяцаў, што ў суботу вечарам зайду ў музычную школу, пагутарыць і выпіць гарбаты. Няхай чакае.

Але я не зайшоў, забыўся. Мне сорамна, але я забыўся пра настаўніка.

Ён быў забыты ўсімі, і нават мною, ягонай надзеяй на будучыню, маэстра, вялікі кларнецыст, сябар Шастаковіча і Хачатурана.

Потым, праз некалькі месяцаў, я ўбачыў яго яшчэ раз. Убачыў са спіны, ён ішоў па вуліцы, злёгку кульгаючы, але як заўсёды выразна і прама, як быццам у той

момант настаўнік музіцыраваў у душы. У мяне не хапіла духу падысці да яго, мне было сорамна, і я не ведаў, што сказаць. Так я яго і захаваў у сваім сэрцы — экспрэсіўнага армяніна, генія і сябра, яму тады было... шмат яму было, восемдзясят, дзевяноста, сто, а можа і некалькі соцень гадоў.

## 6

З дзяцінства заўсёды бавіў час на баскетбольных пляцоўках. Яны не былі заасфальтаванымі, таму ўжо праз некалькіх хвілін цяжка адрозніць, дзе і хто за каго гуляе. Пясок і пыл раўнамерна пакрывалі як адзенне, так і скуру, але я ніколі не стамляўся гуляць, нават калі пясок трапляў у горла і нос.

Мяне моцна вабіў гэты спорт, асабліва калі непадалёк ад дома знайшлася пляцоўка, дзе баскетбольны кошык вісеў надта нізка, і я мог забіваць мячы зверху, павіснуўшы ў паветры.

Мы з сябрамі часта сутыкаліся з панкамі. На той момант я не быў яшчэ ні металістам, ні панкам, таму яны псавалі нам гульню, усчынялі бойкі, і мае сябры давалі дзёру з пляцоўкі, а я заставаўся сама-насам з імі, бо не мог жа я збегчы на вачах сваёй сяброўкі альбо, што яшчэ горш, кінуць яе там адну. Таму атрымаў некалькі разоў у вока, пакуль аднойчы не распавёў галоўнаму з панкаў, што добра знаёмы са сваімі раённымі панкамі, назваў іх мянушкі. Пасля гэтага нас перасталі чапаць, але для сваёй сяброўкі я паспеў стаць самым безнадзейна слабым хлопцам, якога могуць адлупцаваць нават панкі. Я з ёй не спрачаўся, а толькі крыўдаваў на збеглых сяброў.

Аднойчы я вырашыў далучыцца да падлеткавай баскетбольнай каманды і разам з імі трэніравацца. Гэта бяспечна, і можна практыкавацца ў зімовы час. Так я на тры гады патрапіў у спартыўны баскетбольны клуб, дзе трэнер лічыла мяне надта паспяховым ў далёкіх кідках. І такім чынам я бываў на ўсіх спаборніцтвах, мяне выпускалі на пляцоўку толькі ў другім тайме, бліжэй да канца. Мы някепска рухаліся, перамагаючы розныя каманды, і нават мусілі змагацца на гарадскіх спаборніцтвах у наступным годзе, але чамусьці школьныя заняткі перанеслі з першай на другую змену, і зразумела, што калі ідзеш на заняткі а палове трэцяй дня, ніякага часу на нешта іншае не застанецца, і нават калі б я прапускаў па тры дні на тыдні і бавіў бы час на баскетбольных трэніроўках, я б страціў нават пачатковую адукацыю, але я не Ламаносаў і не Бродскі, каб такое ўчыняць, таму было вырашана канчаць адзінаццаты клас.

Такім чынам, прамяняўшы трэніроўкі на школу, я пачаў шукаць выйсце і знайшоў яго: адзін сябра-баскетбаліст прапанаваў перайсці ў іншы клуб, які падыходзіў па часе. І мы разам туды пайшлі.

На парозе нас сустрэў трэнер, і першымі ягонымі словамі былі:

— А ты што, таксама баскетбаліст? Ты ж з метр ростам!

Шчыра кажучы, я ведаў, што маларослы для гэтага віду спорту, але каб вось так, у твар сказалі? Ды ніколі! Ні мая былая трэнерка, ні каманда такога не гаварылі.

Нас адправілі размяцца і падрыхтавацца да паказальнай гульні. І пакуль мы наматвалі кругі на стадыёне, адзіная думка пульсавала ў галаве: «Я малы! Я малога росту. Я маленькі».

Глядзелі на нас дваццаць хвілін, гулялі мы някепска, але мяне адправілі ні з чым дадому, а сябра ўзялі. Ён хоць і не вельмі добра гуляў, але быў ростам два метры і штораз перамагаў у барацьбе пад баскетбольным кашом.

Потым гэты сябра гуляў за гарадскі юначы клуб, а я ў свае пятнаццаць і шаснаццаць піў, курыў і мацюкаўся. Надыходзілі гады альтэрнатыўнага жыцця, дзе контркультура станавілася правілам жыцця.

## 7

Жуйкі з фанцікамі «Turbo», «Tipi-tip», «Love is...», печыва «Wagon Wills», цыгарэты «НВ», таннае віно «Крыжачок», гульні ў фішкі і бутэлечку, наклейкі з «Чарапашкамі Ніндзя», круглыя кардонкі з голымі цёткамі, якія трэба было мачыць у вадзе (мы іх слінілі языком), тады станік на іх распушчаўся, і ты меў некалькі секунд, каб пабачыць сіліконавыя грудзі. Першыя прыстаўкі «Sega Mega Bit-2», першыя гульні на іх, якія доўжыліся па некалькі сутак, «Super Mario», «Jurassic Park 1, 2, 3», «Mortal Kombat», «Golden Axe», «Sonic», і, канечне, рознага кшталту стратэгіі, як «Doom», ці, напрыклад, «Зоркавыя войны». Якасць гульняў была вельмі нізкая, нават сучасны калькулятар мае больш функцый і выглядае больш прывабна, але ў тыя часы гэта нікога не клапаціла, нават той факт, што тэлевізар «Віцязь» быў здольны паказваць прыстаўкавыя гульні толькі чорна-белымі, таксама не мела значэння. Пасля быў «Тэтрыс» — наступнае захапленне, якое час ад часу перапынялася, бо я меў ахвоту ўвечары пагуляць у баскетбол з сябрамі, дзе пасля некалькіх таймаў абавязкова з'яўляліся дзяўчынкі, і баскетбол спакваля пераходзіў у іншыя гульні.

Дзякуй табе, Божа, за дзіўную пару дзяцінства, за дзіўную пару, якая прайшла недзе на мяжы канца веку, мілeніуму і новага часаадмеру. І дзякуй за тое, што не страцілі мы моцы ў нагах, каб крочыць наперад... Крочыць пад назваю генерацыі фанцікаў і фішак.

*Арцём КАВАЛЕЎСКІ*

# ШЛЯХ НЕ ДАДОМУ

## *Паэма-кантрапункт*



*Арцём Кавалеўскі нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі і аспірантуру БДУ, вучыўся на факультэце паланістыкі Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў). Працуе выкладчыкам на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі БДУ і рэдактарам аддзела мастацкай літаратуры ў часопісе «Бярозка». Аўтар некалькіх паэтычных кніг.*

**Лірыка Арцёма Кавалеўскага заўжды занураецца ў глыбіні магчымасцей паэзіі. Складаная рытмічная структура, нечаканыя шматкампанентныя метафары... Чытач эксперыментальных «АдмыСЛОВЫх гульняў» ужо прывык да інтымнай сцішанасці «Аддаленасці і адданасці». Ды аўтар не збіраецца заставацца ў адным рэчышчы — ён мяняе яго. Новая паэма Кавалеўскага «Шлях не дадому» — пра асаблівасці разгортвання часу, пра горад і адзіноту, пра адвечны беларускі шлях, калі ўспамінаюць нацыянальную традыцыю, — аднак «шлях» тут экзістэнцыйны, ён разасоблены ў свядомасці паэта на розныя лініі, якія перакрыжоўваюцца паміж сабой. Мадэрнасць не разбівае твор у друзачкі, яна ўраўнаважана цэльнасцю лірычнага героя.**

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

### КРАП-ХЛЮП-ПЛЮХ

Дождж.
Падэшвы-нябогі ўзасмокт
Цалуюцца з лужамі-дружкамі.

Крап-крап, хлюп-плюх...

Вечар чарніць падваротні.
У гмахах-прабірках уключаецца
Шчасце,
Там варушыцца нешта цёплае.

Плюх-крап, крап-хлюп...

Ліхтары,
Як суквецці вечнага кміну:
Іх святло ніколі не памірае —
Бяссмертнікі.

Плюх-хлюп, крап-крап...

Трамваі фарамі сустракаюцца,
Але ім не абняцца ніколі —
Не, ім заўжды
Не стае рашучасці,
І таму я абіраю трамваі:
У іхніх дрыготкіх чэравах я
Спакайнею.

Крап-хлюп, плюх-крап...

Вясны дачакацца — гэта такі подзвіг!
Гэта такі ж подзвіг,
Як, напрыклад,
Дастаць з неба зорку,
Сціснуць яе ў кулаку
І намаганнямі волі
Зрабіць з яе матылька.
Як?

Хлюп-крап, крап-плюх...

А яшчэ подзвіг —
Напісаць нечакана паэму,
Пачаўшы з літары «Ы»
І закончыўшы
Дзеепрыслоўем.
Ці бываюць такія паэмы?

Крап-плюх, хлюп-хлюп...

А вось і стрэлкі Цанавы*.
Праспект —
Бліскучая кобра,
А побач —
Здрадна-здранцвелыя вулкі-вужакі.
Я іх часам баюся,
Бо мне невядомы
Сэнс іх знаёмых маршрутаў.
І я дакладна ведаю:
Яны значна мацнейшыя
За бліскучую кобру.
Так, яны значна
Хітрэйшыя,
Гэтыя гадаўкі-вулкі.

Хлюп-хлюп, хлюп-крап...

Маршруты —
Вядомыя схемы,
Шляхі —
Таямніцы заўсёды.
Ведаеце,
Я хачу мець жыццёвы маршрут,
А не шлях, дарогу ці сцежку.

Крап-крап, крап-хлюп...

Аднойчы
Ў нямілым славутым горадзе
Нейкі чуйны
Да майго арытмічнага сэрцабіцця
Мінак,
Да якога я
Так слушна звярнуўся
Па дапамогу,
Падарыў мне на шчасце
Манету,
Сказаўшы: «Вазьмі хоць яе, і
Няхай табе пашанцуе»...

Я дагэтуль трымаю яе ў кішэні
І заўжды параўноўваю
Поўню,
Умытую ліўнем,
З гэтай манетай.
Поўні бляск
Дорыць шчасце не толькі
Катам на дахах
І сабакам пад лавамі,
Але і такім вось,
Як я,
Валацугам,
Здольным моцна абняцца
З першым сустрэтым
У мокрым завулку
Дрэвам
І цалавацца ўзасмокт і да слёзаў
З першымі
Мокрымі ды сарамлівымі
Зорамі.

Хлюп-хлюп, хлюп-хлюп...

## ПРЫПЫНАК ПЕРШЫ

Наросхрыст,
дашчэнту,
наўсцяж...

Мне так лёгка дагнаць успаміны,
Калі нецвярозяцца першыя зацемкі,
Быццам шкіц
старадаўняй
карціны...

Аддаленасць сцішаных крокаў
Знікае ў мяккім сутонні...

І я
спакваля,
далікатна
і ўпотай,
Надзвычай ціхмяна,
раптоўна
і здзіўлена
Распачынаю
Чарговае кволае трызненне

* Адзін з найвялікшых і найстарэйшых гадзіннікаў Мінска, усталяваны на вежы жылога дома насупраць будынка КДБ паводле загаду наркама ўнутраных спраў БССР Лаўрэнція Цанавы.

Пра
Аскепкі дзяцінства:

Тады,
У маленстве,
Я разумеў дакладна,
Я бачыў выразна,
Я чуў бездакорна
(свет падаваўся
казачным калейдаскопам).
Я марыў пра сонца,
Якое
Ніколі не скоціцца
За
Трывожны абрыс небакраю.
Я ведаў замала,
Каб нея прадбачыць,
Што
Слёзаў ніколі не зменшыцца,
Не!
Імі вочы блакітныя
Поўніцца будуць шчэ доўга,
А ўсхліпаў гук
Не разаб'ецца аб
Трывалую бэльку ўзросту...

Аднойчы,
Калі я зірнуў
У пустую бутэльку,
То ўбачыў там
Павучка-небараку,
Які намагаўся пакінуць
Шкляную вязніцу.
Але дарэмна.
Я яму
Не
Дапамог...

І цяпер вось
Я яго згадваю,
Мерзнучы
У зашклянелай імжыстай
Пустэльні,
Стоячы недзе паміж
Краем сусвету
І крэсам уласнага страху.
Так,
Я згадваю і
Параўноўваю.
І разумею:
Вось яна — роўнасць!
Цяперака
Роўныя мы,
Нават родныя.

Але
Хто
Дапаможа?

**ПРЫПЫНАК ДРУГІ**

Зіма.
Людзі, як зомбі.
Зацемкі зноў замінаюць
Знайсціся ў счарнелым прадонні
Знаёмага парка.
Шыбую няшпарка.
Снег занатоўвае
Першыя вершы
Пра
Прадчуванне Калядаў.
А
У паветры пануе
Свежы пах кавуна...
Холадна.
Хочацца кавы,
Віна.

Тут,
На рагу гэтай вуліцы,
Так непраглядна, бязладна.
А пад ліхтарным слупом —
Крышанка снежная,
З лёду рагу...
І
Я бягу...

Я дазваляю сабе падарожжа
(Кажуць,
Што калі хочацца вельмі,
То можна).
План наступны
(Цьмяны і каламутны):
Спачатку ў пад'езд
(выбраны метадам тыку),
Потым у ліфце скалечаным
На

Апошні паверх
І —
На неба —
На слізкі затоены
Дах.
(Ха!
Мабыць,
Я птах?)

Адсюль,
З вышыні неабдымнай адхлані,
Мой нязмушаны
І
Абыякавы горад
Мне падаецца зіхоткаю
Жоўтаю плямкай,
Адной з тых,
Што звычайна бываюць
На шкле акуляраў
Ці то ад слёзаў,
Ці то ад бясконцых дажджынак...

Так,
Гэты горад
Падобны да плямкі...
Або да дзіцячай фальговай
Забаўкі
І да ліхтарыка
Сціплай гірлянды,
Якой упрыгожваюць вокны
Універсамаў
У спальных раёнах.

Спальны горад...

Такі незнаёмы
І чорны —
Спалены горад
Чароўны, аднак,
Так,
Чароўны.

**ПРЫПЫНАК ТРЭЦІ**

Найноўшая зямля —
Гэта не
Мацярык,
Гэта нават не
Выспа
І
Не паўвыспа.
Найноўшая зямля —
Гэта тое,
Што
Набываеш і ніколі
Не прадаеш
Ані ў думках,
Ані ў марах.
Найноўшая зямля
Мусіць
Проста
Быць
(Як вяртанне,
Як не-да-трываласць,
Як нахабства секунднае жарсці й
Палону,
Так,
Цалкам заканамернага палону).

Тут,
На старой зямлі,
Няма мораў
(Хоць іх выкопвалі),
Тут няма гораў
(Хоць іх насыпалі),
Тут няма стэпаў, пустэльняў
і вадаспадаў
(хоць іх ТУТ уяўляе кожны).
Але
Тутака
Ёсць
Лясы:
Яны —
Нашы моры,
І горы,
І стэпы,
Пустэльні і вадаспады.
І таму я абжываю сваю
Найноўшую зямлю
Менавіта ў лесе.
Я яго нават не чую,
Але адчуваю
Адною наздрою,
Адным толькі мезенцам
Левай рукі,
І адной толькі пяткаю
Правай нагі
(Мала…),

Але ж гэта —
Нагода й аказія,
Каб абжыцца, асвойтацца,
Жыць.

Хвоя —
Арыенцір на шляху да неба.
Елка —
Містычны вандроўнік і вартаўнік.
Вольха —
Крыху неспакой і нервовасць.
Дуб —
Сябра стары і надзейны паплечнік.
Бяроза —
Закладніца суму няродная.
Асіна —
Трымценне і недаверлівасць жэстаў.
Рабіна —
Амаль гаспадыня.
Клён —
Братка-хлус.
Бук —
Чужынец.
Ясень —
Мусіць, паэт…
Хто б згадзіўся пражыць
У такім неспакойным
Суседстве?

Усё б нішто,
Але на прасцягах найноўшай зямлі
Мне бракуе дарогі дадому
(Мо праклясці самому?),
Але!
Няма нават
Дома.

## DÉJÀ VU

Выразная артыкуляцыя мінулага —
Гэта калі грамацейка-памяць
Усе часціны мовыператварае
Выключна ў выклічнікі й назоўнікі.

Але ёсць яшчэ пахі
І скамянелая поза.

Артыкуляцыя мінулага —
Гэта калі проза
Патайком і навобмацак
Робіцца раптам паэзіяй,
А шуфлядны эпісталярный гучыць,
Як антычная меліка.

Але ёсць яшчэ згадкі
І сны.

Артыкуляцыя мінулага —
Гэта заўсёды няздольнасць
Дачуць да пачатку, і —
Акорд, нібы нітка караляў,
Рассыпаецца на арпеджыа.

Але ёсць не-
прадказальнасць паўтораў, цэзураў і паўз.

Выразная артыкуляцыя мінулага
Надае ўсім героям і персанажам
Катэгорыю ніякага роду, і —
Ўсё становіцца нейкім бязродным і
Абыякавым.

Зрэшты, мова ўспамінаў,
Як музыка,
Кажа, не дагаворваючы.
Так,
Яна намякае і —
Няўлоўна знікае.

Але ёсць выразная артыкуляцыя мінулага.

## ДЗЕ РАПТАМ

Прапахлыя цвіллю вільготныя
Ранкі,
Дарогі, гасцінцы, сцяжыны,
Напрамкі.

Ва ўтульных абдымках свайго
Палітона
Я не заўважаю састыласць
Вагона.

Як добра, што ёсць непарушныя
Звычкі:
Раптоўнасць трамваяў, метро,
Электрычкі,

Білеты, якіх не прадбачыў
Ніколі,
Маршруты да так неабходнае
Волі,

Дзе плынным гекзаметрам вецер
Шапоча,
А потым верлібрам у вокны
Грукоча;

Дзе, мабыць, Шапэн не на жарт
Закахаўся,
Дзе поўніцца музыкай новай
Зямля ўся;

Дзе лёгка згубіцца ў празрыстай
Прасторы,
Дзе моры сінеюць і высяцца
Горы;

Дзе я, не здзіўўшыся, раптам
Спаткаю
Знаёмых з дзяцінства і Герду, і
Кая.

## СЛЯДЫ

Вярыш,
Шлях мой —
Крыжык,
Такі маленькі,
Што й згадваць
Не варта?
Я шукаю
Імя тваё ўпарта:
Мая,
А можа быць,
Марта?
Ведаеш,
Я неўзабаве
Змоўкну,
Збочу —
І знікне
Цёма.
Цёмнай ноччу
Каля твайго
Дома
Будзе іншы,
Напрыклад,
Рома.
Рому выпіць
Ці проста
Гарэлкі
І незнарок
Перасунуць
Стрэлкі
З часу
Цяперашняга
На
Мінулы,
З часу
Зграбнага
На
Сутулы.
Ну,
І ты,
Калі ласка,
Шукай
Снежань мой
Альбо, мабыць,
Май,
Дзе згубіліся
Два
Сляды:
Мой і твой,
То бок
Я
І
Ты.

## АКРАЕЦ ВЯСНЫ

Вось ён —
Акраец вясны —
Час паміж цішай і шалам.

Расталасцю пахне тваё «не магу»
І маё крыгалёднае «маю».

Незваротнасць мінулага
Мне падаецца
Перфараваным скруткам,
Што ў катрынцы маёй
Прадзіраўлена-кволай душы
Моцна фальшывіць.
Катрынка, аднак,
Выдае неабходны матыў
Новых заблытаных клятваў.

Гэты тыдзень — як прас —
Пакінуў на рукапісе
Маёй біяграфіі
Роўнядзь жыватворнай гарачыні
І маленькія лункі шчасця:
Сем пальцаў так бездакорна сыгралі
На асіплым аргане
Майго астматычнага крыку.

Калі хлопцы раўнуюць —
Яны пазычаюць талент
У Хаоса,
Калі дзеўчыны вабяць —
Яны ахвяруюць маўчаннем
Ураніі.
Калі холадна ўвесну —
Значыцца,
Вострыя палі абцасаў
Будуць танчыць на
Тоненькай плеўцы карамельнага лёду,
Напаўняючы нашыя сэрцы
Хрусткім прадчуваннем
Цяпла
І замёрзлай
Блізкасці.

## СТРАХ

Страх —
Гэта такі маленькі чалавечак
у белай куртцы,
Які пацiскае руку і збягае,
Гэта такі павольненькі смоўжык,
Што паўзе па тваёй шыі,
Гэта дошчачка, якой прыкрываюцца
вочы ўва сне,
Гэта калі паверхня прасціны падаецца
аэрадромам,
З якога немажліва ўзляцець.

Страх заўсёды п'ецца дробнымі глыткамі,
Бясконцымі дозамі наркатычнага напою.

Страх запавольвае рух
І рэгулюе —
Так, ён рэгуліроўшчык —
Нагамі, рукамі, вачмі і, урэшце,
Ўсім целам.
Ён малюе прыгожыя арнаменты на
Амаль непрытомным целе,
Ён складае адмысловыя крыжаванкі ў
Тваім знячуленым мозгу,
Ён усміхаецца табе ў твар,
І ты не можаш адказаць, бо
Навык маўлення табе
Не-
пад-
уладны.

Страх —
Прыроджаны аркестрант
З талентам дырыжора.

## СОН

І зноў крап,
і зноў хлюп,
і зноў плюх —
На шляху маім шмат перашкодаў.
Свет захутаны ў безліч пялюх...
Каб сысці, мне не трэба нагодаў.
Я знікаю павольна, як цень,
У смузе крывадушнай туману —
На стагоддзі расцягнуты дзень
Дазваляе паверыць падману:
Суцяшацца даручана мне
Аднастайным клішэ успаміну,
Я ляжу на асуджаным дне,
І мароз працінае мне спіну.
Засынаю. Астуджаны сон —
Быццам фільм на старой кінастужцы:
Чарада невядомых персон
Летаргію трымаюць на мушцы.
Дом, як сон, альбо сон, нібы дом,
Да якога дайсці немажліва —
Небяспечнай хваробы сімптом —
Мокра, хлюпотна, дажджліва...
Шнары сэрца загояцца ўраз,
Калі я паспрабую уцяміць:
Незлічоная зграя параз —
Не будзённасць, а кволая памяць.
Наближацца — не значыць ісці,
Затрымацца — не значыць спыніцца...
У асеннім пажоўклым трысці
На вясну немагчыма забыцца.

Уладзімір СЦЯПАН

# МІНУЛАЕ ЛЕТА

## *Вясковы дзённік*



*Уладзімір Сцяпан (Сцепаненка) нарадзіўся ў 1958 годзе ў г. п. Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў мастацкае вучылішча і Тэатральна-мастацкі інстытут. Піша вершы, прозу, драматургію, кінасцэнарыі. Аўтар кніжак прозы «Вежа», «Сам-насам».*

**Адметнасць і непаўторнасць празаічных твораў Уладзіміра Сцяпана не патрабуе доўгай прадмовы і тлумачэнняў. Іх проста трэба ўзяць і чытаць. Няважна, што гэта: апавяданне, аповесць ці мініяцюры. Кожны сказ знанага творцы прасякнуты любоўю да роднай зямлі, людзей, што жывуць побач, да прыроды і канкрэтнай Асобы. Няважна, хто яна! Гэта можа быць проста стары сусед ці суседка з глухой вёсачкі альбо бомж са сталічнай вуліцы... Уладзімір Сцяпан выхоплівае з жыцця жыццё і малюе аповед (менавіта малюе), дзе слова не прыбраць і не дадаць. Мы, чытачы, бачым сапраўдны свет, які напоўнены перажываннем і болем аўтара за няскладнасць лёсу сваіх герояў. Праўда, гэта перажыванне, боль не выпінаюцца, яны між радкоў, ледзь улоўныя, але ад гэтага больш дзейсныя і ўражлівыя.**

**Уладзіміра Сцяпана трэба чытаць, каб не ачарсцвець душой і сэрцам.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

### *15 чэрвеня 2010 год*

* * *

Пяцццю дажджамі
Сустрэла мяне вёска.
І мокрай травой.

* * *

Сіняе неба
І сінія бярозы
На дне калюгі.

* * *

Не паспеў агледзецца — півоні распусціліся.

### *20 чэрвеня*

* * *

П’яніца Валька — ёй семдзесят тры гады — назбірала трохі суніц. Прыйшла пачаставаць нашу дачку, а насамрэч, каб прадаць і потым набыць пляшку самагонкі. Валька выглядае кепска, як толькі душа трымаецца ў нямоглым целе. На пляшку ёй далі. Заспяшалася,ззбіралася... На ганку прыпынілася, бо зусім побач, на балоце, закувала зязюля. Вальчын твар сціснуўся, вусны падцяліся: «І я зраблюся зязюлькай. Абярнуся птушкай». Быў цёплы чэрвеньскі вечар. Пахла сенам. Галасіла зязюля.

* * *

За акном язмін,
Півоні і суседскае сена.
Раптоўны дождж.

*21 чэрвеня*

* * *

Лёшка — сын былой магазіншчыцы Галькі. За два дні да свайго дня нараджэння (трыццаць адзін год спаўняўся) забіў аднавяскоўца. Жорстка забіў — вілкамі, тымі, якімі чугуны ў печ стаўляюць.

Лёшку далі дзевяць гадоў. Ён даслаў таварышу і сабутэльніку Сяргею ліст. Напісаў, што ўсё ідзе «пуцём», што ён збіраецца вучыцца, што за дзевяць гадоў турмы можа паспець і на акадэміка вывучыцца. Яшчэ напісаў, што мужыкі ў турме яго паважаюць і далі мянушку «Ухват».

Сяргей расказаў мне гэтыя навіны і спытаў, ці няма ў мяне канверта з маркай, каб Ухвату адказ даслаць.

* * *

Веру ў тое,
Што шэрая зязюля
жанчынай была.

* * *

Дождж. Пад акном, на траве, ружавеюць пялёсткі, абабітыя дажджом з вялікага куста півоні.

Раптам падумаў: «А хто не прыклейваў на пазногці пялёсткі вяргінь, рамонкаў, півонь?»

* * *

Стракозы з аксамітна-чорнымі крыламі пырхаюць у зялёным трыснягу...

Разглядаю іх, бо рыба не ловіцца. Можа, таму і выглядаюць яны трагічна.

* * *

На ганак дома
Караскаецца слімак.
Мой вячэрні госць.

* * *

Шапоча дожджык
па даху прыбіральні.
Па півонях.

* * *

Выпальваю ў вясковай лазні. Варушу траскучыя галавешкі жалезнай качаргой. Сцены — цёмныя бярвёны, а за каламутным акенцам зялёныя кусты парэчак п’яна хістаюцца. Смалой пахне. Дым сівы паўзе, да падлогі туліцца, вочы есць. Печ з чырвонай самаробнай цэглы, гліна рудая, вада ў вялізнай жалезнай бочцы булькаціць. І мятлік чарнакрылы пырхае, у шыбку мякка б’ецца.

Цяпер мне зразумела, чаму чараўніцтвам у лазнях займаюцца.

* * *

Адзін рыбак сказаў, што рыба апошнімі днямі не бярэцца таму, што да зямлі дайшлі хваляванні, нарobленыя каметай. Калі рыба не бярэцца, то я схільны паверыць у самую незвычайную прычыну.

* * *

Пачуў ад старой у белай хустцы: «Добры сабака і на Бога брэша». Дзіўная прыказка, амаль універсальная. Добра і да літаратурнай крытыкі прыкладаецца.

* * *

Вецер. На каштане лісце шуміць, быццам ровар едзе па асфальце.

* * *

Чутна, як вужык
у аблачынах плыве,
малочны ранак.

* * *

Сёння добра лавілася рыба. Падлешчыкі і плотва.

* * *

У вясковых дзяцей напрыканцы чэрвеня пальцы перапэцканыя чарнілам. Так я падумаў, а потым убачыў бэзава-чорныя языкі і здагадаўся, што дзеці бралі чарніцы. Бралі і елі.

* * *

Не ладзяць апошнім часам у вёсцы вяселлі, а таму адзіным сапраўдным святам сталі хаўтуры. І прыйсці можна без запрашэння, і да стала сесці. Выпіць дадуць, тры разы па сто, і закусіць смачна. Пагаманіць за жыццё ёсць з кім і пабіцца можна.

Сумна, але так яно і ёсць.

***28 чэрвеня***

* * *

Вяскоўцы да смерці ставяцца спакойна, як да змены вясны на лета ці восені на зіму. Яны не разводзяць доўгай і нуднай філасофіі, бо ведаюць, што адказаў на вечныя пытанні няма.

* * *

Пасля пахавання і хаўтураў Мішка сядзіць на вуліцы, побач са сваёй хатай на пагорку, за круглым сталом, пад бярозай. Мішка апрануты ў святочныя штаны са стрэлкамі, у сінюю майку-саколку, босы. Сядзіць і плача, падпёршы галаву кулаком. Па цёмным ад сонца, чыста паголеным твары збягаюць слёзы. Яго родны дзядзька Алемпавіч праляжаў у хаце амаль тыдзень. Дактары нават не павезлі яго цела ў раён, каб зрабіць экспертызу. Мішку давялося самому — усе адмовіліся — надзець гумовыя рукавіцы, зялёны плашч «хімдым» і паспрабаваць нябожчыка апрануць.

Не атрымалася. Нябожчыка загарнулі ў чысты празрысты цэлафан і паклалі ў труну. Святочны касцюм Алемпавіча, акуратна складзены, паклалі ў труну. І чаравікі паклалі...

«Ну, скажы, чаму ўсё так, вось так... А я табе скажу, гэта ўсё — адзінота. Жыў адзін і памёр адзін. Каб козачкі ў хляве не забляялі, так і не здагадаліся б, што гаспадар памёр. А малыя козачкі не здохлі, бо малако у адной казы было. Выжылі... Я Кушку прайшоў, усю Туркестанскую акругу... Столькі смярцей бачыў, а такога ніколі... Адзінота, адзінота. Страшней за яе нічога не бывае, чуеш?» — так казаў Мішка Цвяцінскі і хаваў чыста паголены твар у карычневых далонях.

Высветлілася, што стары ровар, на якім Алемпавіч ездзіў па вёсцы і ваколіцах, скралі. Хто і калі паспеў такое зрабіць — загадка.

### *29 чэрвеня*

* * *

Вуллі Алемпавіча купіў поп з далёкай вёскі, козачак — немаладая жанчына, каб перапрадаць, адзін ровар скралі, другі атрымаў пляменнік Міша, тэлевізар забраў адзін з братоў, дровы набыў сусед і тым жа вечарам перавёз трактарам на свой падворак. Увесь распродаж адбываўся хутка, на могілках, калі грудок жоўты насыпалі і крыж куплены прыладзілі. Усё спарадкавалі, шмат чаго старога і непатрэбнага спалілі на вогнішчы, за лазняй. І толькі вось котка засталася. Невялікая, белая, з рудымі плямкамі. Каму ў вёсцы котка трэба, ва ўсіх свае ёсць. А можа, яе ніхто і не бачыў. Яна збегла з хаты, калі нябожчыка пачула... Вярнулася, а ёй не адчыняюць, у хату не пускаюць. Замок на дзвярах.

Прыбілася котка да нашага дома, каўкала ціхенька, але надакучліва. Жонка раз пакарміла, потым другі. Цяпер гэтая котка скрозь побач з нашым домам. Дзверы грукнуць — котка да ганка бяжыць.

### *30 чэрвеня*

* * *

Сусед Сяргей, па мянушцы Мангол, дапамагаў мне рамантаваць ровар. Карэтка разбоўталася і мярзотна скрыгатала. За два дні да гэтага я перацягнуў Мангола з дарогі, дзе той ляжаў п’яны да непрытомнасці, у цянёк, на мяккі мурог, і паехаў дамоў. Сёння ён мне ўдзячны і дапамагае. Круцім гайкі, разбіраем карэтку, размаўляем пра жыццё і смерць, пра котку Алемпавіча і пра гаспадара, які колькі дзён, як у зямлі.

«Людзі дамоў спяшаюцца, каб там памерці...» — кажу я.

«Так, а каты і сабакі з дома збягаюць, калі сваю смерць чуюць. Вось мой шкроб дзверы, каўкаў, прасіўся. Адчыніў яму ноччу сенцы. Ён і папоўз пад дождж. Думаў я, што, можа, травы якой паесць кот і ачуняе. А ён толькі да дарогі дапоўз. У кусты не здолеў — здох. Раніцай выйшаў, а Дымок мой ляжыць на дарозе... Гатова, круцісца!» — Сяргей выцер аб брудныя штаны перапэцканыя рукі. Педалі круціліся з прыемным механічным гукам. Я еxаў па вясковай вуліцы, потым па кладцы, па асфальце, пяшчанай сцежкай паўз могілкі.

* * *

У вясковай краме прахалодна, а на вуліцы горача. Тры жанчыны і магазіншчыца размаўляюць. Вясковыя жанчыны разважаюць пра тое, каго пакліча за сабой у зямлю нябожчык Алемпавіч. Старэйшая з іх есць марозіва, прычмоквае. Пахне хлебам, сенам і вільготнай падлогай. Цёткі асцярожна перабіраюць кандыдатуры нябожчыкаў, гавораць пра хваробы, інсульты з інфарктамі. Па сваіх гадах падлічваюць чужыя, спрачаюцца...

Магазіншчыца ўзважвае цукеркі ў бліскучых абгортках.

За акном, забраным у краты, на паўсагнутых лапах, пераходзіць вуліцу котка.

* * *

Ушчэнт высахла
жабка на шэрай шашы.
Такая спёка.

### *2 ліпеня*

* * *

Насіў ваду ў лазню. Убачыў побач з цэментавым ганкам вожыка. Аднойчы ноччу бачыў яго, бег па разоры побач з домам. Тады паленаваўся лавіць і палохаць жывёлку, а цяпер узяў колкі камяк і прынёс, каб дачцэ паказаць. Яна ўбачыла і расплакалася. Потым частавалі вожыка малаком і з ім фатаграфаваліся.

* * *

Вяскоўцы амаль ніколі не спазняюцца да аўтобуса. Прыйдуць за паўгадзіны і стаяць на прыпынку, гамоняць. Калі я падышоў за чвэрць гадзіны, то на прыпынку стаялі дзве жанчыны і мужчына — Валодзя ў пляскатай скуранай кепцы. Жанчыны гаманілі пра ягады і кляшчоў, а потым без пераходу пачалі пра нябожчыка Алемпавіча. Маладзейшая з жанчын, але таксама ў гадах, трымала вялікі букет крэмавых лілей. Суразмоўніца жанчыны з букетам, акуратная старая цётка, сарамліва казала ёй пра кляшча, які заўчора ўчапіўся ёй у жывот. Яна ж і паведаміла, што Алемпавіч не паехаў у тую пятніцу ў раён, а яна яго чакала на прыпынку, каб пра хваробы параіцца. Алемпавіч да пенсіі быў вайсковым медыкам. «Аўтобус прыйшоў, а Алемпавіч — не», — так і сказала кідка апранутая бабулька.

Цётка з лілеямі паведаміла, што на Алемпавічаў дом знайшоўся пакупнік з Мінска. Валодзя, які хадзіў туды-сюды па асфальце, спыніўся раптам і сказаў, што паперы можна толькі праз паўгады аформіць і закурыў падсушаную «Прыму».

«Кожную пятніцу мы з ім у Вушачы разам ездзілі і вярталіся разам, а цяпер вось адной давядзецца», — паведаміла ўсім пасажырам бабулька, калі ўладкавалася каля акна паўпустога аўтобуса.

«А яго на машыне завезлі на могілкі, ці як?» — пацікавілася жанчына з букетам крэмавых лілей.

«Не! На калёсах, у закрытай труне. Доктар з “хуткай” на ўскрыццё везці адмовіўся. Напісаў паперу і ўсё... А калі яго падушкай задушылі, каб грошы забраць?» — бабулька хістала галавой, і ёй хацелася яшчэ пагаварыць пра Алемпавіча.

Валодзя круціў у пальцах цыгарэту і маўчаў.

Раптам у маладога мужчыны на пярэднім месцы, адразу за шафёрам, гучна заблямкаў мабільнік. Так гучна, што і ў кабіне трактара, які па полю едзе, пачуеш.

«Дзе? А як я прыду, калі цяпер у аўтобусе еду праз Наваселле... Не змагу, дружышча, дапамагчы табе, не, і за грошы не змагу. Цешча памерла. Гуркоў, каўбасы, рыбы купіць трэба. Ну што цяпер зробіш? Ды і не вельмі старая была, усяго толькі пяцьдзясят восем...» — гучна, быццам ехаў у трактары, крычаў у мабільнік мужчына.

І бабулька, і цётка з лілеямі, і Валодзя, і астатнія пасажыры аўтобуса «Касары-Полацк» заўсміхаліся. Бо вельмі шчыра гаварыў зяць пра нябожчыцу цешчу.

*3 ліпеня*

## КАЛІ РЫБА НЕ ЛОВІЦЦА...

Я згадваў многіх сяброў і знаёмых. Адны мелі бясспрэчны мастакоўскі талент, але не любілі працаваць. Другія ўражвалі неверагоднай стараннасцю і працаздольнасцю. Сядзелі ў майстэрнях суткамі, працавалі-працавалі да мурашак іскрыстых уваччу, але таленту ім бракавала. Трэція і талент мелі, і працаздольнасць зайздросную, а не ставала розуму, каб і першым, і другім скарыстацца напоўніцу. Некаторыя талент спрабавалі замяніць розумам і працаздольнасцю, але і тут вынік несуцяшальны. Але ведаў і такіх, якія мелі і талент, і розум, і працаздольнасць. І атрымліваліся зайздросныя творы: яркія і запамінальныя. Глядзіш і разумееш, што Бог вадзіў алоўкам па паперы ці пэндзлікам па палатне. Але не мелі яны жыццёвай моцы і памерлі. Вось гэтых сапраўды шкада (думаю, што і Ван Гог, і Мадыльяні былі менавіта такімі).

Жылка напялася і я не паспеў дадумаць пра талент...

Калі рыба не ловіцца, то рыбак думае, што варта пасядзець яшчэ гадзінку, чвэрць, пару хвілін... Рыба падыдзе і схопіць чарвяка. Павядзе-пацягне, зловіцца, а яна не падыходзіць. І рыбак сядзіць яшчэ чвэрць гадзіны, яшчэ гадзіну і ўсё спадзяецца. Бо ён усё зрабіў правільна, усё разлічыў. Ён працягвае верыць у свае прылады і ўдачу. Верыць у раку і рыбу. Слепа верыць і сядзіць.

* * *

На світанні неба на захадзе такое чыстае, што белы туман, які ўздымаецца ад ракі, падаецца цёмным. І птушкі свішчуць, лётаюць над шчыльнымі чаратамі, перапырхваюць зусім побач, нават на вуду нерухомую некаторыя садзяцца. Рыба ж не ловіцца.

*4 ліпеня*

* * *

Сашка Гутарлівы жыве ў бацькоўскай хаце адзін. У яго ёсць і браты, і сёстры, і пляменнікі з пляменніцамі, але яны жывуць у гарадах. І дачка ў Сашкі ёсць. Гадоў пятнаццаць таму на аўтобусным прыпынку хваліўся, што едзе да дачкі і вязе ёй у падарунак колькі гуркоў. Ён паказаў нам з жонкай тыя маленькія зялёныя гурочкі.

Сашку спрабавалі лячыць, кадзіравалі, але нічога добрага з таго не атрымалася. Гадоў пяць ён жыў са старой цёткай, але і яна не вытрымала, прагнала. Сашка вярнуўся ў матчыну хату. Калі ёсць грошы, то Сашка п’е, а калі няма, то ходзіць вакол хаты: траву пакосіць, штыкетнік падправіць, адзежу памые, грады можа паліць...

Раніцай ён як нежывы. Рукі калоцяцца так моцна, што і пластыкавы кубачак утрымаць не можа, расплёхвае самагонку на твар, грудзі. Сашка гэта ведае і просіць,

каб гарэлку залілі яму ў рот. Заліваюць шклянку, і Сашка аджывае. Цяпер яго можна папрасіць дапамагчы сена прывезці, пакасіць, скласці папілаваныя дровы.

Без чвэрці адзінаццаць Сашка ідзе да вясковай крамы, не спыняецца і прыпальвае «Прыму». Крама адчыніцца ў адзінаццаць.

Калі Сашка быў малы, то нагадваў анёлка: твар светлы, усмешлівы, залатыя валасы кучаравыя, а вочы сінія-сінія, як ліпеньскае неба. Як тады, так і цяпер, Сашка добра спявае.

## ВАЛЬКА КАТЫЛКА

Яшчэ і васьмі гадзін не было, калі Валька ў карычневым плашчыку, але басанож ішла да хаты Віцькі Цвяцінскага. Валька не ішла, а плялася. Прыпынілася, павіталася. З пад хусткі, насунутай на вочы, баязліва і чакальна зыркалі вочкі. З засмяглага рота, як у варана ў пустэльні, выслізваў шэры язык. Віцька паказаў рукой на дзверы.

Праз хвіліну Валька выйшла, яна прыціскала да грудзей пластыкавую пляшку, у якой плёхалася самагонка. Так беражліва толькі дзіця можна несці.

Валька таропка, дробнымі крокамі, сыходзіла. На сухім пяску заставаліся сляды яе ног. Яна сёння была першай пакупніцай. Праз чвэрць гадзіны прыйшоў Фашыст, гэта мянушка такая.

Я пакіраваў па слядах Валькі і Фашыста. Віцька пачаў запрагаць каня, каб ехаць да возера зграбаць сена.

Стары градуснік паказваў плюс дваццаць адзін градус, а дзень толькі-толькі пачынаўся.

## МАНГОЛ

Валька на свайго сына Сяргея крычыць і сварыцца. Кажа, што лепш было б, каб яна яго малым у Казахстане кінула. І ёй было б лягчэй, і ён бы не пакутваў. Сяргей, калі напіваецца, Вальку б'е. У вёсцы да гэтага прызвычаіліся і не шкадуюць ні жанчыну, ні яе шалапутнага сына...

У Сяргея некалькі мянушак. Адны называюць Манголам, другія — Дзікім. Ён стараецца гаварыць па-руску, вельмі стараецца, а таму і зразумець яго можна не заўсёды. Брудныя шырокія джынсы на салдацкай папрузе, кашуля завязаная на жываце вузлом. На нагах гумовыя сланцы чорнага колеру, такога ж, як і ногі. Нават пазногці не разгледзець.

На выгляд цяжка з дакладнасцю сказаць, колькі Сяргею гадоў. Мне нават здаецца, што ён не распранаецца, калі кладзецца спаць. Гаспадаркі няма, бо няма жадання займацца ёй. Жыве на матчыну пенсію і сам сябе называе бамжом і алкашом. Вось такая праўдзівасць і самакрытыка, але і яны змушаныя, бо так лягчэй выжыць — адказнасць здымаецца. Днямі напіўся і зачыніўся ў хаце, матку не пускаў дамоў. Дзе Валька начавала, не ведаю, але малаверагодна, што нехта з вяскоўцаў пусціў бы жанчыну пераначаваць. Вельмі яна брудная.

Мангол папоўдні сядзеў пад хатай на бетоннай пліце заклапочаны. «Ну дзе яна? Пайшла раніцай у чарніцы, яшчэ і сямі не было, а цяпер — палова на чацвёртую. У яе ж ціск, а там такая спёка. Можа, паваліласся дзе? Казаў жа, каб дома сядзела. Усё на маю галаву», — скардзіўся Мангол і разгублена пасміхаўся.

Валька прыйшла праз гадзіну і прынесла ў алюміневым бітончыку трохі чарніц, перамяшаных з малінамі. Сын на яе крычаў.

*5 чэрвеня*

* * *

На Вушацкім перагаворным пункце — інтэрнэт. Два камп'ютары ў адной кабінцы. Раней была чарга, ад рання да закрыцця. Пасля таго, як пачалі патрабаваць дакумент за карыстанне сецівам, то чэргі зніклі. Не стала падлеткаў і дзяўчат у той кабінцы. Правінцыйная моладзь, мусіць, баіцца, што цяпер усе будуць ведаць пра сайты, на якія яны ходзяць. Маладая жанчына ўзяла маё пасведчанне журналіста і акуратна перапісала ўсе дадзеныя. Здзівілася, што на пасведчанні няма нумара, але ўласнаручны подпіс галоўнага пераканаў, што пасведчанне сапраўднае.

* * *

У Вушачах большасць галубоў — белыя ці з невялікімі цёмнымі плямкамі на крылах. Яны ўрачыста ходзяць па аўтобусным вакзале, падыходзяць амаль да самых ног. А вось з рук не бяруць, бо па-правінцыйнаму недаверлівыя.

* * *

Набыў квіток да Мінска. Заўтра раніцай буду ў горадзе. За той час, што жылі ў вёсцы, і я, і жонка, і дачка вясковую хату прызвычаіліся называць домам. Паспрабую дамовіцца на рабоце, каб вярнуцца сюды яшчэ на пару тыдняў. Так тут добра, што і з'язжаць не хачу.

*7 ліпеня*

* * *

З Мінска вяртаўся ў вёску, на Вушаччыну. На машыну спазніўся і з прыпынкамі ў Бягомлі, Плешчаніцах, Лепелі даехаў да Сарочына. Там мяне і заспела моцная залева. Да Вушач падвёз добры чалавек на легкавіку. З Вушач да вёскі падвёз Мітрыч — гаспадар турбазы ў Сержанах. Кажуць, што ён баптыст і школу вясковую перарабіў на турбазу для баптыстаў за іх грошы. З мяне Мітрыч грошай не ўзяў. Адмовіўся катэгарычна. У вёсцы першага сустрэў Мангола. Ён сядзеў на бетоннай пліце. Твар разбіты, вока заплыло і зыркала чырванню, як брусніца недаспелая. Ён паглядзеў на мяне здаровым вокам і сумна папытаў цыгарэту. На мой красамоўны позірк матлянуў рукой. Непадалёк дагарала купальскае вогнішча, па завядзёнцы зробленае з аўтамабільных пакрышак. Шэры дым ціснуўся да дарогі, поўз, сцякаў да ракі. Смярдзела гумай. Пайшоў дробны дождж, які мяне дагнаў. Дым зрабіўся шчыльнейшым.

Купальскае вогнішча згасала на вачах.

*9 ліпеня*

## СТАРАЯ З МАТЫРЫНА

Сваю хворую жонку — тады яшчэ цётка Ганна трохі хадзіла — стары Міця вазіў у Матырына, да шаптухі-знахаркі. Як увайшлі ў дом, то шаптуха глянула на хворую і сказала, што спазнілася жанчына, раней трэба было прыязджаць. Цяпер

яна хваробу не пераможа, але прычыну ведае. Муж з хворай жонкай прасіць пачалі, каб прычыну хоць раскрыла.

Матырынская шаптуха-знахарка задумалася. Атрымлівалася, па словах Міці, што навялі тую бяду злыя людзі. Узялі пясочку са свежай магілы ды на парог дома насыпалі. Хто першы пасля ночы з дому на двор выйдзе, на таго бяда-хвароба і кінецца... А хто і за што такое ўтварыў, тое шаптуха з Матырына не расказала. Можа, і сама не ведала, а можа, і не захацела.

«Каб я выйшаў з хаты першым, тады б я захварэў...» — зрабіў сумную выснову Міця.

Пагаварылі пра шаптух і варажбітак, пра святароў, якія стасункі з шаптухамі не ўхваляюць. Міця згадаў жанчыну з іх вёскі — Марыю Гурочкаву, якая раніцай, перш чым на ганак нагу паставіць, брала венік і парог чыста змятала. Штодня, заўсёды...

«Баялася, бо ведала пра пясочак з могілак», — нягучна казаў Міця, камячыў бейсболку і пазіраў у падлогу.

* * *

Раптам неба пачало зацягваць, спачатку далёка, а потым бліжэй і бліжэй загрымела. Пайшоў дождж. На Захадзе садзілася сонца і ярка свяціла з-пад бэзавай хмары. Мокрая пуня выглядала манументальна. Над ёй насіліся ластаўкі. Сонца свяціла і залівала неверагоднай залацістасцю ўсё вакол. Кожная з мільёну кропель была бачнай і зіхцела. Мы выйшлі на ганак і здзіўлена глядзелі, спалоханыя хараством і незямным ружова-залатым святлом.

### *10 ліпеня*

## САШКА І ВОЖЫК

Сашку калаціла, калі ён пахмурны цягнуўся па вуліцы. Павіталіся, пагаварылі ні пра што. Праз паўгадзіны я пачуў яго голас у двары. Сашка клікаў маю дачку, каб паказаць ёй маленькага вожыка. Вожык сапраўды быў маленькі, памерам з кулачок. Іголкі шэрыя, шчыльныя, а мордачка і вочкі чорныя. Сашка асцярожна паклаў звярка, лепш сказаць — жывёлку, дачцэ ў далоні. Я сфатаграфаў і Сашку з маленькім вожыкам, і дачку. Далёка Сашкава родная дачка, вось і прынёс ён вожыка маёй.

«Не бойся, ён маленькі і не кусаецца. Там, побач з Карасёвай хатай, знайшоў у траве. Туды і занясу...» — разгублена і вінавата паўтарыў Сашка.

Праз паўгадзіны дачка сказала, што трэба было вожыку колькі ягад на іголкі ўздзець.

Побач з хатай суседа чулася лаянка. Гэта старэйшы брат крычаў на малодшага. «Цябе забіць трэба, ты ж — не чалавек! Ты — алкаш!»

### *12 ліпеня*

* * *

Ні ўчора, ні сёння рыба не лавілася. На градусніку ў цяньку +32.

## ЛАСТАЎКІ

У вялізным кар'еры стаялі экскаватар і самазвал. Побач з тэхнікай тапталіся людзі, немалады шафёр і нашмат маладзейшы экскаватаршчык. Па ўзросце яны — як бацька з сынам. Старэйшы незадаволена звяртаўся да маладога, а той глядзеў на залацістую строму, паточаную дзіркамі ластаўчыных гнёздаў. Над маўклівай тэхнікай з піскам лёталі ластаўкі. Нарэшце экскаватаршчык залез у кабіну. Экскаватар прапоўз метраў пятнаццаць-дваццаць. Спыніўся пад стромай, дзе ластаўчыных гнёздаў было зусім мала. Пад'ехаў самазвал. Пасыпаўся залаты пясок. Экскаватар роў так моцна, што птушыных галасоў не пачуеш.

Калі самазвал з'ехаў, то і экскаватар змоўк. Маладзён стаяў пад стромай і глядзеў у неба.

### *13 ліпеня*

* * *

Дзве жарсці жывуць ува мне. Яны штодня змагаюцца між сабой. Адна кліча мяне да камп'ютара, а другая — да ракі, возера. Жарсць да літаратуры, а другая — да рыбных ловаў. І перад маніторам можна прасядзець цэлы дзень, і над вірам. І з ракі, бывае, вяртаюся з пустым вядром, і ад камп'ютара падымаюся з пустатой у душы. І рыбалка, і мастацтва аднолькава залежаць ад удачы. Хоць ні таленту, ні майстэрства я не адмаўляю.

Але, калі рыба не ловіцца, то і не пішацца.

### *16 ліпеня*

* * *

Падняўся а палове на трэцюю і паехаў на ровары да ракі. Закінуў вуды, забіў тысячу камароў, а рыба не бралася зусім. Сядзеў на паламаным мастку і глядзеў на нерухомыя кончыкі вуд. Над імі да самага світання, аж пакуль не ўзышло малінавае сонца, гарэла вялікая кропля зоркі. Не ведаю яе імя, але колькі дзён гляжу на яе зачаравана. Яна згасла, і я паехаў дамоў. Па шашы, па сцежцы, па пясчанай дарозе. Мой ровар заносіла ў пяску, а калі паехаў па траве, то гума на колах зрабілася бліскуча-чорнай. Ціўкалі птушкі. Я не шкадаваў, што вяртаюся без рыбы, з парожнім вядзерцам.

* * *

Кароткі цёплы дождж. З бліскучымі залатымі кроплямі і празрыстымі ніткамі вады. Мокры ганак, мокрая трава і мокрая дачка. Яна сядзела пад дажджом і лавіла далонямі кроплі. А кот пад дождж выходзіць не рызыкнуў, глядзеў праз прычыненыя дзверы веранды і біў па сухіх дошках падлогі хвастом.

* * *

Сонца села. Вечар заліў зямлю неверагодным святлом. На небе спыніліся вялізныя ружова-залатыя аблокі. Сусед вёў з поплаву карову. Убачыў мяне і закрычаў, але не нервова, а здзіўлена: «Паслухай, Валодзя, што гэта такое? Глянуў на свае рукі і

здзівіўся — яны такія жоўтыя! Ніколі такога не бачыў. Можа, ты ведаеш, як такое атрымліваецца?»

Я паспрабаваў растлумачыць суседу пра вечаровае чырвонае сонца, нізкія белыя аблокі, поўныя вільгаці, пра адлюстраванне і рэфлексы сонечнага святла, пра аптычны эфект...

Гаварыў, а сам разумеў, што словамі цяжка вытлумачыць хараство. Змоўк. Мы здзіўлена глядзелі адзін на аднога. І позірк суседа, і мой гаварылі пра неверагоднае хараство больш, чым самыя дакладныя словы. Потым, калі развіталіся, то я згадаў пра «несказанный свет», і яшчэ доўга стаяў на ганку, пакуль не сцямнела.

### *20 ліпеня*

* * *

Кот і рыба — сінонімы. Да гэтага лета я не ведаў, што бываюць каты, якія не ядуць рыбу. Мой Барсік да рыбы абсалютна раўнадушны, глядзіць на плотку, акуня, вярхоўку, якія яшчэ трапечуцца на ганку, — і не есць. Можа толькі лапай грэбліва крануць, а есці не будзе.

Усю драбязу даводзіцца аддаваць прыблудным катам, якія прыходзяць да нашага дома і каўкаюць на ганку са світання. Каўкаюць аж пакуль не наядуцца.

* * *

Матырынская шаптуха баба Надзя — мае семдзесят восем гадоў, другога мужа і трох сыноў. Сваім хлопцам яна дазволіла зрабіць толькі прышчэпку ад воспы. Праз гэта мела праблемы з дактарамі, але не саступіла. Хоць у яе і аднолькавае прозвішча з шаптухай Зінай, але яны не крэўныя сваякі. У матырынскіх шаптух падзел кліентуры, бо лекуюць яны ад розных хвароб.

Зіна варожыць, прысушвае і чаруе. Баба Надзя гэтага не робіць і Зіну асуджае. Асуджае не моцна, бо калі з такімі просьбамі звяртаюцца да яе, то яна адпраўляе да Зіны. Відаць, так робіць і Зіна.

Калі баба Надзя апранулася ў святочнае, каб ехаць на дзень нараджэння да сяброўкі, то выглядала яна ярка, але да шаптухі зусім зрабілася непадобнай.

### *22 ліпеня*

* * *

Пайшоў раніцай на рыбу. Схапіла коніка невялікая краснаўка (краснапёрка). Цягну ціхенька, кручу катушку. Выварочваецца з глыбіні шчупак і хапае маю дробную здабычу. Катушка пачынае вішчаць, жылка размотваецца. Падціскаю тормаз, каб затрымаць рыбіну і ў траву не пусціць. Атрымліваецца. Шчупак ходзіць, аж вада ўздуваецца хвалямі. Не ведаю, колькі мы так змагаемся. Жылка добрая, спінінг стары дугой, і раптам шчупак на паверхню выварочваецца. Як для гэтай рэчкі, то вялікі, кілаграмы на чатыры. Жоўты, цяжкі і не доўгі, а кароткі і круглы, жывот светлы. Паспеў заўважыць, што кручок мой глыбока ў пашчы, але спадзеў на ўдачу не пакідае мяне. Шчупак павярнуўся і ўглыб пайшоў. Я і слабіну яму даў, але... Ціўкнула мая жылка і вылецела разам з паплаўком на бераг. Перакусіла рыбіна жылку. Рукі доўга калаціліся, а сэрца бухала.

Заўтра паспрабую злавіць яго на жыўца.

*24 ліпеня*

* * *

Вясковы рыбак,
А потым вуда яго...
За гарой зніклі.

*27 ліпеня*

* * *

Калі толькі прыехаў у вёску, то не мог надыхацца. Півоні распускаліся, красавалі рознакаляровыя і дробныя кветачкі. На агародзе, у палісадніках, пры плоце. Куды ні зірнеш — кветкі. Пах кветак змяніў водар травы. Спачатку толькі што скошанай — зялёнай, потым — падвялай, нарэшце — сухой. Пах травы — шчыльны, насычаны — хоць пі яго. Асабліва моцным той пах быў перад дажджом, калі вяскоўцы кідаліся як мага хутчэй зграбці сена, скласці ў копкі, а потым пазвозіць у пуні ці ў стагі побач з хатамі.

Пах кветак і травы змяніў п'янаваты водар ліпы, што расце пры дарозе побач з домам суседа Сашкі. Наша вялікая старая ліпа не цвіла ў гэтым годзе. Пахла кветкамі ліпы можа з тыдзень. Пах рабіўся слабейшым і слабейшым штодня. Нарэшце выпетрыўся зусім, як і не было яго... Пасля ліпы запахла гарачай зямлёй, сухой травой і пяском...

Цяпер вёска пахне яблыкамі і танным віном. Яблыкі падаюць на дарогу, гніюць. Штодня іх робіцца больш і больш. Іх абтрасаюць, сыплюць у мяхі і здаюць у краму. Раней здавалі ягады. Тады ў вясковай краме пахла ягадным віном і хлебам, а ў вёсцы варэннем і дымам. Усе гаспадыні вараць варэнне на агні побач з хатамі. Дым, салодкі пах ягаднага варэння...

Па суботах вёску накрывае пах лазні. Пах з'яўляецца папоўдні, гадзіны ў чатыры... Але гэта не сезонны пах, а штотыднёвы. Ён паўтараецца і дадае іншым пахам вастрыні і яснасці.

Грыбамі пакуль не пахне. Ранішнія і вячэрнія туманы пахнуць яблыкамі.

*2 жніўня*

* * *

Не працуецца, не пішацца, ды й рыба не ловіцца... Нічога новага. Спёка. Усе размовы пачынаюцца і заканчваюцца — прагнозам надвор'я на наступныя суткі, тыдзень... Вяскоўцы ўсе часцей пачынаюць глядзець не пад ногі, а ў неба.

# «МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ТВОЙ СУМ...»

## Шляхамі «Літаратурнага прадмесця»

**У лістападзе наступнага года суполцы «Літаратурнае прадмесце» споўніцца дзесяць. Так, менавіта 10 гадоў таму ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» адбылося першае пасяджэнне маладых творцаў пад кіраўніцтвам Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа. За гэты час суполка некалькі разоў мяняла месцы сваёй дыслакацыі — «прадмесцеўцы» вандравалі з Дома прэсы праз музей Багдановіча ў музей Купалы, такім чынам, відаць, вышукваючы шлях да паэзіі. І, гледзячы па ўсім, знайшлі, бо колькасць сяброў суполкі ўвесь час павялічвалася і перасягнула ўжо некалькі дзясяткаў, сярод якіх усе, несумненна, сапраўдныя паэты. А многія — Аксана Спрынчан, Мікола Кандратаў, Рагнед Малахоўскі, Таццяна Барысюк, Юлія Новік — выдалі хто адну, а хто ўжо і некалькі паэтычных зборнікаў, прыхільна сустрэтых крытыкамі.**

**Для таго, каб колькасць талентаў пераходзіла ў якасць вершаў, неабходна літаратурная вучоба. Знаная пісьменніца і журналіст Людміла Рублеўская ведае, як зрабіць з пачаткоўца прафесійнага літаратара. На пасяджэннях суполкі праводзяцца круглыя сталы, чытанні і дыскусіі. Перыядычна ладзяцца абмеркаванні творчасці аднаго з сяброў суполкі, на якіх маладыя паэты авалодваюць майстэрствам крытыкі. Здараюцца і выязныя пасяджэнні, цікавыя падарожжы — напрыклад, Танкаўскія чытанні на Лысай гары.**

**«Літаратурнае прадмесце» актыўна займаецца «гастрольнай» дзейнасцю, выступаючы па запрашэннях школ, універсітэтаў і бібліятэк. Акрамя таго, сябры суполкі самі арганізуюць літаратурна-музычныя імпрэзы, многія з якіх ператвараюцца ў штогадовыя праекты. Напрыклад, Літаратурныя Купалле, Дзяды, Каляды, а таксама «фірмовыя» мерапрыемствы суполкі — вечарына «Максім і Вераніка»(на Дзень усіх закаханых у музеі Багдановіча) і акцыя-аўкцыён «Кірмаш мусаў». Не кажучы ўжо пра тое, што выхадцы з «Літаратурнага прадмесця» заснавалі Паэтычны тэатр АРТ.С. і прома-групу ВЮ, разнастаілі і развілі сучасны літаратурны працэс.**

**Любая творчая суполка не можа абысціся без гумару, без сваіх дзівацтваў, а тым больш — без сваіх добрых традыцый. Як не згадаць антыгламурную літаратурную прэмію «Блакітны Свін», якая ўручаецца за нонканфармізм у мастацтве, дзе ў якасці прыза пераможцам дораць «сто чаго-небудзь» — алоўкаў, свечак, насовак або перапяліных яек! Сімвалы «Літаратурнага прадмесця» — віртуальныя персанажы з багатай прыдуманай біяграфіяй, сімулякры Рагнеда Крышталюк (ружовы парасон з дзвюма «рожкамі»-спіцамі) і Янька/Інька (маленькі жоўты парасончык, прывезены з Кітая і падораны суполцы паэткай Маргарытай Аляшкевіч) — адкрываюць кожнае пасяджэнне. Міфалогія прадмесцеўцаў уключае любога цікаўнага ў інтэлектуальную гульню, запрашае чытачоў да сутворчасці. Таму, напэўна, гэтае аб'яднанне ўжо дзясяты год не проста жыве, але функцыянуе, квітнее і папаўняецца — бо стаць сябрам суполкі можа кожны.**

*Віка ТРЭНАС*



## Мікола КАНДРАТАЎ

* * *

Не ўдаецца жывое адчуць
у палоне прыземленых дум.
Чую шэпт: «Я цябе навучу…»
Гэта сум. Гэта сум. Гэта сум.

Сэрцу стане нібыта лягчэй,
і нябачны празрысты паток,
нібы дождж, па шчацэ пацячэ...
Гэта сок. Гэта сок. Гэта сок.

Нібы хто развядзе берагі,
паяднаныя памяці дном.
На вадзе затанцуюць кругі…
Гэта сом. Гэта сом. Гэта сом.

Адпусціўшы былое ў раку,
працягну да нябёсаў далонь —
сонца скоціцца мне на руку…
Гэта сон. Гэта сон. Гэта сон.

* * *

Пагляды размаўлялі пяць хвілін,
нібы гайдалі лёгкія арэлі,
на мове, зразумелай толькі ім.
Калі і пазнаёміцца паспелі?

Вялі гаворку, бы ў краіне кроз,
крыху наіўна і амаль узнёсла.
Не замінаў ім розны наш узрост,
нібыта й не было зусім узросту.

Яе пагляд імкнуўся да майго,
нібы не абяцаючы расстання:
нямыя словы — лёгкія, як здані —
ляцелі, нібы мятлікі ў агонь…

* * *

Пра крону мараць карані,
і рады шар у неба ўзвіцца,
а я баюся вышыні
яшчэ з далёкага дзяцінства.

Імкнуць па лесвіцы надзей,
здаецца, могуць толькі цені —
цягну за імі, як на здзек,
цяжар свабоднага падзення.

А знізу дробны чорт шкрабе,
нібы спіхнуць спрабуе з даху.
І прыкра адчуваць сябе
ахвяраю на пласе страху,

бо кожны велічны парыў
ад гэтага губляе вартасць.
Я сню да сённяшняй пары,
як з вышыні балюча падаць.

Але быў літасцівым Бог
і для душы мне ў пэўнай меры
даў моцы, каб я толькі змог
узняцца на прыступку веры.

І ў той надхмарнай чысціні
я зразумеў, яшчэ нясмела,
што не баюся вышыні —
яе баіцца толькі цела.



## Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

* * *

Рахманы паўночны трамвай,
які не ідзе на поўнач…
Ён звык уначы вандраваць,
і цемраю вочы поўніць,

як рэйкі раптоўна ўверх
выструньваюцца ў нябёсы.

Ну вось вам і свежы верш
пра незвычайнасць лёсу.

Рамантыка, скажаце вы?
Магчыма — не запярэчу.
Трамваю таксама карціць
хоць раз зазірнуць у вечнасць.

* * *

Маё сэрца, нібы нераскрытая лотаць —
Яно ў роспачы прагне цяпла і сонца,
І напраўду пакутуе без пяшчоты —
Майскі дождж пакідае на вуснах воцат…
Маё сэрца, нібы нераскрытая лотаць.
Маю крылы, ды толькі не ўмею лётаць.
Навучы мяне, птушка, надай мне сілы.
Чую ў небе я твой несуцешны клёкат:
«Як няма кахання, нашто табе крылы?»

Ты таксама пакутуеш без пяшчоты…



## Наста ГРЫШЧУК

* * *

Малы, белагаловы ўнук
І цёмны дзед, сагнуты ў крук.
Твар дзеда — што зямля ўвесну.
Унука вочы — бы ўваскрэслы
Бог.
Яны ідуць наперад.
А з імі — цішыня і вера.

* * *

Мы развіталіся.
На памяць
Я падарыла крыжык свой,
Каб ты і ўноч, і ў дождж, і ў замець
Не сустракаўся з доляй злой.
Няхай нас болей лёс не зніжа,
Я зноў убачу: ты стаіш.
На шыі — мой маленькі крыжык,
І на плячах — вялізны крыж.



## Мікола ГАЛАВАЧ

* * *

Упаў радок на белы ліст паперы,
а разам з ім: мая душа,
пражыты дзень
і ціхі плач,
шчаслівы цень
і цень няўдач,
мой боль і гнеў,
і думак спеў...
Упаў радок.
Упаў, а разам з ім — падман і вера,
а разам з ім — мая душа.



## Дар’я ЛЁСАВА

* * *

Мне падабаецца твой сум,
Самота гэта — пазалотай.
Трывожна песню я нясу
Употай.
Як цесна сэрцайку ў грудзях!
Як горка, што ў табе — імгненнем!
А я хацела б — гэты шлях
Дарогай песеннай, натхненнем!
Ах, ды куды мяне нясе?

Пра што ізноў так дзіўна мару?
І стужка, што ў маёй касе —
Агніста-восеньскім пажарам.

* * *

Дзякуй Богу, аціхла сустрэча,
Уляглася, згарэла ў душы.
Зноў спакоем запоўнены вечар,
Зноў матуля са мною ў цішы.
Толькі зорка пазвоньвае ў шыбу,
Толькі месяц за зоркай імчыць.
І ў мяне — аніякага німба,
Каб убачыў мяне ты ўначы.



## Юлія НОВІК

* * *

Час спыніўся.
Глыбокі сон.
Вымяраецца ўсё Табою.
А пяшчота, нібы праклён,
На жыццё насылае мрою.

Рух спыніўся.
Няма мяжы.
Не крануся: мяне трымаюць
Сотні ніцяў тваёй душы…
Пра астатняе — забываю.

### НАПІШЫ

Напішы для сябе адной
Толькі так, каб было відаць,
Як успыхнуў радкамі боль,
Як ад гневу радкі гараць.

Напішы для сябе адной —
Атрымаецца як для ўсіх —
Тых, хто сэрцам жывым даўно
Замяняе і зрок, і слых.

* * *

З мільёна сцяжын
Адна — да цябе.
І сэрца, якое кахае,
Падкажа, якая.

### СОНЦА З ДРЫГОТКІМ СЭРЦАМ

Ціха. Прастора. Няма нічога.
Сонца сагрэла табе дарогу.

Дарогу з мільёнам красак,
Успуджаных яркім промнем.
Дарогу з мільёнам сказаў,
Якія і вецер помніць.

Ты пойдзеш дарогай гэтай
За светлым вялізным светам.

А маці тут застанецца —
Як сонца з дрыготкім сэрцам.

* * *

Будзе гарэць словамі,
Перагараць думкамі
Натхненне маё.
Будзе стамляцца,
Адпаўзаць у цень
Сумленне маё.
Будзе на змярканні
Прасіць аб літасці
Цярпенне маё.
І толькі аднойчы
З'явіцца вандроўнік,
Каб проста сказаць:
«Вер!»

*Валерый ЛІПНЕВІЧ*

# ЕВА, ВЯРНІ РАБРО!*

***Аповесць***

## МАТЫЛЁК НА АКНЕ

«...палохае ўласная плыннасць, якая ставіць пад сумнеў нават само ягонае існаванне: “Адчуваючы, мы знікаем, выдыхаем самі сябе”. Герой спадзяецца пераадолець плыннасць, часовасць быцця праз каханне. Аднак гэта дае яшчэ менш доказаў існавання: паўната перажыванняў настолькі вялікая, што закаханыя губляюць адчуванне сябе і доўжацца ў гэтай ілюзорнай вечнасці — у абдымках адно аднаго, — як дрэва ці дом, пазбаўленыя спецыфічна чалавечага — свядомасці...»

Віктар паклаў ручку. Зірнуў на спісаную старонку, адчуваючы звыклую асалоду ад таго, што, нарэшце, усё, што ён паспешліва выкідаў на маленькія аркушыкі чарнавікоў, нікому, апроч яго, не зразумелае, змясцілася роўнымі і ўпэўненымі радкамі на стандартным аркушы паперы.

Злёгку страсянуўшы расслаблена апушчаныя рукі, адкінуўся на спінку крэсла. Абводзячы абыякавым позіркам чытальную залу, падумаў, што ў ёй змясціліся б і баскетбольная пляцоўка, і памост для штангістаў. Вокны апаясвалі залу па перыметры пад самай столлю. У іх было відаць толькі неба. І ў храме духу, і ў храме цела — нічога зямнога і старонняга. Зразумела, апроч прыхаджанак, якія заўсёды ў наяўнасці. Хітравата пазіраюць паўзверх малітоўнікаў. Гэта значыць: падручнікаў і канспектаў, курсавых і дыпломных.

Твар дзяўчыны праз стол ад яго, справа па праходзе, падаецца знаёмым. Яна адчула ягоны позірк, падняла галаву — не, памыліўся. Яркая пляма на акне. Перасоўваецца



*Валерый Ліпневіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў Мінску. Скончыў філфак БДУ (1973). Працаваў літсупрацоўнікам газет «Чырвоная змена», «Сельская газета» і інш. Друкуецца з 1970 года. Аўтар кніг «Дерево и река», «Тишина» ды інш. Член Саюза пісьменнікаў Масквы. Лаўрэат прэміі часопіса «Нёман».*

**«Адчуваючы, мы знікаем, выдыхаем самі сябе...» Так можна (і трэба!) сцвярджаць у залатую пару кахання, калі неабазнанае сэрца яшчэ без пісягоў і шнараў, а вочы ўпадабанай прыгажуні яснейшыя за летнія зоры... Усе мы некалі праходзім па гэтай сцяжыне спазнання, адкрываем даўно адкрытае іншымі і выдыхаем самі сябе. Валерый Ліпневіч у аповесці «Ева, вярні рабро!» змог сакавіта, рэльефна і напоўнена перадаць раздарожанасць маладой душы ў светлую пару закаханасці. Варта, відаць, перафразаваць выказванне, няхай яно гучыць прыкладна так: адчуваючы, мы ўзлятаем, спазнаём самі сябе. Чытаючы аповесці В. Ліпневіча, сапраўды, шмат у чым пазнаеш сябе, узгадваеш свае адчуванні, перажыванні, свае паразы і перамогі.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

---

* Часопісны варыянт.

рыўкамі. Дзіўна, чырвона-жоўты матылёк з чорнай аблямоўкай. Настойліва б’ецца аб шкло. Ірвецца ад святла ведаў да проста святла.

Ад шэрага неба над ім — злева, справа, проста перад вачыма, за спінай — прыйшло да Віктара амаль фізічнае адчуванне цяжару. Быццам штанга ляжыць на плячах — дрыжаць ногі, яшчэ раз прысесці... Ён зірнуў на гадзіннік — час ісці на трэніроўку. Падумаў, што дакладны рытм дня імкліва паскарае жыццё. Бібліятэка — спартыўная зала — бібліятэка — басейн. Дні лятуць адзін за адным, гладкія, нібы адпаліраваныя. Бездапаможна слізгае па іх памяць, ёй няма за што ўхапіцца. Як у гладкіх рыфмаваных радках, успрымаецца толькі рытм — навязлівы, прымітыўны, ён заглушае сэнс, заглушае жыццё... І куды імкнецца неразумны матылёк? Ад цяпла і святла — у холад і слоту. Лётаў бы спакойна да вясны.

На трэніроўку не хочацца. Грукат ад падзення штангі пераследуе нават у сне. Ён з цяжкасцю адрывае вагу ад памоста, марудна цягне да каленяў, рэзка падрывае... Пальцы расціскаюцца, штанга валіцца на памост, збівае столік суддзі, коціцца на гледачоў...

Тэлефанаваць Веры таксама не хочацца. Віктар сядзіць, прымружыўшы вочы, і складзенымі разам указальнымі пальцамі павольна праводзіць ад пераносся да падбароддзя. Нібыта ўдакладняючы і замацоўваючы лінію профілю. Матылёк няўпэўнена ляціць праз праход. Уверх — уніз, управа — улева. Наперад — назад. Танец палёту. У напрамку той дзяўчыны, што падалася знаёмай. Яна таксама глядзіць на матылька. Іх позіркі сустрэліся ў паветры, на гэтым легкадумным танцоры ў яркай вопратцы, быццам выкраенай з восеньскага ліста.

Яму прыемна, што іх позіркі сустракаюцца, вось так — не зусім звычайна і шматзначна. У адрозненне ад матылька, яна ў летніх колерах. Гэткая смарагдавая яшчарка. Нейкі вельмі знаёмы твар. Матылёк завісае над сталом, ляціць вакол яе, зноў завісае. Пераконваецца, што гэта ўсё ж такі не зялёны лужок, і ляціць назад. Уверх — уніз, управа — улева. Пралятаючы міма, нечакана сядае на блакітны сшытак. Асцярожна даследуе яго ільсняную паверхню. Перабіраецца на раскрыты томік Рыльке. Падымаецца па радках элегіі, як па лесвічцы. Вершы добрыя, але ад друкарскай фарбы не ў захапленні. Узлятае, зноў да акна, на слізкае шкло, да шэрага і такога жаданага неба. Напэўна, ён і не пакутуе ад гэтай шэрасці. Хапае і ўласных фарбаў.

Што шукае матылёк у бібліятэцы? Магчыма, яшчэ нядаўна юная, тонкая, парывістая дзяўчына стаяла на выдачы, прымала заказы, прыносіла і забірала кнігі. Чароўна ўсміхалася. Ніколі нічога не чытала і думала толькі пра каханне. Дзе і як яго сустрэне і як шчаслiва яны будуць жыць. Зусім не так, як тата з мамай. І закахалася, як апошняя дурніца, у інтэлігентнага акулярніка, які прыходзіў першы і сядзеў да закрыцця. Такі нявінны, прастадушны, кранальны і жахліва, жахліва разумны. У ягоных кніжках сустракаліся знаёмыя словы, ды ўсё адно нічога нельга было зразумець. Ля курылкі, пад лесвіцай, ён чытаў ёй вершы, таксама вельмі разумныя і зусім незразумелыя...

Выявілася, што ў яго жонка і двое дзяцей, і кінуць іх ён ніяк не можа. Яна стала няўважлівай, слязлівай, увесь час нешта блытала і ўпускала. Неяк трапілася на вочы вялікая прыгожая кніжка з матыльком на вокладцы. Яна толькі на імгненне затрымала позірк, толькі паспела падумаць: добра было б... Кніга грымнулася на падлогу. У яе закружылася галава. П’янкая лёгкасць. Яна выцягнула рукі, каб не ўпасці. І паляцела. Яна лунала над схіленымі галовамі, але роднай, бялявай, нідзе не было. На жаль, ён ужо прачытаў усе кніжкі і нават здаў дзяржэкзамены, атрымаў чырвоны дыплом і прынёс жонцы першы заробак...

Што шукае матылёк у бібліятэцы? Што шукаеш ты? Проста жанчына для цябе занадта проста. Проста жанчына, проста жыццё... У басейне штораз караскаешся ўсё вышэй і за кароткае імгненне палёту расплочваешся ўдарам галавы аб ваду. У басейне... Бязмернасць жаданняў дае адчуванне жыцця. Спяшацца жадаць бязмерна, пакуль жывыя. Цяжкае шэрае неба. Ён трымае яго на прамых руках, як штангу, і каманды апусціць яшчэ не было. І, напэўна, ужо не будзе: суддзі спяць. Як у начным жаху — сам сабе суддзя і глядач. А рэкорды не фіксуюцца і не аплочваюцца. Ён здагадваўся пра гэта, калі ўздымаў велізарны цяжар на грудзі, на мяжы магчымасцей уставаў, а пасля, крыху прысеўшы, штурхаў на прамыя рукі.

Віктар узгадаў дзяўчыну, якую ён нядаўна ўпадабаў у басейне. Яны сядзелі побач на трыбуне, чакаючы свайго сеансу, дыхалі вільготным паветрам, глядзелі на тых, што плавалі і ныралі. Праз усплёскі і гулкія крыкі ён прыслухоўваўся да яе гутаркі з сяброўкай. Чуваць быў толькі голас, быццам прасеяны праз рэшата, — без шалупіння слоў: спакойны, гаючы. Вязаная камізэлька падкрэслівала мяккасць рухаў. Гэтая дзяўчына стварала атмасферу спакою, унутранага роздуму. Пасля яна перадавала яму шнур, што перакрываў праход, і ён затрымаў яе руку крыху болей, чым трэба. Яна зірнула на яго — спакойна, прыязна. Пасля яны здавалі паліто. Ён стаяў за яе спінай. Яна падкрэслена не заўважала ягонага позірку. Праходзячы паўз яго, апусціла галаву.

Пасля яна стаяла з сяброўкай, якая размаўляла з трэнерам. Віктар падышоў бліжэй. Вузкія клубы, прамыя доўгія ногі. Русыя валасы сабраныя ў вузел. Рукі скрыжаваныя, нібыта абдымае сама сябе. Крыху горбіцца. І ўся на вуглах: плечы, локці, сцёгны, калені — усё тырчыць, быццам спалохана, пагрозліва востра. Так, спакой нам толькі сніцца. Пасля яны стаялі побач ля трампліна. Глядзелі ў вочы, чакалі. Але Віктар марудзіў. Ён не пераадолеў перыяд разглядвання здалёк, здагадкі, прадчування. Ён няспешна перабіраў магчымасці, варыянты — карацей, збіраў нектар з нябачных і няісных кветак. І словы не прагучалі. Яны яшчэ раслі. Хаця, магчыма, колькасць вуглоў тут адыграла ролю наканавання. Наступным разам яе не было. Праўдзівей, Віктар прапусціў той дзень, калі яна хадзіла, і чакаў цэлы тыдзень, спяшаючыся ў басейн, ужо ў тралейбусе жадаючы ўбачыць зялёнае паліто. Яе не было. Пытаўся ў трэнера: «Сяброўка той дзяўчыны, што размаўляла з вамі тыдзень таму? У сінім купальніку. Ну, такая...» — Віктар намаляваў рукой у паветры нешта крыху фрывольнае. Трэнер усміхнуўся і развёў рукамі.

Мікратрагедыя — так і не сустрэліся...
Матылёк на акне...
Віктар хапае ручку.
Хутчэй!
Паляціць, патоне, не данырнеш.
Што шукае матылёк узімку
ў бібліятэцы,
падымаючыся навобмацак
па раме акна?
Ён з чырвона-жоўтага ліста,
аблямаванага чорным.
Быццам у жалобнай рамцы
дзявочы фотаздымак восені.

Яшчэ апякае навізной, яшчэ дорага да слёз. Пасля радкі астываюць. Але гэтае імгненне, гэтая зямля на даляглядзе — толькі гэта і застаецца. Радасць — як сіняя

лужына, што разыходзіцца па шэрым небе. Як каманда суддзі апусціць. Але, яшчэ пастаяўшы на адной назе, ты кідаеш вагу на памост. Суддзя робіць заўвагу. Ты з усмешкай выбачаешся і сыходзіш у воплесках. І, не адчуваючы стомы, лёгкі, гатовы да новага цяжару, ідзеш у душ. Змываць бруд перамогі. Брудныя і пераможаныя, і пераможцы. Толькі гледачы — чыстыя...

Віктар заўважыў, што, задумаўшыся, па-ранейшаму глядзіць на гэтую незнаёмку, якая нечым кранула яго. Ён разглядае яе, нібыта карціну. Ах, ёй не падабаецца! Пасміхаючыся сам сабе, ён робіць выгляд, што прыгадвае. Але гэта ўжо ветлівы падман, толькі нагода для таго, каб даўжэй паглядзець на прыгожую дзяўчыну.

«З прыгажосці пачынаецца жах». У Рыльке гэта прызнанне непераадольнай сілы, што схіляе нас да жыцця, да любові. Толькі прыгажосці мы падпарадкоўваемся радасна і добраахвотна. Ну, канечне, яны крыху знаёмы. Яна выпусціла пальчатку ў вестыбюлі, ён падняў, сказаў нешта дасціпнае. Яна засмяялася. Але тут з'явілася сяброўка, дзелавая такая, і адразу яе некуды пацягнула. Можна кіўнуць на ўсякі выпадак. Але ці варта пераносіць з мінулага ў сучаснасць усё, што трапляецца пад руку? Неразборлівасць даравальная, калі цягаем з будучыні...

Яна ўстала. Збірае кнігі і сшыткі. Выпускае ручку, неяк вельмі лёгка нахіляецца за ёй. Якая яна ўся ладненькая. Усё ў абцяжачку, нават і распранаць не трэба. Віктар глядзіць, як яна праходзіць між сталоў. Глядзіць — быццам пампуе паветра з прасторы паміж імі, чакаючы, што яе кіне да яго, у зону паніжанага ціску. Законам фізікі не падпарадкоўваецца. Іх вочы сустрэліся. Быццам запалка, яна чыркнула па ягонай нерухомай шурпатасці і на імгненне ўспыхнула — усміхнулася. На імгненне ён страціў свядомасць. Здаецца, гэта было менавіта так: рэзка прыліла кроў, закружылася галава. І слязінка, якую ён незаўважна расцёр па вейках. І ўдзячнасць за ўсмешку, за імпульс чалавечай цеплыні, бескарыслівай спагады. Як нечакана з'явілася гэтая ўсмешка на яе стомленым, бледным твары. Віктар ужо ведаў, што падыдзе да яе. Захваляваўся, падрыхтаваўся... Але штосьці падказала яму: не цяпер, яна яшчэ вернецца.

Віктар намагаўся стрымаць, схаваць сваю радасць, патапіць яе ў цвярозасці і будзённасці. Але яна зноў і зноў, як кавалак пенапласту, вырывалася на паверхню і выдавала яго беспрычыннай усмешкай.

## ДВОЕ Ў ПЕРАДНАВАГОДНІМ ТУМАНЕ

Віктар чакае яе ўжо звонку, на прыступках бібліятэкі. Ён узбуджаны, як перад выхадам на памост, да рэкорднай вагі. Ці перад іспытам па дыямаце. Вось яна з'яўляецца за шклянымі дзвярыма. З цяжкасцю штурхае іх. Прыадчыніўшы, азіраецца, быццам нехта мусіць быць за ёю. Апошнія секунды чакання. Віктар з цяжкасцю стрымлівае хваляванне. Вось яна ўжо праходзіць паўз яго, ледзь нахіліўшы галаву.

— Прабачце, — Віктар робіць крок да яе, — але мы калісьці былі знаёмыя.

— Так, — проста сказала яна.

— І тады вас клікалі Галінай.

— І зараз таксама, нічога не змянілася.

— Што вы! Я нават не пазнаў вас адразу.

— Я заўважыла, вы так глядзелі...

— Зараз вы падаяце сябе ў іншай манеры, у іншым колеры.

— Старая стала, трэці дзясятак пайшоў.

— Жанчыны сядзяць ці ходзяць туды і сюды, маладыя і старыя; маладыя прыгожыя, але старыя куды прыгажэйшыя.

— Не, я пакуль не «куды».

— І ў вопратцы пераважае зялёнае — колер жыцця, сталасці, мудрасці, калі заўгодна. Вы сталі неяк — ну, я толькі фантазірую на вашу тэму — сталі больш мяккай, уважлівай і, зноў жа, мудрай. Што, канечне, у жанчын найперш заўважна па вопратцы.

— Аднак...

— Чаму — «аднак»?

— Так, наогул, — яна з цікаўнасцю паглядзела на яго. Яе спачатку зачапіла ягонае «падаяце» — не рыба ж яна заліўная, але стрымалася і зараз парадавалася з гэтага.

— А што — вы не пагодзіцеся, — працягваў Віктар з энтузіязмам, — калі жанчына мае магчымасць апранацца так, як яна хоча, па стылі яе вопраткі ЭВМ вылічыць філасофію яе жыцця?

— Адразу і філасофію...

— А навошта марудзіць?

— Падазраю, вы абыдзецеся і без ЭВМ, — усміхнулася яна і падумала, што трэба патэлефанаваць — яны якразміналі таксафон — і сказаць, што не прыйдзе.

— Калі вы будзеце дастаткова паблажлівы, я б паспрабаваў.

— Рызыкніце! — памовіла яна і падбадзёрыла яго позіркам.

— Што ж? Збаяліся?

— Не-не. Паўза па тэхнічных прычынах.

— А вы што — робат?

— А як вы здагадаліся? Так, апошняя мадэль, на выпрабаванні. Калі перагару, нешта сёння ўсё нейкае напружанне, адрас завода-вытворцы вось тут, — ён прыклаў руку да сэрца. — Там два вінцікі, калупняце — і гатова. Ну і напішаце, як усё было.

— Зразумела. Хоць раней я, па шчырасці, неяк з робатамі не сутыкалася.

— Ды няўжо! Азірніцеся навокал. Яны проста не прызнаюцца. Проста партыя без блока самасвядомасці.

— Нейкі вы занадта строгі. Дык што там пра філасофію?

— Пачнём. Практычнасць, спартыўнасць вашага стылю адзення сведчыць пра рацыянальнасць, мэтанакіраванасць, — пачаў Віктар тонам спартыўнага каментатара, — а калі ўзгадаць вашу хаду, можна сказаць, што вы дзяўчына валявая і энергічная. І ваша мара, верагодна, зрабіць кар’еру — ну, калі вам не падабаецца гэта слова, — папярэдзіў ён яе рэпліку, — дасягнуць поспеху ў галіне мужчынскай дзейнасці. Гэта значыць, разумовай.

— А раптам я мару разгружаць вагоны?

— «Сквозь эти женские лопаты, как сквозь шпицрутены иду!» Гэта, як сцвярджае паэт, сфера ўжо чыста жаночай дзейнасці. Спазніліся. Тое, што вы носіце футра, а не паліто, якое хутка выходзіць з моды, таксама сведчыць пра ваш рацыяналізм і практычнасць.

— Аналіз комплексаў таксама будзе? — спытала яна з лёгкай іроніяй.

— Не ўсё адразу. Я назіраў, як вы апраналіся перад люстэркам, як старанна павязвалі хусцінку, усё любаваліся яе колерам, яна так нечакана перагукаецца з вашай блакітнай шапачкай — самі вязалі?

— Сама.

— Дык вось, ваша хусцінка... Яна шапнула мне, што вы любіце... Нават страшна вымавіць...

— Вы не выглядаеце на надта палахлівага чалавека...

— У мяне зманлівая знешнасць. Ведаеце, якія бываюць людзі?

— Не ўхіляйцеся. Што вам шапнула мая хусцінка?

— Асцярожна! — ён прытрымаў яе за локаць. — Хай гэтая машына праедзе. Плаціць са стыпендыі за рамонт чыёйсьці «Волгі»...

— Канечне, калі яна з вамі сутыкнецца, дык пацерпіць. А я ўсё ж такі жывая істота. Не забывайцеся.

— Магчыма, — ён нахіліўся да яе і ўважліва паглядзеў у вочы.

— Не блазнуйце.

— І не толькі хусцінка, але і сумачка таксама. Яны кажуць...

— Мая сумка! Яна ў змове са здрадніцай хусцінкай! Скажыце хутчэй, што мне выкінуць?

— Так, — працягваў Віктар, — галоўны змоўшчык — гэта вы. І хаваеце разам з пералічанымі страшную таямніцу. Якую... Вы насілі завушніцы?

— Так. І зараз нашу.

— Якую хусцінка, сумка і вось гэтая дзірачка ў вуху ўзялі дый выдалі.

— Вы мяне амаль зацікавілі.

— «Амаль!» Вось так, значыцца! — Віктар спыніўся на скрыжаванні. — Тады я скажу вам...

— Скажаце, калі вас не адправяць на пераплаўку. Асцярожна! — яна хіснулася да яго. — Машына!

— Галіна! Вы ўратавалі маё жыццё! — урачыста прамовіў Віктар. — І за гэта я адкрыю вам страшную таямніцу.

— Вы ўжо спекулюеце на сваёй таямніцы, — Галіна вызваліла сваю руку ў рукавічцы, якой паспеў завалодаць Віктар, і абышла яго.

— Я мяркую, ёсць на чым спекуляваць, — сказаў Віктар, ідучы з ёю нага ў нагу.

— Кіньце хуліганіць, — яна спынілася і павярнулася да яго.

— Ой! — ён зрабіў выгляд, што ледзь не ўпаў, і захістаўся на месцы.

Яна моўчкі глядзела на яго. Ён адчуў, што крыху перабраў.

— Дарэчы, гэта ваша таямніца, а не мая.

— Кіньце мяне мучыць, — сур'ёзна папрасіла яна, — а то я раптам памру, так і не дачакаўшыся гэтай таямніцы. А можа, яна б уратавала мне жыццё? Што мы стаім, хадземце.

— Так... Вы любіце... Ну, дапамажыце ж мне!

— Каго?

— Не каго, а што. Вы любіце папесціць...

— Каго? — усміхнулася яна.

— Сябе! — выдаў ён пракурорскім голасам.

— Чым? — спытала яна насцярожана.

— Пачуццямі, — сказаў ён сур'ёзна і дадаў з падкрэсленай прастадушнасцю: — Як марожаным у спякотны дзень.

— А вы — цынік, — выдыхнула яна нечакана холадна, гледзячы проста перад сабой. — Мне трэба патэлефанаваць. Вы мяне забалбаталі.

— Меднік я... — дурасліва панурыў вочы Віктар.

— Зноў інтрыгуеце.

— Мяняю золата на медзь...

— Не разумею.

— Гэта вельмі проста: запасы дзяцінства і юнацтва — вось наша золата. А жыць — гэта ўмець золата на медзь размяняць. Каб не давялося з голаду паміраць.

— Ці збяднець... Вы ўжо пачалі казаць у рыфму... Рэшта знойдзецца не ў кожнага...

Гэтая думка падалася ёй цікавай і вельмі блізкай.

— Разумееце, — загарэўся Віктар, — гэта ўсё ўсведамляецца, усё гэта так: жыццё — разменны пункт нашых залатых запасаў. Але не хочацца, разумееце, не хочацца адчуваць уцечку, хочацца наадварот, рабіцца багацейшым, пераліваць усю гэтую будзённасць, гэтую медзь, ці што...

— Ах, вы, алхімік! — ласкава зірнула на яго Галіна. — Не перажывайце. Вось перастануць вас мама з татам карміць, навучыцеся. А насамрэч вы, па-мойму, філолаг?

— Філолух, — Віктар дурасліва панурыў вочы.

— Па знешнасці не скажаш, — яна спынілася, паглядзела направа, налева.

— Куды вам? — спытаў ён.

— А вам куды?

— Мне з вамі, — прамовіў ён сур'ёзна і зазірнуў ёй у вочы.

Яна адвяла позірк і прамаўчала.

— Як вам Новы год без снегу? — зрабіў ён неабходны захад.

— Нават падабаецца. Крыху нязвыкла. Усё ў такім тумане, такое няяснае, нязвыклае. Звычайна я сустракаю Новы год у лесе. Сёлета не атрымаецца. Шкада...

— Гэта стала модна — сустракаць Новы год у лесе.

— Я сустракаю яго так з дзяцінства... Вы да мяне несур'ёзна ставіцеся, — нечакана заявіла Галіна.

— Няма нічога больш сур'ёзнага за несур'ёзнасць...

Бадай, ён гаварыў замнога. Радасць, што перапаўняла яго, прыспешвала і скарачала фразы. Некалькі разоў яны не зразумелі адно аднаго. Выявілася, што ўжо хвілін пяць яны казалі пра рознае і — што самае дзіўнае — іх меркаванні супадалі. Магчыма, каб ніколі не спрачацца, трэба заўсёды гаварыць пра розныя рэчы, тады ў суразмоўцаў не будзе агульнай падставы для спрэчкі. Непаразуменне пайшло ім толькі на карысць. Яны спачатку рассмяяліся, а пасля паразмаўлялі пра складанасці зносін, пра тое, што самае цяжкае — у яе гэта прагучала з адценнем асабістага — калі цябе не разумеюць. Пакуль чакалі тралейбус, ён прапанаваў пайсці пешшу.

— Хадзем, — пагадзілася яна проста. — Стамілася сёння... Наогул стамілася... Яна вымавіла гэта такім тонам, быццам ужо гадоў дзесяць яны муж і жонка. Гэта яму не спадабалася. Хацелася пакуль што заставацца ў рамках лёгкай размовы, не абцяжаранай узаемнымі абавязкамі. Віктар не быў гатовы да пераходу ў іншую танальнасць. Дый у яе гэтая інтанацыя вырвалася выпадкова і павісла ў паветры.

— Аказваецца, апроч алкашоў ёсць яшчэ і алк**о**шы. Праўда, цяжка здагадацца, што тут купляюць звычайнае малако? — Віктар кіўнуў на літары, што засталіся на шыльдзе крамы: АЛ КО. — Малака вам не трэба?

— Дзіўна, вы так спыталі, быццам у мяне малое дзіця...

— Гэта вы так пачулі.

Ён падумаў, што ў яе сапраўды можа быць дзіця. Але гэтая думка яго не збянтэжыла. Ён не мог уявіць яе, сённяшнюю, з дзіцем. Для гэтага ёй нечага не ставала. Мабыць, дзіцяці. Віктар супакоіўся, недзе ў глыбіні ўпэўнены, што нешта прыходзіць да нас толькі тады, калі мы ў стане яго прыняць. Хоць, праўдзівей, мы вымушаны прымаць тое, што гатова прыйсці да нас.

— А ў гэтым доме, — кіўнула Галіна, — жыве сястра Марата Казея. Вельмі цікавая жанчына. Калі ў мяне будзе сын, я назаву яго Маратам.

— Кожнаму чалавеку трэба даваць ягонае ўласнае імя.

— Я ўсё адно назаву Маратам, — упарта паўтарыла яна і нечакана дадала: — Калі будзе...

І зноў яго зачапіла яе інтымная, нейкая празмерна давяральная інтанацыя. Было ў ёй штосьці, што магло сапсаваць сённяшняе свята, і ён інстынктыўна не заўважаў гэтых інтанацый, прапускаючы іх, замоўчваючы.

Некаторы час яны ішлі моўчкі. Маўчанне не прыгнятала. Яно было натуральнае ў доўгай размове — як прывалы ў гарах, калі, адпачыўшы, робіш яшчэ кідок — далей і ўверх. Маўчанне было, як нерашучасць на ростанях, калі адна дарога вядзе ўглыб краіны, да яе сталіцы, а другая — агінае межы дзяржавы і сама ёсць мяжа. Па гэтай дарозе, збянтэжаныя развілкамі, што вялі да сэрца, павольна ішлі яны, знаёмячы адно аднаго з абшарамі і багаццем уладанняў. Гэта было падобна да экскурсіі па краіне, калі бачыш яе з акна цягніка ці самалёта.

— А вас размеркаванне не палохае? — лёгка парушыў ён доўгае маўчанне.

— Ведаеце, — пачала яна зноў з той самай інтанацыі, што так трывожыла яго, — раней я ўсіх шакіравала, калі казала, што хачу працаваць у раённай газеце. Зараз, пабыўшы на практыцы, я ўжо не рвуся туды. Хоць, канечне, працаваць паўсюль можна.

— А застацца ў сталіцы ў вас ніякіх шанцаў?

— Я не шукаю іх.

— Лічыце, яны самі вас знойдуць?

— Нічога я не лічу, — холадна зірнула на яго.

— Мужа са сталічай прапіскай таксама не шукаеце? — працягваў ён дражніць дзяўчыну.

— У паловы маіх замужніх аднакурсніц гэта было вырашальным. А я лічу, гэта амаральна, — сказала яна цвёрда.

— Ах, якія мы! — крыху жорстка ўсміхнуўся Віктар. Ягоная жорсткасць быццам ураўнаважвала яе недаравальна-давяральную мяккасць і ўсё пакідала на сваіх месцах.

— Так, такія, — спакойна прагаварыла Галіна. — Ну, вось і прыйшла. Гэта мой дом, — збочыла яна на дарожку да пад’езда. — Дзякуй за прагулку, — яна павярнулася да яго тварам. — Вы мяне так загаварылі, што я забыла патэлефанаваць. А цяпер позна ўжо. Да пабачэння.

— Гэта ўсё? — па-дзелавому ўдакладніў Віктар.

— Так, канечне, — спакойна адказала яна. Зняла рукавічку і працягнула яму вузкую далонь. Ён злёгку пацiснуў яе і, не адрываючы вачэй ад твару, падумаў, што жанчына можа дапусціць нашы заляцанні да пэўнай мяжы і разам з тым паказаць, што мы зусім непрыемныя ёй. Гэтая думка Мантэня яго суцешыла. Крыху збянтэжаны сваёй апошняй рэплікай, дакладней, тонам адказу на яе, простым і ясным, які толькі падкрэсліў усю яе недарэчнасць, Віктар прамармытаў абрывак нейкай стандартна-ветлівай фразы і, узбуджаны, нечакана-лёгкі, павярнуў назад, нават не дачакаўшыся, — гэта яе крыху пакрыўдзіла — пакуль яна дойдзе да пад’езда. Якраз стаяла таксі. Развітанне з апошнім рублём яго не спалохала. Машына яшчэ ўзмацніла гэтае адчуванне лёгкасці, што суправаджала яго ўвесь вечар. Неяк вельмі проста завязалася размова з пажылым кіроўцам. Віктар падумаў, што зараз ён мог бы ўсталяваць кантакт з кім заўгодна, нават з жыхарамі іншай галактыкі.

## ПАД КАНВОЕМ РЭЧАІСНАСЦІ

«...“асцярожнасць жэста людскога” на атычных стэлах намякае, што ва ўсім ёсць нейкая канечнасць, нейкія межы існавання і праяўлення. Можа, не ведаючы межаў любові і таму пераступаючы іх, мы спрабуем пераадолець часовасць зусім не любоўю? Сучаснае мастацтва не можа, у адрозненне ад грэчаскага, вызначыць межы любові, не можа ўказаць “долю людскую на вузкай палосцы зямлі ўрадлівай паміж ракою і каменем”, не можа, бо само пазбаўлена гэтай урадлівасці і кідаецца ад каменю пошласці да ракі іроніі, якая, цалкам падпарадкоўваючы сабе мастака, разбурае і ягоную асобу, і ягонае мастацтва...»

Віктар не адразу зразумеў у чым справа, калі цоканне чыіхсьці абцасікаў прымусіла яго падняць вочы. Галіна была з сяброўкай і двума хлопцамі.

Штосьці сціснулася ў ім, як заўсёды сціскаецца ў нас, калі заўважаем, што мара, якая пайшла ад нас вольнай і бестурботнай, вяртаецца пад канвоем рэчаіснасці.

Галіна паказвала ў часопісе нейкія вершы і, акругляючы вусны — быццам спявала, — штосьці захоплена казала, плаўна жэстыкулюючы вольнай рукой і рэзка адкідаючы надакучлівую пасмачку валасоў.

Ён не паспеў падумаць, што б гэта магло значыць — спалучэнне плаўнасці і рэзкасці, як Галіна згарнула часопіс і накіравалася да выхаду. Ён таксама падхапіўся, паспешліва збіраючы сшыткі і кнігі. Дзяўчына, што сядзела насупраць, здзіўлена зірнула на яго. Гледзячы на Галіну, чакаючы, што яна павітаецца, ён мінае іх. Стракатая блузка ёй вельмі пасуе. Спынілася, яшчэ нешта даводзіць хлопцу і не глядзіць па баках. А значыць, і не бачыць нікога, з кім можна павітацца. Але штосьці ледзь заўважнае ёсць у рухах — нейкая скаванасць, падкрэсленасць, падзел на складнікі. Рух, не змацаваны адным пачуццём — захопленасцю размовай, — быццам распадаецца на жорсткія механічныя адрэзкі. Віктар падумаў, што яна ўсё ж заўважыла яго, але чамусьці не зірнула і, нібы наўмысна, зацягвае размову з хлопцам. Калі здавалі кнігі, азірнуўся, злавіў яе позірк. Яна сухавата кіўнула. Сяброўка прасачыла за кіўком і нешта спытала. Галіна не адказала.

Ён зноў апярэдзіў іх, апрануўся і глядзіць, як яны апранаюцца. Хлопцы не дапамагаюць дзяўчатам. Гэта яго крыху супакойвае. Віктар, не адрываючыся, пільна сочыць за Галінай, толькі за ёй, не зважаючы на яе спадарожнікаў. Але вось адзін з іх, каратка зірнуўшы на Віктара, штосьці прамовіў. Галіна змоўчала. Віктар перамог сваё раздражненне. Так, яму цікава бачыць яе з іншымі, ацэньваць шчырасць інтанацый і жэстаў, запамінаць абыякавыя і фальшывыя, каб ведаць іх у твар і не прапускаць у адносінах да сябе.

Галіна павольна апранае футра, але раптам прыпыняецца, пачынае нешта казаць, нібыта нават страсна, з запалам. Адчуваецца, што ёй не стае рук, якія за спінай, у рукавах. У яе рухах тая самая скаванасць, той самы падзел на складнікі. Няма натхнення, якое ўсім гэтым правільным рухам дало б нязмушанасць натуральнасці і арганічнасці.

Віктар падумаў, што яна падобна да ружы, пялёсткі якой, замест таго, каб проста размяшчацца на падвяночку, абарваны і нанізаны на нітку. Яму здаецца, што яна ўсё ж крыху напружваецца, стараецца не заўважаць яго, і гэтыя старанні нешта абяцаюць, абнадзейваюць.

Мінаючы Віктара, іх кампанія моўчкі выходзіць на вуліцу. Край яе футра дакранаецца да ягонага паліто — карычневае сутыкаецца з шэрым. Гэта хвалюе Віктара. Яе профіль мільгае так блізка, што, ледзь нахіліўшыся, ён мог бы пацалаваць ямачку на шчацэ. Галіна праходзіць, нахіліўшы галаву, несучы з сабой той учарашні водар і дзірачку ў вуху.

Ён выходзіць следам. Павольна спускаецца па прыступках, бясстрасна глядзіць, як яна кудысьці ідзе з чужымі людзьмі. Іхнія доўгія цені — ад ліхтароў — пагойдваюцца перад ім на асфальце, быццам муляюцца ў нерашучасці, шматслоўна выбачаючыся, а пасля дзелавіта ўкарочваюцца і даганяюць гаспадароў.

Чуваць, як яны зноў пра нешта спрачаюцца. Дакладней, гэта Галіна іх у нечым пераконвае. Вось дурныя — хіба ж з дзяўчатамі можна спрачацца. Ім трэба казаць толькі тое, што ім падабаецца. Але, магчыма, самы дзейсны варыянт — гэта калі прыемнае для іх даводзіцца адстойваць у спрэчцы з імі ж. Да таго ж — пераадольваючы не абы які супраціў. Па сутнасці, кожная жанчына жадае быць згвалчанай. Па форме. А верх насілля з боку мужчыны — гэта калі жанчына сама прыпаўзае. Віктар падумаў, што яны ідуць у нейкую пераднавагоднюю кампанію. Яе спадарожнікі ўжо яго не турбуюць. Такія не павінны ёй падабацца: грубаватыя. Віктар спыніўся, пастаяў, гледзячы, як яны знікаюць у мроіве, робячыся невыразнымі і калматымі. Галіна зрабіла левай рукой нейкі кашэчы, з замахам, рух. Хлопец побач з ёю адхіснуўся. Яны, здаецца, расстаюцца. Віктар заспяшаўся. Так, разыходзяцца, развітваюцца. Віктар робіць яшчэ колькі хуткіх крокаў і падыходзіць да іх.

— Змена варты! — бадзёра пачынае ён.

— Вы мяне чакаеце? — яна робіць рух да яго, так інтымна, што ён адразу супакойваецца і забывае на ўсе свае маленькія крыўды.

— Не, у прынцыпе, але... — кажа ён дужа няшчыра.

— Вы прабачце, — вінавата гучыць яе голас, — але мы зараз спяшаемся, сёння ад'язджаем.

— Галіна! — Віктар кідаецца да яе так імкліва, што мінакі азіраюцца. — Прабачце! У вас ёсць тэлефон?

— Так, ёсць. Але я няхутка прыеду. Мы яшчэ дзе-небудзь сустрэнемся, — абнадзеіла яна.

— Так, канечне, — пацвердзіў ён бясстрасна.

— Стаў, бы той слуп пасярод дарогі!

— Прабачце... — рэзка павярнуўшы, Віктар кудысьці заспяшаўся, быццам спадзеючыся, што сама паспешлівасць падкажа куды.

## ГРУКАЙ У ПЕРШЫЯ ДЗВЕРЫ

Гэта былі менавіта тыя дзверы, якія Віктар прапусціў, не верачы, што шчасце такое блізкае і магчымае — першыя дзверы адразу, як уваходзіш у пад'езд, направа.

Але папярэдне Віктар абзваніў усе кватэры, вокны якіх выходзілі ў двор. І, зразумела, беспаспяхова. Хоць і не зусім бескарысна — крыху ўтаймаваў хваляванне, разбіў ледзяшы ўнутранай скаванасці і няўпэўненасці.

— Ах, гэта вы! — рэпліка прагучала неяк дыстылявана, без эмоцый, а можа, проста спакойна. — Праходзьце, я зараз.

Галіна прайшла на кухню, а ён зазірнуў у пакой і павітаўся з сяброўкай. Тая адарвалася ад стала, заваленага кнігамі і сшыткамі.

— Вітаю. Здымайце паліто, праходзьце, — абыякава прамовіла яна неабходныя словы.

— Не-не, я на хвілінку.

Праз зашклёныя дзверы відаць, як Галіна ў джынсах і зялёнай кофтачцы вельмі лоўка рухаецца па кухні, засяроджаная і нечакана прывабная ў атачэнні звыклых і празаічных рэчаў.

— Ну, вось і ўсё, — яны выцерла рукі ручніком і зрабіла крок да яго.
— Што вы тут стаіце? Не спадабаліся гэтай дзяўчыне?
— Я запрашала.
— Бачыце, у яе — алібі. Як заўсёды. Праходзьце.
Галіна правяла яго ў суседні пакой, села на канапу, паказала рукой, што яму можна побач. Ён выбраў крэсла насупраць: адчуваў, што галоўнае — сачыць за яе тварам і пайсці, калі яшчэ не зусім надакучыць. Было відаць, што яна вельмі стамілася. Абыякавасць адбівалася на твары, пазбаўляла голас колеру, а цела — пругкасці.
— Я нават рады, што вы вось такая, прыгнечаная, без выгляду пераможцы.
— Так, я шмат каму падаюся такой. А вы пасвяжэлі...
— Ваш камплімент толькі падкрэслівае маю нетактоўнасць. Але камплімент — гэта амаль заўсёды коўзанне па паверхні. За кампліментам, па сутнасці, абыякавасць, і «пасвяжэлі» — вельмі сумнеўны камплімент. Мяркуецца, што да таго я быў пратухлым...
— Пачынаеце вы арыгінальна, — усміхнулася Галіна. — Ну не трэба ж усё прымаць літаральна. Як, дарэчы, ваша лапа?
— Якая лапа?
— Тады вы былі падобны да мядзведзя, якому прыціснулі лапу...
— Камплімент за камплімент, вельмі прыемна. Дзякуй, гэтай лапай я ўжо збіраюся мёд даставаць.
— А вы аптыміст.
— А што застаецца?
— Гэта Света заўважыла, што вы падобны да мядзведзя.
— Галіна, пра тое ж і гаворка, што чым больш далікатны чалавек, тым больш грунтоўнай і груваcткай абалонкі ён патрабуе. Вы што — хварэлі?
— Так. Ездзіла ў тэрміновую камандзіроўку, прастыла. Тыдні два ляжала.
— А я тым часам радаваўся зіме, лесу, рацэ, цягаў акунёў і зусім не баяўся, што вы можаце захварэць і памерці. Вось бачыце, які я эгаіст. Баяўся я толькі аднаго — каб вы за гэты час не выйшлі замуж.
Галіна ўсміхнулася, і ўсмешка не знікла зусім, не скацілася, як кропля па шкле, а растала на твары, схавалася ў ражках вуснаў, у ямінках на шчоках.
— А аднойчы я прачнуўся з нявроўным сэрцабіццём. Начны жах. Ніколі так не палохаўся. Уяўляеце, падношу вашу руку да шчакі... Вы ўяўляеце як? — запытальна ўсміхнуўся Віктар. — Паказаць?
— Сваю далонь ля мужчынскай шчакі я вельмі добра ўяўляю.
— Вось і не далонь, а адваротны бок. Так руку падаюць для пацалунка.
— У вас багаты досвед.
— Галіна, ну я ж павінен быў падрыхтавацца да сустрэчы з вамі, хіба не?
— Мы адхіляемся ад тэмы. Я слухаю ваш сон.
— Прыціскаю я вашу руку да шчакі... — Віктар замаўчаў, быццам не меў моцы вымавіць.
— Не інтрыгуйце.
— І раптам шчаку апякае холадам. Адхіляюся — і з жахам бачу вось на гэтым, — ён працягнуў руку і дакрануўся, — вашым пальчыку, — ён на імгненне замаўчаў і завершыў змрочным голасам: — залаты пярсцёнак...
Яна засмяялася. Ажывіўся твар, зайгралі вочы, струменячы радасць і дабрыню.
— Пустыя страхі. Я абяцаю вам, што на гэтым пальцы я не буду насіць пярсцёнкаў.
— Так, але гэта мяне таксама палохае.
У дзверы пагрукалі.

— Я зараз.

Галіна выйшла. Віктар прайшоўся па пакоі. Просценькая мэбля. Крыху бруднавата. Зламанае крэсла — у доме няма мужчыны. Напэўна, яны з сяброўкай здымаюць кватэру — неяк няўтульна, бяздомна. Прахадны двор.

Віктар адзначыў гэта аўтаматычна і ніяк не звязаў з Галінай. Проста гэта былі не тыя падрабязнасці, якія ўзмацнялі яго захапленне і радасць. І ўсё ж яны былі ўспрыняты, і на перыферыі яго ўвагі чакалі падмацавання іншымі дэталямі, каб, калі спатрэбіцца, падаць яму і нагоду, і склад злачынства.

Гэта звязана неяк са здольнасцю нашага розуму адначасова з захапленнем і пакланеннем карпатліва збіраць доказы супраць нашых куміраў. Наш розум не церпіць ніякіх абмежаванняў, адчуваючы ў іх нейкую пагрозу — нашаму інстынкту самазахавання, нашай бясконцай здольнасці да прыстасавання, нашаму эгаізму, які не дазваляе падпарадкавання нават у форме шанавання і захаплення. І каб змяніць нашу волю, каб прымусіць нас адмовіцца ад гэтага добраахвотнага рабства, да таго ж прыемнага, наш розум рэгіструе ўсё, што можа прыдацца ў барацьбе за гэтую свабоду і незалежнасць...

— Прабачце, — зазірнула Галіна. — Гэта вада з чайніка выкіпела і ён пачаў... — яна падбірала слова.

— Разлітоўвацца?

— Так.

— Вось бачыце, я толькі з'явіўся, і адразу чайнікі пачалі разлітоўвацца. А што далей будзе? Прабачце, я пабег. Галіна, калі ў вас будзе час, калі захочаце пабалбатаць, тэлефануйце. Навука сцвярджае, што вітамін «пабалбатаць» адзін з найважнейшых, і яго нічым не заменіш.

Віктар занатаваў свой тэлефон на паперчыне, якую Галіна яму падала, паабяцаўшы, што пасля перапіша. Побач з нумарам напісаў імя і падкрэсліў.

— Я памятаю, — сказала яна.

У яе голасе ён адзначыў цеплыню і спагаду.

— Прабачце, ну хто ж думаў, што адразу пачнуць чайнікі разлітоўвацца...

Віктар памкнуўся да выхаду. Галіна затрымала яго.

— Вось, пазнаёмцеся, — Святлана.

Ён азірнуўся, кіўнуў — гэта было адначасова і развітальным жэстам, — але забыў назвацца. Падумаў, што трэба было пачынаць са Святланы. Тым, хто атакуе ў лоб, часта застаюцца толькі разваліны. Але манеўр — «і без адзінага выбуху нашы войскі ўзялі ўмацаванні ворага». Ён падумаў, што для гэтага яму трэба навучыцца стрымліваць імпэт.

Калі выйшаў на двор, сонечнае святло, узмоцненае снегам, шыбанула па вачах. Ён на імгненне заплюшчыў вочы. Пастаяў крыху, трымаючы шапку ў руцэ. Пасля сунуў яе ў кішэню і павольна пайшоў да прыпынка. Але штурхацца ў бітма набітым аўтобусе не хацелся — спяшалася на працу другая змена. Урэшце, ён можа дазволіць сабе невялікую прагулку. Калі, нарэшце, ён прыйшоў дадому, маці сказала, што тэлефанавала нейкая Галя.

«Нейкая» — гэтае азначэнне яго непрыемна зачапіла, але радасць ад таго, што Галіна патэлефанавала так хутка, што яшчэ сёння ён пачуе яе голас, даравала і непрыемнае слова, і пагардлівую інтанацыю.

Адчуваючы ў сабе нечаканы прыліў сіл, ён імкліва хадзіў па пакоі. Сядаючы на хвіліну за стол, спрабаваў узяцца за даклад для спецсемінара, але зноў падскокваў, ахалоджваючы крокамі гэтае кіпенне, гэтае свята, якое хацела быць толькі святам і супраціўлялася спробам утаймаваць яго і неяк выкарыстаць.

## НАДАКУЧЫЛА!

Галіна стаіць ля акна ў цёмным пакоі і няўважліва глядзіць на дом, які падняўся ўжо на пяць паверхаў, але быў яшчэ без даху.

— Ты малако будзеш? — пытаецца Света з кухні.

— Не хочацца.

Света з бутэлькай малака з’яўляецца з кухні і спыняецца акурат паміж асветленай часткай пакоя і зацемненай.

— Што, стамілася? — пытаецца яна і робіць глыток.

— Не ведаю...

— Нібы прыгаломшаная.

— Можа быць...

Галіна паварочваецца спінай да дома ў акне. Павольна праходзіць да канапы, таксама падзеленай на дзве няроўныя часткі святлом з кухні.

— Ну што ты ўсё ходзіш ды ходзіш? Мы прыйшлі, ужо дома. Гадзіна ночы. Не нагулялася? Давай, сцялі ўжо!

— Ужо, мой генерал!

Галіна прысела на край тахты. Рукі бязвольна ляжаць на каленях, а ў акне ўсё той самы дом без даху і дрэўца, якое таксама чакае вясны.

— Я б віна выпіла... Памятаеш, мы некалі пілі польскае віно...

— Яна памятала, за што, але не памятала, з кім.

— «Замковэ», здаецца... Ледзь-ледзь пахла сушанымі грыбамі.

— У нас толькі марынаваныя.

— Пакінь мне глыток.

— Вось і я кажу. Ці мала каму чаго хочацца. Віна! А што б Віктар сказаў?

— Ну, ты б ужо не выдала...

— Невядома. І нашто ты яго запрашала на «размоўкі»?

— Па-мойму, і ты яго запрашала...

— Ну хто ж думаў, што гэты мядзведзь усю нашу праграму скамечыць.

— А чаго ты заводзілася?

— Яшчэ гэтага Льва прыцягнуў. Ніхто нічога і не зразумеў з ягоных тэорый. Надта ўсё па-габрэйску — складана і адцягнена.

— Так ужо і ніхто... А табе ўсё трэба на пальцах паказаць... Прасціны дзе?

— Дзе звычайна. Далей руку працягні. Цудоўнае малако. Калі б я была ягонай жонкай, я б яму здраджвала праз дзень.

— Каму? Малаку?

— Кінь мудрагеліць. Віктару твайму. Хутка б з яго сагнала гэтую самаўпэўненасць.

— Чаму толькі праз дзень?

— Таму. Супраць «твайго» нічога не маеш?

— Тваё, маё... ты надта злоўжываеш прыналежнымі займеннікамі.

— Затое ты не злоўжываеш — маё заўсёды тваё. Як ён паблажліва раіў чытаць Выгодскага. Нават цябе зачапіла.

— Чаму нават?

— Бо ты цэлы вечар яму ў рот глядзела.

— Не выдумляй.

Прасціны бялелі прахалодай на каленях, і Галіна з задавальненнем вадзіла рукой па іх гладкай белі.

— Я яго цалкам разумею. Мне таксама надакучылі гэтыя бясконцыя спрэчкі ні пра што...

— І даўно?

— Даўно.

— Штось не было заўважна.

— Не мітусіся перад вачыма. Сядзь. Глядзі, які ў цябе цень цікавы — з дзвюх палавінак. І тулава перпендыкулярнае нагам.

— Натуральна: сцяна перпендыкулярная падлозе. І ў цябе такі ж будзе на маім месцы... Што ты хочаш сказаць?

— Ды хоць тое, што я ніколі не буду на тваім месцы... Надакучыла ўсё і даўно. Ніхто нікога не слухае, толькі б выкрычацца, перакрычаць. А пасля высвятляецца, што ніхто нічога не чытаў... А ён якраз... І Леў таксама... Хаця крыху з мухамі, але... А дзе мая кашуля?

— Там, дзе заўсёды. Табе, можа, і нармальна, а многіх зачапіла... Калі я што-небудзь і люблю, дык гэта, канечне, малако. Магу здрадзіць яму толькі з таматным сокам...

— Ну што ты там корпаешся, ты яе ўжо на падлогу ўпусціла... Так, між іншым, кідае: «Платон, Лукрэцый, Гельвецый, Мантэнь, яшчэ Кант, а Маркс з гэтай нагоды... А К’еркегор... А Ніцшэ...» Нібы ён толькі ўчора з імі піва піў.

— Праўдзіва. Можаш ісці ў тэатр.

— Куды мне, гэта ты ў нас актрыса.

Галіна ўстае, паварочваецца да люстэрка ля канапы. Углядаецца ў свой няясны абрыс побач з выразным адлюстраваннем сяброўкі, якая ў позе піянера-гарніста стаіць з бутэлькай у асветленай палове.

Усё яшчэ разглядаючы сябе, Галіна пачынае павольна распранацца. Сцягвае чорны швэдрык і кідае яго на крэсла. Туды ж ляціць і спадніца.

— Ну куды ты ўсё кідаеш?! Ты што, у гасцях? Не ведаеш, дзе месца?

Галіна быццам не чуе. Не адрываючыся ад люстэрка, працягвае распранацца. Усё астатняе ляціць таксама на крэсла. Яна кранае далонямі вострыя ключыцы. Рукі гладзяць падцягнуты жывот, крутыя клубы.

— Яшчэ нічога...

— Сапраўды нічога — рэбры ды скура. Пакінула вось толькі на глыток. Што гэта за стрыптыз? Пераўзбудзілася? Ты збіраешся сёння спаць? Ці паедзеш куды?

— Не размахвай бутэлькай — малако не адмываецца... Як мне надакучыла гэтая кашуля. Бачыла сёння шыкоўны пеньюар... Французскі... Вось тут такі выраз, — Галіна павярнулася тварам да Светы, — а тут — так, крыху фальбоністы... Нейкае малако... Скісла, мабыць...

— Ты б яшчэ болей сядзела, — адгукаецца Света з ваннага пакою. — Сама ты скісла.

— У нас цыгарэт не засталося?

— То віна ёй, то цыгарэт... — Света перад люстэркам ужо, старанна наносіць крэм на твар. — Пашукай, можа, за канапу які бычок і заваліўся... Адчуваецца, што філолаг. Так мудрагеліста выказваецца... Мудрагеліста... І бабнік, напэўна.

— Завялася на цэлы вечар... дапівай, я не буду... Як ты п’еш гэтую брыдоту.

— Фігуру беражэш... У лядоўню пастаў...

— Берагу. А торт твой яму спадабаўся.

— Ведаю я, што яму спадабалася. Даберажэшся, — Света ўзялася слаць пасцелю сама.

— Гэта што за намёкі! — Галіна выйшла з кухні.

— Якія тут намёкі! — Света абурана выпрасталася, не выпускаючы прасціны з рук. — Калі вы былі на кухні, нехта сказаў ягоным голасам: «А найбольш мне спадабалася мыць кубкі». Так дакладна перадаў інтанацыю, што ўсе грымнулі.

— А я падумала, што вы там так рагочаце...

Галіна зноў падышла да люстэрка, але раптам рэзка павярнулася.

— Гэта твае жарцікі?

— Дапусцім. Ну і што? Ты што, сляпая, Галка? Усе ж заўважылі, што ён да цябе прыстаў!

— Што значыць — «прыстаў»?! — ціха, але ўжо з металам у голасе ўдакладніла Галіна.

— А ты і не ведаеш?

— Ты хочаш сказаць, што я яму падабаюся?

— Ты цудоўна ведаеш, што хачу сказаць.

— Ну дык што?!

— Што ты яму галаву дурыш!

— З гэтага і пачынала б. Як толькі з'яўляецца цікавы чалавек, ты адразу пачынаеш мяне ахоўваць! Лезеш, куды не просяць! І нейкая дурная рэўнасць! Не з табой пайшла ў кіно! Не з табой прабавіла вечар!

— Галка, ну што ты... — спрабуе супакоіць яе Света.

— ... І што ты мной апякуешся?! Навошта ўвесь час выварочваеш?!

— Галя... — Света пашкадавала ўжо, што завяла гэтую размову.

— Хто табе дазволіў чытаць мае дзённікі?! — адчаканіла Галіна і ўдарыла рабром далоні па спінцы крэсла. — Хто?!

— Але ж мы сяброўкі... Я мушу ўсё...

— І так ведаеш больш, чым трэба! Мне надакучыла! — Галіна трэсла сціснутымі кулакамі. — Надакучыла! З тым гуляй, з гэтым не гуляй!

— Ты цудоўна ведаеш, што справа не ўва мне. І твая істэрыка — гэта не да мяне.

— Не ў табе! Але ўсё адно... — голас пацішэў, Галіна зноў павярнулася да люстэрка. — Добра, што апошні год... Сапраўднае рабства. Як замужам! Як усё надакучыла... Хутчэй бы скончыць, атрымаць дыплом, паехаць, пажыць адной без анікога!

— Калі ў цябе атрымаецца, — зноў пасмялела Света.

— Слухай, хопіць ужо, а то зараз пасварымся па-сапраўднаму. Вось толькі руку збіла... — Галіна пагладжвала рабро далоні.

— Ну, усё, я ў ложку, гасі святло. Добра, што заўтра нікуды не трэба зранку. Ну што ты там стаіш у цемры ля акна, босая. Кладзіся, прастынеш.

— Кладуся, кладуся...

— Вой, сапраўдны лядзяш! Добра, што ёсць каму цябе адагрэць. Ой, Галка, зусім забыла! Я сёння такое сніла! Неверагодна! Я нават не адразу сцяміла, што адна.

— Гэта ад малака, пераходзь на гарбату.

— Эгаістка ты, Галка, толькі пра сябе і думаеш.

— Толькі мне тваіх сноў і не хапала...

— Галачка...

— Ну, хопіць, хопіць... Надакучыла ты мне сваімі лізаннямі, завяла б ужо мужыка...

— У мяне ёсць ты... Ну, яшчэ адзін пацалуначак... Ты на мяне ўжо не злуешся?

— Адчапіся...

— Галачка, радасць мая, ну чаму я не мужчына?

— Сапраўды, цалавалася б тады з мужыкамі.

— Брыдкая, нехарошая Галачка... ну, яшчэ крышку...

— Ну, хопіць, усё, хопіць! Чуеш? А Божухна, што ты са мной робіш...

## КУРС ЧАКАННЯ

Тэлефанаваў ёй адсюль у восем. Цяпер дзесяць. Можа, яна прыехала на таксі? Хаця, за якія грошы? А раптам...

Тры. Шэсць. Ізноў тры. Пяць — на адзінку меней. Зноў тры. Зноў на адзінку меней — чатыры. Ну і нумар. Сімвал чакання і паступовага змяншэння шанцаў дачакацца.

— Гэта ўсё я... Не з'яўлялася? Прабачце...

Надакучыў ужо Свеце.

Тралейбус бітма набіты, і не заўважыш.

Блакітная шапачка! Што я хвалююся як хлопчык? Спакойна, трымай сябе ў руках.

Не, памыліўся. І сэрца падказала тое, што ўбачылі вочы і ў чым пасляшалася пераканаць яго жаданне... Шапачка была блакітная, але да яе не ставала заечага футра.

Гэтыя дзяўчаты ўжо трэці раз праходзяць паўз яго. «А ён мне, а я яму...» Тая, вышэйшая, нічога. Так, закон забараняе чапаць у тым узросце, калі яны асабліва спакуслівыя. Ужо гадоў па чатырнаццаць, напэўна. Ну, калі закон забараняе, пачытаю аб'явы.

«Патрэбны пакой для маладой сям'і. Прапаноўваць па тэлефоне ... з 9 да 17». Тэлефон, мабыць, у яе на працы. Яна будзе бегаць на кожны званок, а начальнік пачне яе ўшчуваць: «Яшчэ не ўсё! Да таго, як выйсці замуж, вы днямі сядзелі на тэлефоне, а цяпер, як выйшлі — тое ж самае! І хто, я пытаюся, збіраецеся працаваць?!» Увечары яна скардзіцца маладому мужу, што ў іх жахліва злосны начальнік. Якая кранальная наіўнасць — «патрабуецца і прапаноўваць»? Яшчэ пабегаюць, пахвалююцца. Можа, нават пасварацца. Упершыню. А слодыч прымірэння! «Ты мяне кахаеш? Больш ніколі?» Пацалункі і слёзы. Яму падабаецца любы пакой, у якім будзе яна. Ёй гэтага мала. Ён не разумее яе пераборлівасці, але пакорліва церпіць. А яе крыўдзіць яго абыякавасць да таго, дзе яны будуць жыць. І справа не ў грошах. Хаця, навошта пераплочваць. Таксама ж не з неба падаюць... У гэтай абыякавасці, у гатоўнасці прыняць тое, што ёсць, ёй мроіцца абыякавасць да яе як чалавека са сваімі густамі, поглядамі. Вось чаму яна такая маўклівая і халодная сёння. У яго толькі адно ў галаве — хутчэй застацца ўдваіх, усё адно дзе. Яна баіцца, што памылілася. Ён бачыць у ёй толькі жанчыну. Яму падыдзе любая, больш-менш прыгожанькая. Для сям'і гэтага мала. Будуць жа дзеці...

— Запалкі? Няма...

Тралейбус. Карціна ў раме акна: п'яны стары схіліўся да дзяўчыны. Відаць, як расплываецца ад задавальнення ягоны твар. У юнацтве ўсе кажуць кампліменты, у старасці — фрывольнасці. Але ўсё адно прыемна. Зрэшты, у дзяўчыны сваё меркаванне.

А раптам яна з хлопцам? Будзем спадзявацца, што не. Калі з хлопцам, дык хай у наступным. Яшчэ пачакаю, канечне, лепей пачакаць, чым з хлопцам. Яшчэ паспадзяюся. Дзяўчына ўсё ж выйшла. «Стары хрэн!» Дакладна. Стары штосьці развязна гаворыць і кліча яе. Усе ўсміхаюцца.

Чакаем наступнага. Так, ты расчараваны, але адчуваеш палёгку: рашэнне, яго магчымая жорсткасць, яго непрыемнасць — адкладзены.

Дзяўчына і стары... А калі гэта тая самая жанчына, якую ён чакаў усё жыццё і нарэшце дачакаўся? Яна яшчэ сырая, толькі што створаная, яна яшчэ нічога не ведае пра жыццё. Немагчыма проста падзяліцца ведамі — толькі праз словы. Словы

не трымаюць. Яны — нібы рэшата, якім носяць ваду. Так, яно мокрае, але наталіць смагу не здольна.

Нашы веды нараджаюцца з намі, растуць так, як і мы, і гэтаксама паміраюць. І іхнюю горыч, як наша цела, прымае зямля, хавае ад маладых, размывае дажджамі, забываючы ва ўсмешках кветак, у зялёнай радасці травы...

Стары ёй надта не спадабаўся. Стаіць з выглядам абражанай цноты. Чакае наступнага тралейбуса. Яшчэ неразумная, маладая, перапоўненая сабою...

Галінка, дзе ты? Дзе бадзяешся, з кім?

Дзіўна, адчуваю да яе нейкую дадатковую пяшчоту. Ці не за гэтую асалоду ад лёгкай пакуты? І настрой паляпшаецца. Чаканне — як іглатэрапія. Неўзабаве пачну пастрэльваць за дзяўчатамі. Усё хі-хі-хі ды ха-ха-ха. Вось балбатушкі. Гэтая высокая пэўна будзе прыгажуняй. Яшчэ раз патэлефаную.

Не прыйшла...

Няма-няма-няма. Ма-ня-ма-ня-ма... Мня. Нмя. Дмя. І тое забаўка. Свеце ўжо цяжка заставацца ветлівай.

Дзіўна, чамусьці я яе пабойваюся. Чаго б гэта... Разумненькая, прыемная дзяўчынка, але нейкая — з квадрацікаў.

«Влюбляйся и грусти, влюбляйся вновь...» Сентыментальны тэнар. Адчуванне чагосьці пакаёвага і балоначнага. Яшчэ ўзмацняецца тым, што на вуліцы. Ссунулі лаўкі і сядзяць на спінках. З паднятымі каўнярамі, як натапыраныя вераб'і. Пайсці няма куды. Узімку ў пад'ездзе, цяплей — на вуліцы. «Влюбляйся и грусти, влюбляйся вновь, влюбляйся, чтобы без конца и края! На то она и первая любовь, чтоб вслед за нею шла... любовь вторая!» Разбіраюцца. Усё самае важнае чалавек засвойвае без навукі і адукацыі, яшчэ ў дзяцінстве.

Гэта Верачцы сёння сказалі: «Вам падабаецца само слова “каханне”». Як міла яна мяне адстойвала. А пасля гляджу — чакае ў вестыбюлі. Так па-дзелавому, як жонка. «Прабач, Віктар, я хацела цябе спытаць...»

Я адказаў на ўсе яе пытанні, акрамя самага галоўнага.

І так захацелася ўбачыць...

Дзіўна, здаецца, Вера вельмі нават нічога, калісьці падабалася, было ў ёй пэўнае хараство наіўнасці...

І што я рвануўся да яе? Ну, не тэлефануе, і Бог з ёю. Што яна мне? Проста добры настрой пасля даклада. Яшчэ чагосьці хочацца. Верыцца, што адна ўдача адчыняе дзверы другой. Канечне, калі іх не замнога і яны не ўчыняюць цісканіну ў дзвярах.

І трэба ж было спазніцца. Прылёг пасля трэніроўкі, літаральна на паўгадзіны, а будзільнік не празвінеў. А можа, і не чуў. Усе ўжо збіраліся разыходзіцца. Як урэзаў ім з разгону. Фёдару Іванавічу спадабалася, хаця сказаў, што гэта, канечне, толькі адна з магчымых інтэрпрэтацый.

Добры пачатак супакойвае, а дрэнны дадае імпэту, таму канцы такія непадобныя да пачаткаў.

Ну, дзе яна зараз? Толькі б пабачыць яе сёння, проста пабачыць, хай з кімсьці, няважна, я ўжо не магу ўявіць яе твар. А было ж нешта ў яе твары, нешта важнае.

Галіна — з грэчаскага — цішыня. А на лаціне — курыца... І знясе яна яечка няпростае. Без чвэрці адзінаццаць.

Пасля трох гадзін чакання здольны чакаць вечнасць. Цяжар знік. Засталася толькі лёгкасць, з якой нясе нас час. Быццам за гэтыя гадзіны ён вымыў з нас усё тлумнае і цяжкае, на што выракае жаданне жанчыны, жаданне жыцця...

Я, быццам чарвяк, пакутаваў, пакуль бачыў у яблыку толькі перашкоду на шляху. Цяпер знайшоў у яблыку і стол, і дом. І забыўся на мэту. Як мы прызвычайваемся да перашкод, як утульна абжываем іх...

Само чаканне нам нічога не абяцае. Чаканне — бяссілле, але мы запрагаемся ў яго, спадзеючыся, і не без падставы, што гэтае бяссілле незаўважна ператворыцца ў моц. Тым большую, чым больш мы згубілі часу. Хай наша чаканне нічога не значыць для тых, каго мы чакаем. Наша чаканне нешта значыць для нас. Яно для нас цалкам рэальнае. Мы ўнутрана абапіраемся на яго, каб нечага патрабаваць. Яно развязвае нам рукі для дзеяння, дае нагоду.

Па сутнасці, мы чакаем ад жыцця толькі нагоды, — той ці іншай, — каб выказаць свае патрабаванні. Чаканне — гэта плата авансам, плата часам, самая дарагая плата за тое, што мы хочам мець, пераконваючы сябе, што мы не можам без гэтага жыць. Голы разлік. Уносячы плату, пачынаем патрабаваць тавар, хоць нам ніхто нічога не абяцаў. Тыя, хто ўмее чакаць, дасягаюць усяго.

Праўда, тое, чаго яны дачакаліся, аказваецца часам зусім не падобным да таго, чаго яны чакалі. Уключаючыся ў бессэнсоўнае, пасіўнае чаканне, абмяжоўваючы сябе пэўнай мэтай, абмяжоўваючы саму гэтую мэту пэўнасцю, — так саджаюць дрэўца ў бляшанку, — мы па-блюзнерску выключаем сябе і тое, што мы чакаем, з імклівай плыні метамарфоз. Гэта значыць, па сутнасці, спрабуем спыніць жыццё. А такія спробы не бываюць беспакаранымі. І не трэба зайздросціць тым, хто дачакаўся. Іх непранікальныя твары хаваюць жорсткую таямніцу расчаравання. Запрэжаныя ў чаканне, мы не можам адмовіцца ад таго, чаго, нарэшце, дачакаліся. Мы вымушаны браць яго, хай нават і заплюшчваючы вочы, але з усмешкай. Атрымаўшы доўгачаканае, мы на свае вочы пераконваемся, — гэта не тое, што нам патрэбна цяпер. Гэта нам робіцца ўвогуле непатрэбным.

Пасіўнае чаканне будучыні ператвараецца ў абрыдлую сучаснасць. Чаканне звязвае нас з чужым і нават варожым. Уменне своечасова вызваліцца ад яго ланцугоў — і свайго чакання, і чужога.

З ёй заўсёды чакаеш.

Крыху суцяшае, што не ведаеш чаго. Гэта менш расчароўвае. Гэтае чаканне, бы глебу, рыхтуе цябе да сяўбы. Па сутнасці, гэта яе стаўленне да людзей — рыхленне. Спецыяліст па рыхленні. Ты прызвычайваешся, як поле да аратага, давяраючы ёй безумоўна. Але — падзел працы. І яна ўмее толькі араць.

Толькі кахаць. Толькі нараджаць. Толькі выхоўваць. Толькі гадаваць.

Узрастае прадукцыйнасць.

Толькі казаць. Толькі рабіць. Толькі ненавідзець. Толькі любавацца. Бяздарнае дабро і амаральны талент.

Яна з касты тых, што кахаюць і гавораць?

Мне патрэбна адна, адзіная, якая ўмее ўсё.

Адна. Прыгожая, разумная, добрая...

Ён здрыгануўся. Дзверы тралейбуса адчыніліся проста перад ім.

Блакітная шапачка і заечае футра.

Механічна, нічога не адчуваючы, ён падаў руку.

## ЗАЎТРА

Віктар усміхаўся, узгадваючы яе смех і бліскучыя вочы. І калі развіталіся... Ён мог бы пацалаваць яе, калі б захацеў. Ён толькі прыклаў яе руку да шчакі і ўсміхнуўся, не адчуўшы холаду пярсцёнка.

Віктар адчувае, як яна ідзе яму насустрач, бяжыць, але нечакана спыняецца, бязвольна апускае рукі. Штосьці перашкаджае. І Віктар не ведае што. Ён абяцаў прынесці ёй заўтра «Японскі жывапіс» і свой даклад пра Рыльке.

Віктар падумаў, што хоча проста схадзіць з ёй у кіно.

Ён ужо забыў, што гэта такое. Апошні раз быў у кіно амаль год таму, яшчэ з Верай. Тады, на Таркоўскага, запрасіла яна. «Віктар, у мяне два білеты...» Хоць ён ужо глядзеў «Андрэя Рублёва», усё ж адмовіцца не змог. Пасля ён праводзіў Веру дадому і, дзякуючы за цудоўны вечар, доўга і занадта шматзначна паціскаў яе далоньку. Вінаваты ў гэтым быў толькі Таркоўскі. Цяпер Віктару было абсалютна ўсё роўна, што глядзець.

Ён ужо прадчуваў гэтую асалоду — схадзіць з Галінай у кіно.

Ён прадчуваў радасць ад пакупкі білетаў, ад таго, як ён будзе яе чакаць, ад таго, што яна нарэшце прыйдзе, ад таго — і гэта найбольш хвалявала, можа, дзеля гэтага і ходзяць у кіно, — што жанчына пры ўваходзе складзе іх білеты — як складваюць лёсы — і адарве палоску паперы, быццам пазбавіць іх чагосьці, пасля чаго яны, дапаўняючы і падтрымліваючы адно аднаго, змогуць быць толькі разам.

Так, пасля яны сядуць побач, і ён будзе глядзець на экран, часам азіраючыся, правяраючы яе рэакцыю, супакоены і шчаслівы. Так, гэта ўсё так, гэта будзе прыемна і радасна, але ўсё ж самая тонкая асалода чакае яго пры ўваходзе, калі кантралёрка...

Пасля кіно яны пойдуць да прыпынка, а можа, і далей, пагавораць пра ўсё, што яго хвалюе. Ну што там у яе можа быць? Нічога страшнага.

З глыбокага задумення яго вывела дзяўчына, падобная да Галіны. Яна стаяла з нейкім хлопцам за шклянымі дзвярыма, але ўжо ўзялася за ручку, каб увайсці.

Віктар адчуў удзячнасць да гэтай дзяўчыны за тое, што яна была крыху падобная да Галіны і здолела нагадаць яму пра яе. Гэтак жа прыязна ён зірнуў на хлопца — прыемна бачыць аднадумца, калегу ў некаторым сэнсе — аднагустоўніка, калі можна так сказаць. А чаму нельга? Філолаг, як хачу, так і кажу. Хоць гэта некалькі двухсэнсоўны неалагізм — можа, гэта той, хто прадэгуставаў толькі адзін раз?

Аўтаматычна ён адзначыў, што на дзяўчыне такая ж блузка, як у Галіны. Але гэта падалося яму ўжо замахам на яе выключнасць і арыгінальнасць. Віктар усміхнуўся і падумаў, што раскажа ёй заўтра пра гэтую дзяўчыну.

Падышла яго чарга. Віктар павярнуўся да жанчыны за стойкай, якая «Кветкі Зла» Бадлера называла «Кветкамі для Зла», а самога паэта — на англійскі манер Б*а*длерам, што, зрэшты, ёй пасавала і дадавала прастадушнасці і абаяльнасці.

Віктар падумаў, што дзяўчына, падобная да Галіны, павінна быць ужо блізка, і таму азірнуўся.

Так, за два крокі ад яго, усміхаючыся, спынілася дзяўчына, абсалютна падобная да яе.

Яна зрабіла крок да яго. У ім нішто не зварухнулася.

Віктар падумаў, што, здаецца, трэба павітацца.

Ён яе абсалютна не ўспрымаў.

Ён чакаў яе заўтра. І ўсю радасць, усе словы, якія падрыхтаваў для яе, ён таксама, як па пошце, паслаў у заўтра. Зараз у яго нічога няма.

Віктар ніколі не бачыў яе такой простай і кранальнай.

Пастаяннае ўнутранае напружанне пакінула яго, сышло, нібы снег.

«Так, — чамусьці падумаў ён, — ужо ж сакавік».

Які мяккі ў яе твар, як праменяцца вочы...

Але зараз для яе, жаданай, у яго нічога няма. Усё адаслана ў заўтра. І на яго тэрміновыя тэлеграмы — пераслаць пасылку ў сёння — паштамт заўтра не рэагуе. Толькі і знайшлося ў яго, што нацягнутае «добры дзень».

Віктар гатовы заплакаць ад злосці, што ніяк не можа атрымаць гэтую пасылку, адасланую ў заўтра, і прыняць, узмацніць сігнал яе зіхоткіх вачэй.

Ён стаіць, бы абсечаная таполя. Ці як перагарэлы робат.

Яна падышла да яго вельмі блізка, зазірнула ў вочы і, зрабіўшы такі рух, — у яго заняло дыханне, — быццам зараз яна прыхінецца да яго, абаперлася спінай аб стойку.

Столькі дабрыні і мяккасці было ў яе руху, што яму стала няёмка бачыць яе тут — на людзях.

Няёмка, як распранучца ў бібліятэцы.

Пры дзённым святле яна выглядала старэйшай.

Зморшчынкі, сухаватая скура, пара сівых валаскоў.

І неяк апранута...

Быццам пачынала распранацца, а ёй перашкодзілі.

Яго бясстрасны рэгістратар, збіральшчык доказаў і фактаў, быццам радуючыся, што за ім не сочаць, па-злосніцку адзначыў усё гэта.

Абапёршыся на стойку, блізкая, мілая, яна глядзела на яго прамяністымі, ласкавымі вачыма.

Ён яшчэ раз кіўнуў ёй, быццам адштурхоўваючы, і сказаў, што яны сустрэнуцца ў зале.

Ягоны твар застаўся мёртвым для яе, а голас быў сухі, як пясок.

Яна крыху памарудзіла. Выпрасталася. Як жывот, увабрала ў сябе сваю мяккасць, безабароннасць.

Ці, хутчэй, выкруціла сябе, як мокрую анучу.

Пацьмянелі вочы.

Ён чакаў яе *заўтра*!

Рака пануднела і ўвайшла ў рэчышча.

## НА ЎЗРОЎНІ ЎСМЕШКІ

Галіна сядзіць за сталом у бібліятэцы, абклаўшыся кнігамі і часопісамі. Віктар уваходзіць у залу і, памарудзіўшы, накіроўваецца да яе. Яна заўважыла яго, але апусціла галаву.

Віктар мінуў яе, спыніўся крыху ззаду. Яна азірнулася, кіўнула.

Віктар прабраўся да яе бліжэй. Побач з ёю сядзіць нейкі хлопец. З барадой, як у Льва.

— Дзякуй за даклад. Нам спадабалася, — кажа Галіна, павярнуўшыся да Віктара, але гледзячы міма яго. — Вы чыталі «Востраў эстэтаў» Маруа?

— Не.

— Мы са Светай вам раім. Там шмат нашых агульных знаёмых. Дзякуй за «Японскі жывапіс». Мне перадалі. У нядзелю «размоўкі». Мы са Светай вас запрашаем.

«Мы са Светай...» Галіна бясстрасна выдала яму гэтую інфармацыю і зірнула на Віктара так, быццам ён стаяў ля яе не менш як суткі і зараз яна здзіўляецца, што ён па-ранейшаму тут.

— Што вы чытаеце? — пытаецца Віктар, завязваючы новы вузельчык.

— Шагінян. «Чалавек і час», — абарвала яна.

Хлопец з барадой не зважае на іх. Ён не чытае, а летуценна глядзіць удалечыню, крыху адкінуўшы галаву, быццам ураўнаважваючы цяжар барады.

— А вы будзеце на «размоўках»? — не супакойваецца Віктар.

— Так, канечне.

Віктар адчувае, што робіцца навязлівым, але не можа стрымацца і задае яшчэ адно пытанне.

— А вас не спакушае сённяшняе сонца?

— Не спакушае, — адрэзала яна суха.

Віктар сеў так, каб бачыць яе. Гэты сексапільны малады чалавек пачынае яго трывожыць. Тым больш што Галіна не пазнаёміла іх. Зялёны пінжак у кратку. Жоўтыя нагавіцы. Барада. Валасы да плеч. Сядзіць, падпіраючы шчаку рукой. Тонкая косць. Доўгія, бы ў малпы, пальцы...

Музычныя — паправіў сябе Віктар. Нейкая летуценна жаночая поза. Барадаты раптам устаў, нахіліўся да яе. Было штосьці ў яго паставе, ад чаго ў Віктара заныла сэрца. Яна засталася сядзець, а ён пайшоў. Прыблізна таго ж росту, што і Віктар, але драбнейшы, лёгкаатлетычны тып.

У яго нерухомы твар. Ён застыў у адным выразе, быццам не ведаў іншых ці не імкнуўся разнастаіць гэтую нуду, што адбілася на яго твары.

Барадаты ідзе па дыване лёгка і ціха, як паляўнічы. Штосьці адкрыта мужчынскае, падкрэслена мужчынскае зыходзіць ад яго ладнага цела. Дзяўчаты азіраюцца на яго. Тое, што гэта самец, выступае на першы план і засціць усё астатняе — магчымае і сапраўднае. Менавіта ў якасці самца ён і ўспрымаецца як нешта значнае, выбітнае. Гэтую значнасць лёгка вынесці за дужкі, а тое, што за імі можа не быць нічога, зусім не бянтэжыць, але яшчэ раз падкрэслівае яго безумоўныя, чыста мужчынскія вартасці.

Віктар злавіў сябе на думцы, што зараз ён зноў небесстаронні, хоць і іншым чынам. Зараз ён апраўдвае Галіну, спрабуючы паглядзець яе вачыма.

Галіна паднялася, складае кнігі і, не азірнуўшыся на Віктара, сыходзіць.

Яго сонца яе сапраўды не спакушае.

Віктар падумаў, што побач з гэтым прыгажуном ёй, напэўна, няёмка хадзіць — куды б ні ішла, усе думаюць, што ў ложак.

Барадаты ідзе наперадзе, як буксір, разразаючы барадой прастору, а яна за ім, як баржа.

Віктар адчуў нечаканае і імгненнае шкадаванне да яе — за гэты пакорлівы, нязвыклы выгляд.

Таксама ўстаў. Калі здаваў кантрольны лісток, яна ўжо ў футры, з валасамі, рассыпанымі па каўняры, ішла запіць таблетку. Яна трымала яе на далоні. Быццам нешта прасіла, а ёй далі толькі таблетку. Падаянне было такое малое, што нават не адчувалася. І рука засталася працягнутай.

— Ужо сыходзіце? — спытала яна бясстрасна і думаючы пра сваё.

Яна нейкая разварушаная.

Малады чалавек з барадой стаіць ля дзвярэй. Чакае. Так чакаюць таксі. Яго ногі — у чырвоных чаравіках — як гусіныя лапы. І паставай ён нагадвае гусака.

Віктар усміхнуўся: бясстраснасць недасягальная.

Які мёртвы твар у гэтага патрапанага ўжо прыгажунчыка. Было б дзіўна, калі б ён загаварыў. Віктар заўважыў, што ў саперніка таксама шэрае паліто, праўда, больш піжоністае. Яму стала непрыемна. Але, у цэлым, было цікава: у яго сапернік. І што з ім рабіць, пакуль невядома. Віктар не сказаў бы, што раўнуе. Перш за ўсё, яму было цікава. І крыху сумна. Тым больш што сапернік сапраўды непрыступны: увесь час маўчыць, і ў размове яго не пераўзыдзеш, а для адзінаборства — надта хлюпкі. Непераможны сапернік — маўклівы дыстрофік.

— А-а! Вось ты дзе! Слухай, хлопец, абалдзенная ідэя...

Леў зусім недарэчы. Толькі абалдзенных ідэй мне не хапала. Зрэшты, іншыя ў яго не водзяцца. Віктар штосьці слухае, штосьці адказвае. Галіна праходзіць паўз яго, не падымаючы вачэй.

— Галіна... — кліча яе Віктар нягучна.

Яна праходзіць не азіраючыся.

— Галіна!

Яна паварочваецца. На твары такая стома, такая пакорлівасць выслухаць ката...

— Галіна, — Віктар усміхаецца, — гэтая барада чакае вас?

Усміхаючыся, ён глядзіць проста ёй у вочы. Лёгкая ўсмешка ў адказ. Так раскрываецца пупышка. Усмешка-падзяка за ягоную ўсмешку, за тое, што ён нічога не патрабуе, ні на чым не настойвае, за тое, што пакідае ўсё на ўзроўні ўсмешкі.

— Так, — яна ўсміхнулася смялей.

Віктар толькі кіўнуў і ўсміхнуўся ў адказ.

## ХТО ЁСЦЬ ХТО

Яна глядзела на яго так, быццам ён вінаваты перад ёю. І насамрэч Віктар адчуваў віну за яе набрынялыя павекі, за гэтыя жахлівыя кругі пад вачыма, за яе пашыраныя, як ад атрапіну, зрэнкі, якія, здавалася, цалкам схавалі вясёлкавую абалонку.

Галіна глядзела на яго так, як быццам ніколі не карысталася словамі і не ведала, што гэта такое. Немагчыма было ўявіць, каб яе нерухомы твар размаўляў. Нібы хтосьці выцер міміку маўлення з яе твару, як напісанае крэйдай з дошкі. І ўсё, што яна хацела сказаць, яна казала вачыма, — вачыма ў чорных кругах стомы, вачыма з набрынялымі павекамі і неверагодна пашыранымі зрэнкамі.

Віктар не вытрымліваў гэтага позірку, адводзіў вочы. Спрабаваў змякчыць яе пагляд усмешкай і рухамі рук — быццам закрываўся ад яе позірку. Беспаспяхова. Гэта выклікала на яе твары толькі падабенства ўсмешкі, дакладней, проста нейкі рух — настолькі нязначны, што ён мог быць падабенствам чаго заўгодна. І зноў сур'ёзнасць бездані, у якую ён ніяк не наважваўся зазірнуць. І не толькі таму, што баяўся вышыні, не толькі. Пасля Галіна прызналася, што хоча есці. Яе адвялі на кухню, накармілі, і яна адразу павесялела. Віктар падумаў, як мала жанчыне трэба, каб бездань у яе вачах змянілася зялёным лужком. Галіна ўжо адгукалася на жарты, смяялася. Пасля дастала з сумкі «Новый мир» і прачытала вершы Казаковай — «Быть женщиной, что это значит?»

Штосьці глыбока асабістае гучала ў гэтых радках, адчувалася, што для яе яны напоўнены сваім і вельмі канкрэтным зместам. «А женщина себя назначит, как хворому лекарство — врач...»

Віктару не спадабалася менавіта гэтае напаўненне, спробы ўзнесці нешта, як яму здавалася, мізэрнае і дробнае, — чорная барада паўставала перад ягонымі вачыма, — да любавання і апраўдання. «И если женщина приходит, себе единственно верна, она приходит — как проходит чума, блокада и война. И если женщина приходит и о себе заводит речь, она, как провод, ток проводит, чтоб над тобою свет зажечь...»

Віктара раздражняла гэтая вернасць сабе, гэты падкрэслены эгаізм, гэтая гвалтоўная электрыфікацыя, — па сутнасці, актыўная антыжаноцкасць. Гераіня наіўна абмяжоўвала каханага тым, што магла прапанаваць сама. Гэта было каханне лямпачкі да асветленага ёю слупа. І вось гэтыя адносіны ўзводзіліся ў догму, ва ўзор.

«И ты, тот истинный, тот лучший...» — гэты радок асабліва чапляў Віктара. Чапляў не таму, што намякаў на яго, а таму, што ставіў у адзін шэраг з тымі слупамі,

якія даводзілася асвятляць лямпачцы. І нічога не змяняў той факт, што гэта быў слуп найвышэйшай якасці, «сапраўдны слуп», лямпачцы нават у галаву не прыходзіла, што Віктар можа аказацца не слупам, а, напрыклад, атамным рэактарам. І што яе прамяністае каханне ў такім разе будзе выглядаць проста смешна. Асабліва калі лямпачка пачне пераконваць рэактар, што той невідушчы. Зрэшты, і ў адносінах са слупам далёка не ўсё так проста. Лямпачка можа яго асвятляць толькі тады, калі ён падыме яе на сваю вышыню.

Можа, таму, што Віктар убачыў у гэтых радках спробу паставіць сябе ў шэраг выратаваных і асветленых, ён і сказаў, што верш яму не спадабаўся.

Галіна адчула, што справа тут не ў вершах, і прачытала яшчэ два. Гэта былі яе ўласныя. Тое, што яна хавала ў вершах Казаковай, тут выходзіла вонкі і дзёрзка дэманстравала сябе, быццам абуранае тым, што ён не бачыў яго раней, у яе вачах. «Паўгрэшніцай прыходжу я, а пакідаю цябе грэшнаю... Ды на маіх пакутных смерцях тваё святое узыходжанне...» Да гэтых радкоў і зводзіўся змест першага. Другое казала пра тое, што яна «не клікала» кагосьці «ні тугой, ні загадамі», але ёй «нарадзіла яго вясна». І вось зараз яна пакутуе, разгадваючы ягоныя «лясныя вочы». І ўсё гэта было нейкім чынам звязана з тым, што «ў чорным возеры — чорныя лебедзі», яе «ружовыя мары».

— Невядомая Ахматава? — спытаў Віктар.

Галіна задаволена хмыкнула, але нічога не сказала. Толькі на хвіліну знік квітнеючы лужок у яе вачах і адкрылася бездань. Віктар выпрасіў сабе гэтыя вершы. Спачатку Галіна не пагаджалася, а пасля пазначыла першае ініцыяламі таго, каму яно, верагодна, было прысвечана, і аддала.

Віктар падумаў, што другое, без прысвячэння, магло мець дачыненне да яго. Але з ёю ніколі нічога не ведаеш абсалютна дакладна — заўсёды мігценне сэнсаў, адгадванне. Яна, як і жыццё ўвогуле, пакідала за ім свабоду дзеянняў, якая выракае на бяздзеянне. Дакладней, жанчына, як і жыццё, выяўляе сапраўднае стаўленне да сябе: не адносіны абмену, куплі-продажу, а стаўленне па схеме «любіць-не-любіць».

Нічога не абяцаючы, Галіна нічым не звязвала сябе, пакідала поўную свабоду для «так» і «не». У гэтай свабодзе ён бачыў толькі эгаізм, магчыма, даравальны ў яе становішчы. Толькі зусім непрыдатны для таго, каб праз яго можна было б выявіць, паказаць ёй яго сапраўднае стаўленне. Яна не давала нічога, на што можна было б абаперціся. Цалкам абаперціся на сваё пачуццё не выпадала: на жаль, яно было не эгаістычнае, дакладней, не прымітыўна эгаістычнае. І нават сама думка, што гэтае пачуццё можна навязаць гвалтам, падавалася блюзнерскай: ён дабіваецца не жанчыны, але кахання, гэта значыць, пэўнай сумы перажыванняў, больш звязаных з самім сабой, чым з жанчынай, якая ёсць толькі нагодай, але не прычынай.

Магчыма, гэта і ёсць самы эгаістычны від кахання. Кахаць — гэта не толькі накіроўваць свае пачуцці на кагосьці, але, перш за ўсё, паказваць іх самому сабе, знаходзячы праз гэта ўскоснае пацвярджэнне сваёй значнасці, самакаштоўнасці. Словам, мы заўсёды любім саміх сябе, і нашы пачуцці да іншых тым мацнейшыя і глыбейшыя, чым мацнейшая і глыбейшая наша любоў да сябе.

Яе вершы давалі нагоду для абсалютна розных дзеянняў і таму выключалі любое дзеянне. З гэтай прычыны, верагодна, ён і не хацеў бачыць тое, што яна падносіла проста да яго вачэй.

Віктар, па сутнасці, баяўся ісці да яе па дрыгве няпэўнасці. Гэта боязь была, канечне, ад эгаізму — маленькага старога, які вечна жыве ў пячорах нашага «Я» і якому ніхто не патрэбны. Ён і збірае доказы супраць усіх, каго мы любім ці хочам любіць.

Віктар чакаў хоць жэрдкі, на якую можна ступіць і пабегчы па ёй. А яна думала, што ён кінецца да яе па гэтым балоце, угрузне, працягне рукі, і тады, калі яна пераканаецца, што ён кахае, тады...

Віктар не ведаў, што тады. І не рызыкнуў. Яму здавалася, што яна бачыць у ім чарговы слуп, што падлягае электрыфікацыі. Магчыма, калі яна пазначала ініцыяламі першы верш, ёю кіравала, хай і неўсвядомленае, жаданне зачапіць яго, прасачыць ягоную рэакцыю. Віктар зноў не даў ёй такой магчымасці. Ён пахваліў вершы, — толькі як вершы, — але пакінуў незаўважаным іх змест, а менавіта — тое, што зачапіла яго ў вершах Казаковай і за што ён іх не ўхваліў.

Зразумела, ён не мог пакінуць без увагі гэтыя ініцыялы. Усміхаючыся, ён разгарнуў іх у прозвішча аднаго ўніверсітэцкага спартсмена з юрфака, якому ён нядаўна саступіў першае месца з-за ўласнага глупства — замахнуўся на вагу, да якой ніколі нават і не падступаўся. І тое, што яго абышлі ў розных сферах хлопцы з аднолькавымі ініцыяламі, неяк балюча адгукнулася ў ім.

Галіна пагардліва павяла плячом.

Віктар не стрымаўся і ўкалоў яе:

— А я думаў, што-небудзь выбітнае. Ён нават у мяне выйграў цэлых пяць кілаграмаў.

Галіна рэзка зірнула на яго, але нічога не сказала. Магчыма, калі яна пазначала ініцыяламі адзін верш, то спрабавала найперш неяк вылучыць другі, без ініцыялаў. Ён, падалося Віктару, мог быць і для яго.

Але па дрыгве няпэўнасці ён не рызыкнуў зрабіць ні кроку. Магчыма, баяўся свайго ўласнага цяжару. У тым выпадку, калі ён «рэактар», ягоная боязь была цалкам апраўдана: рэактар цяжэйшы за слуп. А калі б ён ступіў і не праваліўся? Значыць, тады ён усяго толькі «слуп», і Галіна мае рацыю. Гэта яму зусім не падабалася.

Віктару было прыемна думаць, што ён усё ж не слуп, а рэактар і не мае патрэбы ў электрыфікацыі. Тым больш што трэба было лезці ў балота, у бруд, у ваду. Гэта яго зусім не вабіла. Усё ж ён быў чысцюля.

А на вечарыне саліравала Галіна. Астатнія, наколькі дазвалялі здольнасці, акампаніравалі ёй. Ёй працягвалі гітару, і яна брала яе. Яна дакраналася да струн, і гітара страсала, як попел з цыгарэты, эстрадную самаўпэўненасць, крыклівае нахабства і вулічную пошласць. Гітара, як у юнацтве, зноў гучала чыста і строга, кранальна і пяшчотна.

«Я ехала-а домо-ой, душа была полна-а...» І зноў у яе голасе гучала штосьці ад таго, што было ў пачатку вечара ў яе вачах. Але Віктар не хацеў гэтага пачуць, як раней не хацеў бачыць.

Праўдзівей, ён бачыў толькі частку таго, што яна прамаўляла і адкрывала яму. Хоць, бадай што, для яго гэта было найважнейшым, але гэта было не ўсё. Гэта было толькі тое, што злучала іх. Тое, што тычылася толькі яе, ён не хацеў бачыць і чуць. Бо гэта пагражала ім абаім. Але ад таго, што ён не хацеў бачыць гэтай пагрозы, яна зусім не знікала. І Галіна разумела, што ён зважае толькі на тое, што датычыць іх дваіх. Але ж, калі ён не надае значнасці таму, што датычыць яе, значыць, ён не надае значнасці і ёй.

Можа, яна дрэнна паказвае? Тужлівыя, сумныя старыя песні змяняліся яе ўласнымі, якія ён пазнаваў і без давяральнага шэпту сяброўкі. У іх прамаўляўся досвед яе кахання, але кахання не для сябе, а для яго, слабога і безабароннага, «як той знайдыш, як той знайдыш...»

Па сутнасці, гэта была туга па мацярынскай любові з яе сілай і ўсемагутнасцю. Потым, пасля гарбаты, калі ўсе ўжо сабраліся разыходзіцца, Галіна завяла гульню

ў «садоўніка». «Фу-фу! — Сказала настаўніца. — Калі мае дзеці даведаюцца, што я гуляю ў такія гульні...» Але Галіна ўгаварыла і яе. Нават не ўгаварыла, а проста пацягнула за сабой сваім страсным жаданнем пагуляць у гэтую гульню адзінаццацігадовых, што прамаўляюць на вечаровых лавачках усё, чаго яны яшчэ не могуць сказаць усур'ёз, але што падступае ўжо да горла і трывожыць у снах.

Галіна назвала сябе кураслепам. Віктар, дурэючы, хаваючыся за жарцікі, з цнатлівай сціпласцю абазваў сябе цюльпанчыкам, што адразу ўсіх развесяліла і надало гульні імпэту. Не паспеўшы выслухаць ніводнага прызнання, Віктар па няўважлівасці выбыў з гульні. Галіна была незадаволена, спрабавала сваім аўтарытэтам адмяніць яго памылку, але ўсе запратэставалі.

Назіраючы за ёй, як яна без натхнення працягвае гуляць, Віктар падумаў, што, калі яна кураслеп, дык ён, бадай што, не цюльпанчык, а нарцыс. У прыхожай, калі ён дапамагаў дзяўчатам апранаць паліто, Галіна дастала з сумачкі томік Вазнясенскага і знайшла там верш.

— Вось, мне падабаецца, — прамовіла яна шматзначна.

Віктар узяў зборнік.

Глубинная струя влеченья.
Печали светлая струя.
Высокая стена прощенья.
И боли четкая стрела.

Прачытаў яшчэ раз. Паэт сустрэў яго на парозе юнацтва. Яго яскравыя святочныя вершы дарылі энергію і радасць. Многія радкі адбіліся ў памяці назаўсёды. Але юнацтва мінула, і паэт таксама застаўся там. Стаць дарослым яму, верагодна, не выпадзе. Дый не трэба. Ён выказаўся і застыў у юнацкім светапоглядзе.

Віктар прабег яшчэ колькі вершаў і аддаў ёй кніжачку нядаўна любімага, а цяпер проста чытанага паэта. Дапамог ёй апрануць футра і нічога не сказаў.

## ЗАПІСКА ВА ЎЧОРА

Паважаная грамадзянка Галіна! Запрошаны на ваш дзень народзінаў, я, як можа засведчыць ваша глыбокашаноўная сяброўка Света, з'явіўся толькі на пяць хвілін раней за прызначаны час, што здараецца са мной надзвычай рэдка.

Маючы пры сабе ахапак ружаў, а таксама, у выніку вашай адсутнасці, процьму вольнага часу, я вырашыў зрабіць вам сур-рыз.

Я пакінуў адну ружачку, а астатнія абабраў, як далікатных курачак, і засыпаў пер'ечкі цукрам. Пасля паставіў на агонь, але атрымаўся чамусьці не курыны суп, а ружавае варэнне.

Зрэшты, у тым няма нічога дзіўнага.

Я ведаў адну дзяўчыну, якая ехала ў палац шлюбу да жаніха, што чакаў яе з нецярплівасцю, а прыехала ў раённы загс, дзе пабралася з кіроўцам таксі. І самае радаснае ў гэтай гісторыі тое, што прысмакі, якія рыхтавалі да вяселля, не змарнаваліся. Так што, як казаў мой сябра Кандзід, усё да лепшага.

Ад зваранага мною варэння мы адлілі са Светай адзін слоічак, а астатняе з'елі. Трэба ж нам было нечым займацца ўвесь вечар. Тым больш што сяброўка ваша выглядала зусім нясмачна, і ўвогуле...

А ў апошніх радках маёй запіскі паведамляю вам, што Света, пасля таго, як прабіла дванаццаць на крамлёўскай вежы і радыё данесла нам гэтую трагічную вестку, — Света — а яна з'ела паўтазіка варэння з ружаў! — стала чамусь падобная не да

ружы, а да дзядоўніка. І адразу ж выгнала мяне з кватэры. І на дыванку пад вашымі дзвярыма — дарэчы, ён быў такі пыльны, што я ўвесь час чхаў і Света ўсё адно не магла заснуць, — пачакаў вас яшчэ гадзінку.

Пасля я здагадаўся, што ўласна-ручна я вас ужо ніяк не павіншую, дык вось і вырашыў павіншаваць аўта-ручна.

З Днём нараджэння!

Кавалер ордэна Ружы, філолух Віктар, прыяцель.

P.S. А дыванок усё ж варта вытрасаць. А... А... Чхі!.. Гэта я вам кажу не ва ўчора, каб не псаваць вам настрою, а ў сёння. І не давайце Свеце нюхаць маю ружачку!

## ПРАКРУСТАВА ЛОЖА БУДЗЁННАСЦІ

Тэлефонны званок хвастануў Віктара, нібы пугаю.

Ён ускочыў з-за стала, перакуліў крэсла і чартыхнуўся.

— Слухаю! — гыркнуў у трубку.

— Нашто так палохаць? Прывітанне, Віктар... Я тэлефанавала вам увесь тыдзень... Як вадой разліліся...

— Спаборніцтвы.

— І не папярэдзілі, нічога...

— Як быццам гэта было магчыма...

— Дзякуй вам за ружачку, за варэнне... Дзе вы яго ўзялі?

— Сакрэт фірмы.

— Я нават і не здагадвалася, што ружы можна есці... Мне яшчэ гітару падарылі.

— Вось і добра. Арганізуем аўтарскі вечар.

— Вашу ружачку я паставіла ў асобную вазу і нікому не даю нюхаць.

— Надзвычай прыемна.

— Я адчула святочны настрой толькі позна ўвечары, калі прыйшла дадому. Нават засмяялася, чытаючы вашу запіску. Падумала, што я яшчэ зусім маладая...

— Не такая ўжо і маладая, як вам здаецца.

— Вы дзіўны чалавек!

— Прынізілася да камплiментаў мужчыну. Гэта першая прыкмета старэння. У вас нейкі няўпэўнены голас. Што-небудзь здарылася?

— Так, непрыемнасці...

— Хто-небудзь памёр?

— Не. Пакуль не.

— Што такое?

— Пра гэта па тэлефоне не скажаш... Вы заняты?

— Крыху.

— Вы мой ліст яшчэ не атрымалі?

— Які ліст?

— Старонкі з дзённіка... Нічога, неўзабаве атрымаеце. Калі не захочаце чытаць, адашлеце назад.

— Ну, чаму ж...

— Такі варыянт таксама магчымы.

— Гэтая непрыемнасць... датычыць толькі вас, без Светы?

— Нас...

— А ў панядзелак Света ўжо ведала пра яе?

— Так...

— У яе былі нейкія тупыя вочы.

— Вы ўсё бачыце... Да пабачэння.

Аблашчаны яе голасам, — мяккім, няўпэўненым, дрыготкім, — ён, расчулены гэтай ласкай, яшчэ некаторы час смакаваў яе, адчуваючы, як узнікаюць у ім — з чаго? — туманнасці шчасця, у якіх, нібы зоркі, ужо цвярдзеюць спадзяванні.

Нарэшце да яго дайшло, што яна не толькі дзякавала яму за падарунак, але і хацела сустрэцца з ім, калі пыталася, ці не заняты ён.

Сустрэцца — гэта было наўпрост звязана з тым, што ў яе здарылася. І з тае самае прычыны гучалі ў яе голасе няўпэўненасць і мяккасць, што так расчулілі яго.

Менавіта таму, што гэта яго так кранула, прынесла асалоду, ён не адразу ўспрыняў сэнс сказанага, жахнуўся сваёй чэрствасці і глухаты і падумаў, як ізалюе і прыгаломшвае шчасце.

Так, ён зноў паспрабаваў уключыць яе, каханую, па інерцыі, бессвядома, — ён ведаў, што гэта толькі ўзмацняе яго віну, — у мерны рытм будзённасці, хоць ужо не раз яна выпадала і дысаніравала з гэтым рытмам, настойваючы на гармоніі больш высокай і неабходнай.

Усё, што датычыць нашых каханых, не павінна падпарадкоўвацца меркам будзённасці. Ён забыўся на гэта. Дакладней, ён добрасумленна пастараўся забыць, што ён яе кахае.

Яму стала балюча ад таго, што ў пракрустава ложа будзённасці ён зноў паспрабаваў пакласці каханне.

Віктара апраўдвала толькі адно: жыццё, якое выклікае нас з небыцця, якое, здаецца, любіць нас, абыходзіцца з чалавекам гэтаксама.

Віктар рвануў да тэлефона.

— Яе няма!

Ён разгубіўся, заспяшаўся, пытаючыся, выказваючы меркаванні.

— Горш! — закрэсліла Света ягоныя здагадкі. — У асабістым жыцці. І навошта яна вам сказала... Прабачце.

## СЛЯЗА ПА ШКЛЕ ЎСМЕШКІ

— Віктар, я мушу вам нешта сказаць. Хадземце сюды, — паклікала яго Света, азірнуўшыся на Галіну. Тая разглядала сумку і не заўважыла, як яны перайшлі ў аддзел, дзе прадавалі паліто.

— Разумееце, — пачала Света, падбіраючы словы, — з Галяй вельмі дрэнна. Я баюся пакідаць яе адну. Яна можа зрабіць з сабой усё што заўгодна. Вы адзіны чалавек, з якім яна можа размаўляць спакойна, блізкі ёй. — Света асцярожна зазірнула Віктару ў вочы. — Разумееце, вельмі цяжка казаць... — Света адвяла позірк.

— Кажыце проста.

— Магчыма, гэта будзе вам непрыемна...

— Кажыце! — загадаў ён.

— Галя цяжарная, — Света глядзела яму проста ў вочы.

Ён напружыўся і адчуў, як усё схаладнела. Цяжкі ўдар у спіну і тонкае лязо проста ў сэрца. Віктар узгадаў акуня. Як той, ужо без лускі і вантроб, усё яшчэ падскокваў на снезе, а камячок ягонага сэрца астываў на далоні. Віктар думаў пра ўсё на свеце, а пра самае простае і натуральнае нават і не здагадаўся.

Света глядзела праз шкло на вуліцу і чакала, што ён скажа.

— Нараджаць не хоча?

— Не.

— Колькі?

— Каля месяца.
— Можа, проста ад перажыванняў?
— Не, ёсць жа і іншыя прыкметы.
— А што партнёр?
— Не ведаю. Кажуць, ёсць нейкія таблеткі... Ці не маглі б вы... дастаць? — яна зноў зірнула яму ў вочы.
— Я не спецыяліст, — вытрымаў Віктар яе позірк, — але, па-мойму, ужо позна. Таблеткі не дапамогуць. Да доктара хадзіла?
— Яна не хоча. Баіцца, падумаюць, што яна такая... Кажуць, што ёсць нейкія таблеткі... я ў гэтым таксама не разбіраюся, — Света з надзеяй глядзела на Віктара.
— Пастараюся. Трэба да доктара.
— Цішэй, яна ідзе сюды.
Света пачала разглядаць паліто, Віктар, усміхаючыся, пачаў нешта казаць.
— Што гэта вы адасабляецеся? — Галіна ўважліва зірнула на Свету, пасля на Віктара.
— Вам падалося. Урэшце, гэта нетактоўна. Вы ж бачыце, што мы са Светай, як вы сказалі, адасобіліся... А вы — раз! — і канец нашаму шчасцю. Вы эгаістка, зусім не думаеце пра іншых.
— Так, у нас была сур'ёзная асабістая размова, — нарэшце загаварыла Света.
— Мы ўжо мала да справы не дайшлі, а тут вы...
— Вы мяне не так зразумелі, Віктар... І ці разумееце вы мяне ўвогуле? Я акурат падышла да вас, каб не даць вам уцячы. Так што ваша абвінавачванне, быццам я не клапачуся пра шчасце сяброўкі...
Размаўляючы, яны прайшлі ў аддзел сукенак. Паглядзелі трыкатаж. Жаночую бялізну глядзець не сталі. Час ад часу Галіна насцярожана зазірала яму ў вочы. Але праз хвалістае шкло ўсмешкі, за заслонай легкаважнай балбатні, яна нічога не магла разгледзець.
Віктар ішоў побач з ёю, такі ж, як і заўсёды, ці амаль такі ж. Усміхаўся, ажыўлена размаўляў, і нішто не выдавала, што ён адчувае сябе, бы той акунь на снезе. Аперацыя прайшла так хутка, што ён усё яшчэ ўсміхаўся.
Віктар баяўся толькі аднаго. І толькі гэта сур'ёзна трывожыла яго: раптам тое, пра што паведаміла Света, проста жарт. Яго не хвалявала, па сваёй ці па Галінай ініцыятыве яна наважылася на гэтую размову. Толькі б гэта не аказалася жартам. Але тое, што менавіта так і магло здарыцца, яго неяк падтрымлівала, суцяшала, хоць ён і ведаў, што не даруе.
Ён дробязна падумаў, што ва ўсім вінавата Света, і непрыязна зірнуў на яе. Магла б і не казаць. Света, задумаўшыся і не адгукаючыся на спробы ўцягнуць яе ў размову, ішла ўбаку.
Віктар чамусьці зусім забыў, што яе можа рэабілітаваць гэтая асалода — вытанчаная, раней не зведаная, — асалода ад пакуты, якую ён хаваў зараз у сабе, закрываючы, як рану рукамі, быццам баючыся ўбачыць кроў і закрычаць ад болю.

## НЕ ВЫКІДАЙЦЕ ГАЛІНКУ

— Віктар, куды вы мяне ведзяце?
— Чыста жаночае пытанне. Галінка, чаму абавязкова «куды»? Важней — «як»!
— Ну, і як вы мяне ведзяце?
— Так, каб вы адчулі сябе ветразем, — сказаў Віктар проста і працягваў з акцёр-

скім пафасам: — Каб вятры ўсіх мораў напаўнялі вас і неслі! Бачыце, зараз вецер дзьме ў спіну і вам лягчэй ісці. Вы проста ляціце, і я баюся не паспець за вамі...

— Фантазёр, — Галіна ласкава зірнула на яго. — А я вам падару гэтую галінку, — яна лёгка нахілілася і падняла з зямлі засохлую рагульку.

Ён заўважыў гэтую лёгкасць і ўзрадаваўся, быццам яна нешта адмяняла і нечаму супярэчыла.

— Аднясіце яе дадому і пастаўце ў ваду, а пасля паглядзіце...

— Што праз тры дні яна зацвіце блакітным і чырвоным! — падхапіў Віктар тонам летуценнай дзесяцікласніцы.

— Усе сёння то смяюцца з мяне, то крыўдзяць. Ніхто не шкадуе...

— Вам абавязкова трэба, каб вас шкадавалі, любілі...

— Не, любіць не трэба, любоў бязлітасная. Віктар, вы мяне ведзяце супраць волі, а я іду нібыта сама...

— Мы ўсе ідзём супраць волі, але нібыта самі.

— Гэта помнік Марату Казею. Вось куды вы мяне прывялі. Я хацела так назваць сына. Але яго не будзе, — штосьці страснае, гарачае прарвалася праз яе спакойны, халаднаваты сум.

— Галінка, ну што там за трагедыя? — спытаў ён знарочыста легкаважна. Калі б ён не ведаў, што з ёю, ніколі б так не спытаў, баючыся пакрыўдзіць лёгкасцю, з якой самазакаханая абыякавасць усмешліва і балбатліва ўспрымае горыч іншых.

Яна крышку ведала яго і, каб не была так занята сабой, магла б штосьці ўгледзець за гэтай бестурботнасцю.

— Трагедый няма. Ёсць толькі дробязі. Віктар, мы ж дамаўляліся: вы ні пра што не пытаецеся, — з дакорам зірнула на яго. — Як даўно я не была ў лесе... І не хутка яшчэ выберуся... Апошняе каханне мусіць скончыцца замужжам...

— Першае, — жарсткавата ўсміхнуўся Віктар.

— Вы невылечны цынік...

— Меднік я, меднік... Мяняю золата на медзь.

— У вас ёсць яшчэ золата...

— Ды знойдзецца трохі. Што ў вас? Скажыце, не бойцеся.

— Я не баюся, Віктар, але ж мы дамаўляліся, што вы не будзеце распытваць... Сумна... Самі па сабе мы бессэнсоўныя... Як гэта галінка ў вашай руцэ, як гэтае воблака над намі, як гэтае сонца... І ніхто не ведае, навошта жыць... Жыві, пакуль жывецца...

— Біялагічны сэнс — працяг роду.

— Навошта? У чым сэнс роду, чалавецтва? У чым сэнс розуму? Ніхто не адкажа. Калі лёгка і прыемна, ні пра які сэнс не думаеш, а калі... Я нават не войкнула б, калі б мяне зараз хто-небудзь забіў... Кажуць, бессэнсоўная ўсмешка... Пачынаеш асэнсоўваць — перастаеш усміхацца...

— Сэнс усмешкі — сама ўсмешка, сэнс жыцця — само жыццё, і гэты сэнс можна спасцігаць толькі праз уласнае жыццё. Сэнс — у цяперашнім, у перажыванні гэтых імгненняў, непаўторных, няпэўных...

— З вамі неяк усё вельмі ясна. Пачынаеш баяцца гэтай яснасці...

— Ну, увогуле, поўная яснасць — прыкмета мёртвага, жывое заўжды мігатлівае, няяснае. Непасрэдна нам даступныя толькі праблёскі. Вось як гэтыя шматкі сіняга неба над намі. Толькі дзякуючы розуму, папярэдняму досведу ўсіх людзей, мы можам здагадвацца, што існуе і блакітнае неба з яркім сонцам. Але розум — інструмент, і таму ў ім ёсць нешта ад скальпеля, ад яснага і нежывога бляску, каб спазнаць, трэба забіць.

— Так. Таямніца жыцця знікае разам з жыццём...

Лёгка абапіраючыся на ягоную руку, яна ішла, крыху адкінуўшы галаву, гледзячы проста перад сабой, кудысьці далёка, ледзь не ў будучыню. Яе голас, крыху стомлены, гучаў спакойна і задуменна. Здавалася, што яна расказвае самой сабе пра некага іншага, невядомага ёй, але цікавага. Яна казала проста, няспешна, на імгненне змаўкаючы, прыслухоўваючыся да рытму думкі, якая быццам караскалася па стромкай скале і асцярожна намацвала выступы і расколіны. Як ні дзіўна, яна здавалася шчаслівай і кранала да слёз.

— Як мы ўмеем адшукваць сэнсы... Нічога іншага і не застаецца, толькі гэта і падтрымлівае, пакуль жаданне жыць не знікае... Думала ў школе: як мала жыве чалавек, жыццё такое цікавае... Яшчэ столькі трэба пражыць... Якое агромністае жыццё. Знікае жаданне жыць, знікае сэнс... Сумна... Я ніколі не сумую адна... Толькі часам такая туга... Вы ўмееце патлумачыць, супакоіць... Вось і зараз: іду побач з вамі і нават не верыцца, што...

— Ну, вось бачыце, Галінка, вы увесь час спатыкаецеся аб сваю таямніцу. Скажыце, і вы зробіце лягчэй самой сабе. Ну што там у вас? Можа, я дапамагу?

— Вы і так дапамагаеце. Больш дапамагчы не змаглі б, нават калі б ведалі. Тады зусім не маглі б дапамагчы. Нічым... Не пытайце больш, не нагадвайце. У параўнанні з небыццём усё такія дробязі... І хоць бы трагедыя. Крыўдна. Мамы, мамы, нашто нараджаюць...

Прапускаючы маладую жанчыну з каляскай, яны расступіліся ў розныя бакі, і каляска раздзяліла іх. Віктар хацеў штосьці сказаць з гэтай нагоды, але стрымаўся. З хвіліну ішлі, як незнаёмыя, трымаючы дыстанцыю, на якую развяла іх каляска. Яны нібыта правяралі: звядзе іх зноў ці развядзе яшчэ далей.

Невядома, чым бы гэта скончылася, каб не кампанія гаманкіх падлеткаў, што з'явілася з-за рога вуліцы. Віктар заспяшаўся да Галіны, спалохаўшыся, што яе могуць штурхануць, пакрыўдзіць.

— Раней я думала, што галоўнае — розум, — працягвала Галіна, быццам не заўважыўшы эпізода з расставаннем і вяртаннем. — У нас са Светай быў нават дэвіз: «Не марнаваць час на дурняў!»

— Ці значыць гэта, што, пазнаёміўшыся са мной, вы здрадзілі свайму прынцыпу?

— Ну што вы, Віктар... Вось і прыпынак, — уздыхнула яна, — ну, я ўжо паеду. Света і так зачакалася...

— Не скажаце?

— Навошта? Не трэба, Віктар. Нічога страшнага... Бяздарна і дробязна. Банальна. І зусім не трагедыя. Калі дробязей зашмат — крыўдных, надакучлівых дробязей... Толькі цнота можа іх перамагчы...

Яе вочы павільгатнелі.

— Цнота не можа стацца мэтай жыцця.

— Але мы позна разумеем, што жыццё патрабуе цноты, ва ўсім, — сказала яна сурова.

Гэтая суровасць крыху здзівіла Віктара. Хаця, бадай што, любое жыццёвае правіла заўсёды супрацьлеглае нашаму досведу.

Чародка школьніц перабегла дарогу і збілася ў ажыўлены гурт на прыпынку. Іх белыя гольфікі нагадалі першы снег.

— Калі я бачу гэтых дзяўчынак-шчабятушак, мне робіцца страшна за іх. Ну навошта, каб ведаць, трэба абавязкова прайсці праз усё? Навошта? — прамовіла яна разгублена і з болем у голасе.

— Каб выпакутаваць сваю дасканаласць.

— Ці ўзмацніць недасканаласць. Віктар, у мяне такое ўражанне, быццам вы нешта ведаеце. Вам Света ні пра што не прагаварылася?

— Пра што?

— Што датычыць мяне зараз.

— А што вас зараз датычыць?

— Віктар, я вельмі сур'ёзна пытаюся.

— Ведаю — не ведаю. Гэта што — мае нейкае значэнне?

— Канечне. Калі «так»... Так? — яна пранізліва і адчужана зірнула на яго. — Тады я не магу заставацца тут з вамі ні хвіліны.

— Галінка, вы ўсё адно будзеце маёй жонкай.

— Віктар, калі б вы ведалі, вы б гэтага не казалі, — на яе вачах блішчэлі слёзы.

— Ну якое гэта мае значэнне?

— Віктар, мілы, — яна пагладзіла каўнер ягонага паліто, — гэта мае значэнне. І для вас, і для мяне... Вам ніколі не будзе здраджваць жонка, — вымавіла яна раптам, павярнуўшыся да яго спінай.

Ён пачуў гэтую фразу як «я вам не буду здраджваць». Яго перасмыкнула: здавалася, тут быў намёк, спроба падзейнічаць на яго, накіраваць у нейкае рэчышча.

— Вы хочаце сказаць, што я застануся старым кавалерам? — Віктар жарсткавата ўсміхнуўся, выціснуўшы гэтую ўсмешку, як рэшткі пасты з цюбіка.

— Не жартуйце, — папрасіла яна глухавата. — Вось мой тралейбус. Сумна ўсё атрымалася. Бывайце...

— Ну куды ж вы адна, вас заштурхаюць.

— Не заштурхаюць, не бойцеся. Не варта, я даеду адна... Мне не хочацца, каб Света бачыла вас са мною. Дзіўна, вы мяне пасадзілі на першае сядзенне, — з пытаннем у вачах яна паспрабавала падняцца: — Я саступлю вунь той цяжарнай, ёй там высакавата.

— Сядзіце, я вам не дазваляю.

— Вы абмяжоўваеце маю свабоду, — усміхнулася яна.

— Свабода прыносіць пакуты, — жорстка сказаў Віктар.

— Ну і добра, ну і буду сядзець. А вы стойце, — яна павярнулася да акна. — Не, калі б вы ведалі, вы б гэтага і не сказалі ніколі, — прамовіла яна будзённым голасам і пацвердзіла кіўком галавы, быццам ставячы кропку.

— Давайце праверым, — пасміхнуўся Віктар.

— Не, не хачу, каб вы зніклі.

Галіна ўзяла яго далонь у сваю і прыхінулася шчакой да рукава ягонага паліто.

— Які вы калючы...

— Два нашыя талоны, прабітыя разам, падобны да двух лёсаў, зведзеных у адзін...

— Вас гэта палохае? — насцярожылася яна, адхінаючыся.

— Не, але гэта рэчаіснасць...

— Дайце мне мой талон, — яна рашуча працягнула руку. — Вось вы і вольны, — сказала яна глуха.

— Аператыўна рашаеце праблемы, — стомлена адазваўся Віктар.

— Бабуля, хадзіце прысядзьце? — Галіна імкліва паднялася.

Прапускаючы старую, павярнулася тварам да Віктара. Кіроўца рэзка прытармазіў. Віктар пахіснуўся. А яе кінула да яго, прыціснула. З нейкім дзіўным, трывожным адчуваннем, ён абняў яе вольнай рукой і не адпусціў, калі яе пацягнула назад.

— А раптам я памру?

— Ну што за думкі!

— А раптам? Пацалуйце мяне...

Віктар падумаў, яму здалося, — так ціха сказала яна. Зрэшты, не крычаць жа пра гэта на ўвесь тралейбус. Ён адхінуўся, каб зазірнуць ёй у вочы. Яна злёгку кіўнула і неяк бездапаможна ўсміхнулася. Ён нахіліўся, прыціснуў свае вусны да яе вуснаў, механічна, амаль нічога не адчуваючы. І, быццам просячы прабачэння за гэта, злёгку пацёрся шчакой аб яе шчаку, абняў мацней і замёр, адчуваючы яе ўсім целам, але без ценю жадання.

— Якія ў вас цвёрдыя вусны, — сказала яна зноў амаль нячутна. — Дзіўна, хлопчыка, з якім я ўпершыню цалавалася, клікалі так, як і вас...

Віктару зрабілася няёмка. Ён заўважыў, што іншыя пасажыры цішком сочаць за імі, прыслухоўваюцца. А бабуся, гледзячы ў акно, завяла маналог пра сучасную моладзь, што зусім забылася на сорам. Калі б Галіна не саступіла ёй месца, яна б не дбала пра намёкі. Канечне, у тралейбусах бабуся не цалавалася. Іх тады папросту не было.

— Выходзім, ужо прыехалі, — шапнуў ёй на вуха, таксама амаль нячутна, і крануў вуснамі яе мочка з ледзь заўважнай дзірачкай для завушніцы.

— Як хутка... Памятаеце, калі мы ехалі з «размовак», вы выбеглі праз заднія дзверы і паспелі падаць мне руку. А я думала, што вы ззаду і падтрымаеце, калі я раптам праслізнуся. А вы былі наперадзе і не маглі б мне дапамагчы, калі б я ўпала...

— Вам давялося б падаць у мае абдымкі.

— Ах, Віктар... Далей не трэба... Да пабачэння... Не выкідайце маю галінку...

Як мне надакучылі ўсе гэтыя таямніцы, іншасказанні, алегорыі... «Не выкідайце галінку...» І пацалунак гэты...

Віктар з раздражненнем глядзеў ёй услед і нават радаваўся, калі яна, выбіраючы сушэйшае месца, ступала ў гразь. Абавязкова напрасткі, быццам бы нельга абысці. Канечне, гэта яе права — не заўважаць дарогі, нават спадарожнікаў, але хіба гэта так цяжка — крыху адступіць ад сваіх правіл і абысці.

А калі яна здагадваецца, што яму ўсё вядома, і толькі націскае на клавішы? Не, гэта сумна...

Адчужанасць і задуменнасць былі на яе твары, калі яна працягнула яму на развітанне руку, ад дотыку якой і прыйшоў да яго гэты ўсплёск раздражнення. Нават і зараз заставалася ад замаруджанага руху яе цёплай далоні нейкае непрыемнае адчуванне — непрыемнае чыста фізічна.

У гэтым яе дотыку бачылася яму нешта нячыстае — нешта ад пацалунку ў тралейбусе.

Віктар быццам спрасаваў і замарозіў тады гэтае нечаканае адчуванне грэблівасці, якое зараз адтала, узмацнілася і ўразіла неадпаведнасцю яго жаданням і словам.

Раздражненне было менавіта ад гэтай неадпаведнасці, ад гэтай супярэчнасці ў самім сабе. Ён раптам адчуў такую стому і абыякавасць, што нават спалохаўся — быццам іскрысты лёд радасці, які, нягледзячы ні на што, трымаў яго ўсе гэтыя дні, нечакана трэснуў пад ім, падмыты веснавой ракой. Гэты пацалунак у тралейбусе, як паваротка дарогі, адкрыў яму, што маста, на існаванне якога ён спадзяваўся, проста няма. Давядзецца, перамагаючы стому ад пройдзенага, марнаваць час і сілы на яго ўзвядзенне. А раптам ён не паспее да яе...

Віктар пашкадаваў, што ў іх нічога не атрымалася з Верай. Гэта шмат што спрасціла б. Ва ўсякім разе, не было б гэтай грэблівасці і раздражнення. Яны маглі б быць на роўных. Але ці змог бы ён?

Чаго ж ён хоча зараз ад яе?

Каб сказала?

Ён і так усё ведае.

Ён хоча пачуць ад яе самой? Хоча даверу? Але як ён даруе гэты давер, гэтыя словы, жорсткія і цяжкія, абыякавыя да яго і ягоных пачуццяў?

Ці мо ён хоча, каб, здзейсніўшы гэтую жорсткасць, яна вызваліла яго ад кахання, дала нагоду для яго жорсткасці?

Не толькі з-за маскіроўкі ён так часта ўзгадваў гэтую аднабокую таямніцу. Не толькі. Ён сапраўды хацеў пачуць ад яе самой. Хацеў. А ці змог бы?

Гэта спрасціла б сітуацыю?

Няхай.

Адарвала б ад сённяшняга калейдаскопа магчымасцей, хвалюючых, захапляльных варыянтаў.

Няхай.

Штурхнула б да нуднай прадказальнасці дзеяння і ўчынка.

Можа, ён хоча пэўнасці толькі з-за страху перад таямніцай будучыні, небяспечнай, як міна? Ён хоча засцерагчы сябе ад рызыкоўных варыянтаў?

Але можна сказаць, як разрадзіць міну і адкрыць, выратаваць сучаснасць. Усе застануцца жыць, а страх і хваляванне, перажытыя разам, толькі зробяць іх бліжэй.

Калі не кахае, усё неяк наладзіцца.

Віктар зірнуў на рагульку, якую трымаў у руцэ. Памарудзіў і паклаў у кішэню.

Галіна ўжо выйшла на сухое. Ідзе павольна, нахіліўшы галаву, быццам прыслухоўваецца да самой сябе. Вецер расхінае ёй футра.

Жорсткі веснавы вецер.

Шапачка робіць яе падобнай да блакітнага дзьмухаўца.

Галінка...

## ПАД АДНЫМ ДАЖДЖОМ

Яе глухі бясколерны голас:

— Я ўсё ведаю. Света мне ўсё сказала...

Ён трывожна і вінавата глядзеў ёй у вочы. Яны былі шырока расплюшчаны і бачылі нешта далёка за яго спінай, хоць твар быў павернуты да яго і словы былі для яго. Штосьці змянілася ў яе твары, і ён не адразу зразумеў, што менавіта. Ён пачуваўся нібыта драбнейшым — быццам вада ў рацэ спала пасля паводкі і сталі відаць палі і карчы. Глыбокае і сур'ёзнае, што ён заўсёды знаходзіў у яе твары і што заўжды па-новаму кранала яго, памутнела і здрабнела.

— Чаму вы не хочаце дастаць тое, што абяцалі?

«Не хочаце».

Здавалася, быццам маленькая дзяўчынка ўпершыню парэзала палец і нічога, апроч крыві з ранкі, не бачыць.

— Гэта ўжо не дапаможа.

— Я ведаю, што дапаможа.

— Можа, выйдзем пагаворым?

— Гэта будзе доўгая і нікому не патрэбная размова. Дзякуй вам за ўсё. Не трэба нічога даставаць. Бывайце!

Яна памкнулася пайсці.

— Нам трэба пагаварыць!

— Гэта вам трэба! — сляза абарвалася з вейкі, як першая кропля дажджу.

Галіна рэзка павярнулася і пабегла па лесвіцы, закрываючы твар рукамі.

Віктар выйшаў з бібліятэкі.

Заўважыў, што дзень сёння не толькі шэры, але яшчэ і слотны: падаў мяккі снег і адразу раставаў.

«Гэта вам трэба!»

Словы нечым крыўдзілі яго. Але слязінка, што вісела на яе вейцы, а пасля павольна паўзла па шчацэ, змыла і панесла з сабой гэтую крыўду, як рака падчас паводкі зносіць човен, пакінуты на беразе.

Яна быццам націснула выключальнік, і ў вушах яшчэ стаяў шчаўчок — «гэта вам трэба!» — а перад вачыма быў шэры, бязрадасна шэры дзень, без таго ўчарашняга, радаснага, святочнага адцення.

Дзень быў такі шэры, а неба такое цяжкае, што, здавалася, іншых дзён і іншага неба на гэтай панылай планеце і не бывае.

Таполі стаялі, нібы паднятыя рукі на партах, — нібы рукі, што не могуць сціснуцца ў кулак, таму што ім адсеклі пальцы.

Пульхная сняжынка апусцілася ў лужыну, адразу ўвабрала яе цемру і стала нябачнай. Тысячы сняжынак, не клапоцячыся пра сваю дакладную і цудоўную форму, абыякава падалі мяккімі таполевымі камячкамі і знікалі ў лужынах.

Пераход да вады быў непазбежны.

І не мела сэнсу дбаць пра непаўторнасць, адметнасць, прыгажосць... Снег на карнізе дома раставаў не так хутка і цягнуўся над падмуркам шэра-панурай рысай, быццам падкрэсліваючы нешта ў самім будынку ці ў жыцці ягоных насельнікаў. Што? Пра гэта ён так і не здагадаўся.

Ён набраў крышку снегу ў далонь і, адчуваючы, што гэта ўжо не снег, а так, халодная каша, зляпіў маленькую снежку, якая зрабілася маленькай ільдзінкай і прыемна халадзіла руку.

Ён ішоў павольна, хлюпаючы па лужынах, адчуваючы, як мокнуць ногі, як сёняшняе шэрае паветра пакідае сваю шэрасць і вільгаць у ягоным горле.

Ён ішоў без думак, без жаданняў, ледзь перасоўваючы ногі, адчуваючы такі цяжар ува ўсім целе, быццам, акрамя таго, што ён, як губка, увабраў у сябе ўсю гэтую вільгаць і слоту, яму яшчэ ўсперлі на плечы сённяшняе нізкае, свінцовае неба.

Лядзяш метадычна ўзлятаў і падаў на далонь, не паспяваючы як след нагрэцца і растаць канчаткова.

На гэтай планеце былі шэрыя дні.

Як пачвары, яны прыліпалі да вокнаў, і, як бы ты ні хаваўся, выцягвалі цябе вонкі і пагружалі, як у антызапальны раствор, у гэтае шэрае, непатрэбнае, але такое звыклае жыццё.

Дзівіліся дзеці, знаходзячы ў пыле бібліятэк аскепкі выцвілых вясёлак, — адтуль, дзе сонца?

«Што такое сонца?» — пыталіся дзеці.

«Як бы табе патлумачыць, сынок... У газетах пішуць, што яно падобна да вялікай лямпачкі, але, наогул-то, гэта тое, чаго ты ніколі не пабачыш...»

На гэтай планеце аддавалі перавагу смерці ад гарэлкі перад смерцю ад кахання. Дзеці не пыталіся, што гэта такое.

Ён апусціў руку, і лядзяш упаў.

— Вы штосьці згубілі, — ветліва засведчыў мінак, падазрона падобны да Мефістофеля.

Згубіў, згубіў...

Ён раптам заспяшаўся ў парк, далей ад людзей, далей ад іх вачэй, абыякавых і цікаўных.

Ён прабег па алеі ў самы глухі куток і абапёрся спінай аб дрэва, што яшчэ драмала пасля зімы. Пастаяў, апусціўшы галаву і гледзячы ў зямлю, у якой загрузлі ягоныя чаравікі.

Пасля падняў галаву да неба — цяжкага, нізкага. Яно ціснула на плечы, быццам заганяла ў зямлю, як лазовы кол, — каб напаіць яго сокамі зямлі і зрабіць дрэвам, ізноў дрэвам, якое струменіць да блакітнага і вечнага сваё часовае і зялёнае.

Ён не ведаў, чаму так ціснe на яго неба, ціснe, як штанга, калі раптам адмаўляюць ногі і разумееш, што самому не ўстаць, — калі так лёгка і проста скінуць гэты цяжар, гэтае неба, гэтае жыццё, калі так лёгка і соладка — не быць...

Згубіў, згубіў!

Пакацілася сляза.

Ён падумаў, што гэта кропля з дрэва.

Другая...

Слёзы заспяшаліся, як ручаінкі да ракі, абганяючы адна адну, зліваючыся ў струмені, — быццам гэта былі не слёзы, а першы веснавы дождж, што яшчэ нядаўна па-майстэрску маскіраваўся апошнім снегам.

Быццам адкрылася рака, ламаючы і зносячы ўсё тое, што стрымлівала яе — лёд усмешак, легкаважнасць слоў, упартасць жаданняў.

Якое вялікае тое, што іх раздзяляе, — якое вялікае ў параўнанні з тым, што ў іх ёсць. І як павялічваецца, становячыся цяжкім і шэрым, убіраючы ў сябе дробязі і стому будняў.

Ён рыдаў, як дзіця, у якога адабралі цацку.

Ён рыдаў, як хлопчык, якога падманулі дарослыя.

Ён рыдаў, як юнак, калі праўда, сутыкнуўшыся з маной, аказалася слабейшай.

Ён ні пра што не думаў, ён толькі плакаў, усхліпваючы, часам спрабуючы выціраць слёзы, але зноў саступаў ім, нямоглы і бязмоўны.

Усё, што сабралася за гэты тыдзень, усе нябачныя слязінкі, уся горыч і крыўда, уся безвыходная слота сённяшняга дня — усё гэта можна было толькі выплакаць.

І ён плакаў.

Спачатку збянтэжана і асцярожна — ён ужо забыў, як гэты бывае, — пасля плакаў на ўсю моц адчаю, рыдаў, адчуваючы, як пакута саступае месца здрадніцкай асалодзе і як з кожнай слязінкай робіцца лягчэй.

Якое дробнае тое, што іх аддзяляе, — якое дробнае ў параўнанні з тым, што ў іх можа быць...

Мы смяёмся, калі разлучаемся з мінулым, але развітваючыся з будучыняй — плачам.

У каханні гэта асабліва відавочна — развітанне з будучыняй і такім блізкім шчасцем, з яшчэ не народжанымі, але ўжо магчымымі дзецьмі, з цэлым светам, якому гатовы былі даць пачатак.

Толькі слёзы здольны змыць руіны нашых спадзяванняў і вызваліць месца для новых чаканняў.

Апошні тыдзень праляцеў без дакладнасці твараў і падзей.

Ён жыў — як імчаўся на ровары да каханай, скрозь сляпучае сонца і веснавыя пырскі.

Недакладнасць, няпэўнасць успрымання толькі падштурхоўвала яго радасць і ўзмацняла хваляванне.

Яснасць і цвярозасць, успрымаючы самі рэчы, пранікаючы ў іхнюю сутнасць, не прыносяць іх у ахвяру нашаму пачуццю, але падпарадкоўваюць гэтае пачуццё сабе, стрымліваючы, абмяжоўваючы і прасвятляючы яго.

Так стрымлівае і прасвятляе раку мароз, хаваючы яе ад сонца і неба.

І рака, як жанчына ў шпітальнай палаце, аналізуе ў зімовай цішы знаходкі і страты імклівай, няяснай, мінулай вясны.

І так, як і рака ўвесну, наша пачуццё, наша жаданне жыцця, узмоцненае каханнем, вычэрпвае зімовую яснасць і пэўнасць, вырываецца з берагоў, набываючы неспакойную імклівасць, шырокія веснавыя даляглядзы.

У гэтыя дні, як у чоўне без вёслаў, яго несла рака — каханне? жыццё? — і кружляла ў вірах, і кідала на льдзіны, і пераварочвала, і залівала бруднай вадой. І, боўтаючыся, хапаючыся за крохкія галіны надзей, патанаючы і зноў выплываючы на паверхню, ён жыў напоўніцу і ўсур'ёз.

Прадчуванне не паспявала атруціць падзею. Яна імгненна вырастала перад ім, захопліваючы і цалкам падпарадкоўваючы.

Ківач гэтага тыдня кідаў яго то ў блакітнае неба радасці, то на чорную зямлю пакут.

Жыццё так захапіла яго, так блізка прыцягнула да сябе, так глыбока зазірнула ў яго жаночымі вачыма, што нічога, акрамя свайго адлюстравання ў іх, — адлюстравання, якое сваёй нязвыкласцю бянтэжыла да слёз, — ён не бачыў.

У гэтыя імгненні, калі ён яшчэ ўздрыгваў ад рыданняў, сухіх, бясслёзных, прыйшло да яго адчуванне шчасця: спакою, цішыні, адчуванне невычарпальных магчымасцей быцця.

Жыццё... Ён раптам адчуў яго. Як праз тонкую тканіну — цела дзяўчыны, што прыхінулася да яго і мокне разам з ім пад адным дажджом, і нястомна, зноў і зноў, знаходзіць сваім гарачым ротам яго распухлыя вусны...

*Пераклад з рускай мовы*
***Вольгі БЛАЖЭВІЧ***

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Мужны душой Радзівіл на вялікае ўзрушыўся ў сэрцы;[1]
Слаўны геройствам сваім, ён адклаў меней значныя справы,
Скача на верным кані несупынна — начамі і днямі;
Бачыць — масковец цяпер занядбаў прапановы аб міры,
Чуе — узняўся ў душы незвычайны парыў ваяўнічы,
Хоць і заўважыў здалёк непрыяцельскі лагер шматлюдны,
Хутка наперад ляціць: грамадзянам прыйсці на ўспамогу;
План рызыкоўны рыхтуе; як тыгр у краі Прыкаспійскім —
Землях агрэсара — з нетраў Гірканскай пячоры на быдла
Спрытна выскоквае, — так Радзівіл на нападнікаў мчыцца...
Бач, прага славы пазней здабывае сабе ўзнагароду:
Храбрасцю ўласнай сваёй ён другіх падымае на бітву.
Быў тут і іншы герой — Мікалай Радзівіл ён таксама:
З добрай хвалою, прыгожая Вільня, табой ён кіруе.[2]
Годная вера яго здабыла між ліцвінаў вядомасць:
Вышняга Бога святыні ачысціў ад даўніх дзівосаў,
Бога пачаў шанаваць ён паводле чысцейшых традыцый;
Рыгу яшчэ далучыў ён да блізкіх суседзяў — ліцвінаў,
Згоду тваю атрымаўшы, о Готард, паводле дамовы.
Праўда, нябесны палац так заўчасна прыняў таго мужа:
Дзівіцца годна цяпер ён на вечныя шаты Алімпа.
Рухнулі воляю лёсу магутнага Полацка сцены,
Вояў нявопытных раць на крывавую бітву выходзіць,
Гэтым атрадам няма ніадкуль і ніякай падтрымкі.
Высілкі й клопат твае — без патрэбы цяпер, Радзівіле!
Мужна ты шабляй сваёю грабежнікаў войска спыняеш,
Ворагаў косіш, ваяр, накладаеш вялікія стосы,
Сееш у сэрцы ім страх, праганяеш пачуцці бяспекі,
Прагнеш іх выгнаць адтуль, хоць з няроўнаю сілай? Дарэмна!
Бог найвышэйшы цяпер абуджае маскоўцаў на бітву.

---

[*] *Працяг. Пачатак Кнігі другой у № 6, 7, 8, 2011 г.*

[1] Глоса: «Радзівіл спрабуе вызваліць Полацк з-пад аблогі».

[2] Глоса: «Мікалай Радзівіл, сын Яна, князь у Алыцы і Нясвіжы, ваявода Віленскі і г. д.; стрыечны брат Мікалая Георгіевіча Радзівіла, найлітасцівейшы валадар».

Ворагаў крыкі вакол пад мурамі чуваць несупынна:[1]
Тут супачыну няма ад вайны — аніводнай гадзіны;
Час для турботаў цяпер, для ліхіх ды гаротных нападаў.
Гучна грукочуць гарматы, ды крэпасць аж стогне, — навокал
Гінуць усе, і няма болей сілы трываць у навале.
Гору канца не відно — ці святло абуджаецца ў небе,
Феб над Атлантыкай промні свае распускае, ці вечар,
Сонца заходзіць, і ноч дню працягам належным стаецца...
Толькі трывожны там сон: небяспека яго праганяе.
Шэсцьдзесят дзён і начэй, па падліках, трывала аблога:
Зброя адно бразгатала, чыніліся жахі наўкола.
Ворагі бачаць, што ўсё надарма — дык агонь закідаюць
Проста на вежы ўгару з дапамогаю дымных асмолкаў. [2]
Крэпасць палае агнём, што падступна закінуты знізу.
Гэты агонь не стрымаць і вадою паліць немагчыма.
Зверху апалены мур: там, дзе дым вельмі густа клубіцца,
Хутка ўзнікае агонь, загараецца ўсё вокамгненна.
Свішчуць балісты кругом, пагражаючы смерцю паўсюдна.
Тут Галубіцкі з’яўляецца ў цэнтры — адважны, магутны,[3]
Поўнае мужнасці сэрца, а пот струмяніцца па твары:
Ён спадзяваўся вадой затушыць той агонь — ды дарэмна!
Побач лунае бязбожная смерць над яго галавою,
Ён жа да марсавых бітваў усіх палымяна ўздымае,
Многіх натхняе, дый сам ён да цэлага войска падобны,
Кліча адважных сяброў даць адпор маскавітам драпежным.
Раптам ліхое ядро вылятае з гарматы ды бурыць
Мур высачэзны, і ён распадаецца ўшчэнт на кавалкі;
З іх адарваўся адзін — быццам кол велізарны — і смерцю
Стаўся табе аднаму, так, табе аднаму, Галубіцкі![4]
Моцнай віхурай удара ён грудзі твае прабівае,
Потым трапляе яшчэ і смяротную рану наносіць
Проста ў чало юнаку — вунь мазгі яго пырснулі, жудасць!..
Ты, каго моцная рацы не адолела зброяй магутнай,
Хто не схіліў галавы перад войскам адборным маскоўцаў, —
Падаеш мёртвы, з нутра выпускаеш крывавыя рэкі.
Гора! Канаючы там, на пясок неўрадлівы зваліўся,
Быў жа ён варты таго, каб пражыць і шчасліва, і доўга,
Варты... Аднак жа здабыў ён адно пасмяротную славу.
Шчасны ты ўсё ж, бо цяпер сваёй смерцю пагібель Айчыны
Ты апярэдзіў — няхай не закрыла вачэй тваіх маці,
Хай у вялікім тым горадзе склаў свае косці... Ты стаўся
Песняю німфаў лясных ды празрыстай вадою Рубона,
Ціхім журчаннем крыніцы ды спевам вільготных струменняў.
Моцна смуткуюць сябры, і паплечнікі ў горкім адчаі,
Поўніцца стогнамі крэпасць, усіх ахапіла трывога.

---

[1] Глоса: «Масковец не дае ніякай перадышкі для абароны».

[2] Глоса: «Загараецца полацкая крэпасць».

[3] Глоса: «Галубіцкі, наймагутнейшы камадзір». Звесткі пра ротмістра Грыгорыя Галубіцкага прыводзіць таксама Мацей Стрыйкоўскі.

[4] Глоса: «Галубіцкага забіваюць».

Раіць Глябовіч усім непахісна трымаць абарону,
Покуль трывае надзея ды сілы яшчэ засталіся;
Мужны Вярхлінскі гатовы памерці, баронячы браму, —
Толькі, аднак, ваявода Давойна ды архіепіскап
Страхам ахоплены моцным...[1] І вось пры спагаднасці Марса
Раптам з’явіўся Іван, і, не даўшы апомніцца людзям,
Люты і ноччу, і днём, адчыніць яму браму прымусіў.
Вось на ўзбярэжжы Дзвіны раздаюцца гаротныя крыкі,
Лямант няшчасных людзей, што свае пакідаюць пенаты.
З Полацка першымі шляхту і годных магнатаў выводзяць,
Потым — другіх грамадзян: дваццаць тысяч ідуць у няволю.
Скарбы бацькоў і дзядоў ненажэрны захопнік выносіць:
Золата — зліткі, аздобы, ды золата з Боскіх святыняў —
З тымі, хто скарбам валодаў, вывозіцца ў землі маскоўцаў.
Вунь сярод іх — і Глябовіч:[2] магутны ды знешне прывабны,
З тысяч і тысяч палонных ён постаццю годнай адметны,
Моцна яму кайданы акавалі магутныя рукі.
Вось да варожых зямель набліжаецца ён, а вачыма
Хоча акінуць раз-пораз узгоркі любімай Айчыны;
Так усклікае: «Бывай, родны краю! Бывайце, ліцвіны!
(Можа, навечна — хто скажа?) Цяпер не жадаю шукаць я,
Хто ў вераломстве адказны — бяру сабе Бога за сведку.
Дбаю адно пра Айчыну, а вораг мяне не турбуе:
Здрадзіў ён веры; мяне ж спакушэнне маскоўца не звабіць,
Ма́ю пагарду ў душы я цяпер да ліхога тырана:
Будзе благі твой фінал, найлюцейшы з усіх валадарцаў!
Ты не адолеў мяне ў лютай бітве на полацкіх землях,
Зброяй жалезнай не змог ты душу маю выцягнуць з цела!
З грукатам шлемы мужоў пакаціліся скрозь па каменні.
Што ж засталося? Выявы пачварных відовішчаў Марса:
Гінуць гаротна бацькі, не аплакаўшы дзетак забітых.
Мне б не маскоўца-пыхліўца, не плён яго зверстваў пабачыць
(Чулі пра гэта даўно), а таварышаў радасных твары!»
Мовячы гэтак, вачэй не адводзіў ад роднай старонкі
Мужны Глябовіч, пакуль вершаліны спрадвечнага лесу
З віду нарэшце не скрылі зямлі дарагой краявідаў.
Што ты смяешся, масковец? Фартуна — табе на пагібель:[3]
Марная тая багіня табе пасміхнулася ветла,
Толькі каб гібель прыспешыць ды зрынуць цябе з вершаліны;
Хутка ўздымае яна, але той жа рукою скідае.
Цешышся ты, што цяпер апаганіў свяшчэнную веру?
Час твой праб’е, пачакай! Тых здабыткаў, што сёння ты зрокся,
Прагнуць пачнеш: моцны мір быў табе дараваны дамовай.
Рату вялікую ты за пажарышчы Полацка сплоціш!
Новым парадкам, аднак, свой перыяд праўлення засведчыць

[1] Глоса: «Давойна і епіскап горада [Полацка] грэчаскай веры здаюць крэпасць».
[2] Глоса: «Яна Глябовіча, захопленага ў палон, вядуць у горад Маскву».
[3] Глоса: «Фартуна — як шкло: ззяючы, разбіваецца».

Хрыстастафан[1]-валадар — пераможца, вялікі Баторый.
Сонца, змяніўшы свой шлях, залатую народзіць эпоху,
Час гэты ўзновіць цяпер залатыя традыцыі продкаў, —
Значыць, шчаслівыя дні будуць дадзены лёсам нарэшце.
Хутка, як прыме кароль пад уладу краіну ліцвінаў, —
Скончыць гаротныя справы, трафеі здабудзе ды верне
Шмат гарадоў, паланёных маскоўцам, найперш — Боскі Полацк!
З ім, пераможцам, цяпер і Сарматыя страх свой пазбудзе.
Ты ж пакаранне сваё панясеш ад таго Радзівіла,
Дый па заслугах!.. З табой загалосіць Масковія разам.
ГЛЯНЬ, вунь сама Алектó[2] на злачынныя ловы выходзіць,
Чорнай атрутаю фурый нутро насычае нястомна.
Гэтай пачвары халоднага Стыкса ды сучцы пякельнай
Ліха спрадвек не бракуе, смуродам паўсюль патыхае
Жудасны монстр, абазнаны ў ваенных злачынствах ды бедах,
Гадзіна прыкрая, гідры яе атачаюць наўкола,
Змеяў гаргонскіх клубок галаву ёй ачольвае брыдка,
Цалкам пакрыта ўся ахеронтавай цемрай стыгійскай,
Можа прымаць, тым не менш, разнастайныя формы, аблiччы;
Тысячу розных грахоў ды злачынстваў, мо, сто тысяч знае,
Тысячу розных нагодаў да ліха... Хутчэй за маланку
Можа праз горы ляцець, ненавісная небу і людзям.
Вось пакідае пячоры пякельнага волата цемры,
Шлях, не асветлены месяцам, край, не асветлены сонцам,
Шпаркая, быццам драпежная птушка або навальніца, —
Мчыцца ў шматлікія землі, рыхтуючы час на злачынствы,
Поіць атрутай сваёй, пазіраючы зверху з пагардай.
Чыстым паветрам ляціць, прамінае лясы і мурогі...
Вось дасягае злавесная птушка маскоўскіх мядзведзіц,
Шумна стракоча, сядае на макаўцы стромкай Кітая[3],
Тройчы кругом аблятае харомы да самага неба,
Крэпасць, што поўніцца страхам, ды сее атрутныя думкі.
Так заляцела яна да пакояў тырана маскоўцаў,
Кінула шчупальцам брыдкім у самае сэрца Івана
(Ён жа не толькі вайной, а й турботай даўно прыцiскаўся)
Змея ліхога, і той, віючыся па членах, нарэшце
Стаўся вянцом залатым, што калісьці сцягнуў Уладзімір
З ворага, важны трафей гэткім чынам удала здабыўшы[4].
Гэты пачварны вянец стаўся знакам вышэйшай улады,
Годнасць маскоўскіх цароў ён сабою цяпер увасобіў.
Фурыя ў душы пранікла, фармуе пякельны лад думак,

---

[1] Хрыстастафан («памазанік Стэфан») — каламбурнае ўтварэнне на аснове імя караля Стэфана Баторыя. Глоса: «Стэфан Баторый — прызначаны лёсам правадыр у маскоўскай вайне».

[2] Алекто — імя адной з эрыній, багінь звады ў грэчаскай міфалогіі; у тэксце «Радзівіліяды» атаясамліваецца таксама з фурыяй і служыць метафарычным пазначэннем пякельнай істоты наогул. Глоса: «Сатана падбухторвае Івана на вайну; паэтычнае апісанне сатаны».

[3] ...на макаўцы стромкай Кітая — маецца на ўвазе Кітай-горад, гістарычны раён Масквы ўнутры крапаснога мура, пабудаванага ў 1538 г.

[4] Глоса: «Вянец, зняты Уладзімірам Манамахам з [галавы] грэка, які запрасіў [князя ў госці], а той напаў на яго з вайной».

Людзям распальвае сэрцы нянавісцю, кепскай парадай:
«Гэй, палюбіце вайну, даставайце мячы свае з похваў,
Хай жа на многа гадоў запануе тут гнеў, каб імкнуўся
Цэлы народ да вайны, каб ставала нянавісці, здрады,
Зброя няхай зазвініць, хай са зброяй сыходзяцца войскі...»;
Шэпча, каб зброю сам князь уздымаў на сваіх жа падданых,
Нават каб сына свайго загубіў ён бацькоўскай рукою[1];
Хоча, каб цёплай крывёй яго дом быў штодзённа заліты,
Раіць здабыць перамогу праз тысячу розных злачынстваў.
Фурыя гэтак натхняла, з усіх намаганняў пачварных
Гнеў распаляла і злобу, ды прагу вайны абуджала.
Марсавы шалы пануюць у сэрцы Івана: да войнаў
Вельмі ахвочы і хуткі, ён войнамі поўніць сядзібы;
Спаць перастаў, ды адно ўсё забойствамі, бітвамі трызніць,
Дыхае цяжка, як звер, з акрываўленай шабляй гуляе,
Проста дзічэе з аблічча, як мусіць марудзіць з вайною.
Быццам умбрыйскі сабака — дзівілася й світа Дыяны
З нюху яго, як ён чуе ваўка, вынішчальніка статка;
Бачыць здалёку, як дзік стаў і чухае бок аб стваліну;
Хоць і ў ашыйніку псіна, яго павадок не ўтрымае:
Раптам напружыцца ўвесь, ды на звера, які замарудзіў,
Мчыць, толькі вушы мільгаюць — даўно ўжо адстаў паляўнічы;
Шчэрацца зубы, якія ажно раздзіраюць паветра,
Робіць нарэшце рывок і нясецца па полі стралою,
Аж распластаўся па ім; поўніць брэхам спрадвечную пушчу,
Рэхам шматстайным тады адгукаецца ўсё наваколле, —
Так, не іначай, і князь той маскоўскі ў вайну апантана
Кінуўся, песцячы злобу, узрушаны фурыяй лютай.
Розум, няшчасны, згубіў: рыхтаваў для Сарматыі згубу,
Думаў яе пахаваць і нанесці паразу Ліцвіну.
Хоць пераконваў яго ход жахлівых падзей, што не варта
Войнаў клубок распускаць, неаднойчы Айцец Усявышні
Шмат прадказанняў ды знакаў даваў на зямлі і на небе,[2] —
Дзе там! — ён дыхаў вайной, і, насуперак волі нябёсаў,
Цар вычварэнствамі жыў, быў чумой для сваіх жа падданых.
Плёткамі ў сэрцах людзей замяняў ён спакой на нянавісць;
Бляск сатанінскі ўваччу: ён глядзеў на вялізнае войска.
Зброю нясе смертаносны натоўп: там атрады пяхоты
Цягнуцца доўгай чаргой ды плююцца свінцом з многіх ружжаў;
Мноства вайскоўцаў з кароткімі дзідамі крочаць паспешна,
Вунь — лёгкаўзброеных раць, калчаном апярэзана цела,
Вогненны след па палях пакідаюць яны без разбору.
З іншага боку кагорта шчытамі ды дзідамі ззяе;
Вершнікі пыл уздымаюць, змушаюць зямлю здрыгануцца.

***Пераклад з лацінскай***
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

[1] Глоса: «Іван забівае старэйшага сына».

[2] Глоса: «Бог змяняе яго фартуну, разбурае планы».

Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

*Раман-казка*

ЧАСТКА 2

## ЧОРНА-БЕЛАЯ БЛЫТАНІНА

Глава 18

### МІШКА ЎСПАМІНАЕ СЯБЕ

* * *

Мішка ачуўся ў кабінеце англійскай мовы. Рукі і ногі ў яго былі вольныя, але рухаліся з вялікай цяжкасцю. Галава ж гула так, што нават трошкі павярнуць яе ўбок было цяжка. Таму першыя некалькі хвілін Мішка проста сядзеў, спрабуючы згадаць, што адбылося.

Успомніў і рвануўся да дзвярэй. Ногі падкасіліся і ён зноў паваліўся.

— Люба! Яе забілі! — пракрычаў ён у падлогу.

І пачуў спакойнае:

— Ноў.

Мішка ўздрыгнуў і азірнуўся. На настаўніцкім стале сядзела Ганна Паўлаўна — настаўніца англійскай мовы. Дакладней, вядома ж, не сама настаўніца, а Кабінетавік у яе абліччы.

— Люба жывая? — запытаў Мішка.

— Йес.

— А я? — прамовіў ён.

— А ты ў палоне.

— У цябе? Даруйце, у вас?

Мішка з цяжкасцю сеў.

— У Перуна. Ты тут пад аховай гэтых… — Кабінетавік кіўнуў убок дзвярэй.

— А ты?

— А што я? — абурылася настаўніца. — Гэта мой кабінет.

— А ахоўнікаў шмат? — сцепануўся Мішка.

— Дастаткова, — адрэзала Ганна Паўлаўна.

Мішка замучана агледзеўся.

— І што яны будуць са мною рабіць? — спытаў ён.

— Вартаваць! — паведаміла суровая настаўніца англійскай мовы.

Мішка яшчэ раз паімкнуўся да дзвярэй, але зразумеў, што ногі яго па-ранейшаму не трымаюць, да дзвярэй давядзецца паўзці. Акрамя таго, яму пачало здавацца, што з усіх шчылін на яго глядзіць і спрабуе дацягнуцца разнастайная «нечысць».

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 г. г.

— Я баязлівец, — злосна сказаў Мішка. — Я ўсіх баюся. Не толькі Перуна, але нават вас…

— Ах, Беркін, Беркін, — пакруціла галавой маленькая Ганна Паўлаўна. — Тое, што ты сёння зрабіў…

— Спрабаваў зрабіць! — буркнуў Мішка.

— Не спрачайся! Ты ж Бер…

Мішка здзіўлена зірнуў на настаўніцу — чаго гэта яна раптам дражніцца пачала? Тая ўсміхнулася:

— Ну-тка, як па-англійску будзе «мядзведзь»?

Ён напружыўся і выціснуў з сябе бляянне барана:

— Бэаэ!

— Ну і вымаўленне… А як ты гэтае слова ўпершыню на ўроку прачытаў?

— «Беар».

— Нічога не нагадвае?

Мішка насупіўся:

— Маё прозвішча. І што?

— А тое, што ва ўсіх еўрапейскіх мовах гэтую жывёліну завуць «бер», а ва ўсходнеславянскіх — «мядзведзь». Не прыгадваеш чаму?

Цяпер Мішка глядзеў на маленькую англічанку са здзіўленнем. Ён, вядома ж, не заўжды ўважліва слухаў яе на ўроках, але пра ўсходнеславянскіх мядзведзяў яна дакладна нічога не расказвала.

— Ах, сапраўды, — спахапілася настаўніца. — Ты ж напэўна не памятаеш…

Кабінетная англічанка зморшчыла лоб, як яна заўжды рабіла, калі заўважала прабелы ў ведах вучняў. І выйшла з сітуацыі гэтак жа, як звычайна.

— Давядзецца тое-сёе паўтарыць!

Мішка нават у сваім цяперашнім становішчы не змог стрымаць уздыху раздражнення. Англійскую мову ён ненавідзеў лютай нянавісцю. Але Ганна Паўлаўна ўжо працягвала яму навушнікі (адкуль толькі дастала? З паветра, ці што?). Мішка пакорліва надзеў іх…

…І не пачуў звычайных слоў «Minsk is the capital…» Ён увогуле нічога не пачуў.

Затое шмат што ўспомніў.

Ён — ці яго далёкі продак — быў калісьці дужым і магутным чалавекам. Чалавекам? Ды не… не зусім. Ён быў Берам, абаронцам вялікіх калматых звяроў, цароў леса, якіх таксама называлі берамі. Былі і іншыя абаронцы-заступнікі. Дамавікі ахоўвалі дамы, ёўневікі — ёўні, лесавікі — лес, вадзянікі — рэчкі, балотнікі — балоты. Людзі іх пабойваліся, але дарэмна. Калі абаронцу своечасова задобрыць, пахваліць добрым словам, паднесці яму што-небудзь смачненькае — ці ж той будзе шкодзіць? Хіба што з гарэзлівасці…

Бер, напрыклад, за некалькі пчаліных сотаў ці берасцянку маліны мог на тыдзень забяспечыць добрае паляванне ў сваіх угоддзях — хіба шкада для добрага чалавека?!

А потым з’явіліся іншыя «абаронцы», якім мала было апекаваць дом ці гай. Ім патрэбен быў увесь свет. Яны хутка збіліся ў два гурты. Адны назвалі сябе белымі, таму што лепей бачылі і аддавалі перавагу дню, другія — з добрым нюхам і вострым слыхам — любілі рабіць засады ноччу, таму і прынялі назву чорных. Калі б гэтыя гурты проста ваявалі паміж сабою, гэта яшчэ б паўбяды, але чорныя і белыя патрабавалі, каб людзі станавіліся на той ці іншы бок і дапамагалі перамагчы саперніка. А хто адмаўляўся — каралі маланкай, пажарам, хваробай, няўдачаю.

Старыя абаронцы спрабавалі абурацца і заступацца за людзей, але тут жа атрымалі і з белага боку, і з чорнага. Атрымалі — і замоўклі. Толькі Бер працягваў патрабаваць ад новых «гаспадароў» павагі да людзей. Ён быў вельмі дужы, цэлае ж войска бераў па ягоным загадзе магло ўзняцца за яго спінаю.

І тады чорныя і белыя — ледзьве неаднойчы ў сваёй гісторыі — аб’ядналіся супраць непаслухмянага Бера. Яны адабралі ў грозных звяроў іх ранейшае імя і далі ім іншае, здзеклівае — «мядзведзі», «тыя, што распараджаюцца мёдам». Калі раніцай сумесныя сілы чорных і белых напалі на Бера, той дарэмна клікаў на дапамогу. У цёплых бярлогах — «беравых логавах» — ніводзін звер не пачуў покліч свайго гаспадара.

Бер змог тады ўцячы. І жыў уцекачом яшчэ шмат гадоў. Ранейшыя сябры — дамавікі і балотнікі — баяліся яго прымаць. Новыя багі, працягваючы змагацца між сабою, палявалі на Бера. І вельмі хутка ён сам пачаў усіх баяцца: і дамавікоў, і русалак, і чорных, і белых. Доўгімі зімамі ён зрэдку яшчэ блукае па лесе, адшуквае бярлогу і шэпча на вуха зверу, што моцна спіць: «Уставай, бер! Уставай! Адпомсці за гаспадара!» Часам яму гэта ўдаецца — звер прачынаецца і пачынае рыскаць па наваколлі, галодны і злосны, не разумеючы ўвогуле, хто і навошта яго пабудзіў. Людзі баяцца такога звера, але ніхто не называе яго «берам», а называюць «мядзведзь-бадзяга»…

* * *

І тут Антона асяніла.

— На дубе! Над дуплом! — ён тыцнуў у руну, падпісаную «Чарнабог». — Я яшчэ зразумець не мог, што гэта такое на цвіку вісіць і што яно мне нагадвае. А гэта руна!

— Яе перавярнуць можна? — прагна пацікавіўся Сеўка.

— Ды, як быццам… Але! Яна адным цвіком прыбіта!

Маша ў сваю чаргу не губляла часу, паспешліва штосьці шукала ў энцыклапедыі.

— Вось! — радасна сказала яна. — «У супрацьлегласць руне “Мір”, руна “Чарнабог” уяўляе сабою сілы, якія штурхаюць свет да Хаосу». А руна «Мір», «цэнтраімклівыя сілы, якія рухаюць Свет да Парадку», — гэта перавернуты «Чарнабог».

— У нашым выпадку, — паправіў яе Сеўка, — наадварот: «Чарнабог» — перавернуты «Мір». Напэўна, «Мір» на дубе ўвесь час вісеў, а ад нашага выбуху перавярнуўся. Гэтак і ёсць! Энергія выбуху, відаць, пайшла на пераварочванне руны!

— Але выбуху ж не было… — нагадала Лёля.

— Таму і не было! — Сеўка проста свяціўся, як заўжды пры вырашэнні складанай праблемы. — Я ж кажу, уся энергія пайшла на пераварочванне руны!

— Вось яно! Руна «Чарнабог» азначае прарыў магічнага кола, — прачытала Маша.

Цяпер Сеўка з Машаю выглядалі не проста задаволенымі, а вельмі шчаслівымі. Яны не толькі ўсё расшыфравалі, але і зразумелі, што ж такое імі расшыфравана.

— Значыцца, — удакладніў Антон, — трэба проста перавярнуць гэтую дзеравяку? І ўсё вернецца, як было?

— Ага, — пацвердзіў Сеўка, — дарэчы, дзякуй табе, Антоха!

Сева кіўнуў на паперкі.

— Мы паўночы над імі біліся, а яны ўсё ніяк не склад…

І раптам ён змоўк на паўслове. Маша, пазіраючы на яго, таксама перастала ўсміхацца.

— Нешта не гэтак? — Лёля раптам выйшла са свайго паўнепрытомнага стану.

— Не разумею, — задумліва адказаў Сеўка, беручы ў рукі літару «Т». — Не было ў нас ноччу ніякай «Т». Так, Машка?

— Не было, — трывожна адказала Маша. — Была гэтая… «Б»… Любіна руна… Такая… з дзвюма палачкамі.

І Маша паказала ў кнізе на гэтую руну.

— Значыцца, — неяк асуджана ўдакладніла Лёля, — Любіна руна памянялася на «Т»?

Сеўка і Маша кіўнулі. Лёля схапіла паперку з «Т», перавярнула яе і ўтаропілася на Любіну руну.

— Гэта «Трэба», — зараз жа вычытала Маша, — «ахвярапрынашэнне, без якога на Дарозе немагчыма ажыццявіць намеры»…

— Ахвярапрынашэнне! — з адчаем перапыніла яе Лёля і закрыла твар рукамі.

Усе прыціхлі і глядзелі толькі на Лёлю.

— Лёля? — ціха запытаў Антон. — Лёль, ты нешта ведаеш? Лёля, раскажы нам…

— Яна сказала, — выціснула з сябе Лёля, — што сама ведае, як разабрацца з праблемаю…

— З якой праблемаю? — лісліва перапытаў Антоха, адводзячы Лёліны рукі ад твару. — Лёля, скажы мне, калі ласка…

— Я хацела сказаць адразу, — прашаптала Лёля.

— Кажы зараз, — папрасіў Антон.

— Я проста баялася…

— Не трэба баяцца…

— Я думала, так будзе лепш…

— Не.

— Яна мне забараніла.

— А я дазваляю.

— Я проста падумала…

— Лёля! — гаркнуў Антон. — Кажы зараз жа, жартачкі скончыліся!

— Пярун…

— Што?!

— Мы павінны прынесці яму чалавечую ахвяру, — Лёля разрыдалася.

— А Люба? — машынальна запытаўся Антон, але ўжо скеміў. — І ты маўчала? — закрычаў ён.

— Яна сказала, што ведае, што рабіць, — усхліпнула Лёля.

— Ааа! — Антон грымнуў кулаком па сцяне.

За імгненне пастараўся ўзяць сябе ў рукі і азірнуўся на астатніх.

— У нас праблема, — сказаў ён зрывістым голасам, — нам трэба ратаваць Любу. Дзе Мішка?

— Мішкі даўно тут няма, — ціха паведаміла Маша, — ён кудысьці пайшоў.

— У нас дзве праблемы, — змрочна сказаў Антоха.

* * *

— Дык значыцца я — Бер, — Мішка зняў навушнікі, падняўся і страсянуў галавой.

Яго яшчэ трошкі хістала, але на нагах ён ужо стаяў цвёрда.

— Гэтак і ёсць, — адказала копія англічанкі і трошкі адсунулася ад яго.

Мішка хацеў сказаць пра многае — пра багоў, пра Чорных і Белых, пра палахлівых дамавікоў — але замест гэтага нечакана для сябе зароў. Ён і не падазраваў, што

ўмее гэтак раўці — раз'юшана і шматабяцаюча. Усё мацней і мацней. І ўсё больш і больш шматабяцаюча.

Калі паветра (а разам з ім і рык) скончылася, Ганна Паўлаўна выглянула з-за крэсла, за якім, аказваецца, хавалася, і запытала:

— Усё?

— Пакуль так! — сказаў Мішка і рушыў да дзвярэй.

Там яго павінны былі чакаць нейкія вартаўнікі — і гэта было дарэчы, таму што Беру вельмі хацелася проста зараз жа надаваць хоць пад якія-небудзь бакі. Але за дзвярыма было пуста, толькі белая булава сіратліва валялася пасярод калідора.

— Збеглі! — пракаменціраваў голас Кладавіка.

— Я таксама збег бы, — азваўся голас дырэктарскага Кабінетавіка, — калі б на мяне… вось гэтак…

Мішка павёў галавою, вышукваючы тых, каго чуў. Абмеркаванне адразу сціхнула.

— Вылазьце! — загадаў Бер. — Пойдзем тлумачыць усялякім, што да чаго, а то зусім сталі нахабнымі!

З-за батарэй, плінтусаў, прыадчыненых дзвярэй асцярожна павысоўваліся твары кабінетавікаў.

— А пераможам? — з апаскаю запытаўся Сталавік. — Яны таго… воіны!

— А вы — у сваім доме! — адказаў Мішка, сціскаючы кулакі. — Хто адолее дамавіка ў яго хаце?

Гэта былі правільныя словы. Па калідоры пракацілася пахвальнае:

— І то праўда… Наш дом — нам і вырашаць… А то, бач, ты на іх!..

Маленькіх постацей у полі зроку дадалося. Мішка памахаў рукамі, размінаючыся.

— Малайцом! — ухваліў Залавік. — Табе яшчэ б сякеру — быў бы Берсерк, Бер з сякераю!

— І так саўладаем! — адрэзаў Мішка. — За мною!

Ён сунуўся было на дах, але Ганна Паўлаўна тузанула яго за калашыну:

— Яна ў басейне, Берагінечка наша!

— Хто? — не зразумеў Мішка.

— Люба!

Мішка хутка скіраваўся ўбок басейна. На хаду ўспаміналася, як ён выцягваў адтуль першую руну, як туляўся па кутках ад дамавікоў. А цяпер дамавікі ішлі за ім, як за ваяводам. Таму што цяпер ён стаў Берам. Дакладней, успомніў, што ён Бер.

Ужо на ўваходзе ў басейн на ім павісла маленькая Ганна Паўлаўна:

— Не хадзі туды, маладым людзям туды хадзіць не трэба…

Мішка скінуў яе з рукава, і, не збаўляючы хуткасці, уварваўся ў памяшканне.

## Глава 19
## БЕР І БЕРАГІНЯ

Басейн быў запоўнены. У ім мігцела чыстая, празрыстая вада. Яна нібыта свяцілася з сярэдзіны. Мішка, які быў упэўнены ў тым, што зараз пабачыць звязаную Любу ці Любу, якую катуюць, так разагнаўся, што спыніўся толькі каля самага краю басейна. Агледзеўся. Прынюхаўся.

Пахла спакоем. Пахла поўным супакаеннем. Вясновым лісцем і ранішняй свежасцю. Першымі кветкамі, пратал інамі, яркім сонцам у бязвоблачным, асляпляльна

блакітным небе, пупышкамі, якія толькі што лопнулі, свежым бярозавым сокам і яшчэ чымсьці незразумелым, але такім дзівосным… Ад гэтага паху хацелася бегчы, несціся, скакаць, плысці, крычаць, здзяйсняць подзвігі. Хацелася смяяцца, танцаваць і крычаць адначасова…

Мішка агледзеўся, усміхнуўся да вушэй, выпрастаў плечы і ціхенька гукнуў:

— Люба… Люба, ты тут?

— Ідзі адсюль… — пачуўся ціхі шэпт з другога боку басейна.

— Я не пайду без яе! — крыкнуў Бер, які імгненна прачнуўся ў Мішку.

І ціхі шэпт у адказ:

— Я загублю цябе…

— Ды я сам каго хочаш загублю! — раўнуў Мішка.

— Гэта я — Люба. Са мною ўсё добра, ідзі… — прашапталі з вады.

Мішку гэтае «ідзі» закранула болей, чым якія пагрозы.

— Не! — насупіўся ён. — Я не пайду пакуль… пакуль не пабачу цябе.

Сказаў і зразумеў, што сапраўды не пойдзе. Урасце тут у кафлю, як помнік, але не сыдзе з гэтага месца. З вады данёсся ціхі ўздых.

— Адыдзі далей, — папрасіў яго ціхі голас. — Не пакажуся, пакуль не адыдзеш.

Мішка некалькі імгненняў пастаяў, потым вырашыў, што можна і адысці, у крайнім выпадку ён хутка падбяжыць ізноў. Ён зрабіў крок назад. Потым яшчэ. І яшчэ. І толькі калі ён плячамі ўпёрся ў сценку, паверхня вады закалыхалася, і ў сярэдзіне басейна з'явілася Любіна галава.

— Пабачыў? — хрыпла спытала яна. — Ідзі адсюль!

І толькі Мішка збіраўся пакрыўдзіцца, як у светлавой пляме, якая немаведама адкуль узялася, бліснулі Любіны валасы.

— Мммм, — прамыкаў Мішка і асеў на падлогу.

Люба на неверагоднай хуткасці падплыла да борта.

— Міш! Мішка! Што з табою? Ты…

І рэхам па басейне разляцеўся крык адчаю.

— Я ж казала, ідзі…

А Мішка сядзеў і глядзеў, як па Любіных валасах сцякае вада, і разумеў, што гэта — самае цудоўнае з усяго, што ён бачыў у жыцці.

* * *

Калі Антон угледзеў натоўп дамавікоў, якія несліся проста на яго, першае жаданне было — збегчы і схавацца. Гэта ён лёгка заглушыў у сабе, таму што ўжо прывык быць важаком. А збягаць і хавацца важакам не да твару.

— Там Мішка… Берагіня… Трэба ратаваць… Хадземце ж!

З дзясятак маленькіх чалавечкаў пачалі цягнуць яго за рукі, за ногі, за штаны, а нехта нават залез на плечы і крычаў проста ў вуха.

Антон зараз жа адчуў сябе Гуліверам і разгубіўся. З разгубленага стану яго вывеў рэзкі вокрык Ніны Канстанцінаўны.

— Ёлупні! Куды вы яго цягнеце! Там жа Бе-ра-гі-ня!

Дамавікі тут жа злезлі з Антона і накінуліся на Лёлю і Машу.

— Пойдземце… Хутчэй… Будзе позна…

Дзяўчынкі пабеглі, дакладней, іх пацягнулі за сабой. Антоха з Сеўкам некалькі хвілін вытрэшчваліся адзін на аднаго, а потым кінуліся следам.

* * *

— Люба, ты такая прыгожая…

На Любіным твары адбіўся адчай.

— Міша, яшчэ трошкі — і будзе позна… — штосьці змянілася ў Любіным голасе.

Але Мішка нічога не заўважыў. Ён увогуле нічога не заўважаў, акрамя агромністых, як неба, вачэй і валасоў, якія быццам свяціліся і пакалыхваліся ў такт хвалям. А можа быць, і самі былі хвалямі? Зараз Мішку ўжо нішто б не здзівіла.

— Ты… ты… — Мішка пакутліва падбіраў словы, але ніводнае з іх не падыходзіла, каб апісаць яго ўражанні. — Ты… асаблівая!

Сказаў — і стала страшэнна сорамна, таму што слова аказалася надта ж бледным у параўнанні з Любінымі валасамі, вачамі, голасам…

— Я — Берагіня, — ціха сказала Люба, бліснуўшы вачамі.

— Ты не проста асаблівая, — заспяшаўся Мішка. — Ты цудоўная… ты вельмі… ты самая…

Ён не мог даказаць да канца фразу, і Люба гэта адчула. Яна перастала змагацца з сабой.

— Не трэба нічога казаць, — засмяялася Берагіня, падплыла да борціка і паклала галаву на рукі.

Сэрца ў Мішкі падскочыла і застукала па ўсім целе.

— Т-т-ты там што, г-г-голая плаваеш? — запытаўся ён.

Берагіня разрагаталася, як быццам па падлозе рассыпалі крыштальныя званочкі.

— А ты сам паглядзі, — хітра бліснуўшы вачамі, сказала Люба і нырнула.

Мішка пачакаў хвілінку, потым на ватных нагах падняўся і пайшоў да борціка. Крок. Крок. Яшчэ крок. Было вельмі страшна і вельмі нясцерпна. Калі да борціка заставалася зусім трошкі, Мішка прысеў на кукішкі і пастараўся зазірнуць у ваду, загадзя заміраючы ад таго, што можа быць…

І зноў пачуўся ціхі голас:

— Вось і ты…

Твар Любы з'явіўся з вады раптоўна і літаральна ў сантыметры ад Мішкінай галавы.

— Ты прыйшоў да мяне… — мокрая рука абвіла Мішку за шыю, і халаднаватыя вусны прыціснуліся да яго вуснаў.

У Мішкі ўсярэдзіне, дзесьці ў цэнтры жывата, быццам лопнуў паветраны шарык, напоўнены геліем. Стала адначасова страшна, козытна, весела і трывожна. А яшчэ перахапіла дыханне і захацелася ўзляцець над зямлёй. Усё наўкол закруцілася, і Мішка адчуў сябе ўнутры агромністай каруселі. Нават не ад жадання абняць, а проста, каб утрымаць раўнавагу, ён ухапіўся за Любу абедзвюма рукамі…

Нейкім самым старажытным чуццём ён усё-ткі адчуў небяспеку. І той, самы маленечкі кавалачак мозга, які не быў аглушаны пацалункам, а імкнуўся думаць, адзначыў, што ўжо вельмі ж халодныя губы, і рукі яго дзіўна стынуць на Любіным целе. І напэўна, якраз гэты кавалачак мозга прымусіў Мішку трошкі скасіць вочы.

— Што гэта? Дзе твае ногі? — прахрыпеў ён, гледзячы ў ваду.

— Нічога, нічога, — гарачы шэпт каля яго вуха. — Ідзі да мяне… Ты мой…

І тут Мішка здаўся канчаткова.

* * *

Калі Лёля і Маша ўварваліся ў басейн, Мішка быў ужо напалову пад вадою. Ахнуўшы ад жаху, дзяўчынкі пачалі выцягваць яго за ногі.

— Што адбываецца? — крыкнула Машка і паглядзела ў ваду. — Лёля!.. Там… Там русалка!

— Птушка? — ашаломлена запытаў Сеўка, які падбег якраз у гэты момант.

— Не! Сапраўдная! З хвастом! Гэта яна Мішку топіць, — завішчала Маша.

— Маша, ідзі адсюль! — нават не крыкнула, а рыкнула Лёля. — Хлопцаў вядзі з сабою, альбо загінеце ўсе.

— А ты? — паспела запытацца Маша, машынальна выконваючы загад і выштурхоўваючы ўсіх за дзверы.

— А я — Лёля! Я — адолею! — сказала дзяўчынка і скочыла ў ваду.

* * *

— Яна — Лёля, яна — адолее, — як заклінанне паўтараў Антон, ходзячы тудысюды пад дзвярыма ў басейн.

Прарваць кардон з дамавікоў, якія забарыкадавалі сабою ўваход і не пускалі Антона ўнутр, не атрымлівалася.

— Усё будзе добрааа! — на адной ноце працяжна выла Ніна Канстанцінаўна, перыядычна зрываючыся на: «Ах, які быў хлоопчык!» альбо «А як нам без Берачкі будзе кееепска».

— Яна — Лёля, яна — адолее, — заявіў Антон Сеўку.

Сеўка дробна-дробна заківаў, працёр акуляры і ўваткнуўся позіркам у сцяну.

— Вядома, адолее! — падхапіла Маша. — Яна ж багіня, у яе руна Вады, яна ж разумніца, яна абавязкова прыдумае штосьці-небудзь…

Гэтае простае слова — «разумніца» пранеслася ў галаве Антона, пакінуўшы за сабою цэлы след успамінаў. Вось Лёля ўсміхаецца яму на ўроку, вось размаўляе з Кабінетавікам, вось сурова за нешта адчытвае, вось удыхае ў яго жыццё ў цёмным падзямеллі…

— Калі з ёю штосьці-небудзь здарыцца… — сказаў Антон і зразумеў, што калі з ёю што-небудзь сапраўды здарыцца, дык ён проста разарве ўсіх, хто ў гэтым будзе вінаваты, на дробныя кавалачкі, а потым… А потым, відаць, разарвуць яго, але гэта ўжо не будзе мець ніякага значэння.

Ён раптам зноўку адчуў у сабе воўка. Магчыма, таго, які нядаўна сышоў у цемрадзь калідора. А можа быць, у ім нарадзілася новае ваўчаня, яшчэ слабое, але ўжо з гострымі зубамі і дужымі лапамі. Воўк унутры Антохі завыў ад адчаю, высока падняўшы гордую ваўчыную галаву.

* * *

— Хто ўмее рабіць штучнае дыханне? Хутчэй!!!

Дзверы ў басейн расчыніліся і Антоху здалося, што ён трапіў у новую серыю «Доктара Хаўса».

— На калена! Пераварочвайце! Масаж!

Інструкцыі Залавіка былі кароткія, як стрэлы.

— Тры-чатыры, тры-чатыры, удых, тры-чатыры, тры-чатыры, удых! Пераварочвайце!

Антон, выплываючы са свайго адчаю, не адразу скеміў, што Мішка, увесь мокры і цалкам нежывы на выгляд, нейкім чынам апынуўся на сушы.

— Тры-чатыры, тры-чатыры! Удых!

— Дзе Лёля? — спытаў Антон.

— Не выныrвала яшчэ, — адказала яму Ніна Канстанцінаўна і кінулася дапамагаць адкачваць Бера.

Антон падбег да басейна. Цяпер яго ніхто не трымаў, усе былі заняты рэанімацыяй.

— Лёля! — гукнуў хлопец. — Лёль!

Выключная нерухомасць паверхні вады напалохала яго яшчэ мацней, чым калі б там ішла бязлітасная бітва.

Ён скочыў у ваду. Туды, туды, у дальні куток басейна, на глыбіню… Вось ужо адчуваецца нейкая вібрацыя… Вось хтосьці… Ці штосьці… Дрэнна бачна, паветра заканчваецца, але ён ухапіў нешта слізкае, халоднае… І яго вынесла на паверхню. Глынуць паветра і зноўку туды…

— Антон? — перад ім замаячылі насмешлівыя Любіны вочы. — Ты вырашыў паплаваць?

Антон ад узрушэння ледзь не ўтапіўся.

— Люба? Што ты тут робіш?

— Ці ж не праўда, сёння цудоўны дзень? — Люба высунулася з вады і загайдалася на паверхні.

Антон нервова зглытнуў і ледзь не ўтапіўся другі раз.

— Ты такі прыгожы, — праспявала Люба.

Антон азірнуўся па баках і ледзь было не падаўся наперад, туды, куды так вабілі шыкоўныя валасы, што раскідаліся па вадзе, але нешта шчоўкнула ў свядомасці.

— Дзе Лёля? — нервова запытаўся ён.

Люба з прыкрасцю скрывіла губкі.

— Зноў гэтая Лёля, яна мне ўсё сапсавала…

— Дзе яна? — закрычаў Антон.

— Не ведаю, — усё з той жа прыкрасцю паціснула плячамі Люба. — Утапілася…

І толькі тут Антон заўважыў, што ў Любы замест ног агромністы, слізкі русалчын хвост.

— Дык гэта ты русалка? — ахнуў Антон.

— Я — Берагіня, — выскалілася Люба.

— А я — Вяшчун, — знайшоўся Антоха і чамусьці ўспомніў казку пра Маўглі. — Мы з табою адной крыві — ты і я! — крыкнуў ён, і пакуль Люба пераварвала інфармацыю, нырнуў.

«Лёля, Лёля, Лёля…» — білася ў яго галаве, а ён штосілы гроб углыб. Міма праносіліся незразумелыя цені, паветра ўжо не ставала, і Антоху зноўку пачаў захліставаць адчай. Ён на імгненне са шкадаваннем падумаў пра воўка, які пакінуў яго — ён бы ўжо даў яму сілы! «Утаплюся, трэба выныраць», — падумаў Антон. І ў тое ж імгненне незразумелая сіла выштурхнула яго з вады, нібыта нехта на шырокай рыдлёўцы вынес яго на паверхню.

Пакуль Антон адфыркваўся і імкнуўся перавярнуцца са спіны на жывот, каб зноў кінуцца ў ваду, краем вуха ён паспеў пачуць крык: «Дыхае!» з натоўпу вакол Мішкі, а краем вока заўважыў свячэнне ўнутры басейна.

— Лёля! — выгукнуў ён і зноўку нырнуў.

Паплыў на святло, пабачыў Лёлін медальён, ірвануўся да яго, заціснуў у руцэ, пачаў усплываць, спалохаўся, што паветра зноў не хапае… Цяпер ён паспеў заўважыць, якая ж гэта «рыдлёўка» выштурхоўвае яго з вады. Гэта аказаўся шырокі і да здзіўлення дужы русалчын хвост. Пасля моцнага мокрага плескача Антоха апынуўся на борціку.

— Лёля! — закрычаў Антон, стараючыся падняцца ў чарговы раз.

Яго схапілі ззаду за плечы, імкнуліся ўтрымаць, ён ірваўся ў ваду, змешваючы слёзы на твары з вадою з басейна, паволі пачынаючы разумець, што, напэўна, ужо не паспеў, спазніўся і ўсё марна…

* * *

Ачуняў Антон ад моцнага ўдару па твары.

— Ды жывая яна! — гаркнула яму ў вуха Маша.

У вушах гуло, у лёгкіх сіпела, бок, якім ён двойчы з размаху чмякаўся на кафлю, шчымеў. Цяпер вось яшчэ і шчака гарэла.

Антон з цяжкасцю ўзняў галаву і агледзеўся. Карціна наўкола нагадвала бераг пасля цунамі. Каля зялёнага Мішкі, які надрыўна кашляў, мітусіліся да ніткі прамоклыя дамавікі, Машка з мокрымі валасамі стаяла напагатове, замахнуўшыся другою рукою, відавочна на выпадак, калі Антон з першага ўдару не апрытомнее. А Сеўка… Сеўка трымаў на руках…

— Жывая! І ты жывы! — сказала Маша яшчэ раз, села побач з Антонам і заплакала.

— Трэба адсюль сыходзіць, — ці-то сказаў, ці-то запытаўся Антон.

— Трэба, — скрозь слёзы адказала Маша.

— Ідзём! — загадаў Антон.

— Ідзём! — усхліпнула Маша.

Антон падняўся, кінуўся да Сеўкі:

— Лёля, ты можаш ісці сама?

— Магу… — прашаптала дзяўчынка.

— Тады за дзверы, усе за дзверы! Сеўка, выносім Мішу! — скамандаваў Волкаў.

Вакол ачунялага Антохі замітусіліся дамавікі, дапамагаючы сабраць рэчы, нехта страхаваў Лёлю, хтосьці дапамагаў цягнуць Мішку. За дзвярыма з цяжкасцю перавялі дыханне.

— Усе жывыя? — ціха запытаўся Антон і агледзеўся.

— Усе. Амаль… — адказала ледзь чутна Лёля. — Любу мы страцілі…

— Галоўнае, усе жывыя, — адказаў Антон, — потым разбяромся.

Волкаў агледзеў сваю каманду і спалохаўся.

— Дзе Сеўка? — запытаў ён.

Маша кінулася да басейна і пабачыла Любу, якая сядзела на борціку, паволі перабірала валасы, штосьці спяваючы сабе пад нос, і Сеўку, які стаяў балванам недалёка ад дзвярэй.

Не доўга думаючы, Машка з такой сілай дала яму па карку, што Сеўка ледзьве ўпісаўся ў дзверы.

— Акуляры… — прахрыпеў ён.

— Дулечку табе акуляры! — усхліпнула Маша. — Будзеш на русалак вытарашчвацца, вочы скотчам заклею, зразумела!..

* * *

Цэлы натоўп сядзеў каля ўваходу ў басейн і дробна калаціўся — нехта ад холаду, хтосьці ад перапуду, а той-сёй проста ад перажытага ўзрушэння. Антоха неяк незаўважна для сябе апынуўся ў цэнтры гэтага натоўпу, які складаўся з дамавікоў і аднакласнікаў. Усе глядзелі на яго, як быццам чакалі каштоўных указанняў. А з усіх каштоўных указанняў у галаве круцілася толькі «Пазабіваю ўсіх». Але прамаўляць гэта ўслых было нельга. Ды і не патрэбна — усё цудоўна чыталася па твары Антона.

Каб прывесці думкі да парадку, ён заплюшчыў вочы. Напэўна, гэта было не самае важнае і тэрміновае зараз пытанне, але Антоха не ўтрымаўся і спытаў:

— А чаму яна нас усіх адпусціла? Яна ж магла б…

Ён не закончыў. І так усім зразумела, што магла б зрабіць Люба, стаўшы Берагіняю.

— Мішку адпусціла, таму што я ўмяшалася, — слаба адказала Лёля. — Адразу на мяне пераключылася і першае, што зрабіла, медальён з мяне сарвала… Мяне — з-за цябе. А цябе…

Лёля паціснула плячамі.

— Таму што ты Вяшчун? — выказаў здагадку Сеўка. — Відаць, вешчуноў нават Берагіні асцерагаюцца.

— А вешчуны не баяцца магутных валадароў, — чамусьці зноўку працытавала Пушкіна Маша.

Антон адчуў, што воўк унутры яго вышчарыўся. Хлопчык устаў і рэзка, цалкам па-ваўчынаму, атросся ад вады.

— Правільна, — сказаў ён не сваім (а можа, якраз менавіта сваім?) хрыплым голасам. — Зараз мы ўстроім гэтым магутным уладарам! Сеўка! Ты ўпэўнены, што дастаткова перавярнуць руну, каб вярнуць усё, як было?

— Лагічна разважаючы… — пачаў Сеўка.

— Карацей, — перапыніла яго Маша, — перавернем руну — атрымаем уладу. Напэўна, уладу над сітуацыяй, тады вернемся дамоў. Ці ўладу над усімі гэтымі багамі, тады мы загонім іх…

А Сеўка нічога дадаць не паспеў. З глыбіні калідора пачуўся насмешлівы жаночы голас:

— Ты хочаш улады, о грозны Вяшчун?

Маленькае войска зараз жа натапырылася. Мішка адным рухам апынуўся на нагах, хоць і пахіставўся ад слабасці. Сеўка і Маша занялі месца па абодвух баках ад Антохі, а Лёля — за яго спінаю. Але самае дзіўнае — кабінетавікі рассыпаліся ў баявы парадак. Чужому воку магло здацца, што яны проста зніклі, але Антоха ўнутраным зрокам бачыў, што кожны з іх гатовы да сутычкі. Варта Паляндры выйсці да іх, як бліжэйшыя ж дзверы расчыняцца, быццам ад павеву скразняка, і ляпнуць яе па патыліцы. Бананавая лупіна, якой імгненне назад не было на падлозе, раптам апыніцца пад яе нагою, і Чорная правадырка грымнецца на зямлю. І тут у бой рушаць шчоткі, анучы, крэслы, сталы — усё, што ва ўладзе кабінетавікаў. Відаць, Кашчэй паспее нанесці ўдар у адказ, відаць, камусьці з кабінетавікаў не слаба перападзе… Але зараз яны пра гэта не думаюць. Зараз яны гатовы абараняць свой дом.

Паляндра таксама гэта адчула, таму так і не выйшла з цемры.

— Вы вернецеся ў свой свет, мілыя дзеткі, — яна працягвала насміхацца. — Але вашы незвычайныя сябры застануцца тут. Дамавікі. Каты, якія размаўляюць. Русалкі-птушкі і… — Паляндра вытрымала эфектную паўзу, — русалкі-Берагіні.

Антоха, які гатовы быў ужо сам кінуцца ў цемру, застыў на месцы.

— Так што, дзяўчынкі і хлопчыкі, — цяпер Паляндра-Кашчэй не пабаялася паказацца, — бяжыце, пераварочвайце руну.

Але ніхто нікуды, вядома ж, не пабег.

— Магчыма, — жаласна прамовіла Лёля, — вы з Перуном як-небудзь дамовіцеся? Перастанеце ваяваць?

— Не, — пакруціла галавой Паляндра, — гэты дуб надта малы для нас дваіх…

І Паляндра растала ў цені калідора.

— Што будзем рабіць? — запытаўся Сеўка пасля хвіліннай паўзы.

— Зараз ідзём у бібліятэку, — адрывіста сказаў Антон і агледзеў сваё войска (позірк на Лёлю). — Грэцца, — позірк на Мішку. — Есці, — позірк на Сеўку з Машаю. — Думаць. Кабінетавікі забяспечваюць ахову. І ежай таксама. І цяплом…

— Ды забяспечана даўно ўсім, — прабубнілі кабінетавікі на ўсе галасы. — Ідзіце ўжо… Раскамандаваліся тут…

## Глава 20
## ДУБ ДОБРА, А ДВА ЛЕПЕЙ

У бібліятэцы сапраўды ўсё было забяспечана. Сухое адзенне і коўдры кабінетавікі прыцягнулі з усіх даступных куточкаў школы, што знайшлі, таму і апрануты ўсе былі надзіва маляўніча. Але ніхто не пярэчыў, нават Мішка, які нацягнуў на сябе цёплую жаночую кофту. Не да таго было.

— Тут гарбата, тут ежа, тут яшчэ ежа, — распараджалася маленькая Ніна Канстанцінаўна.

Яшчэ некалькі дамавікоў завіхаліся каля сцяны, раскладваючы маты для сну пад кіраўніцтвам Залавіка.

Машка і Сеўка кусалі нешта на хаду, схіліўшыся над падручнікамі і сутаргава гартаючы старонкі. Мішка еў проста з каструлі, падцягнуўшы яе да сябе, панура пазіраючы ў адну кропку; Лёля заплюшчыла вочы і прылегла.

— Табе дрэнна? — Антон падышоў да яе ўпершыню пасля таго, як пабачыў, што яна жывая. Проста не адважваўся зрабіць гэта раней. І зараз не адважыўся б, калі б не бачыў, што ніхто не звяртае на іх увагі.

— Ты ўратаваў мне жыццё, — ціха сказала Лёля.

— Я доўг аддаў. Ты выцягнула мяне з-пад зямлі, а я цябе з вады дастаў… Я цябе ўвогуле адусюль дастану, — паспрабаваў пажартаваць Антон.

Лёля нават трошкі ўсміхнулася.

— Я, дарэчы, так і не зразумеў, як ты выплыла, — сказаў Антоха.

— Проста Лю… Берагіня страціла пільнасць, калі ты нырнуў. Ды і забылася пра мяне. І я вынырнула ціхенька. Шкада, мая руна згубілася…

— Ды не! — усклікнуў Антон. — Вось яна, я яе дастаў.

Лёля ледзьве не кінулася Антону на шыю, але збянтэжылася і спынілася — відаць, у апошні момант яе ўвагу прыцягнуў Сталавік, які бегаў па пакоі і ўручаў кожнаму па пакунку з ежаю.

— Каб да крошкі! — скамандаваў ён і пабег далей.

— «Берагіня, — прачытала ўслых Маша, — лясная русалка. У Берагінь пераварочваліся дзяўчаты, якія памерлі да вяселля. Кожнага хлопца яны лічылі сваім жаніхом, заманьвалі да сябе і… — голас Машы задрыжаў, — у лепшым выпадку з розуму зводзілі сваёй прыгажосцю і жорсткасцю».

— Яна не хацела, — спакойна сказаў Мішка, — яна папярэджвала, каб я ўцякаў…

— Але ёсць і іншае значэнне, — прачытаў Сеўка, — «Берагіня — жаночы вобраз, звязаны з абаронай і мацярынскім пачаткам. У архаічнай старажытнасці…»

— Чаго? — запытаўся Мішка.

— Даўно вельмі, проста вельмі-вельмі даўно, — растлумачыў Сеўка, — «…пад імем Берагіні выступала Мокаш, Багіня-Маці»…

— Ага! — сказаў Мішка і перастаў жаваць, — дык вось чаму яна з Перуном гэтак размаўляла!

— Як? — запыталіся ўсе ў адзін голас.

Мішка расказаў пра тое, як ішоў за Любаю на дах, як годна яна трымалася.

— Ён на яе крычыць, маланкі сыпле, а яна пасярод усяго гэтага спакойна так пытаецца: «Ці прыняў ты ахвяру?», а потым як сказане: «Калі я пытаюся, Вярхоўны бог славян, ты павінен адказваць!»

— А Пярун? — запытаў Сеўка.

— Адказаў, — панура паціснуў плячамі Мішка.

— Але навошта ж яна тады… — роспачна сказаў Антон.

— Яна думала, так лепш, — перапыніла яго Лёля. — Яна думала, гэта нешта вырашыць…

— У архаічныя часы… — задумаўся Мішка. — Тады я быў Берам.

— Што? — зноў запыталіся ўсе.

І Мішка кінуўся ў блытаны расповед пра тое, як ён даведаўся пра сваё паходжанне. Сеўка зараз жа закапаўся ў кніжкі і падмацоўваў яго словы цытатамі. Астатнія ашаломлена слухалі.

— Мішка, — ціха прашаптала Маша, — я ад цябе столькі слоў першы раз у жыцці чую…

— А мне не было пра што размаўляць, — буркнуў Мішка і зноў уткнуўся ў каструлю.

— Дык хто ж наша Люба? — запытаўся Антон. — З астатнімі цяпер усё зразумела… А яна ні то русалка, ні то багіня.

— Яна Любоў! — сказаў Бібліятэкавік, вылазячы з кутка. — Яе ж гэтак і завуць — Любоў. Таму і мацярынскі пачатак, і руна Зямлі, вы ж пра гэта чыталі. Зямная ўрадлівасць, маці-зямля, багацце і дабро…

— А чаму Пярун… — пачаў пытацца Антон, але Бібліятэкавік яго перапыніў:

— Таму што Любоў — сіла значна больш старажытная, чым усе славянскія багі, разам узятыя…

— Ён яе хацеў у мару перавярнуць, — сказаў Мішка. — Не змог.

— А ў русалку змог?

— Яна сама гэтага хацела, — усхліпнула Лёля. — Калі б не хацела, не змог бы.

— І што нам цяпер рабіць? — з адчаем прамовіла Маша.

— Спаць, — сказаў Антон. — Хто можа — спіць. Набіраецца сіл. Хто можа — думае. З бібліятэкі не выходзіць. Усім трымацца разам. Больш — ніякай самадзейнасці. Зразумела?

Антон грозна паглядзеў на Лёлю. Але дзяўчынка была так змучана, што голас Антона задрыжаў.

— Усе жывыя. Гэта галоўнае, — ціха сказаў ён. — І мы абавязкова што-небудзь прыдумаем.

* * *

Антоха ляжаў і спрабаваў заснуць, літаральна на хвіліны правальваючыся ў забыццё, і зараз жа выбіраўся назад. Пачуццё неспакою не давала расслабіцца. Маша спала на маце, Сеўка клапатліва накрыў яе сваёй кофтай, а сам працягваў чытаць нейкі надзвычай тоўсты том. Мішка хроп.

Лёля ціхенька ўздыхала і чымсьці шамацела ў супрацьлеглым кутку бібліятэкі. Як быццам адчуўшы, што Антон пра яе думае, яна ціхенька ўстала і падышла да яго.

— Антон, я тут падумала… Мне, відаць, трэба з Перуном паразмаўляць. Пачакай, пачакай, не сварыся, выслухай, — заспяшалася Лёля, не даючы Антону і слова прамовіць у адказ. — Гэта я прыйшла да яго з жаданнем уступіць у яго войска. Ён запатрабаваў ахвяру. Люба… стала гэтай ахвярай. Але, магчыма, калі яму сказаць, што мы пяройдзем на другі бок, ён спалохаецца? І верне нам Любу?

— На другі бок? Да Кашчэя?

— А чым яна горшая? — тужліва запытала Лёля.

— Не ведаю, — уздыхнуў Антон. — Сам здзіўляюся.

І задумаўся.

— Мне страшна адпускаць цябе да Перуна, — сказаў ён. — Я яму не давяраю.

— У цябе ёсць іншыя прапановы? — спытала Лёля.

— Няма, — прызнаўся Антон, — але і гэта мне не падабаецца… Я пайду з табою.

— Не трэба, — сказала Лёля, — Пярун цябе не любіць. Чамусьці…

— Сапраўды, дзіўна, — з’едліва сказаў Антоха. — Тады возьмеш з сабою Бера.

— Добра, — апусціла галаву Лёля.

— Ты са мною не спрачаешся, — ціха сказаў Антон.

— І ты на мяне не крычыш, — адказала дзяўчынка.

— Магчыма, мы сапраўды што-небудзь прыдумаем? — запытаў Антон, пазіраючы на сцяну.

У вачах Лёлі бліснулі слёзы.

* * *

— Ужо раніца? — спытаў Сеўка, з цяжкасцю прадзіраючы вочы.

— А хто яго ведае? — адказала Маша, расціраючы шыю, што зацякла падчас сну. — Васямнаццаць трыццаць пяць!

— Бер! Бер! — гукнула Лёля. — Ты пойдзеш са мною да Перуна?

— Адкруціць яму галаву? — пазяхнуў Мішка.

— Не. Пакуль. Трэба паспрабаваць паразмаўляць.

— Я не буду з ім размаўляць, — адказаў Беркін.

— Трэба, — коратка сказаў Антон.

Наўкол ужо спрытна завіхаліся дамавікі, якія прынеслі свежую ежу і памытае адзенне.

Лёля глытнула вады і цяпер чакала, пакуль Мішка пераапранецца.

— Беражы сябе, — сказаў Антоха. — Я буду страхаваць. Я правяду вас да даху.

Лёля кіўнула і выйшла з бібліятэкі.

На даху зноў нікога не было бачна. Толькі стала яшчэ больш бруднага посуду, ды яшчэ і дадаліся раскіданыя канфеці і напаўздзіманыя паветраныя шарыкі.

— Пярун! — гукнула Лёля.

Цішыня.

— Пярун! — гаркнуў Мішка.

— Адпачываюць яны, — паведаміў нядаўні хлопец з вянком на галаве (праўда, на гэты раз заматаны ў шторку), выпаўшы з-за вугла. — Учора ўсю ноч гулялі, а цяпер адпачываюць.

— Каб ён… назаўжды наадпачываўся, — працадзіў Мішка скрозь зубы.

— Я вам не раю яго трывожыць, — паведаміў хлопец, шырока пазяхнуўшы.

— Скажыце, — запыталася Лёля, — а ахвяру можна вярнуць назад?

Хлопец нават закашляўся.

— Вы чаго? — здзівіўся ён. — Гэта ж ахвяра! Як яе вернеш?

— Ну, а калі яе прынеслі памылкова? — гнула сваё Лёля.

— Ахвяра лішняй не бывае! — адрапартаваў хлопец, стаў па стойцы смірна і вырачыў вочы, узяўшы дзіду «на каравул».

— Ну чаго ты раскрычаўся, Ярык? — працягнуў пануры голас, і з-за коміна паказаўся заспаны Пярун у халаце і з лядоваю грэлкаю на галаве. — Ба-а! Ды ў нас госці! А я не ў форме…

Пярун бухнуўся на бліжэйшае крэсла і выцягнуў ногі.

— Не выспаўся я, — паведаміў ён. — Цяжка быць богам… Чаго трэба?

— Любу! — выкрыкнуў Мішка і рушыў на Перуна.

Лёля схапіла яго за руку.

— Я падумала, што, можа, вы як Вярхоўны бог славян праявіце велікадушнасць… — сказала Лёля.

— Можа… — сказаў Пярун.

— Люба стала Берагіняй… Гэта… Гэта жахліва, — сарвалася Лёля, але хутка ўзяла сябе ў рукі. — Я падумала… Мы падумалі… Магчыма, мы можам штонебудзь зрабіць, а вы за гэта адпусціце Любу… Вы ж бог… Вы ж павінны быць велікадушным…

— Па-першае, — пазяхнуў Пярун, — я нікому нічога не павінен. Па-другое, мы, вядома, велікадушныя, але мы і справядлівыя. Пярун сказаў — Пярун зрабіў. А калі я зараз пачну перадумваць… Усе да мяне прыбягуць, прасіць пачнуць. А гэтага я дапусціць не магу. Вой, што ж гэта так галава баліць…

— Дык я зараз яе вылечу! — паабяцаў Мішка, і Лёля з апошніх сіл учапілася ў яго руку.

— Але я вас вельмі, вельмі прашу! — заплакала Лёля.

— Гэта правільна, — разважыў Пярун. — Мы любім, калі нас просяць.

— Давайце мы вас з Паляндрай памірым, а-а? — прапанавала Лёля. — Вайна скончыцца, вы адпусціце Любу…

— Што? — пагардліва запытаўся Пярун. — Што ты сказала? — Пярун падняўся з-за стала і падышоў да гасцей. — Ты што, звар’яцела, дзяўчынка! — гаркнуў ён. — Я ніколі не прыміруся з гэтай прайдзісветкай, зразумела? Гэты дуб надта малы для дваіх! Ці яна, ці я! Усё! Вольныя!

І, грымнуўшы напаслед маланкай, Пярун рушыў за комін у суправаджэнні вельмі перапуджанага Ярылы…

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

***Пераклад з рускай мовы Р. БАРАВІКОВАЙ***



*Старонка мінулага*

## ЗВЫЧАЙНЫ СВЕТ

**Мы некуды спяшаемся заўсёды,
тасуем, быццам карты, адрасы
і ўсё жыццё, нібы рачныя воды,
імчымся да нязведанай красы.
Мы дзелім свет на чорны і на белы,
людзей — на спадарожных і сяброў,
што з намі дзеляць радасці і беды,
як дзеляць хлеб, ваду, цяпло кастроў.
Праходзіць час, і адчуванне страты
прыходзіць да дарослых хлапчукоў,
што перад некім сам быў вінаваты,
што некага маўчаннем абышоў.
І пачынаеш заўважаць адценні
і колеры, якіх і не злічыць,
і з вышыні бяздумных летуценняў
спускаешся, каб па зямлі хадзіць.
І бачыш свет — не ружамі спавіты,
а бачыш свет — шырокі, без мяжы,
дзе, як пытанні, гнуткія ракіты —
ля кожнае турботлівай шашы.
І позні ліст на дрэве ацалелы,
і кропелька халодная расы
прыходзяць, як забытыя напевы,
адкрыццем неадкрытае красы.
І крочыць лёгка ўдалеч без адчаю,
без мітусні ў празрыстай цішыні,
і бачыць свет стракатым і звычайным,
як восеньскае лісце ў вышыні.**

***Віктар ЯРАЦ***

***«Маладосць» № 9, 1973 г.***

# Алесь БАДАК: «ПАДЛЕТКІ АХВОТНЕЙ ЧЫТАЮЦЬ СУЧАСНЫХ АЎТАРАЎ»

*Літаратура для дзяцей, дзіцячая літаратура — спрэчак пра яе хапае. І выданняў, адрасаваных юнаму чытачу, у кнігарнях дастаткова шмат. Ці ўсе з іх прыцягваюць увагу тых, дзеля каго створаны? Ці так усё гладка ў беларускай дзіцячай літаратуры? З кім, як не з* ***Алесем БАДАКОМ****, галоўным рэдактарам «дарослага» часопіса «Нёман», і пагаварыць пра гэта? Пісьменнік сам піша для дзяцей, іншых заклікае да гэтага. Ды і актыўным прапагандыстам дзіцячай літаратуры выступае. А яшчэ ўзначальвае секцыю па рабоце з маладымі літаратарамі Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

**— Алесь, ці цяжка прыдумаць героя для дзіцячай аповесці? З рускай, замежнай літаратуры, творы якой мы адкрывалі ў дзяцінстве, і цяпер у памяці многія, лічы, культавыя персанажы...**

— Калі такога, як, напрыклад, гайдараўскі Цімур, то неверагодна цяжка. Хаця ў дадзеным выпадку няправільна было б гаварыць — прыдумаць. Яго з’яўленне было падрыхтавана — грамадствам, гістарычнай сітуацыяй, палітычнымі варункамі, і Гайдар геніяльна адгадаў, якім канкрэтна павінен быць герой. Але складана, напрыклад, уявіць, каб «Цімур і яго каманда» з’явілася сёння. А калі б сёння і з’явілася нешта падобнае, то яшчэ пытанне, заўважылі б такія творы ці не. Сёння заўважылі Гары Потара. Падабаецца нам ці не, але гэта яго час, які падрыхтаваў яго з’яўленне. А ўвогуле, сёння адчувальны дэфіцыт цікавых герояў. Герояў з уласным тварам. Герояў, чые імёны маглі б стаць знакавымі. Але гэта праблема не толькі дзіцячай літаратуры.

**— Сёння — і ў гэтым пераконваюць шматлікія кніжныя выстаўкі — кнігавыдаўцы проста «накінуліся» на дзіцячую літаратуру. А як, на Ваш погляд, у Беларусі?**

— Гэта сапраўды так. Што да літаратуры для зусім юных чытачоў ці нават слухачоў — тут усё зразумела. Бацькі ўсё ж разумеюць, што мастацкая кніга дае дзіцяці тое, чаго не могуць даць яны самі, яна дапамагае яго агульнаму развіццю, неабходнаму ў гэтым узросце. Але што здзіўляе — сёння дастаткова вялікім попытам карыстаецца літаратура для падлеткаў. Ды і ў інтэрнэце, перад экранам тэлевізара падлеткі праводзяць нашмат болей часу, чым за чытаннем кніг. Але ж няправільна было б гаварыць, што даводзіцца іх прымушаць чытаць з-пад палкі. Іншая справа, што раней падлеткі як чытачы былі меней патрабавальнымі. Па-першае, з-за таго, што адчуваўся кніжны дэфіцыт, а па-другое, выбар спраў, каб заняць час, быў не дужа вялікі: спорт, вуліца, чытанне... Што яшчэ заўважна: падлеткі ахвотней чытаюць сучасных аўтараў, здараецца, і мала раскручаных, а не толькі, скажам, Ж. Верна, М. Рыда, А. Ліндгрэн... Чытаюць Андрэя Федарэнку, Алеся Наварыча, Пятра Васючэнку, Валерыя Гапеева... Думаю, што на гэта ёсць пэўныя прычыны. Па-першае, сучасная тэма была далёка не апошняй у плане чытацкай зацікаўленасці. А па-другое, усё ж такі за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў школа вельмі змянілася, і ў многіх героях, у якіх маё пакаленне бачыла сябе, цяперашнія падлеткі сябе ўжо не бачаць, і яны ім зусім нецікавыя.

**— Што значыць дзіцячая літаратура для Вас як для пісьменніка — адпачынак ці сур'ёзны, загадзя спланаваны занятак?**

— Я не згодзен з класікам, што для дзяцей трэба пісаць гэтак жа, як і для дарослых, толькі яшчэ лепей. Гэта проста прыгожая фраза. А то атрымліваецца, што апавяданне Льва Талстога «Пілілок» павінна быць лепшым за яго раман «Анна Карэніна». А ўвогуле мне бліжэй выказванне Клайва Льюіса: «...кніга для дзяцей, якая падабаецца толькі дзецям, — дрэнная кніга. Добрыя — добрыя для ўсіх. Вальс, які прыносіць радасць толькі танцорам, — дрэнны вальс». Гэтым запаветам я імкнуся кіравацца і ва ўласнай творчасці.

**— А хто з беларускіх пісьменнікаў са сваімі героямі мог бы пасупернічаць з «гарыпотараўшчынай»? Ці ёсць шанец у каго-небудзь з сучасных беларускіх пісьменнікаў стаць культавым настаўнікам юнага чытача?**

— Па словах Джаан Роўлінг, яна пачала пісаць толькі дзеля таго, каб сысці ў прыдуманы свет, падалей ад жыццёвых праблем. А паколькі яна перад гэтым разышлася з мужам і ёй трэба было неяк пракарміць сябе і маленькую дачушку, то, канечне ж, яна спадзявалася нешта зарабіць. Але яна сама ніводнага разу не сказала, што села за пісьмовы стол, каб пераўзысці Клайва Льюіса, Толкіена ці Льюіса Кэрала. Саперніцтва ў літаратуры, можа, і дапамагае нараджэнню выдатных твораў, але, на жаль, не заўсёды. Дарэчы, Джаан Роўлінг да тае пары, пакуль прыдумала Гары Потара, пісала нешта яшчэ, але той досвед нікога не ўразіў. Так што шанец напісаць нешта яркае ёсць у кожнага: і ў вядомага майстра слова, і ў таго, чые творчыя справы пакуль не дужа ідуць угору.

**— Ведаю, што ў Мінску створаны клуб дзіцячых пісьменнікаў і Вы — сярод яго арганізатараў... Раскажыце, калі ласка, пра гэта падрабязней.**

— У клуб дзіцячых пісьменнікаў уваходзяць людзі, якія не проста выдатна пішуць для дзяцей (тут я мог бы згадаць і Раісу Баравікову, і Людмілу Рублеўскую, і Міколу Чарняўскага, і Уладзіміра Ліпскага, і многіх іншых), але і занепакоены станам дзіцячай літаратуры, тым, як кніга даходзіць да юнага чытача, майстры слова, якія імкнуцца, каб кніга не страціла сваіх пазіцый. Таму гэта не толькі людзі, якія пішуць, але і «выступоўцы», «арганізатары» і г. д.

**— Пісьменніцкая праца — справа ціхая, індывідуальная. «Дзяўчынку і птушкалёт» альбо «Дзікую сабаку Дзінга» заклікамі з трыбуны не напішаш. Можа быць, і не патрэбна ніякага шуму вакол дзіцячай літаратуры і яе задач?.. Проста варта пачакаць, пакуль прыйдзе нехта з дарослых і па-сапраўднаму нагадае пра яркі і шматаблічны свет дзяцінства?**

— Калі пісьменнік стварае, ён, сапраўды, як быццам аддзелены ад свету сцяной. Але калі твор завершаны, першае, што яму хочацца, дык гэта разбіць гэтую сцяну і ўбачыць свайго чытача. Дык вось, калі не абмяркоўваць праблемы развіцця літаратуры, то можа здарыцца так, што ў адзін цудоўны дзень па той бок разбітай сцяны нікога не будзе.

**— Алесь, і традыцыйнае пытанне — што ў Вас на рабочым стале? Чым плануеце парадаваць чытача ў бліжэйшы час?**

— Спадзяюся хутка завяршыць аповесць «Смерць Стэндаля ў цэнтры Мінска». Яна і пра сучаснасць, і пра гісторыю — вайну 1812 года. Дарэчы, у Беларусі Стэндаль, сапраўды, быў, і не толькі ў Мінску, а, напрыклад, у Барысаве, адкуль родам мой галоўны герой. Мне абяцалі паказаць рэдкія дакументы, звязаныя з гэтым фактам яго біяграфіі, так што, спадзяюся, пасля гэтага работа над аповесцю пойдзе хутчэй.

***Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА***

*Святлана САЎКО*

# «Я Ў ПІСЬМЕННІКІ Б ПАЙШОЎ...», АБО ЯК НАПІСАЦЬ І ВЫДАЦЬ КНІГУ

*Мяркую, кожнаму пачаткоўцу знаёма адчуванне: адчыняеш паштовую скрыню, а там доўгачаканы адказ з выдавецтва. «Паважаны (-ая)... Ваш рукапіс... але...» Расчараванне, злосць, разгубленасць. Што рабіць? Толькі не трэба апускаць рукі! Як напісаць і выдаць кнігу — па парады звярнулася да тых, хто надрукаваў не адзін зборнік. Свой і чужы.*

## УВЕЧАРЫ ГРОШЫ, РАНІЦАЙ ПІСЬМЕННІК?

У адной з мінскіх кнігарняў трапілася на вочы аб'ява. «Запрашаем аўтараў (не толькі прафесіяналаў) надрукаваць свае ўспаміны, развагі, паэзію, прозу, навуковыя працы. Тыражы ад 100 экзэмпляраў. Цэны даступныя — якасць вартая!», — абяцала чорнабелая ўлётка. Як не спакусіцца на такую прапанову маладому амбіцыёзнаму аўтару! Зразумела, я адразу ж набрала запаветны нумар.

Для чысціні эксперымента прадстаўляцца журналістам не стала. Зрэшты, Аляксею я бадай што і не зманіла. Ненадрукаваных апавяданняў назбіралася нямала. Чаму б не выдаць іх асобнай кніжкай? Цікава, колькі будзе каштаваць? Залежыць ад тыража, ад таго, як будзе аформлена кніга, мяккая вокладка або цвёрдая, можна яшчэ зрабіць каляровыя ўстаўкі.

— Гэта тое самае, як выбіраць машыну, — параўнаў для яснасці Аляксей. Здавалася б, усе маюць руль, чатыры колы... Але запарожац будзе каштаваць адно, а лінкольн — на парадак больш.

Падчас размовы высветлілася: мой субяседнік на кніжным рынку не навічок. У яго выдавецтве друкуюцца сучасныя аўтары альтэрнатыўнай плыні, выходзяць два літаратурна-мастацкія часопісы. Нават кнігі па музыцы выдаваць спрабавалі. Але тэма спецыфічная, і тавар, як кажуць, не пайшоў. Апошнім часам даводзілася нават бланкамі займацца, прызнаўся Аляксей. Але пакідаць літаратурную каляіну не хочацца. Магчыма, менавіта няпростае эканамічнае становішча прымусіла шукаць аўтараў праз аб'явы? Гэта такі рэкламны ход, патлумачыў суразмоўца і параіў паспяшацца з афармленнем заяўкі на будучую кнігу. Увосень, па яго словах, ахвотнікаў надрукаваць свае творы пабольшае.

Атрымліваецца, калі ты маеш грошы, і валодаеш хаця б мінімальнымі літаратурнымі здольнасцямі, то калі ласка, выдавай свае творы. Хочаш невялікім тыражом. Праўда, «міні-кнігазбор» абыдзецца аўтару ў немалую суму. Але затое будзе чым пахваліцца перад сябрамі і знаёмымі. А можна і на большае замахнуцца. Пры жаданні (і відаць, за асобную плату) пісьменніку дапамогуць арганізаваць прэзентацыю кнігі.

— Кожны чалавек мае права пакінуць пасля сябе след, разважае Аляксей. Некаму хочацца, каб гэта была кніжка. Пры выдавецтве існуе мастацкая рада, якая слабыя рукапісы не прапусціць.

Магчыма, у некага гэта выкліча скептычную ўсмешку, маўляў, ведаем гэтыя «рады-парады», за грошы можна надрукаваць амаль ўсё, што хочаш. Але калі выдавец сапраўды дбае пра рэпутацыю, то наўрад ці стане ад свайго «імя» выпускаць у свет літаратурных «пачвар».

### КАМЕРСАНТАМ МОЖНА І НЕ БЫЦЬ, АЛЕ ПІЯРШЧЫКАМ — ДАВЯДЗЕЦЦА!

Урэшце, той, хто не прайшоў адбор ні ў прыватным выдавецтве, ні ў дзяржаўным, заўсёды можа змясціць свае творы ў інтэрнэце. У сеціве хапае і таленавітых рэчаў, і графаманства. Калі ж малады паэт ці празаік цвёрда вырашыў прабіцца на паліцы кнігарняў, і не проста прабіцца, а дасягнуць пэўных поспехаў, то яму трэба рыхтавацца да таго, што давядзецца быць і камерсантам, і піяршчыкам.

«Цяжка звярнуць на сябе ўвагу нават ненадоўга, — гаварыў іспанскі мастак-сюррэаліст Сальвадор Далі, знакаміты яшчэ як майстар самапіяру. — А я займаўся гэтым кожны дзень і кожную гадзіну. У меня быў дэвіз: галоўнае — каб пра Далі гаварылі. У горшым выпадку няхай гавораць добрае».

Далёка не ўсім і не да ўсяго пасуе формула поспеху, якую сам для сябе вывеў геніяльны іспанец. Але тое, што рацыянальнае зерне ў ёй ёсць — бясспрэчна. Для таго, каб выдаць кнігу, не заўсёды дастаткова пакінуць у выдавецтве рукапіс.

— Пажадана, каб да таго, як прыйсці да нас, аўтар недзе друкаваўся, напрыклад, у «ЛіМе», «Маладосці», «Полымі»... — расказаў галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп. — Калі публікацый няма, гэта нагода задумацца.

І не толькі наконт прафесійнасці аўтара. Публікацыямі ў перыядычным друку зарабляеш сабе імя. Газеты, часопісы выпісваюць бібліятэкі, іншыя установы культуры і адукацыі, для якіх публікацыя — гэта аўтарытэтная рэклама аўтара. Яны набываюць значную частку новых выданняў. І менавіта ад іх у значнай ступені, залежыць тыраж будучай кнігі і тое, як хутка яна з’явіцца ў продажы. На практыцы гэтая сістэма нечым нагадвае ўступную кампанію. Выдавецтва рассылае па бібліятэках свой вытворчы план, дзе ўсе ахвочыя адзначаюць, якія кніжкі яны збіраюцца набыць. Аўтару трэба набраць пэўную колькасць заказаў. У каго назбіраецца больш, той і выдасца хутчэй. Калі кніжка добра разыходзіцца, можна смела несці наступны рукапіс — возьмуць з ахвотаю. І так, пакуль творы будуць карыстацца попытам.

— З фінансавага пункта гледжання сёння выдацца складаней, — адзначае Віктар Шніп. — Раней у выдавецтве «Мастацкая літаратура» кожны тыдзень выходзіла па пяць-шэсць кніжак. Колькі на год атрымлівалася? Каля трохсот! І наклады былі большыя. Паэтычныя зборнікі выходзілі тыражом ад дзвюх да пяці тысяч. Класіка — да пяцідзесяці тысяч асобнікаў даходзіла.

Адпаведна вырас і кошт кнігі. Людзі больш прыдзірліва выбіраюць, што набыць. І на жаль, далёка не заўсёды аддаюць перавагу маладой беларускай літаратуры. Калі цябе не ведаюць, трэба заявіць пра сябе, ярка, смела. Многія так і робяць, таленавітай моладзі ў Беларусі стае. Аднак, па словах Віктара Шніпа, дэбютных кніжак у «Мастацкай літаратуры» апошнім часам выходзіць менш. З’явілася магчымасць выдацца адразу. Два-тры месяцы — і гатова. Дый патрабаванні да рукапісаў у прыватных выдавецтвах не такія строгія. А тут мала таго, што давядзецца ў чарзе пастаяць, дачакацца пакуль тыраж назбіраецца, дык яшчэ і публікацыі патрабуюць!

— Многія маладыя не наважваюцца да нас ісці, — гаворыць Віктар Шніп. — Разумеюць, што ў нас высокая планка. Між іншым, раней увогуле каля 80 працэнтаў твораў, якія прыносіў у выдавецтва аўтар, павінны былі папярэдне быць недзе надрукаванымі. Не аксіёма, але... Той, хто ні разу не пераступіўшы рэдакцыйнага ганка, адразу кіруе ў выдавецтва, спрабуе пераскочыць вельмі важную прыступку. Сам сябе пазбаўляе магчымасці павучыцца ў старэйшых.

Так падказаў мой суразмоўца. А добрая парада маладому творцу ніколі не зашкодзіць. У «Маладосці» Віктар Шніп упершыню надрукаваўся ў 19 гадоў. А перад тым амаль два гады насіў свае вершы Міколу Якаўлевічу Аўрамчыку, які ў той час кіраваў аддзелам паэзіі. Хадзіў як на заняткі ў школу. А гэта і сапраўды была школа — паэтычная.

— Прынясу вершаў дзесяць-пятнаццаць, Мікола Якаўлевіч іх пачытае, зробіць заўвагі — працуй, кажа, далей, — успамінае Віктар Шніп. — Я стараўся гэтую справу

ў доўгую скрыню не адкладаць. Дзесьці праз тыдзень прыходзіў зноў, прыносіў тое, што перарабіў і нешта з новага. Здаралася, верш, які мінулым разам падаваўся моцным, проста адкладаўся, а Мікола Якаўлевіч звяртаў увагу на іншы. У першай падборцы ў «Маладосці» выйшла ўсяго чатыры вершы. Той, дзявяты нумар часопіса чакаў з асаблівым нецярпеннем. Купіў, і па дарозе ў родную вёску Пугачы Валожынскага раёна пільна прыглядаўся да хлопца-суседа, які таксама набыў «Маладосць». Тут дэбютанта чакала расчараванне — старонку з яго вершамі той пакінуў без увагі. І адначасова, дзякуючы незнаёмцу (ім аказаўся будучы вядомы беларускі літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч), зрабіў адкрыццё. У гэтым жа нумары былі змешчаны творы Уладзіміра Караткевіча... Які, дарэчы, свой знакаміты раман «Чорны замак Альшанскі» напісаў у маладым узросце. Колькі яшчэ прыкладаў у літаратуры, калі «неапераныя», нікому не вядомыя паэты, пісьменнікі пісалі без перабольшвання геніяльныя творы? Таму не трэба баяцца ставіць перад сабой высокую планку, пазбягаць крытыкі. Людзі розныя, у кожнага свой жыццёвы вопыт. З уласнага досведу ведаю, твор жыве побач з табою датуль, пакуль трымаеш яго ў пісьмовым стале. Надрукаваў — адпусціў у вольнае плаванне.

### ВУЧЫЦЦА ПА АНТАЛОГІІ

Маладая паэтэса з Гомеля Стася Карчэўская сёлета «адпусціла» адразу два паэтычныя зборнікі: «Пад ветразем ранку» і «Парасон». Радасная падзея стала і найвялікшым выпрабаваннем.

— Водгукі былі самыя розныя, — прызнаецца Стася. — Не толькі хвалілі, але і крытыкавалі. Але я рада гэтаму. Бо заўвагі рабілі канкрэтныя, дзе, якія памылкі ёсць, як іх можна выправіць. Сябе ацаніць цяжка. Ты пішаш, але не ведаеш дакладна, добра гэта ці не. А яшчэ я ўдзячна сваім настаўнікам: Івану Васільевічу Бісеву, Ніне Нікіфараўне Шкляравай, Міхасю Захаравічу Башлакову. За тое, што падтрымалі, дапамаглі паверыць у свае сілы.

Дзве кніжкі — добры старт. Задум шмат, але дакладна пра свае творчыя планы Стася пакуль не гаворыць: «пісаць буду — і пастараюся лепш».

Заўвага — рэальны шанс падняць свой прафесійны ўзровень, стаць больш упэўненым у сабе. Гэтак заўсёды адбываецца, калі ведаеш свае слабыя і моцныя месцы. Хібы лягчэй выправіць. Вартасці — развіць. Для чалавека творчага вельмі важна адчуваць падтрымку з боку старэйшых калег. Без гэтага не прабіцца. Траціш надзеі, сілы...

Міхась Башлакоў, якога згадвала Стася, уклаў анталогію маладой паэзіі Беларусі. Стасіны вершы таксама туды патрапілі. Кніга ўнікальная тым, што акрамя твораў маладых паэтаў мае раздзелы — літаратурныя семінары, куды змешчаны вершы сталых паэтаў. Юрый Фатнеў, Уладзімір Скарынкін, Мікола Маляўка, Уладзімір Карызна, Раіса Баравікова, Таццяна Лейка і многія іншыя мэтры беларускай літаратуры.

— Я знарок не ўключаў сюды паэтаў, якіх ужо няма з намі, яны ж не могуць весці літаратурны семінар, — патлумачыў Міхась Башлакоў. — Думаю, маладым будзе карысна параўнаць сябе са старэйшым пакаленнем, нечаму павучыцца. Моладзі не стае такой вучобы. Літаратурныя кансультацыі, якія часта праводзіліся ў савецкія часы, сёння рэдкасць. Кніга хоць у некаторай ступені кампенсуе гэты недахоп.

Пра школу літкансультацый узгадваў і Віктар Шніп. Раней пад Мінскам у Каралішчавічах, потым у Іслачы адбываліся семінары, на іх збіраліся літаратары, абмяркоўвалі творчыя пытанні, спрачаліся, дзяліліся вопытам. Вынікі падводзіў кіраўнік семінара, старэйшы, паважаны пісьменнік. На жаль, сённяшняму маладому пакаленню паэтаў, празаікаў наведваць гэтую школу не давялося. А раней жа амаль пры кожнай газеце існавала літаратурнае аб’яднанне.

— Калі я вучыўся ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме ў Мінску, атрымаў запрашэнне на першую сваю літаратурную вечарыну. Запрашэнне прыйшло з маладзёжнай газеты «Чырвоная змена», — узгадвае Віктар Шніп. — Праводзіў літаратурную вучобу Яўген Крупенька, малады хлопец, нядаўні выпускнік літінстытута ў Маскве.

Падчас такіх сустрэч паэтаў-пачаткоўцаў не проста вучылі пісаць, давалі практычныя парады. Там ці не ўпершыню ў творчым жыцці ім трэба было дзяліцца ўражаннямі ад прачытанага, адстойваць сваё меркаванне і крытыкаваць таварышаў. Ох, і няпроста ж даводзілася юнакам і дзяўчатам. Здаецца, толькі-толькі сам пачаў нешта пісаць, а тут трэба іншым казаць пра іх памылкі!

Пасля Віктар Шніп разам з Людмілай Рублеўскай арганізавалі пры газеце «ЛіМ» падобную суполку — «Літаратурны квартал». У першы вечар прыйшло тры чалавекі, у наступны раз — пяць. Потым ужо крэслаў усім не хапала. Паступова «Квартал» разросся да «Літаратурнага прадмесця». Многія сябры маюць ужо выдадзеныя кніжкі і гэтак жа гуртуюць каля сябе маладых.

«Не трэба шкадаваць добрых слоў для маладых», — упэўнены Віктар Шніп.

«Паэзія — гэта маладосць. І хоць сталасць надае паэтычным радкам упэўненасць, майстэрства, прафесіяналізм, усё часцей адчуваеш, што якраз пачуцця юнацкага захаплення, ці таго ж наіву тваім вершам яўна не стае», — дадае Міхась Башлакоў.

Як напісаць і выдаць кнігу — канкрэтныя парады даваць цяжка. Таму што ў кожнай кніжкі, як у кожнага чалавека — свой лёс. Грукайцеся ў дзверы рэдакцый, не бойцеся пачуць «не падыходзіць». Да гэтага часу захоўваю адказ, які атрымала з аднаго часопіса, куды даслала сваё апавяданне. Яно, цяпер разумею гэта асабліва выразна, было зусім «зялёным». Не магло быць і гаворкі, каб надрукаваць такое. У лісце з рэдакцыі ветліва патлумачылі, чаму не могуць прыняць маё апавяданне, далі парады і запрасілі пісаць яшчэ. Моладзь заўсёды імкнецца быць самастойнай, у жыцці і ў творчасці. А з другога боку — не можа абысціся без падтрымкі тых, хто некалі гэтак жа церабіў свой шлях.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ШКОЛА ЛІТАРАТУРНЫХ МАЙСТРОЎ, АБО ДЗЕ РЫХТУЮЦЬ ПІСЬМЕННІКАЎ?

***Ці можна вывучыцца на пісьменніка? Шмат хто лічыць, што гэта немагчыма. Можна навучыцца азам граматыкі, разабрацца са стылямі, рыфмамі, жанрамі, засвоіць пару прафесійных прыёмаў, але не атрымаць самага галоўнага — літаратурнага дару. А той, як вядома, — ад Бога. Каб пацвердзіць сказанае, згадаем вядомых усяму свету пісьменнікаў, якія ніколі не вучыліся ў «пісьменніцкіх» школах. Гэта Шэкспір, Рабле, Фолкнер, Бальзак, Маркес, Талстой, Дастаеўскі, Гогаль, Купала, Колас, Багдановіч... — спіс бясконцы. Пераважная большасць знакамітых пісьменнікаў атрымлівала іншую адукацыю — гістарычную, філалагічную, педагагічную, прыродазнаўчую, юрыдычную, інжынерную і г. д. І пачалі яны пісаць свае вядомыя творы толькі тады, калі назапасілі пэўны жыццёвы досвед, сфарміраваліся як асобы.***

***Тым не менш у Інстытуце журналістыкі БДУ, нягледзячы на вышэй прыведзеныя прыклады, усё ж такі вырашылі вучыць на паэтаў і празаікаў... і не толькі. Нават кафедру спецыяльную для гэтага стварылі — літаратурна-мастацкай крытыкі, куды і запрасілі дасведчаных у пісьменніцкай справе людзей. А мы вырашылі сустрэцца з некаторымі з іх і высветліць, наколькі іх праца запатрабавана ў нашым грамадстве.***

## КУЗНЯ ТАЛЕНТАЎ, І НЕ ТОЛЬКІ ЖУРНАЛІСЦКІХ

Па словах загадчыцы кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі — **Людмілы Пятроўны Саянковай**, кандыдата філалагічных навук, дацэнта, усё пачалося напрыканцы 1970-х гадоў з кіно. Яшчэ тады, калі яна была студэнткай факультэта журналістыкі БДУ. Дзякуючы сваёй першай выкладчыцы — вядомаму кінакрытыку, доктару філалагічных навук, прафесару **Ефрасінні Леанідаўне Бондаравай**, якая на той час чытала будучым журналістам лекцыі па гісторыі кінамастацтва, Людміла Пятроўна зразумела, што ёй патрэбны больш грунтоўныя веды пра кіно. Таму ў 1980-м годзе яна паехала ў Маскву, паступіла і ў 1985 годзе скончыла з чырвоным дыпломам кіназнаўчы факультэт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі. Пасля абароны кандыдацкай на факультэце журналістыкі МДУ пад кіраўніцтвам Е. Л. Бондаравай, Людміла Саянкова вярнулася ў Мінск і стала працаваць на родным журфаку БДУ. Але ўласнаручна распрацаваных курсаў лекцый па журналістыцы маладому кіназнаўцу і кінакрытыку было недастаткова, хацелася падзяліцца сваімі ведамі пра кіно са студэнтамі. Нягледзячы на пагардлівае стаўленне некаторых калег да кіно, маўляў — гэта забаўляльнае мастацтва, Людміла Пятроўна вырашыла — трэба стварыць асобную кафедру, якая забяспечыла б сваю культурную плынь. І не толькі па кіно, а ўвогуле па ўсім, што звязана з культурай і мастацтвам. Да таго ж усе ўмовы для гэтага былі, і людзі патрэбныя працавалі побач: вышэйзгаданая прафесар Е. Л. Бондарава, знакаміты тэатральны крытык, прафесар **Таццяна Дзмітрыеўна Арлова,** сама Л. П. Саянкова, другія дасведчаныя выкладчыкі, у тым ліку вядомыя літаратурныя крытыкі.



*Супрацоўнікі і сябры кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі.*

Людміла Саянкова ўпэўнена, на журфак заўсёды прыходзілі людзі, у якіх, апроч журналісцкай патрэбы, былі яшчэ і літаратурныя схільнасці, прага да творчасці. Так, з пачатку 1970-х гадоў на факультэце штогод выходзілі альманахі студэнцкай творчасці «**Аўтограф**». Выданне, якое ажыццяўлялі самі студэнты, цяпер можна назваць рарытэтным, паколькі кожны ягоны выпуск быў створаны на звычайнай друкарскай машынцы і існуе ў адзіным экземпляры. На старонках «Аўтографа» засталіся першыя творчыя спробы пісьменнікаў **Івана Пташнікава**, **Васіля Зуёнка**, **Івана Чыгрынава**, рэжысёраў **Анатоля Алая**, **Ігара Дабралюбава**, **Рычарда Ясінскага**. Варта згадаць і такіх былых выпускнікоў журфака, як **Адам Мальдзіс**, **Генадзь Бураўкін, Пятро Васючэнка**, **Галіна Багданава**, **Святлана Алексіевіч** і шмат каго яшчэ, каб пераканацца, што прафесія журналіста для будучых літаратараў вельмі і вельмі карысная.

І вось у 1998 годзе, дзякуючы намаганням Людмілы Пятроўны і яе паплечнікаў, пры Інстытуце журналістыкі БДУ была створана кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі. Адзіная ў нашай краіне, але не адзіная на постсавецкай прасторы, падобная здаўна існавала ў МДУ на журфаку. Кафедра адразу ўзяла актыўны ўдзел у падрыхтоўцы журналісцкіх кадраў. Але зноў жа, падрыхтоўка была агульная, не ставала акрэсленых і абазнаных у пэўнай галіне культуры прафесіяналаў. Трэба было вызначацца са спецыяльнасцямі. Таму з 2009 года на кафедры вырашылі адкрыць спачатку такую спецыяльнасць, якая рыхтавала б перш за ўсё прафесійныя літаратурныя кадры: празаікаў, паэтаў, літаратурных крытыкаў, а таксама драматургаў.

Цяпер на кафедры існуюць дзве спецыяльнасці і дзве формы навучання: «Літаратурная работа, творчасць» і «Літаратурна-мастацкая творчасць». Па першай бяруць нядаўніх выпускнікоў школ на дзённае навучанне. У 2010 годзе быў першы набор з дзесяці абітурыентаў, сёлета ён павялічыўся на пяць чалавек. Усе тыя маладыя людзі, якія ідуць сюды вучыцца, збольшага маюць невялічкі досвед у напісанні ўласных вершаў або прозы. Больш таго, сёння ад іх пры паступленні нават патрабуюць прыносіць свае творы. І не важна, захаваюцца іх творчыя здольнасці надалей, ці будуць яны пасля заканчэння вучобы празаікамі або паэтамі, усё роўна яны павінны абавязкова ведаць літаратурны працэс з сярэдзіны, яго законы. Навучаюцца тут бюджэтнікі і платнікі.



*Пра складаны шлях драматурга распавядае Пятро Васючэнка.*

На другой спецыяльнасці — «Літаратурна-мастацкай творчасці» навучаюцца людзі больш сталага веку, якія ўжо маюць вышэйшую адукацыю. Яны могуць быць матэматыкамі, фізікамі, біёлагамі, кім заўгодна. Але ва ўсіх іх ёсць патрэба або жаданне займацца літаратурнай творчасцю. Таму яны і вырашылі атрымаць дадатковую вышэйшую адукацыю, каб сваім другім дыпломам засведчыць права на напісанне кніг. Такая спецыялізаваная вучоба цягнецца два гады, з сесіяй, абаронай дыпломных работ. Вучоба платная і адбываецца на факультэце перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў.

План набору на гэты факультэт быў спачатку зусім невялічкім — усяго пяць чалавек, ён ажыццявіўся, але адзін чалавек сышоў з дыстанцыі, і цяпер тут навучаецца чатыры чалавекі. Сёлета на спецыяльнасць «Літаратурна-мастацкай творчасці» набралі дзесяць чалавек. І хаця група маленькая, на думку Людмілы Пятроўны, такіх вузкіх спецыялістаў больш і не трэба. Людзей творча адукаваных і не можа быць шмат, яны ўсе на пералік. Да таго ж, не ўсе з жадаючых атрымаць дадатковую літаратурную адукацыю могуць аплаціць сваё навучанне, якое тут не таннае. Ёсць шчасліўчыкі, якія патрапілі на працу ў літаратурныя выданні, але без спецыяльных ведаў, таму за іх плаціць рэдакцыя. Ім лягчэй. А ёсць і такія, якія едуць сюды на вучобу з абласных і раённых цэнтраў без усялякай грашовай падтрымкі, і не кожны з іх вытрымлівае, нават два гады.

## ДАСКАНАЛА ВЕДАЦЬ ТОЕ, ПРА ШТО ПІШАШ

Сёння на кафедры выкладаюцца літаратура — руская і беларуская, пачынаючы са старажытных часоў і заканчваючы XXI ст. Выкладанне літаратуры на кафедры забяспечваюць маладыя выкладчыкі, нядаўнія выпускнікі філфака. Гэта і **Аксана Бязлепкіна**, і **Уладзімір Капцаў**, і **Наталля Кузьміч**, і **Гражына Паўлоўская,** і **Сяргей Трунін** — усе яны кандыдаты філалагічных навук. Апроч іх тут працуюць такія маладыя і таленавітыя выпускнікі журфака, як паэты **Арцём Кавалеўскі** і **Маргарыта Аляшкевіч**. Дарэчы, старажытную беларускую літаратуру выкладае на кафедры таксама былы выпускнік журфака, вядомы пісьмен-

нік **Пятро Васючэнка**. Калегі кажуць пра яго, што ён і цяпер застаецца патрыётам гэтай навучальнай установы — і ў думках, і ў стылі выкладання.

Усе выкладчыкі, якія працуюць на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, пераканана Людміла Пятроўна, таленавітыя педагогі, яны напоўніцу аддадзены сваёй працы. Каб выхаваць са студэнтаў патрэбных спецыялістаў, трэба шчодра дзяліцца не толькі каштоўнымі ведамі, кожнаму ў сваёй галіне, але і вольным часам. Што і робяць выкладчыкі кафедры.

Але ў планах Людмілы Саянковай больш маштабныя задумы. Яна марыць рыхтаваць на кафедры не толькі прафесіяналаў ад літаратуры. Таму тут акумуліраваны ўсе дысцыпліны, якія тычацца мастацтва і культуры ўвогуле. Апроч літаратуры і літаратурна-мастацкай крытыкі, на кафедры выкладаецца тэатральнае і кінамастацтва, курс гісторыі мастацтваў (жывапіс, пластычныя віды мастацтва), культуралогія. Гэта асноўныя дысцыпліны. Ёсць яшчэ шмат спецкурсаў, так званыя «творчыя майстэрні», якія на прафесійнай мове называюцца: курс па профілю. Да прыкладу, вакол выкладчыка, майстра, які дасканала ведае гісторыю тэатра ў нашай краіне, гуртуецца невялічкая група студэнтаў, тых маладых людзей, якіх цікавіць тэатральнае мастацтва. Так ствараецца асяродак, дзе выхоўваюцца будучыя тэатральныя крытыкі. Такія самыя майстэрні рыхтуюць і кінакрытыкаў, і крытыкаў выяўленчага мастацтва, і літаратурных крытыкаў... А сёлета, па словах Людмілы Пятроўны, яшчэ будуць рыхтаваць і музычных крытыкаў. Такімі майстрамі, якія гатовы дзяліцца асабістым досведам і вучыць студэнтаў, з’яўляюцца выкладчыкі, хто практыкуе свае веды ва ўласнай прафесіі і працуе на журфаку па сумяшчальніцтву.

Спецыялісты, якія выходзяць са сцен Інстытута журналістыкі, запатрабаваны ў нашым грамадстве. Шмат хто з выпускнікоў журфака і кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі ў прыватнасці, працуюць у розных галінах мастацтва, у масавых сродках інфармацыі. І на кафедры робяць усё магчымае, каб выхаваць сапраўдных прафесіяналаў, таму што мала навучыцца пісаць, трэба яшчэ ведаць прадмет, пра які пішаш. Увогуле, веды па культуры і мастацтву спатрэбяцца кожнаму адукаванаму чалавеку, у якога ёсць вышэйшая адукацыя, нягледзячы на тое, кім ён будзе працаваць у далейшым.

## ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА СТВАРЭННЯ ЛІТАРАТУРНЫХ ТВОРАЎ

Малады супрацоўнік кафедры, паэт **Арцём Кавалеўскі** таксама вучань знакамітай Ефрасінні Леанідаўны Бондаравай. Пачынаючы з другога курса журфака, яна апекавалася сваім вучнем, была рэцэнзентам яго дыпломнай работы, потым у аспірантуры — кіраўніком дысертацыі. Цяпер ён з удзячнасцю згадвае, што менавіта гэты мудры чалавек падтрымаў яго ў складаны перыяд жыцця, калі трэба было выбіраць свой уласны творчы шлях, і, абраўшы, ніколі не зварочваць з яго. Літаратурна-мастацкая крытыка, якую Е. Л. Бондарава чытала сваім студэнтам на пятым курсе, дасталася яму ў спадчыну. На жаль, знакаміты педагог і кінакрытык нядаўна пайшла з жыцця. Цяпер гэтую дысцыпліну Арцём чытае пяцікурснікам журфака, а тых, хто толькі пачынае сваю вучобу, ён знаёміць з «тэорый літаратуры».

Існуе меркаванне, што журналіст і пісьменнік — розныя прафесіі, і не кожны журналіст здатны зрабіцца пісьменнікам. Па-першае, сваёю літаратурнай творчасцю Арцём пераконвае ў адваротным. Па-другое, калі ён бачыць, якімі прыходзяць студэнты на першы курс, якімі яны сыходзяць напрыканцы, назірае за іх эвалюцыяй, ён лішні раз упэўніваецца, што такое меркаванне памылковае. Арцёму прыемна, што і сёння колькасць тых, хто апроч журналістыкі хоча займацца і літаратурай, не памяншаецца. Гэта і маладая паэтка **Вольга Чайкоўская,** якая ўсвядоміла сябе ў гэтым творчым рэчышчы яшчэ на 2-м курсе журфака, і пачынаючы празаік **Кацярына Безмацерных**, аўтарка некалькіх цікавых твораў, што друкаваліся ў «Маладосці», і таленавіты эсэіст **Антон Трафімчык**, пераможца міжнародных літаратурных конкурсаў, супрацоўнік газеты

«Аргументы і факты». Арцём упэўнены, што колькасць таленавітых і творчых людзей на журфаку ва ўсе часы была аднолькавай.

Упэўнена ў гэтым і кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі **Аксана Бязлепкіна**. Яна знаёміць сваіх студэнтаў з сучасным літаратурным працэсам, з самымі свежымі, актуальнымі і папулярнымі творамі, напісанымі сённяшнімі беларускімі аўтарамі. Не сакрэт, што сучаснае развіццё літаратуры патрабуе ад пісьменніка і будучага літаратурнага крытыка ведання тэорыі напісання тэкстаў. Таму студэнты вучацца вызначаць жанравыя разнавіднасці літаратурных твораў. Яркі прыклад — што такое фемінісцкая літаратура, у прыватнасці што такое жаночая проза, якія павінны быць яе рысы? Чаму не кожны тэкст, напісаны жанчынай, з'яўляецца жаночай прозай. Калі каго цікавіць дзіцячая літаратура або прыгодніцкая, калі ласка, вам распавядуць сакрэты яе напісання. Яшчэ на лекцыях расказваюць пра тое, як авалодаць мовай і стылем тэкстаў, што такое імідж пісьменніка, хто з беларускіх пісьменнікаў працуе над іміджам, як рэалізоўвае яго. Калега Аксаны Бязлепкінай — **Уладзімір Анатольевіч Капцаў**, які займаецца постмадэрнізмам у рускай літаратуры і знаёміць з гэтай з'явай сваіх вучняў, любіць абмяркоўваць з імі, што трэба для стварэння літаратурнага брэнда таго ці іншага літаратурнага твора, як увогуле ўзнікаюць літаратурныя праекты.

І толькі потым, калі студэнты праслухаюць курс лекцый, авалодаюць тэарэтычнымі ведамі, яны могуць прыступаць да практыкі — пісаць курсавыя і дыпломныя работы на адпаведныя тэмы, аналізуючыя тыя ці іншыя творы беларускіх і расійскіх творцаў. І такія работы ўжо ёсць, прызнаецца Аксана, да прыкладу, напісана курсавая праца па беларускай жаночай прозе.

Увогуле на занятках па літаратуры, якія праводзяцца на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, студэнты пачуваюцца разняволена, тут пануе творчы настрой. Можна прынесці ўласны твор і тут жа абмеркаваць яго з выкладчыкам, які, каб не пашкодзіць творчаму самалюбству аўтара, тактоўна, але шчыра выкажа сваё меркаванне. Тут можна выбраць любую тэму для курсавой або дыпломнай працы. Такое магчыма, таму што на спецыяльнасцях кафедры займаецца невялікая колькасць студэнтаў. Так, на «літаратурна-мастацкай творчасці» вучацца усяго чатыры чалавекі, і ўсе жанчыны, дарэчы. Аксана смяецца, што мужчыны да іх не дайшлі, хаця на перападрыхтоўцы яны ёсць, але вучацца на іншых спецыяльнасцях.

А яшчэ на журфаку створаны цудоўныя мультымедыйныя ўмовы навучання: тут слухаюць аўдыёзапісы літаратурных твораў і дыскі з запісамі сучаснай музыкі, глядзяць фотаздымкі і відэазапісы слэмаў, на якіх паэты спаборнічаюць, чытаючы свае вершы... Так што няма праблем з тым, каб паказаць студэнтам усё багацце сучаснага літаратурнага і ўвогуле культурнага жыцця на Беларусі. Дзякуючы такім магчымасцям, моладзь журфака бачыць на свае вочы, што беларуская літаратура не толькі жывая, але і развіваецца напоўніцу.

## БРАМА ДЛЯ ТАЛЕНТАЎ

Кожны з педагогаў, хто працуе на кафедры, з'яўляецца ўнікальнай і выбітнай асобай, усе яны паплечнікі і сябры, паміж якімі няма ні зайздрасці, ні крыўд, ні пляткарства. Кожны з іх цікавіцца і захапляецца ведамі і прафесійным уменнем іншага, яны наведваюць лекцыі адзін аднаго. І калі нехта з іх апантаны ідэяй правядзення нейкага творчага конкурсу, уся кафедра далучаецца да гэтага праекта. Ніхто з іх не лічыцца ні з уласным часам, ні з іншымі перашкодамі, таму што ўсе яны захоплены сваёй любімай работай, і агульнай справай.

Калі казаць пра творчы настрой на кафедры і пра конкурсы, якія ініцыіруюцца тут, нельга не ўзгадаць адзін з іх. Маецца на ўвазе адкрыты конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў «Брама мар», які адбыўся летась. Ідэя стварэння конкурсу належала Уладзіміру Капцаву, а самы актыўны ягоны памочнік у ажыццяўленні праекта — Аксана Бязлепкіна, яна брала ўдзел у кожным яго этапе. У конкурсе ўдзельнічалі 160 аўтараў з

дванаццаці ВНУ краіны, яны вынеслі на суд і прозу, і паэзію, і драматургію, і крытыку, і пераклады. Літаратурныя спробы студэнтаў разглядала журы, якое складалася з выкладчыкаў Інстытута журналістыкі ў адпаведных галінах літаратурнай творчасці і вядомых беларускіх літаратараў.

І хаця пераможцаў сярод журфакаўцаў не знайшлося, запомніліся і дагэтуль згадваюцца адмысловыя майстар-класы, якія праводзіліся падчас конкурсу. На працягу двух гадзін такія майстры слова, як **Пятро Васючэнка, Галіна Багданава, Людміла Рублеўская, Віка Трэнас, Ірына Шаўлякова, Арцём Кавалеўскі** дзяліліся сваім майстэрствам з канкурсантамі. Амаль на кожным майстар-класе былі заданні, якія трэба было выканаць тут і цяпер: па зададзеных параметрах на працягу абмежаванага часу напісаць апавяданне, п'есу або крытычны тэкст з дзесяці сказаў, скласці верш, зрабіць пераклад. Як ні дзіўна, большасць студэнтаў пры такіх жорсткіх умовах бліскуча справіліся з заданнем і прыйшлі да фіналу з выдатнымі вынікамі. Потым было ўручэнне прызоў і ўзнагарод, публікацыі лепшых твораў у беларускамоўных выданнях, у прыватнасці ў «ЛіМе» і інш.

Цяпер, калі прайшоў час, супрацоўнікі кафедры ўпэўнены, што «Брама мар» стала не толькі адкрыццём новых талентаў у беларускім літаратурным працэсе, але і адкрыццём самой беларускай літаратуры ва ўнутраным асяродку студэнтаў, якія бралі ўдзел у конкурсе. Не сакрэт, што большасць іх рускамоўныя і з творчасцю беларускіх літаратараў, асабліва маладых, не заўсёды знаёмы. Сам конкурс і некаторыя ягоныя ўмовы (друкаваліся толькі беларускамоўныя тэксты) далі ім магчымасць выправіць гэтую хібу і зрабіцца не толькі аўтарамі, але і чытачамі твораў, напісаных па-беларуску.

***Канечне, адкрыццё новай кафедры ў Інстытуце журналістыкі і ўвядзенне на ёй літаратурных спецыяльнасцей, можа, і не павялічыць колькасць прафесійных пісьменнікаў у грамадстве. Але вельмі важна для развіцця кожнага грамадства стварыць такі культурны асяродак, дзе б творчы чалавек камунікаваў з другімі творчымі людзьмі, каб кожны з іх дапамагаў адзін аднаму раскрыць, пазнаць сябе і грані свайго таленту.***

***Як бачым, кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі спраўляецца з такой задачай. Ужо шмат гадоў тут пануе творчая атмасфера, якая падсілкоўвае будучых празаікаў і паэтаў, музыкаў, рэжысёраў і іншых людзей культуры. І, магчыма, пройдзе яшчэ колькі гадоў, і тая літаратурная адукацыя, якая даецца на кафедры, адыдзе ад агульнай журналісцкай і ператворыцца ў паўнавартасную школу літаратурнага майстэрства. Магчыма, і ва ўласны літінстытут, тую неабходную структуру культуры і мастацтва, якая павінна існаваць у кожнай нацыі. Будзем спадзявацца.***

# ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ НУМАРЫ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»
## (*Нілу ГІЛЕВІЧУ — 80*)



Мала хто бачыў і яшчэ менш засталося тых, хто выпісваў старую «Маладосць», першыя яе нумары. Калі параўнаць з сённяшнім выглядам, то можна знайсці і шмат агульнага: артыкулы на актуальную тэматыку, шмат фотаздымкаў, у тым ліку каляровых.

Адкрыем, напрыклад, № 2 (май) за 1953 год. Вось ідзе нарыс «Няспынныя пошукі», прысвечаны маладому яшчэ Мінскаму аўтазаводу, нарыс «Камсамольцы калгаса імя Сталіна», а тут і надзённы артыкул П. Пестрака «Папства — вораг міру і дэмакратыі». Наогул, асноўным жанрам у тагачаснай «Маладосці» быў нарыс. Час быў такі, што публіцыстычны запал цаніўся вышэй за мастацкія вышукі.

Нягледзячы на магутны сацрэалістычны запал, «Маладосць» усё ж такі мела і свае адзнакі, і свайго ўдзячнага чытача сярод працоўных і сялян: колькі было радасці, мусіць, як бачылі сябе на фота, а то і на вокладцы сталічнага выдання!

Літаратуры, тым не менш, было пакуль зусім няшмат. Хоць у складзе рэдакцыі былі адны пісьменнікі, ды і не абы-якія: Аляксей Кулакоўскі (адказны рэдактар), Янка Брыль (намеснік адказнага рэдактара), Іван Грамовіч, Максім Танк.

Звычайна на нумар — адно сярэдняе па памеры апавяданне, адна нізка вершаў, і некалькі публікацый аднаго верша, часам нават устаўленых у актуальны нарыс ці артыкул. Пакрысе літаратура адваёўвала сабе месца. Праз гады ў «Маладосці» друкаваліся ўжо буйнафарматныя раманы, аповесці, апавяданні, адкрываліся Міколам Аўрамчыкам новыя паэтычныя імёны.

Адным з такіх новых галасоў быў для часопіса голас Ніла Гілевіча, тады яшчэ не Ніла Сымонавіча, народнага паэта рэспублікі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, а проста — «студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна». Менавіта ў гэтым, другім па ліку нумары за 1953 год быў надрукаваны яго першы «маладосцеўскі» верш «У скверы зялёным»:

У скверы зялёным
Пралегла дарожка,
У скверы ля клёнаў
Ёсць Гонару Дошка.

І часценька-часта
Пад гэтыя клёны
Прыходзіць віхрасты
Юнак задумённы.

Ён моцна і шчыра
Дзяўчыну кахае,

І знае дзяўчына,
Даўно гэта знае.

А толькі заходзіць
Аб гэтым размова —
Да смеху ўсё зводзіць,
І болей ні слова.

Далей там пра тое, як дзяўчына ўсміхалася ўсім мінакам з Дошкі Гонару, і тады, каб дасягнуць яе ўвагі, хлопец таксама вырашыў стаць стаханаўцам. Займальна, ці не праўда?

Справа, зрэшты, не ў тэме верша, а ў яго настроі — сонечным, маладым.

Вядома, гэта былі не першыя публікацыі Гілевіча — дэбютаваў ён у 1946 годзе ў «Бярозцы». Але, як бачым, пачынаючы з самага першага года існавання «Маладосці», ён быў жаданым госцем на старонках часопіса.

Паэзія яго вылучалася адметным стылем, была пазбаўлена голай схематычнасці. А нават калі і ўзнікалі падобныя матывы, то ўсё ж такі натуральней гучала іншае — лірычнае «я» паэта. Чуўся ясенінскі водгалас, і гэта для 1950-х, вядома, было свежым подыхам. Дзе яшчэ той ХХ з'езд, дзе яшчэ тая адліга, а маладыя ўжо хацелі. Ужо не маглі пісаць «агіткі». Спела, вырастала, шырылася новае пакаленне, якое пасля назавуць філалагічным.

Нагадаю, што першачарговае значэнне ў жыцці і творчасці «шасцідзясятнікаў» мелі падзеі Вялікай Айчыннай вайны. У беларускім літаратуразнаўстве гэтае пакаленне часам называюць «пісьменнікамі, чыё дзяцінства было апалена вайной». Сюды ж далучаецца пафас пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі, у якім удзельнічалі і будучыя пісьменнікі.

Другім важным фактарам у развіцці творчай свядомасці пісьменнікаў-«філолагаў» стала смерць І. В. Сталіна ў сакавіку 1953 г. Гэтая падзея завяршыла эпоху татальнай рэгламентацыі грамадскіх, у тым ліку і творчых, працэсаў.

Паказальна, што «смерць Сталіна, які ўвасабляў сабой не толькі ўладу, але і цэласную сістэму жыццёва неабходных каштоўнасцей, успрымалася пераважнай большасцю насельніцтва як крушэнне гэтай сістэмы, што павінна было выклікаць непазбежныя і выключна негатыўныя наступствы».

З верасня 1953 г. па кастрычнік 1964 г. кіраўніком савецкай дзяржавы быў М. С. Хрушчоў, з імем якога найчасцей і атаясамліваюцца дэмакратычныя змены, што атрымалі назву «адлігі» (паводле аднайменнай аповесці І. Эрэнбурга).

Даследчыкі вылучаюць у хрушчоўскім кіраванні два этапы: адносная дэмакратызацыя і зварот да неасталінізму. На першым этапе адбыўся ХХ з'езд ЦК КПСС, дзе Хрушчовым быў прачытаны закрыты даклад «Пра культ асобы Сталіна і яго наступствы». У дакладзе савецкі кіраўнік раскрыў злачынныя рысы характару Сталіна і абвінавацію яго:

1) у гібелі людзей на пачатку ВАВ (Сталін, па сведчанні Хрушчова, ведаў аб стане арміі напярэдадні вайны і нічога не зрабіў для выпраўлення сітуацыі);

2) у масавых рэпрэсіях 1930-х гг. супраць «ворагаў народа» (спецкамісія «выявіла шматлікія факты фальсіфікаваных, ілжывых абвінавачванняў, жудасных парушэнняў сацыялістычнай законнасці, у выніку чаго загінулі невінаватыя людзі»);

3) у неправамерных дэпартацыях народаў (чачэнаў, інгушаў, калмыкаў і інш.);

4) у напісанні вучонымі кніг на заказ і ад імя Сталіна.

Асноўнае значэнне ХХ з'езду для культуры — рэабілітацыя пісьменнікаў 1920—30-хх гг. і іх творчай практыкі, паслабленне цэнзурных абмежаванняў, з'яўленне міжнародных культурных зносін (адкрыўся доступ да замежных кінафільмаў, літаратуры, музыкі, жывапісу), а таксама імкненне творцаў да нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Ідэалізаваць уплыў ХХ з'езду не трэба, бо «ідэалагічныя арыенціры» мінулага заставаліся нязменнымі. Імпульс, дадзены ХХ з'ездам, не быў рэалізаваны цалкам, хоць працэс дэмакратызацыі працягваўся.

У сярэдзіне 1950-х гг. адбываецца значная актывізацыя ў літаратуры і мастацтве:

1953 — год заснавання часопіса «Маладосць», з 1956 існуе «Юность». Паэзія карыстаецца шырокай папулярнасцю. Паводле трапнага выказвання Я. Еўтушэнкі: «Стихи читает чуть не вся Россия / И чуть не пол-России пишет их». Распачынаецца выпуск часопісаў «Вопросы литературы» і «Иностранная литература». Культурна-мастацкія выданні праводзяць дыскусіі аб прызначэнні мастацтва і формах адлюстравання рэчаіснасці. Адным з асноўных становіцца часопіс «Новый мир» на чале з А. Т. Твардоўскім, дзе друкуюцца першыя творы «лейтэнанцкай», «вясковай» і «лагернай» прозы.

Значна ўплываюць на грамадскую свядомасць дасягненні савецкай навукі, асабліва ў галіне касманаўтыкі (запуск перашага спадарожніка ў 1957 г. і першы палёт чалавека ў космас у 1961 г.). Час пазіцыянуецца як эпоха НТР, гэта шырока адлюстроўваецца ў літаратуры.

Згортванне палітыкі «адлігі» звязана са зваротам да «неасталінізму». Пачатак яго — наладжаны М. С. Хрушчовым на выставе мастакоў у Манежы 1.12.1962 года разнос «абстрактнага» мастацтва і «апрацоўка» дзеячаў літаратуры і мастацтва 17.12.1962 і 8.03.1963. Пасля змены кіраўніцтва ў 1964 г. «адліга» канчаткова завершылася. У той жа час на Беларусі канец «адлігі» трэба пазначаць 1970 г. (выхад першых зборнікаў новай генерацыі паэтаў А. Разанава, Я. Янішчыц, Р. Семашкевіча, Н. Мацяш і інш.).

Адным з найярчэйшых прадстаўнікоў старэйшай плыні філалагічнага пакалення быў Ніл Гілевіч. Ён, зрэшты, насамрэч звязаў сваё жыццё з філалогіяй — дзесяцігоддзі быў выкладчыкам у БДУ, прафесарам, пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы і кнігі. Зрэшты, «філолаг» — гэта, з лаціны, «аматар слова». Менавіта любоў да роднага беларускага слова і вызначыла лёс Гілевіча — не толькі ў паэзіі, але і ў публіцыстыцы, грамадскай дзейнасці (доўгі час ён узначальваў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны).

Сёлета Нілу Сымонавічу — 80! Але, пазіраючы на яго масіўную постаць волата, гэтага не скажаш. Ён па-ранейшаму плённа працуе. Ён — з намі, рыцар беларускага слова, народны паэт. І ад гэтага лёгка на душы.

***Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ***

# ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА Ў БЕРМУДСКІМ ТРОХКУТНІКУ?

***З чаго пачынаецца жыццё? Адказ просты: «З дзяцінства...» Вось толькі дзе яно жыве? Гэта ведае той, хто хоць аднойчы трапляў у чароўны свет казкі. А вось як яна ствараецца, ведаюць нямногія. Напрыклад, дзіцячая пісьменніца і паэтэса Раіса Андрэеўна БАРАВІКОВА.***



**— Раіса Андрэеўна, што для Вас казка?**

— Адразу напрошваецца: казка — твор літаратуры… Яна, напэўна, для ўсіх. Чаму для ўсіх? Мне запомнілася, як напачатку 90-х, калі толькі распаўся Савецкі Саюз, адна газета правяла апытанне сярод прадстаўнікоў расійскай думы. Пыталіся, што яны чытаюць і што абавязкова трэба чытаць кожнаму? І большасць з іх назвалі Біблію і казкі.

**— А з чаго пачынаецца казка?**

— Безумоўна, любая казка пачынаецца з жыцця. Я звярнуся да класікі: «Мы рождены, чтоб сказку сделать былью». Усё лепшае, дзівоснае, што закладаецца ў казцы, трэба імкнуцца ператварыць у жыццё.

**— Скажыце, калі ласка, якія казкі лепш успрымаюць сучасныя дзеці: вершаваныя ці празаічныя?**

— Празаічныя. У мінулым стагоддзі ў дзіцячай літаратуры было шмат вершаваных кніг. Тут ёсць маленькі нюанс. Пісьменніку, як і кожнаму чалавеку, шкада сваёй працы. Вось ён складае зборнік паэзіі, зразумела, нейкія вершы адсейваюцца, і ён абавязкова гэтыя вершы ўключыць у нейкія дзіцячыя творы. Пра лес, пра поле… Наколькі я вывучыла дзіцячую псіхалогію, дзеці ўспрымаюць тую літаратуру, дзе ёсць сюжэт, развіццё, героі. А паэзія — гэта ўсё ж такі элітарнае чытанне. Для вельмі тонкай душы. Не кожны чалавек унікне ў тонкае, сапраўднае, таленавітае паэтычнае слова.

**— Раіса Андрэеўна, на Вашу думку, якой павінна быць казка XXI стагоддзя, каб яна магла зацікавіць чытача?**

— Я думаю, што казка — па-за часам. Таму што ёсць народныя казкі, якія выраслі з легендаў і праз вусную народную творчасць дайшлі да нашага часу. Яны цікавыя і ў XXI стагоддзі, таму што там увесь жыццёвы антураж, прырода, мудрыя народныя сюжэты. Але ёсць такое паняцце, як аўтарская казка, і, канечне, тут пісьменнікі мусяць ўлічваць часавы момант: спалучаць мінулае і сучаснае.

**— Сёння аўтарская казка ідзе поруч з народнай ці саступае?**

— Ведаеце, дзіцячая літаратура XX стагоддзя пераважна складалася з народых казак, але ім бракуе адной дэталькі — сучаснасці. Чаму? Я сама над гэтым задумвалася... У мяне дачка з 83-га года. І вось недзе ў сярэдзіне 80-х мы з ёй пайшлі на навагоднія свята, на ёлку ў Саюз пісьменнікаў, дзе наш цудоўны Тэатр юнага гледача паказваў спектакль па народнай казцы. Там былі чорт

і пан. І ўсе з беларуса здзекаваліся, усе яго штурхалі: чорт стараўся падмануць, пан даваў кухталёў. І беларус такі нехлямяжы, у латаных штанах, у нейкай шапцы, абдураны і ўсімі пакрыўджаны. Вяртаецца ён дадому, а ўласная жонка накідваецца з віламі і пачынае яго біць. Ці можа гэты сюжэт выхаваць у дзіцяці пачуццё годнасці, самасвядомасці? Дзіця ж не ўмее аналізаваць, яно ўспрымае ўсё зрокава. Калі мы з дачкою ехалі дадому, я ў яе запыталася: «Леначка, ну як табе свята, спектакль?» Яна думала, думала, а потым запыталася: «А бабуля таксама б'е дзеда Андрэя?» У яе пачуццё шкадавання ўзнікла. І мне давялося ёй тлумачыць, што гэта толькі казка. Таму нашым дзецям і трэба, каб была аўтарская казка. Яна ёсць ва ўсіх народаў свету, яна з народнай казкаю крочыць поруч. Здараецца, што аўтарская казка робіцца народнай. Вось, скажам, у рускай літаратуры — «Прыгоды Бураціна». Напісаў класік Аляксей Талстой, больш за тое — запазычыў у італьянцаў сюжэт, але так вобразна, цікава напісаў!

У нас ёсць плеяда пісьменнікаў, якія вельмі актыўна працуюць у рэчышчы дзіцячай літаратуры. І я вам скажу, што гэтая літаратура карыстаецца попытам. Мне апошнія некалькі гадоў даводзілася быць на сусветных кніжных выставах і ў Маскве, і ў Вільнюсе — на ўсіх гэтых кніжных кірмашах было 65 працэнтаў дзіцячай літаратуры. Таму што кожная нацыя хоча выхаваць сваіх дзяцей годнымі прыгожымі стваральнікамі жыцця, а не разбуральнікамі яго.

**— Чым адрозніваецца беларуская дзіцячая літаратура ад іншых славянскіх літаратур?**

— Хай не крыўдуюць чытачы, але я выкажу ўласную думку. Адрозніваецца тым, што наш народ у мінулых стагоддзях вельмі пакутаваў, жыў у вялікай галечы. Таму нашыя казкі — гэта пераважна мужык і пан: пан здзекуецца, а мужык шукае свой шлях да вызвалення, да свабоднага жыцця, каб як мага хутчэй скінуць з сябе гэты прыгнёт. Пан — гэта жыццёвая рэалія, але ёсць і чарадзейны бок: чорт, вядзьмак. Гэта было ў мінулым, а цяпер мы павінны будаваць сваю Беларусь і адчуваць сябе беларусамі. Беларусы — неверагодна таленавітыя людзі, і іх нельга прывязваць толькі да зямлі. А колькі наша зямля дала славутых навукоўцаў! Напрыклад, Барыс Кіт, які вынайшаў ракетнае паліва. Мы здольны на любое адкрыццё. У нас вельмі таленавітая літаратура, але амаль няма перакладчыкаў, каб яна імгненна загучала.

**— Вось калі вярнуцца да размовы пра таленавітых людзей, таленавіты казачнік — гэта хто?**

— Нездарма кажуць, што для дзяцей пісаць вельмі складана, бо калі, напрыклад, пісьменнік-філосаф паспрабуе напісаць казку — нічога не атрымаецца. Тут трэба нейкі асаблівы талент мець. А галоўнае, трэба на свет глядзець праз ружовыя акуляры. Нечага проста не заўважаць, у нешта не ўнікаць. А для гэтага варта мець дзіцячую непасрэднасць. Таму пісьменнік павінен быць і вельмі моцным чалавекам, і фантазёрам, і любіць усё самае-самае лепшае, што ёсць у гэтым жыцці, любіць да слёз, глыбінямі душы сваёй.

**— Уладзімір Караткевіч у «Чорным замку Альшанскім» напісаў: «Якая эпоха, такія і таленты». Ці адпавядае гэты афарызм таму, што адбываецца ў дзіцячай літаратуры?**

— Я не зусім пагаджаюся з класікам. У любы час, у любую эпоху можа з'явіцца талент. Талент ад прыроды, талент ад Бога даецца чалавеку. Талент — гэта скарб, які трэба развіваць у сабе, працаваць на яго. І таму талент не залежыць ад эпохі. Скажам, класік французскай паэзіі Франсуа Віньён, чалавек з цьмяным лёсам. А паэзія боская. Яна засталася. З другога боку, мы цяпер жывём у час захавання сваёй самастойнасці, незалежнасці. Эпоха — гэта не толькі жыццё творцаў і талентаў. Эпоха — гэта і палітыка, і прамысловасць, і эканоміка. І наша жыццё шмат ад чаго залежыць. Мне думаецца, што няпростае, пакручастае жыццё і ў талентаў.

**— Ці можна сёння казаць пра развіццё беларускай дзіцячай літаратуры, альбо існуе толькі ілюзія руху наперад?**

— Гэта міф, што дзіцячая кніга незапатрабавана з цьмяным лёсам. Я таксама

сама доўга верыла гэтаму міфу. Але сёння беларуская дзіцячая літаратура перажывае ўзлёт. Наогул, у XX стагоддзі адбыўся вялікі касмічны прарыў. У наша жыццё ўварваўся камп'ютар. Мы ўсе захапіліся тэхнічным бокам, аднак забыліся, што душа чалавека таксама павінна развівацца. А ў нас для гэтага толькі камп'ютар ды тэлевізар! Але важна перадаваць пачуцці, эмоцыі не праз нейкія рытмічныя танцы, а праз слова. Гэтак ад пачатку было. І таму я думаю, што нам патрэбны казкі, якія б развівалі душу людзей з дзяцінства. Але пры гэтым сучасныя дзеці — прадстаўнікі новай эпохі, новай цывілізацыі.

**— А крытыка дзіцячай літаратуры — гэта міф?**

— Ведаеце, ёсць асобныя артыкулы. Але для нашай дзіцячай літаратуры гэтага недастаткова. Мяне здзіўляе, што нашу літаратуру для дзяцей не ведаюць у свеце.

**— Ці зможа рэклама папулярызаваць кнігі для дзяцей?**

— Нашай дзіцячай літаратуры бракуе рэкламы, здаровага піяру. Я не люблю чорны піяр. Ён не для дзіцячай літаратуры. Але ў наш час пісьменнік сам павінен думаць пра тое, як прывабіць чытача, як падаць свой твор, чым зацікавіць. А не чакаць пакуль нейкі крытык пачне яго хваліць. Нашы пісьменнікі не могуць дазволіць сабе мець літаратурнага агента, яны самі павінны пра сябе гаварыць!

**— Скажыце, калі ласка, ці можа сумленная крытыка стаць сродкам адсейвання няўдалых твораў?**

— Крытыка, на мой погляд, гэта царыца літаратурнага працэсу. Чаму? Таму што сапраўдная крытыка фарміруе гэты працэс. Яна стварае атмасферу для яго існавання, сумленна дае парады, паказвае хібы, недахопы ў творчасці таго ці іншага пісьменніка. І наадварот. У нас ёсць таленавітыя крытыкі, якія стараюцца прыцягнуць чытача да беларускай літаратуры. Паглядзіце, як плённа працуюць Ірына Шаўлякова, Лада Алейнік.

**— Крытыка «на замову» ўласціва дзіцячай літаратуры?**

— Я не сутыкалася. Але лічу, што павінна пісацца «як ёсць». Тым больш, што дзеці рэцэнзій не чытаюць. Дзеці чытаюць кніжку.

**— Але ў дзяцей ёсць бацькі...**

— Мне падаецца, што гэтыя рэцэнзіі чытаюць не столькі бацькі, як настаўнікі. І самі пісьменнікі! А крытыка, напэўна, больш для гісторыі.

**— Як бы Вы назвалі сучасны літаратурны перыяд?**

— Магчыма, гэта некаму не спадабаецца, нават выкліча абурэнне, але назвала б яго Бермудскім трохкутнікам. Ёсць цікавыя творы, ёсць кнігі, якімі чытачу можна было б зачытвацца, але ў нас няма масавага чытача, няма дыялогу пра літаратуру. Нядаўна я прачытала інтэрв'ю з вядомым акцёрам, які хацеў бы зняцца ў дзіцячым серыяле. Вось калі б нехта з кінастудыі «Беларусьфільм» прыйшоў у выдавецтва і выйшаў з яго са стосам кніжак для дзяцей, каб адшукаць тую, з якой варта зрабіць цікавы тэлесерыял!..

У мяне была сустрэча ў школе. Да мяне падышоў хлопчык з маёй кніжачкай «Казкі астранаўта», пяцікласнік недзе. Папрасіў аўтограф і сказаў: «Ведаеце, калі раптам так здарыцца, што я стану астранаўтам, я вазьму вашу кніжку ў свой першы палёт». Я яму была вельмі ўдзячна. У нашай літаратуры ёсць будучыня — трэба толькі належная ўвага да яе, каб выплыць з гэтага Бермудскага трохкутніка!

*Гутарыла Юлія ВАЎЧОК*

Аксана БЯЗЛЕПКІНА

# ДАРОСЛАЯ ДАПАМОГА ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ: ЯК ПІСАЦЬ, РЭКЛАМАВАЦЬ І ВЫКЛАДАЦЬ ЛІТАРАТУРУ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## 1. ПАМЕЖНАЯ ЗОНА

Дзіцячая літаратура знаходзіцца ва ўнікальнай памежнай сітуацыі, якую я паспрабавала адлюстраваць у назве артыкула. Відавочна, што дзіцячая літаратура пішацца, рэкламуецца і выкладаецца для розных аўдыторый: пісьменнікі працуюць для дзяцей, крытыкі і журналісты — для настаўнікаў і бацькоў, а выкладчыкі — для студэнтаў, якія ўжо даўно не дзеці, але яшчэ і не бацькі. Сітуацыя ўскладняецца і дадатковымі праблемамі. Крытык Ж. Запартыка у 2009 годзе, прааналізаваўшы ўсе дыскусіі пра дзіцячую літаратуру ў беларускіх СМІ, зрабіла несуцяшальныя высновы: праблемы літаратуры для дзяцей не вырашаюцца, бо няма дыялогу паміж тымі, хто можа іх вырашыць. То бок да дзяцей, бацькоў, настаўнікаў і выкладчыкаў, пісьменнікаў і мастакоў-ілюстратараў дадаюцца выдаўцы і дзяржава. І ўсе гэтыя бакі мусілі б паяднацца ў адзіным парыве для вырашэння праблем дзіцячай літаратуры. Але гэта ў ідэале.

## 2. ЗНАЙСЦІ ЛАГАПЕДА

Ёсць банальны інтэрнэт-жарт: «Калі б дзеці маглі ствараць тэмы на форумах у сеціве, то якія б пытанні яны ўзнімалі?» Адзін з варыянтаў адказаў быў такі: «Дзе знайсці лагапеда для бабулі?» Лагапедаў для дзіцячых пісьменнікаў мы шукаць не будзем: пісаць для дзяцей трэба проста, але не прымітыўна. І арыгінальна (з дзяцінства памятаю барадулінскую кнігу «Ці пазяхае бегемот?», а ўжо цяпер прыемна ўразілі аўтарскія калыханкі, забаўлянкі, лічылкі, хуткамоўкі, дражнілкі, загадкі, казкі, небыліцы-перакруткі, гумарыстычныя вершы Р. Барадуліна ў кнігах «Ішоў Коця па канапе», «Грышка, Мішка і Шчыпай», «Выпаў грук у грома з рук», «Як воўк калядаваў», а таксама кніга Л. Пранчака «Мама, тата і Агата»).

Быць на адным узроўні з дзецьмі («я з вамі адной крыві») ці падцягваць іх да свайго ўзроўню? Прыгадалася мая інтэрнэт-дыскусія з дзіцячым пісьменнікам В. Гапеевым: я сцвярджала, што ў хрэстаматыі для факультатыва ў 8 класе «Незвычайнае літаратуразнаўства» яго аповесць (а насамрэч аб'ёмнае апавяданне) «Лёшкава каханне, або Віртуальнае дрэва рэальнасці» шмат губляе на фоне аповесці А. Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца».

Спрачаліся наконт шматслойнасці сюжэта: В. Гапееў пацвярджаў прыкладамі, што простыя творы з выразнай мараллю цудоўна ўспрымаюцца чытачамі, я ж настойвала на тым, што твор мусіць быць цікавы і бацькам, і дзецям (але прачытвацца імі на розных узроўнях). Верагодна, мае права на існаванне кожны з твораў, проста ролі іх у жыццях чытачоў будуць адрозніваца.

Дзіцячы пісьменнік павінен памятаць: у літаратуры для дзяцей не палемізуюць і не спрачаюцца, дзецям нельга прапаноўваць выбар, спадзеючыся на грунтоўнасць аргументацыі. Так, ім на пэўным этапе неабходна дапамога: дарослы чалавек павінен сказаць, што правільна, а што — не. І толькі ад таленту пісьменніка будзе залежаць, наколькі прафесійна ён зможа рэалізавацца ў такіх умовах.

## 3. НАВЫПЕРАДКІ З ЧАСАМ

Можна зразумець жаданне некаторых аўтараў быць надзвычай актуальнымі. Але і тут нас чакае парадокс: сучаснасць твора можа падкрэсліваць несучаснасць аўтара.

Я нават не буду згадваць тыя эпізоды, калі камп'ютарная рэчаіснасць аб'ектыўна старэе і робіцца смешнай для новага пакалення. Мяне больш чапляе сітуацыя, калі аўтар бярэ камп'ютарны сюжэт і насычае яго становучымі і, натуральна, адмоўнымі персанажамі, носьбітамі камп'ютарных страхаў і комплексаў самога аўтара (Шчукіна В. «Падказкі ў казках доктара Компі», Бутэвіч А. «Прыгоды Віруса Шкодзі»). Кнігі сёння пішуць людзі, якія заспелі лічбавы паварот. Мы памятаем «да» і «пасля». Мы перамаглі сябе ранейшых і з рознай ступенню ахвотнасці ды зацікаўленасці агаралі камп'ютарную пісьменнасць. Але паціху вырастае пакаленне дзяцей, для якіх віртуальная рэчаіснасць — рэальная, якія засвойваюць тэхніку раней, чым пачынаюць рабіць усё тое, што педыятры чакаюць ад дзяцей пэўнага ўзросту. Як тлумачыць відавочнае? Як пісаць пра тое, што мае розны статус у жыцці аўтара і жыцці чытача? Магчыма, кнігі пра камп'ютары і віртуальнасць — для тых дзяцей, у якіх яшчэ няма камп'ютара?

Нельга ў наш час пісаць, напрыклад, пра камп'ютары, захапляючыся эфектам навізны, бо гэтая эмоцыя незразумела тым дзецям, хто сучасную тэхніку бачыць ад нараджэння.

## 4. БЫЦЬ ГАРЫ ПОТАРАМ

У сяброўскай кампаніі з крытыкам і пісьменніцай Маргарытай Аляшкевіч і пісьменніцай Анкай Упалай мы неяк разважалі пра стварэнне ідэальнага тэксту. Размова была натхнёна апошнім фільмам пра Гары Потара і заўвагай Анкі Упалы пра тое, што многія з герояў належаць да аднаго псіхалагічнага тыпу, які мы і абмеркавалі. Я заўважыла, што менавіта такія людзі больш схільны да чытання: лагічна, што кніга пра іх саміх хутчэй адгукнецца ў сэрцах мэтавай аўдыторыі.

Мы не змаглі вынайсці формулу ідэальнага твора, але, відавочна, сучасны фінансава паспяховы твор для дзяцей — частка цэлага, якое будзе складацца не толькі з уласна тэксту, але і са спадарожных тавараў (сшыткі, дзённікі, налепкі, заплечнікі) і медыяпрадукцыі (мульцікі, фільмы, камп'ютарныя гульні). Дарэчы, у такім кантэксце цікава выглядае праект А. Кудрыцкага пра пластылінавага героя капітана Танаку (у дадатак да кнігі створаны сайт з мультымедыйным зместам), праект А. Кавалеўскага «Мой сябра анёлак» (кніга + музычны альбом). Гэта прыватныя спробы, якія знікаюць, калі вычэрпваецца энтузіязм пачынальніка, альбо не маюць дастатковага розгаласу. Верагодна, варта, каб пра такія праекты клапацілася дзяржава.

Магчыма, паспяховы твор мае патрэбу ў сацыялагічным даследаванні чытачоў, псіхалагічным апісанні мэтавай аўдыторыі і прадуманым паўнавартасным мастацкім свеце (напрыклад, як у «Гары Потары»), дзе ўсё апісана і вытлумачана. Магчыма, я занадта ўсё рацыяналізую. Хаця...

Зрэшты, трэба ўлічваць яшчэ адзін парадокс, звязаны з дзіцячай літаратурай: няма нічога кансерватыўней за той корпус тэкстаў, на якім гадуецца чарговае пакаленне (бацькі чытаюць дзецям правераныя творы — тое, што ім самім калісьці чыталі ў дзяцінстве), але ж няма нічога рухомей і хуткаплынней за супольнасць тых дзяцей, якім чытаюцца творы.

Псіхолагі даследавалі сучасных дзяцей і вызначылі тыя параметры, па якіх новае пакаленне абганяе сваіх папярэднікаў ці адстае ад іх. І высветлілася, што ў камп'ютарнай генерацыі праблемы з камунікаваннем: у інтэрнэце лёгка ігнараваць непрыемнага чалавека, а ў жыцці цяжка здабыць навыкі вырашэння канфліктаў ці адшукання кампрамісаў з раўналеткамі. Дык ці варта для новага пакалення пісаць сучасны тэкст пра камп'ютары, у якіх яны разбіраюцца лепей за аўтара твора, калі можна напісаць ім пра тое, што дзеці не агаралі, напрыклад, пра камунікацыю.

## 5. ПАЎЦАРСТВА ЗА КАРЦІНКУ

Тэкст напісаны. Што з ім рабіць далей? Ілюстраваць! Кнігі для дзяцей мусяць быць шыкоўнай паліграфічнай якасці, з вялікай колькасцю малюнкаў. І ў нас паціху гэта зразумелі. Я магу тут прывесці прыклад з уласнага жыцця: у зале новых паступленняў Нацыянальнай бібліятэкі я праходзіла паўз стэнд з мастацкай літаратурай. Міма! Але ўвагу прыцягнула вокладка кнігі фэнтэзі для сярэдняга школьнага ўзросту Раісы Баравіковай «Казачныя аповесці пра

міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў», я спынілася, пагартала, прыйшла ў захапленне ад малюнкаў Марыі Міцкевіч, пашкадавала, што я не дзіця, і паставіла кнігу на палічку. Ужо вечарам я зразумела, што гэта кніга проста абавязана быць у маёй хатняй бібліятэцы. Цяпер буду чакаць, калі пляменнік падрасце для яе чытання. Гэткай жа добра ілюстраванай можна назваць кнігу А. Грачанікава «Пра Івана-ганчара і пачварацара», якая была нядаўна перавыдадзена.

І, вядома ж, малюнкі з'яўляюцца «кнігаўтваральным» элементам у коміксах і кніжках-маляванках («Дзікае паляванне», паводле У. Караткевіча, (1991), пластылінавы комікс А. Кудрыцкага «Прыгоды Капітана Танакі» (2009), кніга С. Мінскевіча «Прыгоды Какоса Маракоса» (2007)).

## 6. ТОЛЬКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Уявім сабе, што кніга напісана, праілюстравана і выдадзена. А што далей? І чаму дзіцячую літаратуру называюць «літаратурай без чытача»? Таму што ў кнігарні можна пачуць ад бацькоў: «Не трогай, это на белорусском языке». І дзіцячая літаратура сутыкаецца з дарослай праблемай білінгвізму. Тут на сцэну выходзяць крытыка і журналістыка. Няхай даруюць мне спецыялісты ў адпаведных галінах, але лічу, што крытыка дзіцячай літаратуры мусіць займацца рэкламаваннем новых твораў і аўтараў у неспецыялізаваных выданнях.

Як я вышэй пісала, бацькі схільны выхоўваць дзяцей на тых кнігах і аўтарах, на якіх выхоўваліся яны самі. А нават пакаленне сучасных маладых бацькоў гадавалася пераважна на рускамоўных творах. Многія з бацькоў проста не ведаюць, што ёсць кнігі для дзяцей на беларускай мове. Тут добрую справу магла б зрабіць ненавязлівая рэклама, бо няма сэнсу некага перавыхоўваць. Але тыя, хто хоча гадаваць білінгвальнае дзіця, былі б рады даведацца пра навінкі дзіцячай літаратуры. Так атрымалася, што бацькі, якія хочуць, каб іх дзіця ведала беларускую мову, сутыкаюцца з вялікай колькасцю перашкод, таму загартаванасць гэтых людзей заслугоўвае павагі.

Памятаю, як у пошуках водгукаў на дзіцячыя творы я трапіла на форум беларускамоўных бацькоў. Недахоп кніг на беларускай мове яны кампенсавалі па-свойму: набывалася класічная рускамоўная кніга з добрымі малюнкамі на якаснай паперы, з сайта спампоўваўся пераклад твора на беларускую мову, тэкст раздрукоўваўся такім чынам, каб яго можна было наклеіць паверх рускага тэксту, кожны фрагмент выразаўся з закругленымі куткамі (каб дзіцёнку было цяжэй адклеіць). Кніга прыкметна павялічвалася ў таўшчыні, але рабілася прыдатнай для гадавання беларускамоўнага дзіцёнка. Тут, відаць, вельмі важна ўявіць сабе моц характару і зацятасць бацькоў, якія ішлі на такія ахвяры. Гэта было даўно, і цяпер сітуацыя значна змянілася: дастаткова 2—3 пільных рэйдаў па кнігарнях Мінска, каб сабраць невялічкую бібліятэку.

Ёсць яшчэ адна супольнасць дарослых людзей, ад якіх залежыць кола чытання дзяцей, — гэта настаўнікі і школьныя бібліятэкары. Памятаю, як адна са студэнтак захоплена расказвала, што ў школе ім вельмі рэкамендавалі аповесць Я. Хвалея «Прынцэса тусоўкі». І ўвесь клас прачытаў, і ўсім спадабалася. Мяне здзівіла і ўхвала дарослых, і рэакцыя чытачоў, бо мне самой дачытаць твор перашкодзіла яго мова. Але менавіта тады я сфармулявала іранічную гіпотэзу: магчыма, у творах для дзяцей (удакладню, для рускамоўных дзяцей) не трэба гуляцца са словам, бо менавіта твор на «трасянцы» можа стаць «эскалатарам» у беларускую літаратуру і беларускую мову.

## 7. БЯЗЛІТАСНЫЯ ЛІЧБЫ

Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ Юлія Ваўчок ажыццявіла даследаванне: прасачыла, як за апошнія 10 гадоў мянялася дынаміка выдання дзіцячых казак (народных, аўтарскіх, беларускамоўных, рускамоўных, перакладных, а таксама зборнікаў казак і іх перавыданняў). Я спадзяюся, што ў бліжэйшы час Юлія надрукуе вынікі сваёй працы. А пакуль што лічу неабходным пракаментаваць некаторыя факты, што выявіліся падчас даследавання. Адным з вынікаў работы Юліі Ваўчок, якую яна прэзентавала на студэнцкай канферэнцыі ў 2011 годзе, сталі 15 слайдаў з падрабязнымі дыяграмамі. Пры агульным неаптымістычным стане беларускай дзіцячай літаратуры раптам выявілася, што з 2007 года

пачаўся ўздым па ўсіх франтах (аўтарскія казкі, перавыданні, пераклады).

Дадам і свае назіранні. У 1990-х гадах актыўней развівалася драматургія для дзяцей: п'еса-фэнтэзі З. Дудзюк «Канікулы на астэроідзе», рыцарскія п'есы-казкі з сюжэтам падарожжа: С. Кавалёва — «Падарожжа з драўляным рыцарам» (1992), П. Васючэнка — «Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» (1993), Л. Рублеўскай — «Янук, рыцар Мятлушкі» (1995), П. Васючэнка — «Маленькі збраяносец» (1998).

А ў 2000-х гадах з'яўляюцца і паасобныя выданні, і серыі кніг: напрыклад, ***пра прыроду***: Р. Баравікова «Казкі з гербарыя» (2008), «Чырвоная кніга ў казках і вершах» (2007), «Лясная кніга ў творчасці беларускіх пісьменнікаў» (2008), Р. Баравікова «Казкі астранаўта» (2006), Л. Рублеўская «Карона на дне віра, альбо казкі з хутара Юстыны», «Прыгоды мышкі Пік-Пік» (2008), А. Масла «Таямніца закінутай хаты» (2005), «Вандроўка з божымі кароўкамі» (2007), Я. Сцяпанава «Купалінка» (2010), Л. Улашчанка «Хто галоўны» (2008), Бутэвіч А. «Прыгоды памаўзлівай Рыскі» (1999), зборнік «Крынічка Буль-Буль» (А. Жук, В. Богдан, У. Васькоў, 2010), зборнік «Вежа міру» (2007). Заснавана серыя ***«Казкі XXI стагоддзя»***, дзе выходзілі кнігі на сучасныя тэмы: Г. Аўласенка «Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак» (2009), Н. Бучынская «Прыгоды маленькай машынкі» (2008), ***прыгодніцкія творы***: А. Федарэнка «Шчарбаты талер» (1999), «Афганская шкатулка» (2002), К. Камейша «Крыгагром» (2001), Я. Хвалей «Дзіва-сны дзяўчынкі Вікі» (2002), У. Карызна «Чароўнае вочка» (2003), У. Марук «Чыж вярнуўся з-за мяжы» (2003), В. Лукша «Адзіны ў свеце край» (2004), В. Гапееў «Пастка на рыцара» (2002), «Урокі першага кахання» (2010).

Цяжка меркаваць, 20—30 кніг казак у 2010 годзе на ўсю Беларусь — гэта мала ці шмат? Але адназначна больш за 5 кніг з казкамі ў 2002—2003 гадах.

## 8. ГУЛЬНІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Прысутнасць дзяржавы ў дзіцячым кнігавыданні неабходна, інакш дзіцячая літаратура можа пераўтварыцца ў своеасаблівае поле для гульняў. Тут я маю на ўвазе сітуацыю з перакладной дзіцячай літаратурай. За апошнія гады на беларускую мову пераклалі прыкметную колькасць твораў: класіка дзіцячай літаратуры — Ліндгрэн А. «Браты Львінае сэрца» (1997), «Усе дзеці з Булербю» (2002), «Малы і Карлсан-з-даху» (2007), «Піпі Доўгаяпанчоха» (2008); Мілн А. «Віня-Пых» (2007); Янсан Т. «Маленькія тролі і вялікая паводка» (2010), Перо Ш. «Чарадзейныя казкі» (1993), Чапек К. «Казкі і вясёлыя гісторыі» (1997), паліткарэктная кніга для самых маленькіх — Фэльтаўйс М. «Жабка і чужынец» (2005), а таксама — Кірога Г. «Казкі трапічнага лесу» (1993), Мацоўрак М., Борн А. «Мах і Шэбестава вандруюць па сьвеце» (2004), з'явілася анталогія польскай дзіцячай паэзіі «Каляровая карова» (2007), зборнік «Качка-дзівачка: польская паэзія дзецям» (2006); «Лагодны цмок: англійскія літаратурныя казкі» (1993).

Пераклады мастацкіх твораў для дзяцей зроблены на беларускую мову, але многія (пераважна тыя, што выходзілі ў 2000-х гадах) — надрукаваны старым правапісам, тарашкевіцай. Такія кнігі нельга даваць чытаць дзецям самастойна, бо дзіця вывучыць не тую беларускую мову, на якой трэба пісаць сачыненні ў школе. Чым кіраваліся перакладчыкі, свядома ідучы на такі крок (а праца была зроблена з прыватнай ініцыятывы ці ў межах замежных праектаў)? Верагодна, пераклады разлічаны на дарослых, якім цікава зірнуць іншымі вачыма на Карлсана-з-даху ці даведацца, што «Я — тучка, тучка, тучка, я вовсе не медведь» па-беларуску можа перакладацца як «Я — хмарка, хмарка, хмарка, лятаю я няшпарка». То бок гэта своеасаблівыя гульні для дарослых, а не для дзяцей.

Змяншэнне ролі дзяржавы ў перакладной дзіцячай літаратуры можна вытлумачыць, верагодна, і тым, што няма попыту з боку маленькіх чытачоў, маўляў, навошта выдаваць па-беларуску тое, што ўжо ёсць па-руску. Але стыхійнасць (а часта і некананічнасць) перакладаў сведчыць пра неабходнасць паслядоўнага дзяржаўнага падыходу ў гэтай сферы.

## 9. НЯМЭТАВАЯ АЎДЫТОРЫЯ

Аднойчы я трапіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, дзе ў раскладзе заўважыла прадмет, які на філфаку мы не вывучалі: «дзіцячая літаратура».

Памятаю, як здзівілася. Гэта прагучала для мяне гэтак жа сама, як прадмет «гульня ў кубікі» ці «зборка канструктара»: здавалася, што дзіцячая літаратура — для чытання ў дзяцінстве, а не для вывучэння ва ўніверсітэце. Зрэшты, сваю памылку я ўсвядоміла значна пазней. Разам з ёй прыйшло адчуванне недададзенасці: а чаму нам не выкладалі? Праўда, наколькі ведаю, цяпер студэнты філфака БДУ гаворку пра дзіцячую літаратуру могуць весці на семінары выкладчыка і крытыка Лады Алейнік.

Зрэшты, потым я перагледзела хрэстаматыі, падручнікі і дапаможнікі па гэтым прадмеце і заўважыла ўсё тую ж мегакансерватыўнасць, бо сярод аўтараў звычайна: Я. Колас, М. Багдановіч, Цётка, Я. Маўр, М. Танк, А. Якімовіч, В. Вітка, А. Васілевіч, У. Дубоўка, У. Караткевіч, С. Шушкевіч, У. Ягоўдзік, Р. Барадулін, А. Вольскі, Э. Агняцвет, Н. Гілевіч, А. Дзеружынскі, Е. Лось, Н. Галіноўская, У. Паўлаў, М. Чарняўскі. Харошыя аўтары добрых твораў, класікі, але хацелася б і нечага ультрасучаснага, нядаўна выдадзенага, бо, як адзначалася вышэй, за апошнія 5 гадоў у беларускай дзіцячай літаратуры адбылося шмат станоўчых змен.

Звычайна лекцыі па сучаснай літаратуры я завяршаю слайд-прэзентацыяй з выявамі вокладак сучасных кніг. Я не спадзяюся, што студэнты запомняць усе прозвішчы і назвы. Мэта зусім іншая: даць уяўленне пра тое, як шмат кніг (фантастыка, дэтэктывы, жаночая проза, альтэрнатыўная гісторыя, пераклады культавых твораў і г. д.) выдаецца ў Беларусі. Гэтага адчування цалкам дастаткова, каб студэнты (з дзённага, завочнага і факультэта перападрыхтоўкі) потым не казалі «класіку жанру»: па-беларуску нічога не пішуць. Хай яны не прачытаюць усё напісанае, але будуць ведаць, што па-беларуску і пішацца, і выдаецца шмат. І гэтае адчуванне вялікага абсягу часам важней за начытанасць («чытаў — не спадабалася»).

Мне здаецца, што студэнты (на першы погляд, немэтавая аўдыторыя дзіцячай літаратуры) — якраз і ёсць адзін з важных складнікаў на шляху твораў для дзяцей да дзяцей. Моладзь знаходзіцца ў тым амбівалентным узросце, калі ўжо ёсць уласныя перакананні і яшчэ можна паўплываць (хоць тут усё будзе залежаць ад таленту і аўтарытэту выкладчыка). Магчыма, студэнты, даведаўшыся пра існаванне беларускай літаратуры для дзяцей, паспяхова забудуць пра яе, каб успомніць, калі з'явяцца ўласныя дзеці. Каб не было патрэбы падымаць тэму з нуля, калі няма сіл на тытанічныя вышукі, каб не было ў галаве стопару «не трогай, это на белорусском».

**10. THE END**

Дык як пісаць для дзяцей?

Пішучы для дзяцей, аўтар мусіць граць па пэўных правілах: сцвярджаць дабро, вучыць правільным учынкам. Але гэта не значыць, што трэба быць Капітанам Відавочнасцю: талент і густ павінны засцерагчы пісьменніка ад рызыкі банальнага маралізатарства.

Добра, калі пісьменнік піша пра тое, у чым разбіраецца, не навязваючы дзецям не ўласцівыя ім эмоцыі і перажыванні. Асабліва асцярожным трэба быць з новымі тэхналогіямі, якія вельмі хутка становяцца часткай нашага жыцця і ўспрымаюцца ўжо як нешта само сабой зразумелае.

Аўтар мусіць памятаць, што кніга для дзяцей — вынік працы пісьменніка і мастака. І немагчыма вызначыць, чыя роля тут важней.

Сучаснаму аўтару могуць дапамагчы сацыялагічныя і псіхалагічныя даследаванні, якія выяўляюць тыя сферы, дзе літаратура магла б дапамагчы дзецям больш плённа сацыялізавацца.

Як рэкламаваць дзіцячую літаратуру?

Было б вельмі добра, калі б інфармацыя пра новыя кнігі для дзяцей паведамлялася праз неспецыялізаваныя выданні, якія маюць большую аўдыторыю. І надзвычайнай у справе папулярызацыі сучаснай дзіцячай літаратуры з'яўляецца роля бібліятэкара.

Верагодна, добра было б працягнуць традыцыі савецкага дзіцячага кнігавыдання: калі дзяржава замаўляла творы і пераклады, выдавала і прапагандавала іх.

Як выкладаць дзіцячую літаратуру?

У выкладанні сучаснай дзіцячай літаратуры галоўнае нават не класіфікацыя вобразаў, тэм і сюжэтаў ці іншых тэарэтычных праблем. Галоўнае, каб студэнты ведалі, што сучасная дзіцячая літаратура існуе, а выкладчыку важна памятаць, што сярод студэнтаў можа сядзець будучы дзіцячы пісьменнік.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# «ЖЫЎ АДНОЙЧЫ РЫЦАР...», АБО СЛЯДЫ ГЕРОЯЎ ШЭКСПІРА Ў СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

**Калі вывучаеш войны Вялікага Княства Літоўскага з крыжакамі ў XIV ст., сустракаеш прозвішчы замежных і ў тым ліку брытанскіх рыцараў, якія вявалі супраць нашых продкаў на баку Тэўтонскага і Лівонскага Ордэнаў. Сярод іх былі асобы, вядомыя па творах славутага Вільяма Шэкспіра.**

**Якім жа чынам яны патрапілі на беларускую зямлю?**

У тагачаснай Прусіі пабывалі практычна ўсе арыстакраты Еўропы, яна, як магніт, вабіла шараговых ваяроў — усе яны жадалі стаць рыцарамі. Аднак у канцы XIII ст. Тэўтонскі Ордэн усё радзей і радзей мог прапанаваць замежным рыцарам удзел у баявых дзеяннях. Часцей за ўсё прыезджыя ваяры маглі разлічваць на сумную залогавую службу альбо небяспечную і нецікавую партызанскую вайну. У 1330-х гадах вялікі магістр Тэўтонскага Ордэна Лютэр фон Браўншвейг (Luther von Braunschweig) прапанаваў план прыцягнення новых рыцараў. Сам Лютэр быў адораным паэтам і заахвочваў аўтараў рэлігійных і гістарычных прац пісаць пра Тэўтонскі Ордэн. Ён стварыў традыцыю, у якой паходы супраць Літвы сталі неабходным складнікам рыцарскай галантнасці. Важнае значэнне мела колькасць пасвечаных у рыцары па заканчэнні паходаў. Таму пасвячэнне адбывалася, як толькі хтосьці з кандыдатаў здзяйсняў годны ўчынак. Тады Вялікі магістр запрашаў самых адважных ваяроў за стол, падобны да Круглага стала караля Артура, і ўзнагароджваў іх. Французскі гісторык Э. Лавіс так апісаў гэтае мерапрыемства: «*У пышным шатры накрываўся круглы стол, пад гукі труб і цымбал вакол яго сядалі дзесяць прызнаных найадважных рыцараў, і імёны іх услаўляліся потым паэтамі ва ўсім хрысціянскім свеце. Такія рыфмаваныя аповеды таксама запальвалі мужнасць, як у мінулы час казань Пятра Пустэльніка або Святога Бернара, і, дзякуючы ... гэтаму, існаванне Ордэна працягвала падавацца патрэбным*».

У адрозненні ад рыцараў, якія ўдзельнічалі тады ў Стогадовай вайне на тэрыторыі Францыі, матэрыяльная зацікаўленасць крыжакоў не была для іх галоўнай. Калі параўноўваць з астатняй Еўропай, гэта ў значнай ступені тлумачылася беднасцю мясцовага насельніцтва. Адзіным багаццем тут былі коні. Дарэчы, Вялікі князь літоўскі Вітаўт меў 20 000 коней. Тэўтонскіх жа рыцараў вабіла зямля, а на рухомую маёмасць яны мала звярталі ўвагу. Таму Ордэн прыцягваў ваяроў не грашыма, а рыцарскімі забавамі, банкетамі і адмысловымі знакамі шляхецкага гонару. Э. Лавіс пісаў, што замежнікам карцела паглядзець зблізку на гэты Ордэн, адчуць гонар рыцарства, але больш за ўсё вабіла пагоня за цікавымі прыгодамі, ну і гісторыямі, пры дапамозе якіх можна было б потым рабіць уражанне на паненак.

Не дзіўна, што шматлікія нямецкія песні пачынаюцца словамі: «*Жыў аднойчы рыцар, які паехаў у Прусію*», а французскія казкі часам згадваюць пра гаротнае становішча рыцара, які браў удзел «*у святым паходзе ў Прусію*» і апынуўся ў незайздросным становішчы ашуканага мужа. Прыклад адносін рыцарства Еўропы да крыжовага паходу ў Прусію адлюстроўвае раман Антуана дэ ла Саль «*Маленькі Жан дэ Сэнтрэ*», ён уяўляе сабою амаль што падручнік для тых, хто прагнуў пасвячэння ў рыцары. Па аналогіі з сучасным спортам, у той час існавалі «прафесійныя» рыцары, іх асноўным заняткам быў выклік на бой сапернікаў у чужых краях і бадзянне ад аднаго манаршага двара да іншага ў пошуках праціўнікаў, якія прынялі б іх умовы. Дзеля гэтага Жан дэ Сэнтрэ

з Францыі накіраваўся ў Арагонскае каралеўства, дзе гаспадар шчодра адарыў яго. Пазней герой рамана пабываў пры двары імператара і выступаў супраць нямецкіх рыцараў, прычым імператар асабіста прысутнічаў на двубоях. Нарэшце ён перайшоў ад рыцарскіх гульняў да рэальнай вайны і адправіўся ў «*крыжовы паход*» на Прусію, дзе і здабыў сабе славу.

Але ж падарожжа ў Прусію было занадта дарагім для бедных рыцараў, і таму Тэўтонскі Ордэн выплачваў грашовыя субсідыі. Практыка выплаты грашовых сум на дарогу стала настолькі шырока распаўсюджанай, што нават Баварскі герцаг, адзін з найбагацейшых людзей у Святой Рымскай імперыі, прыняў грошы ад Ордэна за службу ў 1322 г.

Зацішша ў Стогадовай вайне выклікала прыток французскіх, бургундскіх і брытанскіх рыцараў. Маршал Францыі Жан Бусіко (Jean Boucicaut) асабіста ўдзельнічаў у чатырох кампаніях на баку Ордэна і, пакуль мужчыны ваявалі ў Прусіі, арганізаваў абарону сем’яў крыжакоў у Францыі ад разбойнікаў. З 1329 г. англійскія рыцары сталі рэгулярна ўдзельнічаць у зімовых або летніх наездах на Літву. Кульмінацыя актыўнасці адбылася паміж лістападам 1367 г. і лютым 1368 г., калі каралеўскія ліцэнзіі на ўдзел у вайне ў Прусіі былі прадстаўлены чатырнаццаці рыцарам і іх атрадам, што ў суме склала дзевяноста сем ваяроў.

Для некаторых экспедыцыя ў Прусію стала звычкай. У 1360-х гадах там пабывалі рыцары ўсіх рэгіёнаў Англіі і розных сацыяльных узроўняў дваранства. Увогуле, у балтыйскіх крыжовых паходах ўдзельнічала мноства высакародных сем’яў Англіі: Warwicks, Herefords, Beauchamps, Uffords, Bohuns, Percies, Despensers, Fitz Walters, Beauchamps, Scropes, Courtenays, Montagues, Counenay. Генры Персі (Henry Percy), знакаміты Хотспур (Hotspur), сын першага графа Нартумберленда (first earl of Northumberland), пра якога падрабязней я распавяду далей, быў у Балтыйскіх крыжовых паходах у 1383 г. і, верагодна, пад Лідай у 1392 г.

## КАРОЛЬ ГЕНРЫХ IV (ГРАФ ДЭРБІ)

Самы вядомы ваяр, які стаў прататыпам рыцара з «Кентэрберыйскіх апаведаў», напісаных выдатным англійскім паэтам Сярэднявечча Джэфры Чосерам (1344—1400), а таксама прататыпам героя трагедый Вільяма Шэкспіра «Рычард II» і «Генрых IV», быў граф Дэрбі, будучы кароль Англіі Генрых IV. Крыніцай сюжэта для Шэкспіра з’явіліся некалькі ананімных п’ес і летапісы Холіншэда, з якімі, аднак, Шэкспір абышоўся вельмі вольна. П’еса пра валадаранне Генрыха IV складае сярэднюю частку тэтралогіі, пачаткам якой з’яўляецца «Рычард II», а канцом — «Генрых V». Усе яны звязаны паслядоўнасцю гістарычных падзей і супольнасцю некаторых персанажаў. Дзеянне п’есы разгортваецца ў Англіі на пачатку XV ст., калі каралеўская ўлада сцвярджала сябе ў барацьбе з феадаламі.

Генрых IV Балінброк (Henry IV Bolingbroke), вядомы таксама як Генрых Ланкасцер, кароль, заснавальнік Ланкасцерскай галіны дынастыі Плантагенетаў. Генрых нарадзіўся ў замку Балінброк у 20 км на поўнач ад Бостана ў 1367 г. У дзесяць гадоў яму быў нададзены тытул графа Дэрбі і самая ганаровая ўзнагарода ў каралеўстве — ордэн Падвязкі. У 1380 г. ён ажаніўся з адной са спадчынніц графа Хэрафорда, Марыяй Багун, і ў 1384 г. пераняў і гэты графскі тытул, з 1397 г. Генрых стаў першым герцагам Хэрафордам. Прысвяціўшы сябе рыцарскім подзвігам, з 1390 па 1393 гг. Генрых правёў у крыжовых паходах, вандраваў па Цэнтральнай Еўропе, дабраўся да Венецыі, пабываў на Кіпры і ў Палесціне.

У 1390 г. Генрых вырашыў далучыцца да крыжовага паходу ў Літву, у якім удзельнічалі французскія рыцары. Бацька, Джон Гонт, даў яму 3 533 фунтаў на выдаткі. Былі наняты караблі з Данцыга, каб перавезці тры сотні англійскіх ваяроў. Дэрбі 16 жніўня прыбыў у Кёнігсберг. Прускія гісторыкі прызнаюць добрую службу графа і яго паплечнікаў.

Тым часам магістр Энгельгард Рабэ, сумесна з Вітаўтам і Лівонскімі рыцарамі рыхтаваўся да вайсковага паходу. Тут трэба заўважыць, што Вітаўт змагаўся за спадчынны вялікакняскі пасад і выкарыстоўваў рыцараў як часовых паплечнікаў. У жніўні, пасля прыбыцця добраахвотнікаў з Англіі і Францыі, падрыхтоўка да вайны ў Прусіі была скончана. Войска выступіла пад камандаваннем магістра Энгельгарда Рабэ (Engelhard Rabe), бо Вялікі магістр Кондрад

Цольнер (Konrad Zolner) быў цяжка хворы. Французамі камандаваў рыцар Бусіко, сын маршала Францыі. Пад Коўнам злучыўся з галоўнымі сіламі магістр Інфляндскі са сваімі рыцарамі. Мэтай паходу быў захоп Вільні і ўзвядзенне на вялікакняскі пасад Вітаўта. Пад замкам Вісэльвальдэ (Wissewalde), недалёка ад старога Коўна, са сваім войскам чакаў Скіргайла. Было вырашана бараніць пераправы. Але магістр з атрадам адборных рыцараў абышоў Скіргайлу з поўначы, пераправіўся праз раку ўброд, раптоўна напаў на ліцвінскае войска і разграміў яго. Гэтая бітва адбылася каля мястэчка Віжуны. Скіргайла страціў сто чалавек. Рыцары ўзялі ў палон трох князёў: Сымона — сына Яўнута, Глеба Святаслававіча Смаленскага і Глеба Канстанцінавіча Чартарыскага (па версіі Стрыйкоўскага гэтыя князі былі забіты), а таксама адзінаццаць баяраў. Перамогу крыжакі адсвяткавалі шумным баляваннем. Скіргайла з часткай свайго войска схаваўся ў замку Вісэльвальдэ, другая частка войска адступіла да Вільні. Недалёка ад Вільні, пад Веркамі, адбылася іншая бітва, у якой ліцвіны зноў атрымалі паразу і адступілі.

4 верасня 1390 г. аб'яднаныя сілы крыжакоў і Вітаўта абклалі Вільню. Адначасова, па рэках Нёман і Вілія былі дастаўлены харчовыя прыпасы і ваенны рыштунак. Усе вайсковыя кідальныя машыны праціўніка пачалі абстрэльваць Вільню з мэтай запаліць горад.

6 верасня пачаўся агульны штурм падпаленага горада. Верагодна, прыхільнікі Вітаўта адчынілі браму горада, і непрыяцель уварваўся ў яго, забіваючы ўсіх. Ян Длугаш *(1415—1480),* польскі гісторык, лічыў, што галоўнай прычынай падзення добра ўмацаванага горада была здрада. Длугаш пісаў: «*...полымя з-за варожага прыступу нельга было спыніць, князь Казімір, інакш Карыгайла, родны брат польскага караля Уладзіслава, кідаецца ўцякаць з агню, але трапляе жывым у рукі ворагаў, якія ў вялікім мностве атачалі падпалены замак, і адразу ж падае абезгалоўлены; насадзіўшы галаву забітага на доўгую дзіду, ворагі паказваюць яе для застрашвання абаронцаў Верхняга замка, пераконваючы іх здацца і здаць замак*».



*Генрых IV Балінброк, малюнак XVI ст.*

У лісце комтура Ордэна пра вынікі штурму напісана: «*...пасля першага штурму войска крыжакоў апанавала драўляны замак, у якім былі забіты тысячы людзей і згарэла шмат ваяроў пешых і конных з некалькімі русінскімі князямі, апроч аднаго з братоў польскага караля Карыгайлы, у тым замку ўзята ў палон і некалькі тысяч людзей рознага веку*».

Длугаш піша пра 14 000 забітых, Георг Фойгт (1827—1891), нямецкі гісторык, спасылаючыся на хроніку Віганда, гаворыць пра 7 000 забітых. Крыжакі разышліся па ўсім краі. Дзе быў у гэты час граф Дэрбі, невядома. У лістападзе з Польшчы падышоў Ягайла з польскім войскам, але да гэтага часу крыжакі адступілі, і ўзімку 1391 г. Ягайла вярнуўся ў Польшчу.

20 кастрычніка Дэрбі вярнуўся ў Кёнігсберг, дзе заставаўся да 9 лютага 1391 г., там граф зладзіў вялікі банкет паміж Калядамі і Трыма Каралямі на англійскі манер. Затым ён вярнуўся ў Данцыг і застаўся там да канца Вялікадня 1391 г., пры гэтым атрымаў падарункі ад новага магістра, Конрада фон Валенрода, і вёў перамовы з Польшчай пра абмен двух палонных англійскіх рыца-

раў. Граф Дэрбі выкупіў палонных, атрымаў ад папы Баніфацыя IX вызваленне ад крыжацкага зароку і ў канцы сакавіка прыплыў у Англію.

## ГЕНРЫ ПЕРСІ ХОТСПУР

Нартумберленды (Northumberland), лінія графаў, а пасля герцагаў з сямейства Персі, якая пакінула прыкметны след у гісторыі Англіі. Персі мелі значныя ўладанні ў Паўночнай Англіі. Першыя свае маёнткі, якія знаходзіліся ў Ёркшыры, яны атрымалі яшчэ з рук Вільгельма Заваёўніка.

Сэр Генры Персі (1364 (?)—1403), таксама вядомы па мянушцы **«Гары Хотспур»** (Harry Hotspur, Гарачая Шпора — Падшыванец) быў старэйшым сынам Генры Персі, першага Графа Нартумберленда, пасвечаны ў рыцары каралём у Віндзоры 23 красавіка 1377 г. Ужо ў 1383 г. Гары Хотспур першы раз бярэ ўдзел у крыжовым паходзе ў Літву.



*Сэр Генры Персі «Гары Хотспур», сярэднявечны малюнак.*

Войскі 11 верасня сабралася каля Трокаў. У Трокскім замку была моцная залога з вояроў Скіргайлы, якія мелі ўсё неабходнае для абароны. Крыжакі ўжылі аблогавыя прыстасаванні. Ім удалося праламіць мур. Залога дамовілася з крыжакамі аб беспярашкодным выхадзе і пакінула замак, пасля чаго ён быў прыведзены ў належны стан.

Па Літве пайшла пагалоска аб узяцці Вітаўтам Трокаў, і шляхта, якая служыла яшчэ яго бацьку, пачала сцякацца пад сцягі князя. Аб канкрэтных дзеяннях Хотспура ў гэты час нічога не вядома, але ж ёсць звесткі, што толькі напрыканцы 1383 г. Гары Хотспур вярнуўся на радзіму, але, па сведчаннях гісторыкаў, мог браць удзел у выправе пад Ліду напачатку 1392 г. З ліста караля Кіпра каралю Англіі Рычарду II ад 15 ліпеня 1393 г., вядома, што Генры Персі ўвесну быў на Кіпры і, магчыма, сустрэўся з графам Дэрбі, што ускосна можа сведчыць пра яго удзел у выправе 1392 г. Неабходна дадаць, што дзядзька Хотспура Томас Персі, граф Вусцер (Thomas Percy Worcester) таксама значны персанаж трагедый Вільяма Шэкспіра «Рычард II» і «Генрых IV».

**Хотспур** — адзін з галоўных герояў драмы «Генрых IV» Вільяма Шэкспіра. Аўтар паказвае Хотспура выбітнай асобай, роўнай якой у атачэнні караля няма. Аднак пры ўсёй сваёй доблесці Хотспур — бунтаўшчык, якому не можа быць месца пры цэнтралізаваным дзяржаўным парадку. У Шэкспіра ён смелы і палкі, хуткі ў думках і дзеяннях, сваю рыцарскую волю ён ставіць вышэй за ўсё. Можна сказаць, што Хотспур краса і гонар сыходзячага сярэднявечча. Хотспуру жыццё ўяўляецца арэнай беспярапынных рыцарскіх сутычак. Па ягоных словах: «*Як жыць, дык каралёў зрынаць; як смерць, дык слаўная, каб прынцы гінулі з намі!*» (частка I, V, 2).

Уладанні сям'і Персі знаходзіліся ў прыгарадзе Лондана — Татэнхеме. Таму футбольны клуб прэм'ер-лігі, штаб-кватэра і стадыён якога знаходзяцца ў паўночнай частцы брытанскай сталіцы, мае назву Татэнхем Хотспур. За сваю больш чым стогадовую гісторыю клуб стаў адным з самых тытулаваных на туманным Альбіёне. Дэвіз клуба — «*Адважыцца — значыць зрабіць*».

З верасня 1933 г. па кастрычнік 1959 г. у Англіі друкаваўся самы папулярны дзіцячы часопіс «Хотспур» (The Hotspur). Усяго было выпушчана 1 197 нумароў. З канца кастрычніка 1959 г. пачаў выдавацца часопіс-комікс для дзяцей «Новы Хотспур» (New Hotspur). На іх вырасла некалькі




*Вокладкі папулярнага дзіцячага часопіса «Хотспур».*



*Джон Бафорд.*

пакаленняў брытанцаў. А ў сучаснай англійскай мове слэнгавае слова «хотспур» абазначае халерыка са слабым кантролем над сваімі паводзінамі.

**ДЖОН БАФОРТ**

Джон Бафорт (Johann Be-aufort) — асоба ў гісторыі вядомая. Удзел яго ў паходзе 1394 года на Літву пацвярджаецца гістарычнымі крыніцамі, напрыклад, англійскі гісторык пачатку XX ст. А. Полард у сваім «Нацыянальным біяграфічным слоўніку» пісаў што Бафорт у 1394 г. ваяваў на баку Тэўтонскага Ордэна ў Літве. Тое ж самае пішуць і іншыя гісторыкі.

Джон Бафорт, першы граф Самерсэта (1371 (?)—1410) быў першым з чатырох пазашлюбных дзяцей Джона Гонта, Герцага Ланкастара, і яго палюбоўніцы Кэтрын Свайнфорд (пазней стала яго жонкай). Бафорт нарадзіўся прыблізна ў 1371 г., і прозвішча было яму нададзена з-за феода Бафорт, уладанняў ягонага бацькі ў правінцыі Шампань, у Францыі. Такім чынам, будучы кароль Генрых IV (граф Дэрбі) быў яго зводным братам.

Паводле А. Поларда, вайсковую службу Джон Бафорт пачаў у 1390 г. у крыжовым паходзе ў Паўночную Афрыку. Пасля законнага шлюбу свайго бацькі і маці ў 1397 г. атрымаў тытул графа Самерсэта і месца ў парламенце побач з графам Уорвікам. Праз некалькі месяцаў атрымаў тытул герцага Глостэра і маркіза Дарсэта, ордэн Падвязкі і месца намесніка Аквітаніі. У 1398 г. стаў адміралам флоту Ірландыі, канстэблем замка Дувр і лордам-намеснікам Пяці партоў. Пасля таго, як кароль Рычард II быў зрынуты ў 1399 г., новы кароль Генрых IV адмяніў тытулы, якія даваліся прыхільнікам старога караля, і Джон Бафорт стаў проста графам Самерсэтам. Аднак, ён быў лаяльным да новага караля і служыў яму на розных вайсковых і дыпламатычных пасадах. У 1404 г. ён стаў канстэблем Англіі. Самерсэт памёр пасля доўгай хваробы 16 сакавіка 1410 г. у шпіталі Св. Кацярыны недалёка ад Лонданскага Таўэра і быў пахаваны ў Кентэрберы.

Джон Бафорт, граф Самерсэт, — персанаж першай часткі драмы «Генрых IV» Вільяма Шэкспіра.

**Магчыма, звесткі пра сляды «нацыянальных герояў» Англіі на тэрыторыі нашай старажытнай дзяржавы паспрыяюць развіццю сучаснага міжнароднага турызму на Беларусі.**

# АЛЕГ ПРОХАРАЎ: «НЕ ПРАПУСЦІЦЬ МОМАНТ...»



***Знакаміты італьянскі кінарэжысёр Федэрыка Феліні аднойчы выказаў трапную думку: «Маладыя не ведаюць, чаго хочуць, але поўныя рашучасці дабіцца гэтага». Малады артыст Алег ПРОХАРАЎ наўрад ці пагадзіўся б з меркаваннем сеньёра Феліні. Прынамсі, з першай часткай сцвярджэння: Алег яшчэ ў дзяцінстве зразумеў, чаго хоча ад жыцця — стаць музыкантам, артыстам, спеваком, а нястрымнай энергіі і ўпартасці для дасягнення мары ў яго ставала...***

***Ураджэнцу Клецка Алегу Прохараву хутка споўніцца 28 гадоў. Яго прыгожы барытон ужо некалькі сезонаў гучыць са сцэны Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Артыст паступова ўводзіцца ў спектаклі класічнага і сучаснага рэпертуару, выступае ў маштабных канцэртных праектах тэатра, такіх як «Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам» і «Вечар старадаўняга раманса» у рамках «Музычных вечароў у Мірскім замку». Сярод лепшых роляў Алега Прохарава сёння: князь Арлоўскі ў аперэце «Лятучая мышь» І. Штрауса і менеджар аркестра Бінстак у музычным рэвю «Однажды в Чикаго» Дж. Стайна. У 2009 годзе ён пачаў займацца педагагічнай дзейнасцю, а ў 2010-м Алег Прохараў стаў лаўрэатам XIV Маскоўскага міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў рускага рамanса «Рамансіяда — 2010». А пачынаўся творчы шлях з удзелу ў школьных канцэртах і спеваў у маладзёжных эстрадных гуртах.***

## «МУЗЫКАЙ ТРЭБА ЗАЙМАЦЦА ЎСІМ ДЗЕЦЯМ...»

— У нашай сям’і галоўнай заўсёды была маці, — расказвае Алег Прохараў, — яна аддала майго старэйшага брата Дзіму ў музычную школу, дзе ён пачаў вучыцца ігры на фартэпіяна. Потым і мне таксама захацелася, чым жа я горшы за брата? І вось у пяць гадоў я ўжо зрабіў сур’ёзны выбар — буду займацца музыкай! Вядома, былі і крыкі, і слёзы, і ўтойванне дзённікаў — усё, як у нармальнага дзіцяці. Але гэты перыяд я шчасліва перажыў і зараз упэўнены: музыкай трэба займацца ўсім дзецям проста для самаадукацыі. Яна пакідае свой добры след у душы любога чалавека.

**— Заняткі музыкай не перашкаджалі вучобе?**

— На агульнаадукацыйныя прадметы я звяртаў менш увагі, чым трэба, таму што пачаў рана выступать на сцэне. Яшчэ ў дзіцячым садку ўдзельнічаў у канцэртах, якія праходзілі ў будынку Клецкага кінатэатра. Памятаю свой першы выхад да публікі: я павінен быў чытаць верш, але спалохаўся, забыў словы і заплакаў... Пазней, ужо ў школе, мы з братам дуэтам спявалі песню «Пожалуйста, не жалуйся». З таго часу без нас не абыходзіўся ні адзін канцэрт, а гэта таксама перашкаджала вучобе. Мы пастаянна прападалі ў актавай зале на рэпетыцыях. Але, паколькі мы адстойвалі гонар школы,

настаўнікі заплюшчвалі вочы на нашыя не самыя лепшыя адзнакі.

**— Ад канцэртаў у школьнай актавай зале да выступленняў на прафесійнай сцэне трэба было прайсці доўгі шлях. Якім ён быў для Вас?**

— Я паступіў у Баранавіцкае музычнае вучылішча на спецыяльнасць «харавое дырыжыраванне», а затым педагогі параілі перавесціся ў Мінск, у Музычнае вучылішча імя Глінкі ўжо на вакальнае аддзяленне. Голас ёсць, чаму б не паспрабаваць? Тут я і пазнаёміўся са сваім будучым педагогам, а цяпер мастацкім кіраўніком Музычнага тэатра, **Адамам Асманавічам Мурзічам**. Ён мяне праслухаў і ўзяў да сабе ў клас. Пасля музычнага вучылішча заканамерным стала і атрыманне вышэйшай адукацыі — я скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, клас заслужанага артыста Расіі Мікалая Маісеенкі.



*«Лятучая мышь».*
*Алег Прохараў у ролі князя Арлоўскага (справа).*

**— А ў юнацтве не страшна было пакідаць дом, станавіцца самастойным чалавекам?**

— Мы з братам стараліся апраўдаць надзеі нашай маці, якая гадавала нас адна. Яна імкнулася стаць нам апорай, выхаваць як мага лепш, а гэта неверагодная праца. Я вельмі шаную ўсё, што для нас зрабіла маці. Калі мы пераехалі з Клецка ў Баранавічы вучыцца, мне было 15 гадоў. Здымалі пакой і аплачвалі яго самі, разумеючы, што павінны атрымліваць стыпендыю, інакш не будзе чым разлічыцца за жыллё. У маці бралі толькі прадукты, яна нас карміла, а прасіць у яе яшчэ і грошай не дазваляла сумленне. Таму ўвесь час знаходзілі нейкія падпрацоўкі, а ўлетку ездзілі ў вёску збіраць ягады. Я разумеў, што так трэба, каб выжыць у чужым горадзе, і ніколі не скардзіўся. Акрамя таго, у Баранавіцкае музычнае вучылішча я прыйшоў не зусім падрыхтаваным чалавекам і першы час клаўся спаць у дзве гадзіны ночы, а ўставаў а чацвёртай раніцы, каб займацца музыкай. Саступак не было: пасля таго, як педагогі паказалі мне ўзровень майго няведання, я вырашыў даказаць, што змагу лепш! Я «грыз граніт навукі» і да канца першага курса выйшаў з двойкі на моцную чацвёрку.

## «ЧАС НЕШТА МЯНЯЦЬ»

*Алег Прохараў не адразу вызначыўся з напрамкам сваёй прафесійнай дзейнасці. Пасля пераводу ў сталіцу на вакальнае аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча ён спрабаваў сябе ў розных эстрадных калектывах. Аднак час паказаў, што бліжэй яму ўсё ж акадэмічныя музычныя жанры, і Алег спыніўся на аперэце і мюзікле.*

— Напэўна, я ўмею знаходзіць агульную мову з людзьмі, — разважае ён, — таму што цяжкасцей з пошукамі працы ў мяне ніколі не ўзнікала. Дзверы паўсюль былі адчынены. І вось у 2003 годзе я прыйшоў у Музычны тэатр, у харавы калектыў. Працаваў тут паўтары гады і вырашыў, што час павышаць свой прафесійны ўзровень — атрымліваць вышэйшую адукацыю. Паступіў у Акадэмію музыкі, падчас вучобы мне захацелася паспрабаваць свае сілы ў оперным мастацтве... Так, новым



*«Однажды в Чикаго». Алег Прохараў у ролі Бінстака.*

нежаданне браць на сябе адказнасць...

**— А як для Вас прайшоў пераход з хору да сольнай кар'еры на сцэне Музычнага тэатра?**

— Вядома, не ўсё было гладка. У хоры ты знаходзішся ў калектыве, у масе. Так, ты працуеш, спяваеш, ствараеш нейкі вобраз. Пры гэтым ты адчуваеш сябе абароненым, ведаеш, што калі што-небудзь здарыцца, табе дапамогуць калегі.

Саліст выходзіць на сцэну і сам адказвае за ўсё! Ён застаецца сам насам з гледачом, з дырыжорам! Адказнасць палохае. Сцэна — вялікі стрэс, але яна ж і наймацнейшы наркотык.

**— Ці патрэбна было Вам пераадольваць псіхалагічныя або прафесійныя бар'еры, каб паспяхова працаваць?**

— Спачатку ў мяне не атрымлівалася расслабляцца на сцэне. Артысту абавязкова трэба мець унутраную свабоду, але не губляць пры гэтым раўнавагі. З часам гэтае пачуццё балансу прыйшло да мяне, але я разумею, што трэба працаваць над сабой. Адразу разняволіцца і адчуць сябе ўпэўнена не атрымаецца ні ў каго. Маладому артысту трэба прывыкнуць да гледача, а для гэтага неабходна пастаянна выходзіць на сцэну.

**— Вы па адукацыі — спявак, але праца ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры прадугледжвае як вакальную, так і драматычную, харэаграфічную падрыхтоўку. Як развіць у сабе неабходныя для гэтай сінтэтычнай прафесіі якасці?**

— Толькі на практыцы! Мець добры творчы кантакт з партнёрамі па сцэне, імкнуцца настроіцца на адну эмацыйную хвалю з аўдыторыяй. Навучальная ўстанова — толькі аснова, вельмі важную ролю адыгрываюць самаадукацыя і праца з таленавітымі людзьмі. Мне пашанцавала супрацоўнічаць

этапам майго жыцця стала праца ў хоры Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. А праз пяць гадоў я, як блудны сын, вярнуўся ў Музычны тэатр. Мне патэлефанавала Святлана Пятрова, галоўны хармайстар, і прапанавала праслухацца ў штат салістаў. Праца ў хоры — гэта цікава, але ў гэтай прафесіі я ўжо ўзяў для сябе ўсё, што мог. Канечне, у любой справе можна развівацца бясконца, але на той момант для мяне было зразумела, што прыйшоў час нешта мяняць. Каб дамагчыся поспеху ў сольнай кар'еры, у маладога спевака не так ужо шмат часу. І трэба не прапусціць момант, інакш можа быць позна.

**— У харавых калектывах можна знайсці шмат перспектыўных людзей: з галасамі, артыстычных. Але далёка не ўсе становяцца салістамі. Як Вы лічыце, чаму?**

— Адзін мой сябра працуе ў тэатры, у хоры. У яго шыкоўны голас — нізкі бас. Я яму неяк задаў пытанне: чаму ты не спрабуеш стаць салістам, чаму не жадаеш ісці далей? З такімі дадзенымі кожны тэатр возьме цябе адразу ж на вядучыя партыі! На што ён адказаў проста — «не хачу»! Я гэтага не магу зразумець. У яго было некалькі цікавых прапаноў, але ніводнай магчымасцю выйсці да рампы ён не скарыстаўся... Мне здаецца, віной усяму комплексы, сарамлівасць,

са многімі цікавымі рэжысёрамі, дырыжорамі, балетмайстрамі, хармайстрамі, артыстамі. Ты бачыш іх творчыя метады, а потым назапашаны вопыт у патрэбныя моманты матэрыялізуецца на рэпетыцыі ці на сцэне і пераўтвараецца ва ўдалую імправізацыю, дакладную акцёрскую інтанацыю, лёгкае танцавальнае па...

А ў нашым калектыве, напэўна, адным з самых маладых у рэспубліцы, працаваць і ствараць нешта цікавае на сцэне радасна і прыемна! Менавіта тут я адчуў, што артыст аперэты і мюзікла — гэта мой шлях! Чым больш я працую, тым больш мне падабаецца мая прафесія.

## ВЫКЛАДЧЫК І ПЕРАМОЖЦА

*У 2009 годзе педагог Алега Прохарава па Мінскім музычным вучылішчы Адам Мурзіч прапанаваў яму паспрабаваць свае сілы ў выкладчыцкай дзейнасці. Алег, чалавек вясёлы, дзесьці нават легкадумны, ніколі і не думаў, што будзе вучыць студэнтаў.*

— Калі б мне хто-небудзь сказаў, што я стану выкладчыкам, я рассмяяўся б гэтаму чалавеку ў твар! А тут кінулі мяне ў гэтае мора — і выплывай, як хочаш! Напачатку дапамагаў і падказваў Адам Асманавіч, а потым я пачаў успамінаць свае заняткі з педагогамі і спрабаваць перадаць уласны досвед студэнтам. Я вельмі дэмакратычны педагог, аднак лічу, што трэба цікавіцца мастацтвам, чытаць, глядзець і слухаць, хадзіць у галерэі, тэатры, быць актыўным у спасціжэнні прафесіі.

*Менавіта творчая актыўнасць і жаданне адкрываць для сябе новыя прафесійныя гарызонты сталі для Алега Прохарава стымулам, каб узяць удзел у XIV Маскоўскім міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў рускага раманса «Рамансіяда — 2010». Выканальніцкае майстэрства беларускага артыста было адзначана трэцяй прэміяй у фінальным этапе творчага спаборніцтва. У конкурсе бралі ўдзел студэнты музычных навучальных устаноў, маладыя артысты тэатраў і канцэртных арганізацый з Масквы, Падмаскоўя, Санкт-Пецярбурга, гарадоў Расіі, а таксама Украіны, Беларусі, Малдовы, Балгарыі і Польшчы.*

— Адбор на гэты конкурс праходзіць паэтапна, — тлумачыць Алег Прохараў, — праслухоўваюцца канкурсанты з рэгіёнаў Расіі, а таксама краін блізкага замежжа. У нашай краіне гэта народная артыстка Беларусі Наталля Руднева, яна шукае цікавыя галасы і запрашае маладых выканаўцаў на конкурс. На гэты раз прапанову паспрабаваць свае сілы яна адрасавала мне. Спачатку я выступіў на рэгіянальным адборачным туры — Мар’інскай рамансіядзе, дзе заняў добрае, але не прахадное для фіналу трэцяе месца. Аднак, калі ў фінале не набіраецца патрэбная колькасць выканаўцаў з іншых рэгіёнаў, то запрашаюць тых, хто добра сябе паказаў на адборах. І вось праз месяц званок: Наталля Руднева паведамляе, што мастацкі кіраўнік «Рамансіяды», знакамітая Галіна Праабражэнская, хоча пачуць мяне ў фінале як прадстаўніка Беларусі! Была адна ўмова — змяніць конкурсную праграму. Я літаральна за тыдзень падрыхтаваў новую і паехаў у Маскву. Гэта быў цяжкі конкурс з моцным складам удзельнікаў. Тыя, хто заняў прызавыя месцы, — сапраўдныя прафесіяналы, і мне варта было патрапіць туды, хаця б каб паслухаць і паглядзець. А атрымалася так, што і сам вярнуўся не з пустымі рукамі — пацвердзіў свой першы поспех і стаў лаўрэатам трэцяй прэміі. Цяпер я мару пра удзел у іншых вакальных конкурсах, і, вядома ж, не ўяўляю сябе без тэатра і выкладчыцкай працы.

***Гутарыла Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ***

# ІНТЭРВ’Ю З БЕЛАРУСКАЙ ЛАРАЙ КРОФТ



***«Мая свякроў навуковы работнік, яна не разумее, як гэта можна нічым не займацца», — так, з гумарам растлумачвае сваю цікавасць да навукі гераіня гэтага інтэрв’ю. Дацэнт кафедры дапаможна-гістарычных дысцыплін і методыкі выкладання гісторыі Беларускага Дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Інна КАЛЕЧЫЦ, яна па адукацыі філолаг. Але ў сувязі з тым, відаць, што свякроў гісторык, яна абрала для сябе навуку, так бы мовіць, «памежную» — эпіграфіку.***

— Звычайна людзі, калі чуюць слова «эпіграфіка», думаюць, што гэта расшыфроўка надпісаў на магільных камянях. Але эпіграфіка — паняцце больш шырокае. Яно ўключае ў сябе чытанне надпісаў на ўвогуле не прызначаных для пісьма прадметах — не на паперы, не на пергаменце, а на камені, костках, метале, дрэве. На гэтым людзі ў старажытнасці пісалі часцей, чым у наш час.

**— Адразу скажу, што Вы ўяўляліся мне Ларай Крофт.**

— Так, нешта ад Лары Крофт, я думаю, ува мне ёсць. Калі прыходзіцца сядзець у алтары Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку ў мароз мінус дваццаць, фатаграфаваць надпісы, грэць фотаапарат на грудзях і неяк гэтыя надпісы чытаць. Але ўсе цяжкасці сябе акупаюць тым задавальненнем, якое атрымліваеш у выніку. Надпіс, сапраўдная таямніца, раптам раскрываецца перад табой. Бунін казаў: «Маўчаць грабніцы, муміі і косці». А вось надпіс — раскрываецца, а разам з ім чуецца голас чалавека, які, хоць і даўно, але жыў, нешта думаў, пра нешта марыў і пісаў, бо хацеў штосьці сказаць. Ці ён прасіў дапамогі ў Бога, ці канстатаваў нешта такое, што яго вельмі ўзрушыла. У якасці прыклада — тое, што я прачытала нядаўна, пра пакаранне папа. Па надпісу выходзіць, што поп з’еў праскуры. Нейкаму чалавеку гэта не давала спакою, і ён напісаў: «По череву, по хребту бите попа пугами, съел проскуры один канун». Імя папа задрапана, імя таго, хто пісаў, таксама. Так не хацелі людзі, каб гэтая інфармацыя дайшла да нас, але ж крык душы дайшоў, ён адчуваецца. Надпіс, дарэчы, аднесены да XII—XIII стагоддзяў. Што там насамрэч атрымалася, сапраўды поп з’еў тыя праскуры ці не, мы, канечне ж, ужо не даведаемся.

**— Раскажыце пра жыццё чалавека, які займаецца такой цікавай справай. Пакалькі справа ўнікальная, можна ўявіць, Вы займаецеся гэтым не штодзень?**

— Толькі не ў апошнія некалькі тыдняў, мне трэба дапісаць кнігу, таму я працую зранку да вечара. Рамантыкі тут ужо мала, гэта хутчэй бег на выжыванне. Першая іпастась у мяне ўсё ж такі маці, але часцей гэта засоўваецца недзе далей, бо дзеці ўжо не маленькія. Ды дзяўчаты. Другая іпастась — выкладчыцкая дзейнасць. Гэта адбірае вялікі кавалак часу, бо трэба быць заўсёды на хвалі. Хаця эпіграфіка ідзе як спецкурс і

звычайна чытаецца двум-тром групам. Яна ўваходзіць у лік дапаможных гістарычных дысцыплін разам з палеаграфіяй, геральдыкай, храналогіяй і іншымі, усяго іх дзевяць, вельмі цікавых і вельмі складаных. Гэта як курс маладога байца для гісторыка, абавязковы лікбез, без ведання гэтых дысцыплін гістарычныя даследаванні немагчымы. Таму яны даюцца на першым курсе.

**— І што Вы можаце сказаць пра цікаўнасць студэнтаў да такіх дысцыплін?**

— Цікава гэта заўсёды, але не для ўсіх. І поспехі ў справе вывучэння дысцыплін залежаць ад ступені падрыхтоўкі, ад узроўня агульных, а не толькі гістарычных ведаў. Фундамент у нашых студэнтаў ёсць, але ён апошнім часам невысокі. Патрэбен жа такі, каб не спатыкнуцца ў даследаванні з-за крыўднай дробязі. Калі ў тэксце згадваюцца егіпецкія казні, то трэба ведаць, што гэта за казні. Даследаванні павінны весці людзі, якія разумеюць, што яны робяць. Расіяне неяк былі даручалі рабіць замалёўкі надпісаў мастаку, які не валодаў іх мовай. І што, як вы думаеце, атрымлівалася? Калі чалавек ведаў, як пісалася літара «А», то ён бачыў яе, а калі не?

**— А ці можа быць так, што словы, якія мы цяпер успрымаем у адным сэнсе, некалькі стагоддзяў таму мелі іншы сэнс?**

— У сваёй практыцы я хутчэй сустракалася з праблемай шматзначнасці слоў. Прыклад — прасліца з надпісам «Бабіна прасліца». Бабіна — гэта з аднолькавай верагоднасцю і жаночае, і бабуліна. Але з чаго мы сыходзім у імкненні зразумець сэнс надпісу? Прасліца не можа быць падпісана як жаночае, бо якое ж яшчэ, калі не жаночае? Хіба не жанчыны гэтым займаліся? Таму даследчыкі лічаць, што прасліца ўсё ж бабуліна. Магчыма, так на ім напісала нечая ўнучка. Але дакладна гэтага ніхто не ведае. Мы мяркуем па сённяшняй логіцы.

**— На Вашу думку, сённяшняя логіка мала адрозніваецца ад спракаветнай?**

— Адрозніваецца, але... Даследаванні паказваюць, што людзі, калі нешта пісалі, думалі, так бы мовіць, нарыхтоўкамі. Гэта бачна. Надпіс пра папа, напрыклад, — «по череву, по хребту» — вельмі нагадвае вядомы па тым часе выраз «по чреслам, по хребту». Было, значыць, гэта ў памяці, вось і запісаў чалавек, дарма што трохі перablытаў. Мы і цяпер, згадзіцеся, і думаем, і гаворым, і пішам нейкімі штампамі.

**— Чым даўнейшыя людзі адрозніваюцца ад нас радыкальна?**

— Адрозніваюцца толькі ў тым, што нанесена часам, што залежыць ад узроўню цывілізацыі. Чалавек жа застаецца чалавекам. Возьмем хаця б надпісы, пра якія мы гаворым. Іх магло не быць, таму што на самай справе пісаць на сценах не дазвалялася ні ў якія часы. Больш таго, за гэта каралі. Але яны ёсць. Гэта такія ж самыя «неафіцыйныя» надпісы, як тыя, што праз колькі соцень гадоў, магчыма, прачытаюць нашы нашчадкі дзе-небудзь на сценах сённяшніх ліфтаў. Людзі ёсць людзі, заўсёды. Той чалавек, словы якога мы цяпер чытаем, жыў у час неспакойны, час падзей такога кшталту, што рабілі яго жыццё не толькі больш кароткім, але і больш хуткаплынным. Чалавек разумеў гэта. І імкнуўся пакінуць пасля сябе след. Хаця б у выглядзе якой-небудзь думкі. Ён лічыў, што храм — гэта тое, што будзе стаяць вечна, таму гэтыя свае думкі на яго сцены і наносіў. Дарэчы, і для таго, магчыма, каб, сучаснай мовай кажучы, счытваліся гэтыя надпісы са сцяны падчас імшы. Чалавек верыў, што яго надпіс гучыць кожны раз разам з малітвамі.

**— А як часта здараюцца ў Вас асаблівыя знаходкі, такія, якія маглі б прэтэндаваць на адкрыццё?**

— Уразіў надпіс на алтары Спаса-Праабражэнскай царквы. Калі ў Полацку з'явіліся езуіты, царква была аддадзена ім. І таму старажытнарускія надпісы зверху пакрыты надпісамі лацінскімі. Атрымалася вельмі пярэстае покрыва з літар, але я змагла прачытаць: «Зри здесь следок». Што гэта значыць? «Глядзі, вось тут нейкі след»? Што гэта за след? Ці чалавек хацеў сказаць, што ён тут быў, ці гэта інфармацыя пра захаваны недзе скарб. Зразумець цяжка, бо вакол гэтага надпісу шмат розных слядкоў. Гэта таямніца, якую мы, магчыма, ніколі не разгадаем, па якой хіба толькі прыгодніцкую кніжку напісаць можна, а можа быць, і прыйдзе разгадка, хто ведае...



*Просьба аб дапамозе Сцяпану.*

**— Вам, напэўна, хочацца апынуцца ў тым часе, калі былі пакінуты такія надпісы. Ці бывае ў Вас адчуванне, што Вы не тут, а там?**

— Часам бывае. Так я даведалася, што людзі жылі прасцей, былі бліжэй да прыроды, іх пачуцці былі больш глыбокімі і не такімі засмечанымі, як у наш час. Прысутнасць розначасовых надпісаў служыць доказам таго, што нашы продкі з даўніх часоў былі пісьменнымі. Ведаць гэта вельмі важна. І людзі не проста ўмелі пісаць, яны пісалі ўзвышаныя рэчы. Хаця і не ўзвышаныя таксама. Па надпісах мы даведаліся, што ненарматыўная лексіка і ў XI стагоддзі таксама існавала. Самы старажытны помнік пісьменства з кірылічнымі надпісамі — гэта камень з Сафійскага сабора. На ім пазначаны імёны дойлідаў, якія будавалі гэты храм. Да аднаго з імёнаў прыпісалі «непатрэбнае» слова, не буду яго паўтараць.

**— А той факт, што такія словы сустракаліся і стагоддзі таму, і нават там, дзе, як кажуць, «напісана пяром — не вырубіш тапаром», што азначае?**

— Матэрыялу для аналізаў няшмат. Калі гаварыць у навуковым кантэксце, то такія словы былі ў нашых продкаў заўсёды, хаця можна дапусціць, што напачатку яны не лічыліся лаянкай. Але не татары нам іх занеслі, дакладна. Гэта ў большай ці меншай ступені было заўсёды, людзі былі носьбітамі і такога таксама. Цяпер гэта гучыць паўсюль, і ад жанчын, і ў пісьмовых крыніцах. Я стаўлюся да гэтага адмоўна, такія словы разбураюць душу, але часам схільна падтрымаць Караткевіча. Памятаеце, ён у адным з твораў пісаў, што бываюць такія сітуацыі, калі адно толькі гэта і застаецца?

**— Мяркуючы па Вашых знаходках, якой бачылі сваю радзіму нашы продкі, тыя, хто пакінуў пасля сябе надпісы?**

— Я думаю, у большай ці меншай ступені, але яны ўжо бачылі яе хрысціянскай. Кірыліца — мова богаслужэнняў. Да таго ж, вялікая колькасць надпісаў — гэта звароты да Бога: «Помозі рабу твоему». Нават калі імя пісалася не хрысціянскае. Такія выпадкі ёсць. На адной з прасліц, прыстасаванні для прадзення, чытаем: «Госпадзі, памазі рабе сваёй Недане». Недана — імя паганскае, але вось у такім хрысціянскім звароце сустракаецца. Гэта значыць, што чалавек верыў у дапамогу Бога. На сякеры XV стагоддзя, магчыма, рукою самога каваля нанесена: «А зри вор Кузьмы топор» — «глядзі, вор, сякера Кузьмы». Магчыма Кузьма і быў тым кавалём. Надпіс вельмі ахайны, выкананы ў выглядзе кропачак, якія запоўнены шэрым металам. Я так думаю, ён быў вельмі вядомы, гэты каваль. Таму што вор, паглядзеўшы на сякерку, адразу зразумеў бы, каму яна належыць, і жаданне скрасці ў яго знікла б.

**— Чаму чалавеку важна было не проста зрабіць сякеру, каб працаваць ёю, а яшчэ і падпісваць? Адкуль гэта жаданне перадаваць інфармацыю праз побытавыя рэчы?**

— Не ўсякую інфармацыю і не заўсёды. Спачатку, як лічаць, была хрысціянізацыя, а пасля евангелізацыя. Спачатку людзі імкнуліся наносіць крыжы і хрысціянскія надпісы на ўсё, нават на конскія прыстасаванні. А потым пайшла евангелізацыя. Гэта больш глыбокае, ужо не знешняе. У гэты час для чалавека перастала быць істотным, нанесены надпіс ці не, бо верылі ў душы, без вонкавых дэманстрацый. Часта наносілі на прадметы нейкія пажаданні, але гэта таксама ад веры.

**— Што трэба ведаць, чым валодаць, каб займацца Вашай справай паспяхова?**

— Патрэбна веданне старажытных моў, у прыватнасці, старажытнарускай і старастаравянскай, а таксама ўменне фатаграфаваць і нейкая ступень упартасці. Але над усім гэтым павінна стаяць інтуіцыя. Яна любому даследчыку неабходна. Мы, эпіграфісты, часцей за ўсё ідзём следам за археолагамі. Яны нешта вышукваюць, і калі на гэтым нечым ёсць надпісы, мы дапамагаем іх чытаць і расшыфроўваць. Часцей за ўсё археолагі самі прачытваюць надпісы, бо, канечне ж, валодаюць гэтымі навыкамі. А я зрабіла сабе гэта мэтай жыцця — усё збеглася ў маім жыцці для таго, каб выкрышталізавалася менавіта такая мэта.

**— То, напэўна, праўда, што чалавека нейкія сілы вядуць убок таго, чым яму наканавана займацца?**

— Вядуць і прывядуць абавязкова. Трэба толькі не спыняцца. Нават калі спачатку абраны не той шлях, па ім усё роўна трэба ісці. Бо і ён патрэбен — на ім будуць розныя карысныя набыткі. Як толькі іх колькасць праміне нейкую крытычную масу, вы самі не заўважыце, як трапіце на новы ўзровень — прамую дарогу да таго, чым вам прызначана займацца. Галоўнае — не спыняцца. Бяздзейнасць прывядзе да горшых вынікаў. Гэта завецца цеплахладнасцю — «і ні тое, і ні сёе». І ў сувязі з гэтым трэба сур'ёзна ставіцца да чалавека, які, з боку гледзячы, ніяк сябе не знойдзе і кідаецца ў розныя бакі. Не такі ўжо ён легкадумны ў параўнанні з тым, хто кожны ранак прыходзіць на адну і тую ж працу і сядзіць там да вечара, адно і тое ж з месца на месца перасоўваючы.

**— Пра што Вы як эпіграфіст марыце?**

— Дачытаць надпісы. Расшыфраваць тое, што яшчэ не расшыфравана. Ведаю, што ўжо не паддадуцца мне тыя аб'екты, якія маюць выбаіны. Гэта страчана, на жаль, назаўсёды. Дадумваць, напэўна, цікава, але рызыкоўна для самой гісторыі. Ёсць надпісы, якія, хоць ужо прачытаны, раптам даюць штосьці новае. Сядзіш так каля сцяны, мяняеш асвятленне — і бачыш нешта яшчэ. Гэта радасна. Увогуле, столькі надпісаў яшчэ трэба раскрыць. Сынкавіцкая царква чакае, узгаданая Полацкая Спаса-Праабражэнская — перліна эпіграфікі, надпісаў там вельмі шмат і прачытана далёка не ўсё, у прыватнасці, мару дабрацца да чатырох непрачытаных слупоў у алтары. Але хочацца знайсці і нешта не царкоўнае, а больш размоўнае, надзённае. Гэта будзе сапраўдны голас часу. Цікавым, я лічу, эпіграфічным помнікам з'яўляецца бабруйская крэпасць. Нават у тым сэнсе, што гэта помнік савецкай эпохі, помнік настальгіі. Салдаты, прадстаўнікі розных народаў, пакідалі там свае думкі-мары. Гэта і туга па радзіме, і адрасы, і проста «стоял на посту, рвал траву». «Дзембель», дарэчы, — слова, якое з'явілася ў надпісах у сямідзясятых... І фашысцкія надпісы на тых сценах таксама ёсць.

**— Ці здараюцца выпадкі, калі сучаснае чытаецца як старадаўняе? Ці можна адно з другім пераблытаць?**

— Калі гаварыць пра сапраўднасць самой археалагічнай знаходкі, то гэта на сумленні археолагаў. Падроблены надпіс можна было б прыняць за сапраўдны, але для гэтага ён павінен быць зроблены добрым спецыялістам, сапраўдным навукоўцам. Дылетанты не валодаюць патрэбнымі ведамі, і нават не здагадваюцца, дзе іх можа чакаць памылка. Калі, напрыклад, на паперы ёсць упадзіны, жалабкі, то зразумела, што чалавек пісаў жалезным пяром, а не гусіным.

**— Калі нехта ў сябе на агародзе ці недзе на гарышчы нешта знойдзе, то няхай прыносяць да Вас, правільна?**

— Няхай прыносяць, будзем чытаць. Мне нядаўна прынеслі медальён з выявай Божай Маці, які быў знойдзены на агародзе і потым яшчэ выкарыстоўваўся як падкладка пад мясарубку. Вельмі ён ад гэтага пацярпеў, але зараз уладальнікі захоўваюць яго як каштоўнасць.

**— Дзякуй за размову.**

***Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА***

# СУМЕСНЫ ПРАЕКТ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» І ГАЗЕТЫ МУС БЕЛАРУСІ «НА СТРАЖЕ»

***У расследаванні крымінальных спраў з удзелам непаўналетніх — свая спецыфіка. Пры вытворчасці па іх важна атрымаць звесткі аб псіхалагічным развіцці падлетка, высветліць кола яго зносін і да т. п. Усё гэта неабходна як для характарыстыкі асобы непаўналетняга, так і для высвятлення прычын, якія падштурхнулі яго да злачынства. Пытанне няпростае: у мінулым годзе, па дадзеных Генпракуратуры, у рэспубліцы непаўналетнімі было ўчынена 4 800 злачынстваў. Нягледзячы на зніжэнне (-11,6 %), супакойвацца не даводзіцца. За першае паўгоддзе ў краіне зафіксавана 1 800 падобных фактаў.***

Практыку правядзення папярэдняга следства па крымінальных справах аб злачынствах, учыненых непаўналетнімі, нядаўна вывучалі на Брэстчыне. Рэгіён быў абраны невыпадкова. Ужо за тры месяцы бягучага года маладымі людзьмі і з іх удзелам было здзейснена 126 злачынстваў. У якасці абвінавачаных прыцягнуты ў асноўным асобы ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў. Сярод іх 33 навучэнцы розных навучальных устаноў, 17 нідзе не працавалі і не вучыліся... У ходзе абагульнення следчай практыкі берасцейцаў спецыялісты вывучылі каля сотні крымінальных спраў, у тым ліку разгледжаных судамі.

— Пры абранні меры стрымання ў дачыненні да непаўналетняга ўлічваецца многае: яго крымінальнае мінулае і характарыстыка асобы, цяжар учыненага дзеяння, — тлумачыць намеснік начальніка ўпраўлення па кантролі за папярэднім следствам ГУПК ПР палкоўнік міліцыі **Аркадзь Семяняка**. — У дачыненні да злачынца, які не ўяўляе вялікай грамадскай небяспекі, у большасці выпадкаў прымяняецца падпіска аб нявыездзе і належных паводзінах або аддача пад нагляд. Да таго, хто падазраецца або абвінавачваецца ў здзяйсненні менш цяжкага, цяжкага або асабліва цяжкага злачынства, закон дазваляе ўжыць заключэнне пад варту або хатні арышт. 2011 год у рэспубліцы абвешчаны Годам прадпрымальнасці, а для МУС — прафілактыкі злачынстваў. Следчы аналізуе абставіны, якія падштурхнулі чалавека да злачынства, а затым рэагуе, выносячы адпаведнае прадстаўленне. Так, па справе ў дачыненні да Д. следчы ўстанавіў умовы злачынства, аднак прычыны яго не высветліў. У маці абвінавачанага не пацікавіліся, чаму ён а трэцяй гадзіне ночы п’яны знаходзіўся не дома, а таксама не дазналіся пра іншыя істотныя акалічнасці. Якое гэта цяпер мае значэнне? А высвятленне гэтых абставін важна для таго, каб ліквідаваць прычыны, якія прывялі да злачынства, што, у сваю чаргу, зможа прадухіліць супрацьпраўныя паводзіны падлетка ў будучым. Калі індывідуальная прафілактычная работа праводзіцца не на паперы, то карысць, несумненна, будзе.

— Колькі б чалавеку ні чыталі лекцый аб шкодзе курэння, карысці не будзе, пакуль ён сам гэтага не ўсвядоміць, — мяркуе старшы следчы па асабліва важных справах ГУПК падпалкоўнік міліцыі **Святлана Кручанок**. — Калі непаўналетні здзяйсняе злачынства, то не трэба ў гэтым цалкам вінаваціць школу. Ільвіная доля віны ляжыць на самім маладым чалавеку. Але гэтаму, канечне, паспрыялі абставіны, стан у той момант: сварка з бацькамі ці аднагодкамі напярэдадні, усё, што заўгодна. Чаму гэты момант ніхто не ўбачыў? Вось пытанне. Але ад фармальнага «ўстанаўлення прычын і ўмоў» карысці мала. Да таго ж, усе прычыны і ўмовы даўно вядомы: праблемныя сем’і, дзеці без нагляду, алкаголь, наркотыкі...

Непаўналетняя злачыннасць сёння — адзін трывожны званок у заўтра. Праблема, якую трэба вырашаць «ужо ўчора», і думаць, перш за ўсё, не хто вінаваты, а што рабіць.

*Аляксандр СТРЫГАЛЁЎ*

Святлана САЎКО

# РАМЭА І ДЖУЛЬЕТА «ПАКАЛЕННЯ NEXT»… …ХВОРЫЯ НА АДЗІНОТУ

***Сучаснаму звышінфармаванаму падлетку не хапае... інфармацыі!***

***У часы Мантэкі і Капулеці ранняе мацярынства не тое што не асуджалася — наадварот, лічылася нормай. Успомніце, як маці ўшчувала трынаццацігадовую Джульету: «Маладзейшыя за цябе становяцца ў Вероне маці...» А што чакае непаўналетнюю маму сёння? Часцей за ўсё — асуджэнне з боку родных, сяброў, настаўнікаў. Псіхалагічная траўма, да якой дадаюцца яшчэ і праблемы са здароўем. Ды ці варта вінавацiць ва ўсім толькі саміх падлеткаў, разбэшчанасць так званага «пакалення NEXT»?***

## З «БЕЛЫХ ПЛЯМ» ПАЧЫНАЕЦЦА РАКА СЛЁЗ…

Даволі часта маладзенькая маці застаецца сам насам са сваімі праблемамі. Зрэшты, у адзіноце яна апынулася нашмат раней. І цяжарнасць — гэта не прычына, а вынік сацыяльнай ізаляцыі. Па меркаванні многіх псіхолагаў, падлеткавай цяжарнасці папярэднічаюць праблемы ў сям'і. Прычым звонку, яна можа быць надзейнай і забяспечанай. Нярэдка «правільны» падлетак (і чаго, маўляў, яму не хапае?) можа апынуцца ў «кепскай кампаніі». Чаму? Прычын можа быць некалькі. Хутчэй за ўсё, ён пачуваецца адзінокім і таму шукае родную душу, дзе толькі можна. Пры гэтым на падсвядомым узроўні выбірае самы рызыкоўны, «суіцыдальны», на мове псіхолагаў, шлях. Для таго, каб звярнуць на сябе ўвагу, даказаць сваю значнасць бацькам, аднагодкам.

І яшчэ, як ні дзіўна, але сучасным падлеткам, якія гадзінамі сядзяць у сеціве, катастрафічна не хапае элементарных ведаў. Інтэрнэт-сайты — не самыя лепшыя выхавацелі, дый звесткі прапануюць, як правіла, агульнага плану. А ў сем'ях, на жаль, не прынята гаварыць з падлеткамі «пра гэта». Белыя «плямы» у палавым выхаванні, а вынік — безліч праблем. Сярод іх найбольш балючая і стрэсавая — падлеткавая цяжарнасць. Куды ж звярнуцца па параду?

З 2003 года ў Беларусі пад эгідай ЮНЭСКА развіваецца рух таварыскіх адносін да маладых людзей. Пашыраецца сетка спецыялізаваных цэнтраў, дзе ўрачы, ананімна і бясплатна, кансультуюць дзяцей і бацькоў па любых пытаннях, звязанных з рэпрадуктыўным здароўем падлеткаў. Сёння толькі ў Мінску такіх цэнтраў — восем. У тым ліку — «Ювентус», які адчыніўся тры гады таму на базе 17-й дзіцячай паліклінікі горада Мінска. У цэнтры ёсць валеолаг, гінеколаг, псіхолаг і педыятр. На пазаштатнай аснове тут працуюць нарколаг і дэрматавенеролаг. Чытаюць лекцыі, праводзяць трэнінгі. Таксама іх запрашаюць на індывідуальныя кансультацыі. У такіх выпадках работнікі цэнтра папярэдне рыхтуюць падлетка да размовы са спецыялістам. Нават дарослыя часам не ведаюць, як растлумачыць, у чым праблема. Што ўжо казаць пра разгубленага падлетка? Тым больш, пра дзяўчынку, якая зацяжарыла. Што рабіць? Як сказаць маме?

Звычайна з гэтага пачынаецца размова ў цэнтры. Тое, што прызнавацца трэба і чым раней, тым лепш, — большасць дзяўчат разумеюць самі. Але сітуацыя вельмі складаная, да выхаду з яе спецыялісты цэнтра імкнуцца падвесці асцярожна і далікатна. У рэшце рэшт вырашаецца лёс чалавека, які яшчэ не з'явіўся на свет. Трэба ўлічваць не толькі маральныя аспекты. Падлеткавы арганізм яшчэ сам развіваецца і непадрыхтаваны да таго, каб вынасіць дзіця. Часам цяжарнасць пагражае жыццю будучай мамы. І потым ці будзе маленькі чалавечак жаданым і любімым? Усё залежыць ад таго, наколькі здолеюць паразумецца родныя, ці ўдасца ім аб'яднацца і разам пераадолець цяжкасці, выкліканыя нечаканым прыбаўленнем у сям'і.

— Сёлета не без нашай дапамогі на свет з'явіліся двое дзетак, — гаворыць урач-валеолаг **Інэса Палазнік**. — Шчаслівых бацькоў, бабуль і дзядуль таксама стала

ўдвая больш. Таму, хоць часам бывае і цяжкавата, работа ў цэнтры прыносіць шмат задавальнення. Шкада, што многія падлеткі і моладзь з недаверам ставяцца да такіх устаноў. Думаюць, што гэта нешта накшталт звычайнай паліклінікі, куды звяртаюцца па рэцэпты. Дарэмна. Тыя, хто пабываў аднойчы на кансультацыі, з радасцю прыходзяць зноў.

### ВЫСЛУХАЮЦЬ І ПАРАЯЦЬ, АЛЕ ВЫРАШАЦЬ ДАВЯДЗЕЦЦА САМОМУ!

«Калі становяцца дарослымі дзеці? Часцей за ўсё летам...», — адказвае Інэса Палазнік. Не дзіва, што менавіта летам па кансультацыю ў цэнтр прыходзіць найбольшая колькасць наведвальнікаў. А далей спрацоўвае так званае «сарафаннае» радыё. Падлеткі, маладыя людзі дзеляцца ўражаннямі з сябрамі, знаёмымі і тыя таксама звяртаюцца ў «Ювентус».

— Прыязджаюць нават з іншых гарадоў, дзе такіх устаноў пакуль няма. Але пра тое, адкуль хлопец ці дзяўчына, мы можам даведацца выпадкова, з размовы. Пашпарт у нас не патрабуюць. Канфедэнцыяльнасць — гэта вельмі важна для маладых людзей, якія апынуліся ў няпростай жыццёвай сітуацыі.

Цэнтр працуе па прынцыпе трох «Д» — даступнасць, добраахвотнасць, добразычлівасць. Тут выслухаюць, паспачуваюць. Пракансультуюць. Самая галоўная дапамога, лічаць спецыялісты «Ювентуса», — гэта інфармацыя. Абапіраючыся на атрыманыя веды, малады хлопец або дзяўчына зможа прыняць узважанае рашэнне. Пры тым, самастойна!

— Ніхто не збіраецца вырашаць за падлетка яго праблемы, — заўважае Інэса Палазнік. — Мы можам толькі акрэсліць перспектывы. Але адказваць за свае ўчынкі давядзецца самому. Падлетак павінен гэта разумець.

Нягледзячы на тое, што цэнтры кшталту «Ювентуса» ў Беларусі, пачалі з'яўляцца не так даўно, вакол іх пачалі гуртавацца валанцёры. Тыя, каму аднойчы дапамаглі, і проста неабыякавыя да чужых праблем хлопцы і дзяўчаты. Чаму такі дзейсны метад «падлетак вучыць падлетка»? Мяркую, не толькі таму, што аднагодкам больш давяраюць. Да старэйшых абавязкова прыслухаюцца, калі яны не будуць даваць свае парады ментарскім тонам. Нібыта самі дарослыя ніколі не памыляюцца! Няма вялікага сэнсу абурацца тым, наколькі распушчаныя сучасныя падлеткі. Такімі іх робяць не толькі і не столькі СМІ, інтэрнэт, колькі абыякавасць дарослых. Ці не таму сучасныя падлеткі «ўсё ведаюць пра сэкс», але настолькі недасведчаны ў пытаннях кантрацэпцыі?

**У цэнтрах таварыскага стаўлення да падлеткаў і моладзі кансультуюць па розных пытаннях, звязанных не толькі з рэпрадуктыўным здароўем. На фоне перабудоў фізіялагічных, карэнныя змены адбываюцца на псіхалагічным узроўні. Узнікаюць праблемы ва ўзаемаадносінах з роднымі, сябрамі. З усім светам!**

— У гэты час падлетку вельмі важна дапамагчы разабрацца ў тым, што з ім адбываецца, — зазначае Інэса Палазнік. — Але часта бацькі не заўважаюць, што сын або дачка змяніліся. Асабліва, калі ў сям'і не прынята дзяліцца адно з адным набалелым. Але праблемы, што іншым часам пагардліва называюць мыльнымі «бурбалкамі», накопліваюцца ў дзіцячай душы і выходзяць на паверхню гарачай лавай слёз, папрокаў. Яшчэ горш, калі яны прыводзяць да незапланаванай цяжарнасці, п'янства, тытунёвай залежнасці, уцёкаў з дому.

Падлеткавы ўзрост — няпросты, і вельмі важна, каб у гэты час побач знаходзіўся мудры дарадца. Добра, калі гэта мама або тата. Яшчэ лепш, калі бацькі не разлічваюць выключна на ўласны досвед, а звяртаюцца па параду да спецыялістаў. Як даказаць 12—14-гадовай дзяўчынцы, што ад строгай дыеты ў яе узросце — толькі шкода? Аднымі забаронамі і грозьбамі наўрад ці даб'ешся выніку. Трэба тлумачыць, што ў гэты час у дзявочым арганізме выпрацоўваюцца некаторыя гармоны, адсюль і паўната. Але ж прачытаць дачцэ такую міні-лекцыю зможа толькі абазнаная, неабыякавая мама.

**Цэнтры таварыскіх адносін да падлеткаў і моладзі — гэта не панацэя ад праблем. Гэта яшчэ адзін сродак, каб бацькі і дзеці сталі бліжэй адно да аднаго, каб каханне сучасных Рамэа і Джульеты было толькі шчаслівым!**

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ХТО КУДЫ, А МЫ — НА «ВЯСЕЛЛЕ»!

***Названы прэтэндэнты ад Беларусі на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Яе ўручэнне лаўрэатам адбудзецца напачатку 2012 года. За дзевяць гадоў існавання прэміі сярод намінантаў ніколі не было тэатральных спектакляў. Традыцыю распачынае Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Дыплом атрымаў спектакль «Вяселле» па творы Антона Чэхава. Гэта сумесны расійска-беларускі праект, прэм'ера якога адбылася ў лютым 2009 года. Спектакль быў уключаны ў праграму Чехаўскага фестывалю і прымеркаваны да 150-годдзя са дня нараджэння класіка, якое адзначалася ў 2010 годзе. З беларускімі акцёрамі-купалаўцамі працавала маскоўская пастановачная група. У яе склад увайшлі рэжысёр Уладзімір Панкоў, мастак Максім Абрэзкаў, харэограф Алена Багдановіч, а таксама мастакі па касцюмах Наталля Жолабава і Сяргей Агафонаў. Яны прапанавалі нашаму гледачу тэатральнае дзейства пад назвай soundrata, дзе аўтарскі тэкст разглядаецца як нагода для ўласных постмадэрнісцкіх і музычных пошукаў.***

***Мінула два гады. Але спектакль настолькі незвычайны, што і сёння гледачы разыходзяцца ў думках, спрачаюцца, абмяркоўваюць, ганьбяць і ўхваляюць, захапляюцца і здзіўляюцца.***

## УЛАДЗІМІР ПАНКОЎ І ЯГО ПОСТМАДЭРНІСЦКІЯ ПОШУКІ



*Уладзімір Панкоў — «чалавек-аркестр».*

Вынік сумеснай працы расійскага рэжысёра і беларускіх артыстаў даў цікавы і незвычайны плён, дзякуючы нетрадыцыйнаму падыходу да драматургічнага матэрыялу. «Вяселле» А. Чэхава, на першы погляд, — самае празаічнае апісанне аўтарам правінцыйнага балявання, якое ён падгледзеў у сям'і сваіх далёкіх сваякоў. Вось кароткі пералік падзей.

Эпамінонд Максімавіч Апломбаў жэніцца на Дашаньцы. Сваякі даюць някепскі пасаг, а ў дадатак — два выйгрышныя квіткі. Жаданне жаніха наняць на ўрачыстасць ганаровага госця-генерала — выканана. Агент страхавога таварыства Нюнін запрашае флоцкага капітана 2-га ранга ў адстаўцы Фёдара Якаўлевіча Равунова-Каравулава ў якасці вясельнага генерала, але грошы за найм ціха прысабечвае. За святочным сталом падман выкрываецца, што вельмі крыўдзіць старога марскога ваўка. Ён сыходзіць. Чэхаў з гумарам і сарказмам малюе мяшчанства, карыслівасць, п'янства, бездухоўнасць, крывадушша сваіх герояў.

Асаблівасці рэжысуры чэхаўскага твора, здзейсненай **Уладзімірам Панковым**, у постмадэрнісцкім падыходзе — у яго асаблівым і складаным поглядзе на свет і драматургію Чэхава. У спектаклі Панкова дзеянне адбываецца ў савецкі час, у гады застою, калі людзі насілі аднолькавыя паліто і фрызуры,



*Клоны «мамаш» частуюць вясельнага генерала.*

а аксамітныя дыванкі з аленямі віселі ледзь не ў кожнай кватэры, калі панавалі шэрасць і прымітывізм. Настрой і атмасфера таго часу максімальна ўтрыраваны. Спектакль пачынаецца з урачыстага знаёмства з усімі персанажамі, пасля чаго робіцца зразумелым, што большасць з іх — клоны. Мамаш у нявесты тры, Змяюкіных таксама трое, тэлеграфістаў Яцяў ажно пяцёра. Яны паўтараюць адзін за адным фразы на беларускай і рускай мовах. Безаблічныя, як з канвеера, людзі запаўняюць прастору сталоўкі 1970-х гадоў, дзе рыхтуюцца да вяселля. Сцэна загрувашчана мноствам сталоў на металічных ножках, немудрагелістымі зэдлікамі, абадраным умывальнікам з інвентарным нумарам, сушылкай для рук і цюлем замест абрусаў. Усё гэта ўзмацняе атмасферу шэрасці савецкай эпохі. Яе каларыт адбіваецца і на касцюмах: штампаваныя габелены з кутасікамі аздабляюць сукенкі Змяюкіных. Яці таксама апрануты ў старарэжымныя мышыныя паліто з каракулевымі каўнярамі і шапкі-піражкі, «мамашы» ў канцылярскіх уніформах з фрызурамі-«гулькамі» на галовах. Пры беражлівым стаўленні да чэхаўскага арыгінала Панкоў дае волю не толькі сваёй фантазіі, але і выклікае гледача на асацыятыўнае ўспрыняцце таго, што адбываецца на сцэне. І калі падпітыя госці спяваюць «Алесю» — хіт «Сяброў» пачатку 1980-х гадоў — гэта гучыць гэтак жа арганічна, быццам з часоў напісання чэхаўскага «Вяселля» не мінула і стагоддзя.

Бясспрэчна, такі погляд на класіку быў абумоўлены неардынарнасцю асобы пастаноўшчыка. Нягледзячы на тое, што Уладзіміру Панкову 35 гадоў, ён напісаў музыку больш чым да сарака спектакляў, трынаццаць з якіх яго рэжысёрскія работы. Больш за тое, ён іграе на розных музычных інструментах. У «Вяселлі» Панкоў спалучыў асаблівасці дзвюх нацыянальных і тэатральных традыцый. Па ягонай задуме галоўны герой — маскоўскі жаніх, а яго нявеста і яе сям'я — беларусы. Адсюль сутыкненне нораваў, поглядаў на жыццё, характараў. Музыка і гук для рэжысёра — галоўныя выканаўцы ў ягоных спектаклях. І нездарма яго ўлюбёны прыём — soundrama — сінтэз розных жанраў і розных выяўленчых сродкаў: музыкі, пластыкі, голасу, тэксту. Кожны гук у спектаклі прадуманы не менш старанна, чым рух і вобраз, дзеянне нанізваецца на стрыжань з гукавых кампазіцый.

У «Вяселлі» выкарыстаны беларуская, руская і грэчаская мовы. Па-беларуску гаво-

рыць жаніх, па-руску — усе астатнія. Грэцыя з’яўляецца ў творы толькі як вобраз. У сярэдзіне спектакля рэжысёр пераносіць месца дзеяння на карабель, які адплывае ў казачную краіну Грэцыю, дзе, па словах грэка-кандытара Дымбы, «усё ёсць». Няздзейсненая мара савецкіх людзей пра замежжа рэалізуецца ў спектаклі. Мелодыка мовы, гукі народных інструментаў, спевы — так вымалёўваецца гукавая партытура спектакля, дзе арганічна зліваецца раскладзены на галасы чэхаўскі тэкст і незвычайная акцёрская пластыка. Дарэчы, аркестр аб’ядноўвае музыкаў маскоўскага тэатра SounDrama і Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Тут гучаць класічныя струнныя і духавыя інструменты, акардэон, жалейка, гавайская гітара, валторна, балалайка і г. д.

## СПРАДВЕЧНАЯ НЯВЕСТА

Камічнасць і незвычайнасць сітуацыі яшчэ і ў тым, што нявеста ў спектаклі не маладая. Яе грае старэйшая актрыса Купалаўскага тэатра, якая працуе тут ужо больш за пяцьдзясят гадоў, заслужаная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі **Зінаіда Зубко.** Зінаіда Пятроўна нарадзілася ў Пецярбургу, вырасла ў Латвіі, але практычна ўсё жыццё пражыла ў Беларусі. Сёння яна ўзгадвае, што з дзяцінства марыла стаць артысткай. Яе мара здзейснілася, дзякуючы знакамітаму рэжысёру Сяргею Радлаву, які прыехаў у пасляваенны Даўгаўпілс і арганізаваў там тэатральную студыю. Менавіта тут маладая Зінаіда Зубко зразумела, што трэба вучыцца далей.

«*Я прыехала з Даўгаўпілса ў Мінск паступаць у тэатральны інстытут,* — кажа Зінаіда Пятроўна. — *З цяжкасцю асвойвала мову, таму што думала па-руску. Памятаю, як мяне ўразілі шыльды: “Прадукты”, “Гастраном”. Няўжо ніхто не бачыць, што напісана з арфаграфічнымі памылкамі! Затое цяпер настолькі прызвычаілася, што вельмі часта лаўлю сябе на думцы — “як гэта будзе па-руску?”*»

У 1960 годзе Зінаіда Зубко на выдатна скончыла Тэатральна-мастацкі інстытут, і з тых часоў працуе ў Купалаўскім тэатры. За гэты перыяд яна сыграла вялікую колькасць самых розных роляў, у тым ліку і нявест. Але ў «Вяселлі» скарыла еўрапейскую публіку сваёй чуллівасцю, вытанчанасцю і неверагоднай годнасцю. Здаецца, як замежны глядач можа зразумець чэхаўскую п’есу, сыграную на дзвюх мовах, ды яшчэ ў постмадэрнісцкай манеры? Але справа ў тым, што на спектаклі прыходзяць людзі падрыхтаваныя, якія прызвычаіліся да эксперыментаў і чакаюць іх. Ім цікава мастацкае бачанне рэжысёра — звычайнай класічнай ігрой іх ужо не здзівіш. Да таго ж, ёсць «бягучы радок» на экране, у выніку рэакцыя на ігру затрымліваецца літаральна на некалькі імгненняў.

Зінаіда Пятроўна кажа: «*У мадрыдскім тэатры, дзе мы паказвалі спектакль, вялікая глядзельная зала з маленькімі ложамі, як у Ла Скала. Шмат, вельмі шмат моладзі. Уразіў фінал, дзе я цягнуся да гледачоў са словамі: “Дайце мне атмасферы...” Падае заслона У зале — цішыня, неверагодная цішыня. Сэрца замірае: няўжо правал?! І раптам — шквал авацый. Нас папярэдзілі,*



*Спрадвечная нявеста і яе прагматычны жаніх. Зінаіда Зубко і Ігар Дзянісаў.*

*калі будуць свістаць і тупаць нагамі, гэта лічыцца самым лепшым прыёмам. Колькі яны тады пляскалі ў ладкі, тупалі, свісталі! А колькі разоў мы выходзілі, колькі кланяліся, нават цяпер і не ўзгадаю! Дарэчы, там не прынята дарыць кветкі артыстам. Затое я кінула ў залу свой букет нявесты са штучных кветак. Зала ўзарвалася ад захаплення. Пасля гэтага Уладзімір Панкоў на кожны спектакль купляў жывыя кветкі, якія я кідала ў залу. У Мадрыдзе да нас пасля спектакляў падыходзілі і нашы эмігранты, якія жывуць у Іспаніі. А беларуская суполка з некалькіх чалавек спецыяльна прыехала за 200 кіламетраў на спектакль. Усе яны размаўлялі па-беларуску. І яны, і мы не маглі стрымаць слёзы*».

Гэту актрысу з неверагодна тонкай паставай і цудоўнай сцэнічнай падрыхтоўкай часта блытаюць з былой балерынай. І не дзіва, Зінаіда Пятроўна займаецца харэаграфіяй ужо каля сарака гадоў: спачатку ў балетнай студыі, а цяпер у родным тэатры. Менавіта гэтае захапленне дапамагае артыстцы на працягу дзесяцігоддзяў падтрымліваць сябе ў выдатнай форме. Магчыма, і гэты фактар дапамог маладому рэжысёру зрабіць выбар на яе карысць.

«*Гэта было пасля прагляду "Ідыліі" і "Паўлінкі". Валодзя запрасіў усіх артыстаў паразмаўляць пра будучую пастаноўку. Потым кажа, што хацеў мне прапанаваць цэнтральную ролю. Натуральна, я адразу падумала пра ролю "маман" і вельмі здзівілася, бо ў нас ёсць цудоўныя камедыйныя актрысы. Прычым тут я? А Панкоў вытрымлівае паўзу і кажа, што хоча, каб я грала нявесту. Першае адчуванне — з мяне здзекуюцца. Мне ўжо за семдзесят — і нявеста? Няўжо я за столькі гадоў працы заслужыла падобнае? Вочы мае пачырванелі, я ледзь не заплакала. Ён пачаў тлумачыць, што бачыў мяне ў "Паўлінцы", што я яму падыходжу, бо танцую, спяваю, што задумаў ён спектакль, як успаміны… Гэта было перад адпачынкам. Я нікому нічога не сказала, захоўвала таямніцу, колькі магла. Прагаварылася толькі дачцэ. Нарэшце нашы артысты вярнуліся з адпачынку і сабраліся на першую рэпетыцыю, пачалі чытаць свае ролі… Дайшло і да рэплікі нявесты. Паўза. Усе глядзяць на маладых дзяўчат. І тут Панкоў кажа: "Зінаіда Пятроўна, пачынайце". Я агледзелася і ўбачыла адбітак свайго шоку на ўсіх тварах адразу… З гэтага шоку ўсё і пачалося*».

Па словах самога Уладзіміра Панкова, яго нявеста — вобраз вечнай нявесты, якая заўсёды чакае свайго нарачонага і спадзяецца знайсці з ім радасць і шчасце. Цяпер мы ўсе бачым, што сваёй ігрой Зінаіда Зубко раскрывае гэты вобраз у неверагодных маштабах, дзякуючы свайму акцёрскаму таленту, яна ўражвае і здзіўляе гледачоў. З другараднай эпізадычнай ролі вырастае сімвал, які звязвае ўсю п'есу.

## ЖОРСТКІ І ПРАГМАТЫЧНЫ ЖАНІХ

У кожным героі, апроч нявесты Дашанькі і капітана Равунова-Каравулава, Чэхаў высмейвае тыя ці іншыя заганы. Уладзімір Панкоў прытрымліваецца аўтарскага тэксту і ў той жа час ставіць выканаўцаў у такія сітуацыі, у якіх праяўляюцца характары і ўся існасць персанажаў. У спектаклі жаніх з Масквы смешны ўжо тым, як апрануты. Кароткія штаны адкрываюць белыя шкарпэткі, прыцягвае ўвагу яго паголены чэрап і штучная хрызантэма ў пятліцы. Выстаўляецца ён сталічным франтам, аднак, калі ўпершыню бачыць «маладую», губляе прытомнасць. Ачуняўшы, ён немым голасам крычыць ва ўмывальнік, потым у жаху забіваецца ў кут. Нейкі час Апломбаў знаходзіцца ў ступары і на запрашэнне Мамашы патанцаваць жаласлівым голасам, ледзьве не плача, кажа: «Я не Спіноза які-небудзь, каб выраблядь нагамі крэндзелі». Тут яго па-сапраўднаму шкада. Усё бачыцца яму як ў жудасным сне. Але ён неўзабаве спраўляецца са сваёй слабасцю, з выклікам закідвае адну нагу на другую і ўжо агрэсіўна і жорстка пачынае качаць правы.

Такога жаніха ў «Вяселлі» сыграў таленавіты акцёр Купалаўскага тэатра **Ігар Дзянісаў.** У яго творчай скарбонцы — больш за сорак сцэнічных вобразаў у спектаклях беларускай, рускай і замежнай драматургіі. Апроч работы ў кіно, на радыё і тэлебачанні, Ігар выкладае майстэрства акцёра і сцэнічную мову ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Яму, як дасведчанаму прафесіяналу, зразумелыя смелыя пошукі Уладзіміра Панкова. Тое, што рэжысёр убачыў Зінаіду

Зубко ў вобразе нявесты, на думку Ігара, выдатнае вырашэнне спектакля.

«*Такая нявеста* — кажа Дзянісаў, — *адцяняе ўчынак жаніха. Калі людзі з-за “бабла” гатовы на ўсё, калі цалкам парушаны асноўныя маральныя прынцыпы і арыенціры, калі не дзейнічаюць ніякія запаветы, калі ў сэрцах пануе духоўны Чарнобыль... Такія заганы вечныя, яны існуюць ва ўсе часы. Чалавек недасканалы, на жаль. Але, нягледзячы на тэхнічны прагрэс, асоба і яе пачуцці не мяняюцца. І, каб паказаць іх, рэжысёр па-тэатральнаму абвастрае сітуацыю, прапанаваную Чэхавым. Нездарма жаніх, калі бачыць сваю нявесту (ён ведаў, што яна ва ўзросце, але не падазраваў, што да такой ступені!), губляе прытомнасць. Але ўсё адно ён потым авалодвае сабою: трэба ж у гэтым нялюдскім свеце неяк выжываць. Таму жаніх у п'есе вельмі жорсткі чалавек — не тое, што мой калега, расійскі артыст Андрэй Завадзюк, які грае ў класічным вадэвільным стылі. А я граю прагматычнага чалавека, які патрапіў у экстрэмальныя абставіны, але ўсё адно імкнецца пераадолець іх, каб атрымаць немалыя грошы, якія даюць за нявесту. Праўда, у яго ўсё роўна нічога не выходзіць: у канцы ён, як кажуць, апынаецца ля расколатых ночваў. На мой погляд, такое прачытанне Чэхава прымушае і ў наш час задумацца над хуткаплыннасцю жыцця і яго каштоўнасцямі*».

Сапраўды, чалавечыя каштоўнасці ва ўсе часы і ва ўсіх народаў застаюцца аднымі і тымі ж. Гэта пацвярджаецца і ашаламляльным поспехам спектакля за мяжою. Ігар Дзянісаў узгадвае, як «Вяселле» прымалі ў маскоўскім тэатры Пятра Фаменкі. Апладысменты пасля спектакля не сціхалі даволі доўга, так што яго ўдзельнікам давялося ўздымаць заслону і зноў выходзіць на паклон. Маскоўская публіка добразычліва ўспрыняла эксперымент над чэхаўскай спадчынай. «*А ў Парыжы мы жылі практычна на Манмартры,* — кажа артыст. — *Мы працавалі на малой сцэне тэатра дэ ля Віль, а ён большы за наш Купалаўскі прыкладна на 700 месцаў. Гэта недалёка ад Мулен Руж. У Парыжы мы сыгралі шэсць спектакляў — і ўсе з перапоўненымі заламі. Тыя, хто арганізоўваў гастролі, казалі потым, маўляў, публіка была незадаволена тым, што спектакляў было ўсяго шэсць. Апошні дзень гралі два разы — у тры гадзіны і ў дзевяць. І зноў — бясконцыя авацыі і выхады на паклон. А колькі моладзі чакала нас каля ўваходу!*

*На жаль, пра гастролі па Заходняй Еўропе ведаюць і гавораць больш за мяжою, чым у нас дома* — працягвае Ігар. — *Магчыма, гэта з-за таго, што там неверагодныя тэатральныя пляцоўкі, абсталяваныя па апошнім слове тэхнікі. Атрымліваецца неверагодны эфект, усё ўспрымаецца па-іншаму: і гук, і святло, і выява, яна робіцца больш аб'ёмнай. Проста ідэальная карцінка! Я думаю, што гэта адна з прычын паспяховага пракату і выдатнага ўспрыняцця гледачамі за мяжой*».



*Спагадлівая нявеста і пакрыўджаны генерал. Зінаіда Зубко і Генадзь Аўсяннікаў.*

Не пагадзіцца з Ігарам цяжка. Але ўсё ж такі мне падаецца, што ў такім ашаламляльным поспеху спектакля не апошнюю ролю адыграла трупа Купалаўскага тэатра. На адной сцэне з вядучымі майстрамі — народным артыстам СССР і Беларусі **Генадзем Аўсяннікавым**, народнымі артыстамі Беларусі **Генадзем Гарбуком**, **Мікалаем Кірычэнкам**, **Арнольдам Памазанам**, артыстам Маскоўскага драматычнага тэатра імя А. Пушкіна **Андрэем Завадзюком** — іграюць і маладыя купалаўцы: **Святлана Анікей**, **Святлана Зелянкоўская, Міхаіл Зуй, Аляксандр Малчанаў, Ганна Хітрык, Вікторыя Чаўлытка** і інш.

І яшчэ. Спектакль вабіць тым, што, апроч наватарскіх ідэй, у ім ёсць тое, што кожны з нас хоць раз пабачыў або перажыў...

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## НЯСВІЖСКІ РАЁН

### г. Нясвіж

**Бывалькевіч Палікарп** (3.3.1855 — пасля 1921), журналіст, выкладаў у Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, з 1891 г. рэдактар газет «Виленский вестник», «Западный вестник», «Окраины России».

**Булгарын Фадзей,** рускі пісьменнік, журналіст, ураджэнец в. Пырашава Уздзенскага р-на, гасціў у Нясвіжы. У трэцяй частцы «Успамінаў» (Ч. 1—6. — СПб., 1846—1849) прыводзіць генеалагічны нарыс «апошніх князёў Радзівілаў, знакамітай нясвіжскай лініі», апісвае Нясвіж пры князю Каралю Радзівіле Пане Каханку, падае анекдоты аб ім, распавядае пра Даменіка Радзівіла і жыццё ў замку.

**Галіна Антось** (сапр. Міцкевіч Міхаіл), пісьменнік, публіцыст, педагог, перакладчык, ураджэнец в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на, у 1917 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

**Гільтэбрандт Пётр** (1840—1905), рускі пісьменнік, археограф. Разам з М. Кастамаравым рэдагаваў «Працы этнаграфічна-статыстычнай экспедыцыі ў Заходнерускі край, падрыхтаванай Імператарскім Рускім геаграфічным таварыствам». Для яе падрыхтоўкі працаваў у архіве Радзівілаў у Нясвіжы, збіраў матэрыялы для выдання Віленскай археаграфічнай камісіі «Археографический сборник». Выдаў на рускай мове «Перагрынацыю» М. Радзівіла Сіроткі («Похождение в Землю Святую князя Радивила Сиротки 1582—1584». — СПб., 1879).

**Дземідовіч Павел,** этнограф, фалькларыст, краязнавец і педагог, ураджэнец в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на, у 1890 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

**Кавячынскі Мацей,** кнігавыдавец, перакладчык, рэфармацыйны дзеяч (месца нараджэння не ўстаноўлена) з канца 1550-х гадоў жыў у Беларусі. Нясвіжскі намеснік М. Радзівіла Чорнага. Заснаваў порт на р. Узда, паперню ў Нясвіжы. У 1561—1562 гг. з **С. Будным і Л. Крышкоўскім** заснаваў Нясвіжскую друкарню, у якой у 1562 г. надрукаваны першыя на Беларусі выданні на беларускай мове — «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» Буднага. Аўтар прадмоў да некалькіх нясвіжскіх выданняў. Пасля смерці Кавячынскага маёмасць перайшла яго братам, друкарню купіў Я. Кішка.

**Кастамараў Мікалай** (4.5.1817—7.4.1885), рускі гісторык, этнограф, пісьменнік. Працаваў у архіве князёў Радзівілаў у Нясвіжы, дзе збіраў матэрыялы па гісторыі трох падзелаў Рэчы Паспалітай і пра паўстанне Т. Касцюшкі.

**Катаеў Валянцін** (28.1.1897, г. Адэса, Украіна — 12.4.1986), рускі пісьменнік. Аўтар нарысаў «Па Заходняй Беларусі» (1939). У іх апісаў стан Нясвіжскага замка: «Мы (…)

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 за 2011 г.

былі ўражаны велічынёй, колькасцю і багаццем панскіх пакояў. Кідалася ў вочы багацце мэблі, паркетаў, складзеных з мноства каштоўных гатункаў дрэва — чырвонага, чорнага, лімоннага, масіўных паліраваных дзвярэй, велізарных люстэрак у тонкіх залатых рамках (...). Паляўнічая зала была ўслана скурамі мядзведзяў, ваўкоў, лісіц. На доўгіх сталах была раскладзена паляўнічая зброя, пісталеты, мушкетоны, кінжалы, сучасныя штуцэры, вінтоўкі. На сценах віселі рогі аленяў, ласёў, іклы кабаноў, якія былі апраўлены ў золата, пад імі подпісы». Але асабліва ўразіла В. Катаева Рыцарская зала — такога ён не бачыў і ў маскоўскіх музеях. «Шэраг рыцараў размяшчаўся ўздоўж белых сцен, ззяючы цьмяным серабром і золатам. Стаялі рыцары-коннікі са страусавымі пер'ямі на шлемах».

**Катэнбрынг Юзаф,** пісьменнік, педагог, ураджэнец г. Новэ Място Любавске (Польшча), жыў у Нясвіжы. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. З 1749 г. выкладаў у Нясвіжскім калегіуме. У Нясвіжы выйшлі дзве яго кнігі: «Плач князёўны Ганны з Мыцельскіх Радзівіл…» (1763) і «Казанне на пахаванне Ф. Жабы» (1772). Аўтар барочных трагедый на польскай мове «Марнасць над марнасцю, або Томас Паўнд» (1775) і «Сіроэс» (ставіліся ў Нясвіжскім калегіуме ў 1755 і 1758 гг.) на сюжэты заходне-еўрапейскай гісторыі. Як даверанaя асоба К. Радзівіла паказаны ў гістарычных раманах Ю. Крашэўскага, Г. Жавускага.

**Кахлеўскі Пётр** (?, Польшча — 23.8.1647), палітычны і рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік, кальвініст, некаторы час быў на службе пры двары М. Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Калі быў у Заходняй Еўропе, выконваў тайныя даручэнні К. Радзівіла па падрыхтоўцы перавароту, каб скінуць Жыгімонта III і замяніць яго Гастонам Арлеанскім. Пасля раскрыцця змовы хаваўся ад улад і часова адышоў ад палітычнай дзейнасці. Пісаў рэлігійныя вершы і паэмы на польскай і лацінскай мовах.

**Князьнін Францішак** (1749—1807), польскі паэт, драматург, перакладчык, адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму, атрымаў у Нясвіжы ў 1770 г. ступень магістра вольных навук, затым пераехаў на выкладчыцкую работу ў Варшаву.

**Колас Якуб** (сапр. Міцкевіч Канстанцін), народны пісьменнік Беларусі, ураджэнец в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на, у 1898—1902 гг. вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. З 1952 г. Нясвіжскае педвучылішча носіць імя Якуба Коласа.

У 1992 г. на тэрыторыі палацава-паркавага комплексу ў Нясвіжы ўстаноўлены бронзавы бюст Якуба Коласа (скульптар М. Канцавой).

**Крышкоўскі Лаўрэнцій** (гады жыцця, месца нараджэння і смерці невядомы), дзеяч рэфармацыйнага руху, гуманіст, пісьменнік 2-й паловы XVI ст. з 1561 г. быў кальвіністкім прапаведнікам у Нясвіжы. У 1562 г. у Нясвіжскай друкарні разам з **С. Будным** і **М. Кавячынскім** выдаў на беларускай мове «Катэхізіс», «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Пры дапамозе Буднага пераклаў і выдаў на польскай мове «Гутаркі святога Юсціна, філосафа…» (Нясвіж, 1564).

**Кудрынскі Фядот** (псеўданім Сцепанец Багдан; 19.2.(3.3).1867—1933?), украінскі гісторык, этнограф, педагог, пісьменнік. З 1900 г. працаваў выкладчыкам і бібліятэкарам Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе падтрымаў літаратурныя спробы на беларускай мове Якуба Коласа.

**Лянчыцкі Даніэль,** друкар, ураджэнец Польшчы, у 1562 г. пераехаў у Нясвіж, дзе ў друкарні Кавячынскіх выпусціў 11 кніг, у т. л. некалькі палемічных прац Гжэгажа Паўла (1564), Новы Запавет (1564, 1570) і Катэхізіс (1564) **С. Буднага.** З 1571 г. — у Заслаўе.

**Масквіна Андрэя** (н. 1963), тэатразнаўцы, культуролага, перакладчыка, радзіма. Дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта, дзе выкладае беларускую мову, літаратуру, мастацтва і культуру. Аўтар манаграфіі «Станіслаў Пшэбышэўскі ў расійскай культуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя» (Варшава, 2007).

**Мурашка Рыгор,** пісьменнік, ураджэнец в. Бязверхавічы Слуцкага р-на, у 1917—1918 гг. вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

**Набароўскі Даніэль,** паэт, перакладчык, урач, ураджэнец г. Кракаў (Польшча). Быў на службе ў Крыштофа Радзівіла як выкладчык французскай мовы яго сына Януша. З 1602 г. на працягу 30 гадоў быў на службе ў князя Януша, жыў у Нясвіжы, а таксама ў Капылі, Станькаве, пад Наваградкам. Падтрымліваў ідэю самастойнасці ВКЛ і дапамагаў князю рыхтаваць выступленне пратэстанцкай шляхты супраць караля Жыгімонта III. Пасля паражэння паўстання знаходзіўся разам з князем у эміграцыі ў Заходняй Еўропе. Вяршуўшыся ў Нясвіж, быў на дыпламатычнай службе ў Радзівілаў. Як урач удзельнічаў у барацьбе з эпідэміяй. Займаўся літаратурнай працай. Пісаў вершы на лацінскай мове — панегірыкі, а таксама творы рэлігійнага, філасофскага і сацыяльнага зместу. Перакладаў з лацінскай, італьянскай, нямецкай і французскай моў.

**Нёманскі Янка,** празаік, вучоны-эканаміст, грамадскі дзеяч, ураджэнец в. Шчорсы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і некаторы час працаваў у вясковых школах.

**Павел з Бжэзін** (каля 1525—1591), арыянскі пісьменнік, тэолаг, некаторы час жыў пры двары Мікалая Радзівіла Чорнага. У Нясвіжы выйшлі тры яго антытрынітарныя трактаты. Разам з **С. Будным, Анджэем Тшэцескім, Якубам Любельчыкам** і інш. уваходзіў у склад Нясвіжскага літаратурнага гуртка.

**Паўстоўскі Канстанцін** (31.5.1892, Масква — 14.7.1968), рускі пісьменнік, бываў у Нясвіжы падчас 1-й сусветнай вайны. Тут ляжаў у шпіталі пасля ранення. Пра гэта згадваў у аўтабіяграфічнай аповесці «Гнілая зіма» (частка аўтабіяграфічнай эпапеі «Аповесць пра жыццё». Ч. 1—6, 1945—1963).

**Пашакоўскі Ян** (1.3.1684—3.6.1757), педагог, тэолаг, гісторык, выдавец, ураджэнец Упіцкага пав. (Літва), вучыўся ў Нясвіжскай педагагічнай семінарыі (1702—1703). Быў выхавацелем сыноў князя Міхала Казіміра Радзівіла. У 1730-я гг. — рэктар Нясвіжскага езуіцкага калегіума. У 1737—1749 гг. выдаў дваццаць «Палітычных каляндарыкаў» са звесткамі пра жыццё ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, у тым ліку пра гісторыю і культуру Нясвіжа. Памёр у Нясвіжы, тут жа пахаваны.

**Пранузa Паўлюк,** паэт, ураджэнец в. Вылева Добрушскага р-на Гомельскай вобл., у 1945—1978 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Нясвіжскім педвучылішчы, у сярэдняй школе № 3 Нясвіжа.

У Нясвіжы нарадзіўся **Радзівіл Караль Станіслаў** (мянушка Пане Каханку; 27.2.1734—21.11.1790), князь, ардынат нясвіжскі з 1762 г., ваявода віленскі ў 1762—1764 і 1768 гг. К. С. Радзівілу прысвяціў свой твор «Degressio» (ананімны панегірык, надрукаваны ў 1762 г.), Казімір Несялоўскі. Асоба князя прадстаўлена ў мастацкіх творах Юліюша Славацкага («Бянёўскі»), Зыгмунта Красінскага («Пане Каханку»), Ігната Ходзькі («Пан Войскі» і «Дзённікі зборшчыка падаткаў»), Генрыка Ржавускага («Памяткі Сапліцы»), Уладзіслава Сыракомлі («Ілюмінацыя»), Юзафа Крашэўскага («Пане Каханку», «Радзівіл у гасціне», «Астатнія хвіліны князя ваяводы», «Кароль у Нясвіжы 1784»). У 1864 г. у Львове выйшлі «Запіскі пра князя Караля Радзівіла паводле нясвіжскага архіва», а ў 1898 г. Ю. Грайнерт апублікаваў «Анекдоты князя Радзівіла Пане Каханку». У 1985 г. М. Маціеўскі выдаў анталогію літаратурных твораў, паданняў, анекдотаў, прысвечаных Пане Каханку, пад назвай «Хоць Радзівіл, але чалавек».

*Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС*

*Працяг у наступным нумары.*